АКАДЭМІЯ НАВУК БЕЛАРУСКАЙ ССР
ІНСТЫТУТ МАСТАЦТВАЗНАЎСТВА, ЭТНАГРАФІІ І ФАЛЬКЛОРУ

# БАЛАДЫ



У ДЗВЮХ КНІГАХ

Кніга I

МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
1977

Рэдакцыйная калегія:

**В. К. Бандарчык, М. Я. Грынблат, К. П. Кабашнікаў, А. С. Фядосік, В. І. Ялатаў**

Укладанне, сістэматызацыя, уступны артыкул і каментарыі

**Л. М. Салавей**

Уступны артыкул, укладанне і сістэматызацыя напеваў

**Т. А. Дубкова**

Рэдактары тома

**К. П. Кабашнікаў, В. І. Ялатаў**

**Б20** **Балады** ў дзвюх кнігах, кн. І. Рэд. К. П. Кабашнікаў, В. І. Ялатаў. Мн., «Навука і тэхніка», 1977.

784 с. (АН БССР. Ін-т мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору. Беларус. нар. творчасць). У перапл.

Том з'яўляецца поўным сістэматызаваным зводам беларускіх народных ліра-эпічных песень — балад. Матэрыялы да тома ўзяты з друкаваных і архіўных крыніц, большая частка тэкстаў падаецца разам з напевамі. У першай кнізе змешчаны уступныя артыкулы складальнікаў, тэксты і ноты да іх (раздзелы I—IV) і каментарыі.

Б $\frac{70700—087}{М316—77}$ 36—77 С(Бел)Ф

# БЕЛАРУСКІЯ НАРОДНЫЯ БАЛАДЫ

У беларускай вуснапаэтычнай спадчыне прыкметнае месца займаюць балады — ліра-эпічныя песні з напружаным драматычным сюжэтам, якія апавядаюць пра незвычайныя, трагічныя здарэнні ў асабістым, сямейным жыцці чалавека. Балады ўзнімаюць маральна-этычныя праблемы: у цэнтры іх увагі злачынства і кара, вернасць і здрада, каханне і нянавісць і г. д. Яны даюць багаты матэрыял для вывучэння мінулага нашага народа, яго быту, яго псіхалогіі, уяўленняў пра справядлівасць і прыгажосць.

Беларускія народныя балады да апошняга часу не былі прадметам грунтоўнага даследавання. Нявывучанымі заставаліся тэарэтычныя пытанні гэтага жанру, не было дакладнага уяўлення пра яго напаўненне сюжэтнымі тыпамі, як не было і публікацый дастаткова поўных збораў тэкстаў. Адной з прычын гэтага з'явілася, відаць, тое, што балады не мелі сталага месца ў пазаабрадавым і абрадавым народным рэпертуары. Яны не кідаліся ў вочы збіральнікам і даследчыкам ні аднастайнасцю функцыянальнага прызначэння, ні яркасцю тыпавых напеваў, як жніўныя ці купальскія песні. Каб вылучыць баладу як жанр, неабходны перш за ўсё эстэтычныя крытэрыі, комплекс тэматычных, функцыянальных і формаўтваральных прыкмет.

У шматлікіх агульных фальклорных публікацыях у адпаведнасці з мясцовай народнай класіфікацыяй ці поглядамі складальнікаў балады траплялі ў «розныя», «простыя», «сямейна-бытавыя», «любоўныя», «бяседныя», «паданневыя», «піліпаўскія», «калядныя», «паставыя», «веснавыя», «купальскія» і г. д., адным словам, у самыя разнастайныя раздзелы. Цікава, што варыянты аднаго і таго сюжэта часам маюць ледзь не па дваццаць розных прымеркаванняў. Больш таго, часта адзін і той варыянт выконваўся ў розны час (меў некалькі розных прывязак да часу). Шмат такіх выпадкаў занатаваў М. Гарэцкі. Запісваючы песні ад сваёй маці, ён дасканала арыентаваўся ў сітуацыі, меў ідэальны кантакт з інфарматарам. Таму песні ў зборніку выступаюць адначасова як «калі хоця» і «к вясне кладзі», «піліпаўская, як самыя маразы» і «ў лядзе, улетку»; «пяюць абы калі» і «ярныя». Падобныя заўвагі сустракаюцца і ў сучасных збіральнікаў. Супярэчлівасць такіх прымеркаванняў часта знешняя, уяўная. Адказваючы на пытанне збіральніка пра час выканання песні, інфарматар кажа, напрыклад, «вясной», «у каляды» і інш., потым выяўляецца, што пад «вясной» меўся на ўвазе вялікі пост, пад «калядамі» — піліпаўка. А для фалькларыстаў такое адрозненне істотнае.

Сувязь балады з песнямі і абрадавасцю каляндарных цыклаў абумоўлена рознымі прычынамі. У адных выпадках гэта праяўленне генетычнай еднасці, агульнасці вытокаў, у іншых — дзеянне моцнай фальклорнай традыцыі, якая так парадкавала песенны рэпертуар, каб кожнаму твору было сваё месца, свой час выканання. Пра сілу гэтай традыцыі сведчыць факт, што нават і зараз народныя спявачкі часта не могуць адважыцца пачаць песню, час якой яшчэ не настаў альбо ўжо прайшоў.

Беларускія балады, таксама як рускія балады і быліны, часта выконваліся ў вялікі пост, піліпаўку, спасаўку. Па-першае, тут мела значэнне паважнасць зместу балады, яе павучальнасць, і тое, што ў пост забаранялася танцаваць, спяваць вясёлыя, жартоўныя песні, гарэзлівыя прыпеўкі і інш. Па-другое, для выканання разгорнутай часам на сотню радкоў з прыпевам балады патрэбны значны час, пэўная арганізацыя аудыторыі, настрой слухачоў. Усё гэта якраз і было на попрадках у час посту, «вечарушках» — спакойная працяглая работа пад аднастайны ціхі шум верацён, мігатлівае, няпэўнае святло лучыны, марудная хада часу. У гэтай атмасферы роздуму і мары вельмі дарэчы была доўгая баладная песня, якая вяла слухачоў у суровы і маляўнічы, амаль казачны свет, давала эстэтычную асалоду, навучала.

Такім чынам, сцвярджаючы, што наогул балады выконваліся пераважна ў любы час, мы павінны мець на ўвазе, што «любы час» тут азначае толькі час, найбольш адпаведны для выканання гэтых доўгіх ліра-эпічных песень, і часта народныя спевакі мелі для іх пэўную пару, неаднолькавую ў розных мясцовасцях.

Беларускія балады, як і адпаведныя творы іншых народаў, не мелі адной акрэсленай назвы. Народныя спевакі называлі іх «доўгімі песнямі», «даўнімі песнямі» або «смутнымі», «жалоснымі песнямі». Нам даводзілася чуць народнае азначэнне балады як «быль», што, аднак, адносілася толькі да характару зместу, сапраўднасці яе апавядання. Фалькларысты першай палавіны XIX ст. для азначэння балады шырока карысталіся тэрмінам «думка».

Тэрмін «балада», першапачатковае значэнне якога — «танцавальная песня», прыйшоў да нас з Англіі, дзе яшчэ ў XVIII ст. былі апублікаваны старадаўнія англа-шатландскія апавядальныя песні — «ballads». Рамантычнае захапленне англа-шатландскімі народнымі баладамі падштурхнула адукаваных людзей таго часу ў многіх краінах Еўропы на пошукі нацыянальных твораў падобнага складу, а паэтаў на складанне ўласных твораў (балад) часта на фальклорным матэрыяле. На славянскай глебе, у тым ліку і ў Беларусі, тэрмін «балада» замацаваўся ў пачатку XIX ст., спачатку ў літаратуры, літаратуразнаўстве (балады А. Міцкевіча, Я. Чачота, Т. Зана, А. Грозы і іншых паэтаў, ураджэнцаў Беларусі, што пісалі па-польску, але шырока выкарыстоўвалі ў сваёй творчасці беларускі фальклор).

Тэксты, а пазней і напевы беларускіх народных балад прыцягвалі да сябе ўвагу на працягу ўсёй гісторыі беларускага фальклорнага збіральніцтва. Адзначым асноўныя зборы іх, цікавыя як фактычным матэрыялам, так і стаўленнем да яго фалькларыстаў.

Значная колькасць тэкстаў балад была сабрана і часткова апублікавана ўжо ў 30—40-х гадах XIX ст. у зборніках Яна Чачота на беларускай мове або толькі ў польскім перакладзе. Змешчаныя там творы ўяўляюць класічныя ўзоры баладнага жанру (каля 50 сюжэтных тыпаў), якія ў большасці бытуюць на Беларусі і зараз. Чачот не вылучаў балады асобным раздзелам, амаль усе яны трапілі ў «размаітыя» (розныя)[1]. Аднак заўвага да балады «Бандароўна» сведчыць пра тое, што збіральнік прыкмячаў жанравую адметнасць балад, але абазначаў іх пашыраным у той час тэрмінам «думка».

---

[1] J. Czeczot. Piosnki wieśniacze z nad Niemna. Wilno, 1837; Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny. Wilno, 1839; Piosnki wieśniacze z nad Dźwiny. Wilno, 1840; Piosnki wieśniacze z nad Dźwiny z dołączeniem pierwotwórnych w mowie słowiano-krewickiej. Wilno, 1844; Piosnki wieśniacze z nad Niemna, Dniepra i Dniestra. Wilno, 1845; Piosnki wieśniacze z nad Niemna i Dźwiny, niektóre przysłowia i idiotyzmy w mowie słowiano-krewickiej z postrzeżeniami nad nią uczynionemi. Wilno, 1846.

Першае вылучэнне балад у самастойны раздзел знаходзім у плане зборніка — «поўнага беларускага песнязбору» — Ігната Храпавіцкага (пачатак 40-х гадоў XIX ст.). Мы маем на ўвазе раздзел «Думы», які, улічваючы спецыфіку беларускай фальклорнай спадчыны, мог быць напоўнены толькі баладамі [2]. Аднак «песнязбор» не быў выдадзены, і зараз нельга сказаць пра яго што-небудзь больш акрэсленае.

Больш за 20 сюжэтаў балад змешчана ў публікацыях Рамуальда Зяньковіча [3]. Побач з польскімі перакладамі збіральнік падае арыгінальныя запісы (на беларускай мове), што павялічвае навуковую каштоўнасць збору. Усе балады, як і ў Чачота, трапілі ў «размаітыя».

У зборніку «Народныя беларускія песні» Е. П. (Елізавета Паўлоўская), які неаднаразова крытыкавалі за няўважлівае стаўленне збіральніцы да мовы твораў, змешчана 10 запісаў балад. У некаторых з іх захаваны цікавыя архаічныя матывы і дэталі. Асобныя сюжэты адзначаны як «думкі» [4].

У выданнях М. Дзмітрыева і П. Гільтэбранта [5] балады не вылучаны з агульнага матэрыялу, не зроблена ніякіх спроб асэнсаваць іх жанравую прыроду.

Надзвычай каштоўныя запісы некалькіх балад змешчаны ў публікацыях беларускіх песень П. Бяссонава і К. Тышкевіча [6]. Абедзве працы выйшлі з друку ў 1871 г., матэрыял жа для іх сабраны значна раней: П. Бяссонаў выкарыстаў запісы з «беларускага архіва» П. Кірэеўскага, дасланыя карэспандэнтамі з Міншчыны Гудвіловічамі ў 30-я гады, а К. Тышкевіч рабіў запісы асабіста ў 1857 г. у час спецыяльна арганізаванай экспедыцыі для вывучэння басейна ракі Віліі. У абодвух выданнях балады не выдзяляюцца, а выступаюць арганічнай часткай абрадавай паэзіі — купальскіх, велікодных, веснавых песень.

У працах І. Насовіча і П. Шэйна [7] балады ўключаны ў раздзелы «сямейных», «бяседных», невялікая частка запісаў — у «каляндарных». Публікацыі змяшчаюць багаты і разнастайны матэрыял, часткова перадрукаваны з ранейшых выданняў.

Вялікую колькасць балад сабралі і выдалі ў 80-х гадах Е. Раманаў, П. Шэйн, Я. Карскі, М. Янчук, А. Дэмбавецкі, З. Радчанка, У. Вярыга [8]

---

[2] Jan Barszczewski. Szlachcic Zawalnia czyli Białoruś w fantastycznych opowiadaniach. Petersburg, 1844, c. XXIII.

[3] Pieśni ludu zebrane w Pinszczyźnie i przełożone przez Romualda Zieńkiewicza. «Athenaeum». Wilno, 1847, IV; Piosnki gminne ludu Pinskiego. Żbierał i przekładał Romuald Zieńkiewicz. Kowno, 1851.

[4] Е. П. Народные белорусские песни. СПб, 1853.

[5] М. А. Дмитриев. Собрание песен, сказок, обрядов и обычаев крестьян Северо-Западного края. Вильно, 1869; П. Гильтебрандт. Сборник памятников народного творчества. Вильна, 1866.

[6] П. Бессонов. Белорусские песни с подробными объяснениями их творчества и языка, очерками народного обряда, обычая и всего быта. М., 1871; K. Tyszkiewicz. Wilja i jej brzegi pod względem hydrologicznym, historycznym i etnograficznym. Drezno, 1871.

[7] И. И. Носович. Белорусские песни.— Записки РГО по отделению этнографии, т. 5, СПб, 1873, с. 45—280; П. В. Шейн. Белорусские народные песни.— Там жа, с. 281—850.

[8] Е. Р. Романов. Белорусский сборник, вып. I—II. Песни, пословицы, загадки. Киев, 1886; П. В. Шейн. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. I, ч. I. Бытовая и семейная жизнь белоруса в обрядах и песнях. СПб, 1887; Е. Ф. Карский. Белорусские песни с. Березовца Новогрудского уезда Минской губернии. «Русский

і інш. Аднак ва ўсіх працах пералічаных аўтараў жанравае вылучэнне балад не праведзена. Выключэнне складае публікацыя У. Вярыгі. Гэта першая падборка беларускіх балад (42 сюжэты), запісы якіх зроблены ў адной толькі вёсцы Глыбокае б. Лідскага павета.

Цікавыя ўзоры балад з розных куткоў Беларусі змяшчаюць выданні 90-х гадоў, сярод іх падборка народных твораў, запісаных Адамам Гурыновічам, зборнікі Д. Булгакоўскага, М. Доўнар-Запольскага[9] і інш.

У пачатку 90-х гадоў была таксама падрыхтавана да друку 4-я частка «Смаленскага этнаграфічнага зборніка» У. М. Дабравольскага[10] (выйшла ў свет праз 12 гадоў), дзе змешчана вялікая колькасць баладных сюжэтаў. Адзін з раздзелаў названы «Песні разбойнікаў, баладныя» — гэта толькі невялікая частка балад, змешчаных у зборніку. Большасць іх трапіла ў «бытавыя», «гістарычныя», а таксама ў «купальскія», «пятроўкі», «веснавыя».

У пачатку нашага стагоддзя тэксты балад сустракаюцца ў публікацыях М. Косіч, А. Разенфельда, Я. Ляцкага, С. Малевіча, Э. Кліха і І. Бычко-Машко, І. Сербава, Вяч. Камінскага, А. Грыневіча і А. Зязюлі, Е. Раманава[11].

---

филологический вестник». Варшава, 1884, т. XII, с. 124—135; т. XIII, 1885, с. 266—285; Яго ж, Белорусские песни деревни Новоселок-Затрокских Виленской губернии Трокского уезда. «Русский филологический вестник», т. XXI, 1889, с. 243—259; Н. Янчук. По Минской губернии. Труды этнографического отделения ОЛЕАЭ, т. 61, кн. IX. М., 1888; А. С. Дембовецкий. Опыт описания Могилевской губернии. Могилев на Днепре, 1882; З. Радченко. Гомельские народные песни (белорусские и малорусские) записаны в Дятловицкой волости Гомельского уезда Могилевской губ. 1888. (Записки РГО, т. XIII, вып. 2); Dumki białoruskie ze wsi Głębokiego w powiecie Lidzkim gubernii Wileńskiej w r. 1885 spisane przez Władysława Weryhę. «Zbiór wiadomości do antropologii krajowej», t. XIII, dz. II. Kraków, 1889, с. 84—103.

[9] A. Hurynowicz. Zbiór rzeczy białoruskich z gminy Wiszniewskiej parafii Żodziskiej pow. Święcianskiego gub. Wileńskiej. «Zbiór wiadomości...», t. XVII, dz. II. Kraków, 1893, с. 136—200. Д. Г. Булгаковский. Пинчуки. Этнографический сборник. Песни, загадки, пословицы, обряды, приметы. СПб, 1890; М. Довнар-Запольский. Белорусское Полесье. Сборник этнографических материалов, вып. I. Песни пинчуков. Киев, 1890. K. Horálek a Z. Horálkova. Ukrainska piseň o vojvodovi Štefanovi v zpisu ze XVI stoleti. «Slavia», roč. XXVII. Praha, 1958.

[10] В. Н. Добровольский. Смоленский этнографический сборник, ч. IV. М., 1903. (Записки РГО по отделению этнографии, т. XXVII).

[11] М. Н. Косич. Литвины-белорусы Черниговской губернии, их быт и песни. Живая старина, СПб, 1901, № 2, с. 221—260; № 3—4, с. 1—88; А. Розенфельд. Белорусские народные песни. Сборник ОРЯиС, т. LXXVII, № 3, СПб, 1904; Е. А. Ляцкий. Материалы по белорусской словесности и языку. Известия ОРЯиС, т. IX, кн. 4, СПб, 1904; С. Малевич. Белорусские народные песни. Сборник ОРЯиС, т. 82, № 5, СПб, 1907; E. Klich. Teksty białoruskie z powiatu Nowogródzkiego. Materyały i prace komisyi językowej Akademii Umiejętności, t. 2. Kraków, 1907; И. Е. Бычко-Машко. Сборник народных песен, записанных в поселке Калюга-Камарно Рогознянской волости Кобринского уезда Гродненской губ. Сборник ОРЯиС, т. XXXIX, № 4. СПб, 1911; И. А. Сербов. Белорусы-сакуны. Краткий этнографический очерк. Сборник ОРЯиС, т. XCIV, № 1. СПб, 1915; В. А. Каминский. Белорусы Ново-Александровского уезда Ковенской губ. в их песнях, обрядах и обычаях. «Филологические записки».

Я. Ф. Карскі не толькі карыстаўся тэрмінам «балада», але і даў даволі ўдалае азначэнне жанру. На яго думку, балады — гэта ліра-эпічныя творы, у якіх эпічны і лірычны элементы ўраўнаважаны [12].

Пасля Карскага беларускія фалькларысты гэты тэрмін амаль не ўжывалі. Толькі Р. Р. Шырма і Г. І. Цітовіч, вядомыя збіральнікі і прапагандысты беларускай вуснапаэтычнай творчасці, у сваіх зборах балады вылучалі ў асобныя раздзелы, уключаючы, аднак, значную частку іх і ў іншыя, звычайна тэматычныя раздзелы.

Неабходна адзначыць такія багатыя крыніцы, як калекцыя С. П. Сахарава (надрукаваны толькі адзін выпуск) і 5-ы том «Люду беларускага» М. Федароўскага, у розных раздзелах якога змешчана больш за 40 сюжэтаў у значнай колькасці варыянтаў [13]. Тэксты пададзены разам з напевамі. Найбольш балад у раздзелах «Паданневыя», «Павучальныя», «Гадавыя», «Сямейныя».

Дасканалыя ўзоры народных балад змешчаны ў зборніку «Песні сямі вёсак» [14], складзеным Н. С. Гілевічам, дзе ўключаны сучасныя студэнцкія запісы з цэнтральных раёнаў Беларусі, з Міншчыны, Маладзечаншчыны і інш. Балады вылучаны ў асобныя раздзелы. Адбор праведзены з вялікай дакладнасцю, з глыбокім разуменнем спецыфікі гэтага жанру.

Цікавыя варыянты балад знаходзім і ў другім фальклорным выданні БДУ [15].

З даследаванняў апошняга часу найбольшай увагі заслугоўвае праца Н. С. Гілевіча «Наша родная песня». Аўтар дае шэраг трапных назіранняў пра месца і значэнне балады ў народным рэпертуары, пра яе жанравую прыроду, тэматыку, матывы, мастацкія асаблівасці. Праўда, з асобнымі палажэннямі, выказанымі аўтарам, можна спрачацца.

У манаграфіі Арсеня Ліса «Купальскія песні» (1974) баладам прысвечаны асобны раздзел. Аўтар спыніўся на агульнай характарыстыцы групы сюжэтаў, генетычна ці функцыянальна або тэматычна звязаных з летнім каляндарным цыклам народнай паэзіі, на разглядзе тых праяў жыцця, якія леглі ў аснову сюжэтных калізій.

Вывучэнне ўзаемасувязі балады з каляндарнымі цыкламі з'яўляецца важным і неабходным як пры даследаванні абрадавага песеннага рэпертуару, так і пры высвятленні асобных пытанняў жанру балады. Манаграфія А. Ліса ў гэтым напрамку кладзе добры пачатак.

---

Воронеж, 1910, № 2, с. 276—303; № 3, с. 422—440; № 5, с. 739—767: Biełaruskija pieśni z notámi, t. 1—2. T. I. Sabraŭ i wydaŭ. A. Hryniewič. Pieciarburh, 1910; T. 2. Sabrali A. Hryniewič i A. Ziaziula. Pieciarburh, 1912; Е. Р. Романов. Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. I. Вильно, 1911; Яго ж. Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. II. Вильно, 1912; Яго ж. Белорусский сборник, вып. 7. Белорусские народные мелодии. Песни сезонные, обрядовые, игорные, танцы, духовные стихи. Вильно, 1910.

[12] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. 3. Очерки словесности белорусского племени. I. Народная поэзия. М., 1916, с. 326.

[13] С. П. Сахараў. Народная творчасць Латгальскіх і Ілукстэнскіх беларусаў. Вып. I. Рыга, 1940; M. Federowski. Lud białoruski, t. V. Pieśni. Warszawa, 1958.

[14] Песні сямі вёсак. Традыцыйная народная лірыка Міншчыны. Укл. і рэд. Ніла Гілевіча. Мінск, 1973.

[15] Беларускі фальклор у сучасных запісах. Брэсцкая вобласць. Традыцыйныя жанры. Мінск, 1973.

У якасці параўнальнага матэрыялу беларускія народныя балады выкарыстоўваліся ў працах дарэвалюцыйных вучоных (А. А. Патабня)[16], а таксама ў даследаваннях нашага часу (Ф. М. Калеса, М. І. Краўцоў, Б. М. Пуцілаў, Д. М. Балашоў, П. В. Лінтур, К. Горалек і З. Горалькава[17] і інш.).

Даволі многа тэкстаў беларускіх балад захоўваецца ў фондах навуковых архіваў Мінска, Ленінграда, Масквы, Вільнюса і іншых гарадоў краіны. Усяго ж з рукапісных і друкаваных крыніц выяўлена каля 140 сюжэтаў.

З маскоўскіх сховішчаў найбольш каштоўнымі для нас з'яўляюцца фонды Цэнтральнага дзяржаўнага архіва літаратуры і мастацтва СССР (ЦГАЛИ), дзе захоўваюцца матэрыялы, дасланыя ў 30-х гадах А. Валевічам. У Ленінградзе беларускія фальклорныя матэрыялы, сабраныя ў асноўным у дарэвалюцыйны час, знаходзяцца ў архіве АН СССР, у Інстытуце рускай літаратуры (Пушкінскі дом), у архіве былога Рускага геаграфічнага таварыства і інш.

Але самай багатай крыніцай балад, прытым крыніцай, якая няспынна папаўняецца, з'яўляецца архіў Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР. Тут захоўваюцца не толькі тэксты песень, але і магнітаграмы напеваў. Матэрыялы сабраны пасля Вялікай Айчыннай вайны пераважна навуковымі супрацоўнікамі сектара фальклору. Запісы дакладна пашпартызаваны.

Вялікая колькасць тэкстаў і напеваў народных балад, запісаных у апошнія гады, сведчыць пра жыццяздольнасць твораў гэтага жанру, важнай іх ролі ў сучасным народным рэпертуары. У 1973 г. у час фальклорнай экспедыцыі ў Клічаўскім, Кіраўскім і Быхаўскім раёнах намі запісана каля 65 баладных варыянтаў, у тым ліку і такія старажытныя сюжэты, як «тры птушачкі ля забітага малойчыка», «сын Даніла», «свякруха заклінае нявестку ў расліну» і шмат іншых. Асобныя тэксты гэтых балад былі запісаны яшчэ Я. Чачотам, Р. Зянькевічам, Ігн. Храпавіцкім і інш. Сучасныя запісы, зробленыя з дапамогай гуказапісваючай апаратуры, а значыць, і больш дакладныя, часта эдзіўляюць паўнатой, лагічнасцю і стройнасцю пабудовы апавядання, захаванасцю дэталей мінулага быту.

Тэрмін «балада» зараз ужываецца для абазначэння ліра-эпічнага жанру ў фальклоры, літаратуры, музыцы, нават кіно. Разам з тым часта назіраецца неадпаведнае характару твораў прымяненне гэтага тэрміна.

Погляды фалькларыстаў на жанр балады таксама не вызначаюцца адзінствам. Некаторыя заходнія вучоныя да балады адносяць любую эпічную песню, у тым ліку ўкраінскія думы, рускія быліны, юнацкія песні паўднёвых славян і інш.

У славянскай фалькларыстыцы склаўся некалькі адметны погляд на мастацкую прыроду жанру балады. Ён быў выказаны чэшскім акадэмікам І. Горакам на VI Міжнародным з'ездзе славістаў: «Назвай балады славянская фалькларыстыка абазначае толькі ліра-эпічныя песні невялікай ёмі-

---

[16] А. А. Потебня. Объяснение малорусских и сродных народных песен. Варшава, 1883.

[17] Ф. Колесса. Балада про дочку-пташку ■ слов'янскій народній поэзіі. «Lud słowiański», 1938, IV, I, с. B1—B26; Н. И. Кравцов. Проблемы славянского фольклора. М., 1972; Д. М. Балашов. Постановка вопроса о балладе в русской и западной фольклористике. «Труды Карельского филиала АН СССР», вып. 35. Петрозаводск, 1962; Б. Н. Путилов. Типологическая общность и исторические связи в славянских песнях-балладах о борьбе с татарским и турецким игом. М., 1963; П. В. Линтур. Балладная песня и обрядовая поэзия. Русский фольклор, т. X. М.—Л., 1965.

стасці ...зместам якіх у пераважнай большасці з'яўляюцца шматбаковыя сямейныя адносіны»[18]. У баладах, на думку вучонага, важна не толькі дзеянне, але і пачуццёвыя рэакцыі, якія паглыбляюць змест і ўтвараюць лірычную плынь твора. Усё гэта разам стварае адметнасць жанру, адрознівае яго ад жанраў эпічных, хоць назіраюцца часам узмежныя, пераходныя з'явы (рускія «быліны-балады», напрыклад)[19].

Неаднароднасць унутранага складу балады, нацыянальная спецыфіка, неаднолькавы падыход да гэтага жанру ў прадстаўнікоў розных школ выклікалі вялікі разнабой у існуючых класіфікацыях. Улічваючы вопыт айчынных і замежных (пераважна славянскіх) даследчыкаў і зыходзячы з асаблівасцей беларускага матэрыялу, балады можна падзяліць на наступныя віды: балады з міфалагічнымі матывамі; балады казачныя і легендарныя; балады, якія змяшчаюць загадкі; балады гульнёва-карагоднага складу; балады навелістычныя. Такі падзел, на наш погляд, пагаджае ў нейкай ступені эстэтычны прынцып класіфікацыі з гістарычным, паколькі балады аднаго віду ў асноўным аднолькавыя па часе ўзнікнення, альбо маюць у сабе элементы аднаго гістарычнага пласта. Паводле наяўнасці рэліктаў старажытнага светаўспрымання да найбольш ранніх балад трэба аднесці балады з міфалагічнымі матывамі. Да іх блізкія балады казачнага характару, балады, што ўключаюць загадкі. Найпазнейшымі трэба лічыць балады навелістычныя. Варта адзначыць пэўныя цяжкасці, якія ўзнікаюць пры разглядзе асобных сюжэтаў: варыянты адной балады могуць мець міфалагічныя элементы, напрыклад, метамарфозы, а могуць іх і не мець. Асобныя сюжэты навелістычных балад з'яўляюцца больш позняй распрацоўкай міфалагічных сюжэтаў і г. д.

Беларускія балады з міфалагічнымі матывамі — надзвычай цікавы і паэтычны від. Па колькасці сюжэтаў і па захаванасці ў іх архаічных матываў ён значна багацейшы за адпаведныя групы балад суседніх народаў. Для гэтага віду характэрна ўключэнне матыва метамарфозы, што надае баладам рысы этыялагічных (тлумачальных) міфаў, падобных да міфаў старажытных грэкаў, як «нарцыс», «гіяцынт» і інш. Найбольш характэрным узорам беларускай балады-міфа, з выразным захаваннем у ёй тлумачальнай функцыі, трэба лічыць сюжэты, у якіх падаецца паэтычная гісторыя паходжання кветкі «браткі» (Viola tricolor — травіца «брат-сястрыца»). У іншых сюжэтах з метамарфозамі тлумачальная функцыя саступае на другі план, а то і зусім трацііца. Калі, напрыклад, у міфе пра паходжанне прарочай птушкі — зязюлькі асноўны змест апавядання зводзіцца да аб'ектыўна-мастацкага выяўлення прычын, чаму жанчына ператварылася ў птушку, што так жалосна кукуе і самотна жыве, то ў балады матыў гэты ўключаецца гатовым, а пафас апавядання скіроўваецца ў іншым напрамку (сямейна-бытавыя канфлікты, нешчаслівы лёс і інш.). Матыў пераўтварэння жанчыны ў птушку арганічна ўваходзіць у некалькі баладных сюжэтаў. Найбольш папулярным у нас з'яўляецца «дачка-птушка» (120 запісаў), пра дзяўчыну, якую аддалі далёка замуж і забаранілі бываць у маці ў гасцях. Балада бытуе па ўсёй Славяншчыне і ў Прыбалтыцы, асабліва ў Літве (1400 запісаў). У іншых, менш распаўсюджаных сюжэтах таксама адбываецца пераўтварэнне жанчыны ў зязюльку: жонка, вяртаючыся з поля, каб паслухаць, што гавораць пра яе «нялюбы»; мілая, каб загубіць мілага, якому лёгкадумна дазволіла жаніцца з яе роднай сястрою; маці, каб наведаць украдзеную татарамі дачку і інш. Скінуўшыся зязюлькай, жонка праводзіць мілага «ў Русь на вайну».

[18] Jiří Horák. Interetnickié látky v slovenských baladach. У кн.: Československé přednášky pro VI mezinarodni sjezd slavistů (Praha, 1968), с. 435.

[19] Русские народные песни Карельского Поморья. Л., 1971, с. 126—166.

Распаўсюджаны ў славянскім фальклоры сюжэт пра нявестку, якую свякруха закляла ў расліну, у нас пашыраны таксама. У беларускіх варыянтах гэтай балады ператварэнне нявесткі адбываецца найчасцей у разнастайныя запаветныя дрэвы: рабіну, каліну, зэдку ў таполю, яліну або проста быліну. У той час украінскія варыянты паказваюць ператварэнне пераважна ў таполю, быліну, рускія — у рабіну, польскія — у явар і г. д.

Як спаўненне матчынага (бацькавага) праклёну адбываецца ператварэнне сына ў явар. Праўда, пра сам праклён не заўсёды гаворыцца, але затое абавязкова падкрэсліваецца, што сын бацькі не слухаў, г. зн. парушаў пэўную забарону, за што і быў пакараны. За парушэнне асноўных норм паводзін у радавым калектыве таксама наступае кара — браты, што зняславілі родную сястру і забілі швагра, рассыпаюцца вапенным каменнем. У іншых сюжэтах муж па сваёй волі абярнуўся Дунаем, дзяцюк становіцца цярноўнікам, дзеўка — калінаю, малады, дазнаўшыся пра смерць нявесты, заклінае вяселле (сталі сваты дубамі, сваццi бярозкамі, а малады — белым каменем) і інш.

Некаторыя міфалагічныя сюжэты захоўваюць даволі моцную сувязь з абрадавай паэзіяй і даюць магчымасць прасачыць працэс вылучэння балады з абраду.

Прыкладам можа служыць балада пра заклццe сына ў явар. На гэту баладу звярталі ўвагу многія даследчыкі (Кастамараў, Горак, Калеса, Экімайцене)[20]. «Гэта сюжэтная аснова злучыла ў сабе траякі матыў, заснаваны на веры ў магічную сілу слова, на ўяўленні аб ператварэнні людскіх істот у дрэва і на веры ў магічную сілу музыкі, захаванай у апавяданнях і песнях пра музычны інструмент, які можа гаварыць, што прамаўляе»[21], — пісаў І. Горак пра славацкі адпаведнік сюжэта. Чэшскія і славацкія варыянты гэтай балады некалькі адрозніваюцца ад беларускіх і ўкраінскіх: там у явар ператвараецца дачка, што вядзе за сабой іншыя змены ў апавяданні.

П. В. Лінтур звязваў баладу пра сына-явара з анімістычнымі вераваннямі людзей, з язычніцкім — русальным святам, калі ўшанаванне памяці памёршых цесна спалучалася з культам раслін насці, культам дрэў[22]. Пра такую сувязь сведчыць і тэкст са зборніка Я. Ф. Галавацкага:

На сами свята Русаля
Мати синочка проклялa[23].

Нашы ўзоры такой непасрэднай сувязі не захавалі, але іх яднае з украінскімі падабенства найбольш істотнай часткі сюжэта, праклёну і яго выніку:

*Бел.* Бадай сынок — яварам,
А конічак — каменем,

---

[20] Н. И. Костомаров. Славянская мифология. Киев, 1847, с. 64; Slovenské l'udové balady. Balady zozbieral a študiu napisal Jiri Horák. Bratislava, 1956, c. 91—93; Ф. Колесса. Народні пісні з Галіцкої Лемківщины. Етнографичний збірнік, т. XXXIX—XL, с. 103; Р. Іokimitienė. Lietuviu liaudies baladės. «Literatura ir kalba», IX, с. 352.

[21] Slovenské l'udové balady, с. 13.

[22] Народні балади Закарпаття. Запис та впорядкування текстів, вступна стаття і примітки П. В. Лінтура. Львів, 1966, с. 14—15.

[23] Я. Ф. Головацкий. Народные песни Галицкой и Угорской Руси. ч. 3, с. 712—713.

А шапачка — купінкай,
А хустачка — рэчанькай,
А паясок — сцежачкай [24].
*Укр.* Став му коник гоpонькою,
Сідланенько — купиною,
А нагайка — гадиною,
А сам молод — явоpоньком [25].

Вера ў сілу матчынага праклёну, у немагчымасць яго прадухілення, на якой будуецца канфлікт балады, выводзіцца з даўніх часоў. Варта прыгадаць міфы старажытных грэкаў ці індыйскую «Махабхарату», у якой можна натрапіць на такое месца: «Супраць усялякага ж праклёну ёсць папераджальны сродак, але няма збавення ад праклёну маці» [26].

У большасці беларускіх варыянтаў гэтай балады пасляператварэння хлопца ў явар з ім размаўляе не маці, а дзяўчына. Дзяўчына і явар праракаюць адзін аднаму суровыя змены ў іх недалёкай будучыні. Гэта, відавочна, з'яўляецца праяўленнем старажытнага матыву спаборніцтва жанчыны з мужчынам:

— Ой, явару, явару,
Я з табою гавару:
Будзе на цябе дробны дождж,
Яшчэ к таму з ветрыкам,
Твайго голля надломіць,
Тваё лісце абгоніць.
— Ой, дзевачка, дзевачка,
Цяпер жа ты ў бацюшкі,
Цяпер жа ты малада,
А як пойдзеш ты замуж,
Будзе табе ліхі муж,
Тваё лічка надаб'е,
Тваіх косак надарве,
Тваіх слёзак надалье [27].

Прараканні могуць мяняцца і мець часам больш абагульнены, пазбаўлены бытавых дэталяў выгляд: дзяўчыне можа надарыцца смяртэльная хвароба, якая «лічка» ёй зменіць і «сэрданька» высушыць. У баладу ўключаецца таксама матыў чароўнага інструмента, што можа расказаць гісторыю чалавека, ператворанага ў дрэва, але асэнсоўваецца ён па-свойму: скрыпачкі ці гуселькі, зробленыя з явара-хлопца, будуць толькі цешыць дзяўчыну, адзначаць яе перамогу над хлопцам. Такім чынам, балада пра закляцце сына ў явар можа служыць прыкладам архаічных балад з міфалагічнымі матывамі. Першапачаткова ў ёй па-мастацку апалагетызуецца ўлада жанчыны, матчына воля і слова. Парушэнне норм гэтага ладу сурова караецца. З цягам часу, аднак, гэты сюжэт пераасэнсоўваецца, адлюстроўваючы іншыя грамадскія адносіны, большую ўладу і аўтарытэт бацькі.

Казачныя і легендарныя балады прадстаўлены нешматлікімі групамі сю-

---

[24] Н. Янчук. По Минской губернии. Труды ОЛЕАЭ, кн. IX (т. 61). М., 1889, с. 115.

[25] Я. Ф. Головацкий. Народные песни Галицкой и Угорской Руси. ч. 3, с. 100.

[26] Махабхарата. Адипарва, кн. I. Перевод с санкрита и коммент. В. И. Кальянова. Под ред. А. П. Баранчикова. М.— Л., 1950, с. 109.

[27] Н. Янчук. По Минской губернии, с. 115.

жэтаў пераважна ў запісах дарэвалюцыйнага часу. Таму іх трэба залічыць да перыферыйных з'яў баладнага жанру. Казачныя балады ўзніклі, верагодна, часткова самастойна на аснове агульных з казкамі найбольш старажытных уяўленняў людзей пра навакольны свет і часткова пад непасрэдным уплывам моцнай у Беларусі казачнай традыцыі. Творы гэтага віду вылучаюцца тым, што ў іх мастацкую тканіну арганічна ўплятаюцца казачныя элементы, вобразы, даючы месца звышнатуральнаму, фантастычнаму (звяры дзейнічаюць і размаўляюць, як людзі, чалавек наладжвае дагаворныя адносіны з персаніфікаванымі з'явамі прыроды, стыхіямі — буйнымі вятрамі, смерцю, горам; сваіх правоў дамагаецца пустая дамавіна і г. д.). Балады казачнага характару як бы апрацоўваюць адно звяно казачнага ланцуга, вырашаючы канфлікт па-свойму: герой не выходзіць пераможцам з трагічнай сітуацыі, ён пераносіць вялікія нягоды або гіне (мусіць загінуць). У казках паражэнне героя ўспрымаецца як часовае, у баладах падзеі незваротныя. У баладзе і ў казцы канфлікт часам супадае, як, напрыклад, у тых казках, дзе сутыкненне ўласніцкіх інтарэсаў прыводзіць да супярэчнасці ўнутры сям'і (варожасць мачахі да падчаркі). У такіх выпадках у баладах часта выкарыстоўваюцца казачныя прыёмы раскрыцця сюжэта.

Наогул гэты від балад неаднародны, яго спецыфіка не так выразна выяўлена, аднак ён цікавы нам як праяўленне пэўных агульных прынцыпаў нацыянальнай фальклорнай традыцыі, як прыклад узаемадзеяння фальклорных жанраў.

Некаторыя сюжэты, аднесеныя да балад-казак, маюць блізкія адпаведнікі ў рускім і ўкраінскім фальклоры. Так, руская балада пра «гора» паводле асноўнай задумы, кампазіцыйнага вырашэння стаіць вельмі блізка да нашых балад пра «гора» або «ліхую долю». Вобразы «долі», «гора» адносяцца да вельмі старажытных уяўленняў аб прадвызначанасці чалавечага шляху, аб надзяленні кожнага чалавека, ужо пры нараджэнні, добрай або благой доляй [28].

Вельмі блізкія адпаведнікі нашых балад «ваўкі-нянькі» і «труна прамаўляе» (пра неабходнасць даць «цела» труне, што доўга стаіць гатовая) сустракаюцца ў народнай паэзіі ўкраінцаў. Калі балада «труна прамаўляе» не мае істотных адрозненняў у беларускіх і ўкраінскіх варыянтах, то «ваўкі-нянькі» адрозніваюцца значна. У нас гэта апавяданне пра тое, як у ліхой свекрыві нявестка, стомленая цяжкай працай на жніве, забылася дзіця на полі і як яго «няньчылі» ваўкі. Беларускія варыянты заканчваюцца або сцэнай дзяльбы дзіцяці паміж «нянькамі», або просьбай нявесткі да ваўкоў забраць найлепшага свёкрава каня, але аддаць ёй дзіця, або праклёнам, скіраваным свекрыві. Фатальнымі нянькамі тут заўсёды выступаюць ваўкі, а зло выходзіць ад свякрухі. Украінскія варыянты часам замест свякрухі ставяць «няродную маці», а дзіця ў іх заўсёды «няньчаць» птушкі: вараны, сакалы, і балада часта заканчваецца самагубствам нешчаслівай маці.

Акрамя сюжэтаў, агульных для ўсходніх славян, у гэту групу балад уваходзяць сюжэты, вядомыя толькі на Беларусі, ды і то ў адзінкавых запісах: «воўк перамагае ў шлюбным спаборніцтве» [29], «мачаха і Ганеша» (Гануся) [30] і інш.

---

[28] А. Н. Веселовский. Разыскания в области русского духовного стиха, XVIII—XXIV, вып. 6. Сборник ОРЯиС, т. III, № 6, СПб, 1891, с. 168—183.

[29] K. Tyszkiewicz. Wilja i jej brzegi, c. 332—333.

[30] М. Гарэцкі і А. Ягораў. Народныя песьні з мэлёдыямі. Мінск, 1928, с. 128—129, № 266—267; Архіў АН СССР, ф. 104, воп. 1, спр. 363, л. 24—25.

Цікавай, на наш погляд, з'яўляецца казачная апрацоўка сюжэта «шлюбнае спаборніцтва», дзе перамагае «шэрываўчок». У баладных песнях, прымеркаваных да веснавога цыклу, матыў спаборніцтва («хто вянок пойме, той мяне возьме») сустракаецца даволі часта, творы звычайна завяршаюцца трагічна, прэтэндэнт — каралёў сын, малойчык — патанае.

Балада «воўк перамагае ў шлюбным спаборніцтве» хоць і прымеркавана да купалля, але зместам з абрадам ужо не звязана. На каралеўскім двары павінны адбыцца спаборніцтвы за права ажаніцца з каралеўнай:

У караля сярод двара
Стаіць явар зеляненькі,
Пад тым яварам Дунай ціхі.
Хто зялён явар пераскочыць,
Хто Дунай пераплывець,
Возьмець дачку каралёву.

Малады паніч прайграў спаборніцтва, ён пераскочыў явар, але не пераплыў Дунай. Затое «шэры ваўчок» зрабіў усё ўдала і ўзяў дачку-каралеўначку.

Заканчваецца балада нараканнем каралеўны на нязвыклыя ўмовы жыцця ў ваўчка:

Да як я была ў караля,
Тады ела з сырам масла,
А як я за ваўчком —
Сырое мяса.
Як я была ў караля,
Спала пад пярынай,
А як я за ваўчком —
Тагды пад ламочкам.

Матыў жаніцьбы ваўка (вужа, змея і іншых істот) з каралеўнай ці простай дзяўчынай даволі часта сустракаецца і ў беларускіх казках, хоць апавяданне там набывае іншае развіццё. Параўнальнае вывучэнне балады і казкі дае цікавы матэрыял для вывучэння той старажытнай асновы, якая жывіла вытокі розных жанраў народнай творчасці.

Балады легендарныя або балады-легенды, як гаворыць ужо сама назва, спалучаюць прыкметы абодвух гэтых жанраў. Легендай, па вызначэнню Гусева, з'яўляецца «апавяданне пра цудоўныя, незвычайныя подзвігі, прыгоды і нягоды выдуманых або гістарычных асоб, якія ў народнай свядомасці выконваюць ролю «падзвіжнікаў, выратавальнікаў народа або пакутнікаў за праўду, веру, перакананні і г. д.»[31] Легенды могуць быць гістарычнымі, сацыяльна-утапічнымі і рэлігійнымі (апакрыфічнымі). У іх абавязкова прысутнічае элемент звышнатуральнага, цудоўнага. Большасць сюжэтаў беларускіх балад-легенд з'яўляецца народнай апрацоўкай біблейскіх матываў. Асобныя творы, відаць, былі складзены каталіцкім ці уніяцкім духавенствам, якое імкнулася «даць народу матэрыял для рэлігійных спеваў на роднай мове»[32]. Пад уплывам моцнай народнапесеннай традыцыі такія творы набывалі апакрыфічнае (баладнае ці казачнае) гучанне. Аб хрысціянскай іх аснове іншы раз можна меркаваць па адных толькі імёнах герояў ці па сюжэтнай схеме.

Сюжэтаў балад-легенд у беларускім фальклоры няшмат, але яны вельмі цікавыя мастацкія творы, цалкам пабудаваныя па законах традыцыйнай паэтыкі. Па іх, напрыклад, можна меркаваць аб міжславянскай фальклорнай

---

[31] В. Я. Гусев. Эстетика фольклора. Л., 1967, с. 123.
[32] Е. Ф. Карский. Белорусы, т. III, ч. I. М., 1916, с. 496—497.

сувязі і ўзаемаўплывах. Найбольш яркім сярод балад-легенд трэба назваць сюжэт «цмок» (пра паганага цмока і Юр'я).

На вельмі старажытнай аснове створаны таксама балады, якія ўключаюць загадкі (сем загадак). Галоўнай канструкцыйнай часткай у іх з'яўляецца выпрабаванне чалавека загадкамі. Падобныя творы сустракаюцца ў фальклоры многіх еўрапейскіх народаў. У беларусаў, украінцаў, рускіх пры агульнасці асновы выяўляецца неаднолькавая іх распрацаванасць, паўната, рознае прымеркаванне ў гадавым і сямейным цыклах. У сувязі з гэтым назіраецца пэўная нерашучасць у вызначэнні жанравай прыналежнасці гэтых твораў.

На наш погляд, балады, што ўключаюць загадкі, адпавядаюць крытэрыям жанру: яны творы апавядальныя, дзеянне ў іх разгортваецца шпарка, перадаецца драматызавана, дыялогам. Што «загадкавыя» сюжэты адносяцца да балад, пераконвае і факт уключэння іх у такія розныя паводле сваіх задач выданні, як зборнік рускіх і анталогія еўрапейскіх балад [33].

Адгадванне загадак калісьці не было простым выпрабаваннем кемлівасці, таварыскай забавай. Па той абавязковасці, паважнасці, з якой выконваецца просьба, умовай чаго было правільнае адгадванне загадак, можна меркаваць, што захаваўся цьмяны ўспамін пра нейкі важны, драматычны сэнс абраду (ініцыяцыі, выбар чалавечай ахвяры). Аналагічныя функцыі загадак адлюстраваны ў фальклоры іншых народаў. Д. Касамбі [34] прыводзіць выпадак з жыцця легендарнага Буды (сярэдзіна першага тысячагоддзя да н. э), якому ўдалося схіліць адно племя адмовіцца ад чалавечых ахвяр. Прыхільнікі гэтых жорсткіх культаў захoплівалі ў палон чужаземцаў, загадвалі ім загадкі, і калі тыя не маглі іх адгадаць, то станавіліся ахвярай, мусілі памерці.

І. Гарбачэўскі ў артыкуле «Старажытнасць беларускіх песень і іх напеваў» [35] адзначаў, што ў варыянце з русалкай вядома трагічнае заканчэнне: дзяўчына загадак не адгадала і русалка яе заказытала. Падобнае вырашэнне канфлікту назіраецца ва ўкраінскіх адпаведніках гэтай балады. Праўда, усведамленне магічнага сэнсу загадвання загадак праступае зусім невыразна, асноўны змест твораў зводзіцца да ўслаўлення розуму дзяўчыны, яе выхаванасці, «адукаванасці» — у своеасаблівых выпрабаваннях на сталасць яна дамагаецца поспеху.

Беларускія запісы можна падзяліць на групы, якія ўключаюць блізкія варыянтныя распрацоўкі. З іх першая — гэта балады, дзе загадкі загадваюць рыбаловы, хлопцы-малойцы, малойцы-валачобнікі ў адказ на просьбу дзяўчыны дапамагчы ёй (злавіць залаты персцень, сказаць, дзе знаходзяцца згубленыя коні, чорныя валы і інш.). «Слічна панна» адгадвае загадкі, а хлопцы абавязкова выконваюць яе просьбу. Гэта група балад не мае адпаведнікаў у рускім фальклоры, а ва ўкраінскім і літоўскім — досыць блізкія.

Другая група варыянтаў аб'ядноўвае ў сабе тэксты, дзе загадкі маюць функцыю перадшлюбнага выпрабавання розуму дзяўчыны, яе дасведчанасці («адгадаеш — мая будзеш, не адгадаеш — чужой будзеш», або «адгадаеш — сабе вазьму, не адгадаеш — у людзі пушчу», ці нават «адгадаеш — сабе возьмем, не адгадаеш — галаву знімем»). Падобныя ўзоры сустракаюцца ў рускім і ўкраінскім фальклоры. Варыянты, у якіх загадванне загадак зусім

---

[33] Народные баллады. М.—Л., 1963, с. 98—99; European Folk Ballads. Edited by Erich Seeman, Dag Strömbäck, Bangt R. Jonsson. Copenhagen, 1967. (European folklore series, vol. 2).

[34] Д. Коссамби. Культура и цивилизация древней Индии. М., 1968, с. 118.

[35] «Витебские губернские ведомости», 1896, № 84, с. 5.

нематывавана, уяўляюць, відавочна, разбураныя рэшткі пералічаных вышэй сюжэтных схем, калі ў памяці спевакоў засталося толькі ядро песні — самі загадкі.

Неабходна адзначыць такую дэталь — у баладах размова ідзе найчасцей пра сем загадак, г. зн. загадваць павінны былі пэўны комплекс, абмежаваны магічнай лічбай 7. У беларускіх запісах найбольш часта паўтараюцца наступныя загадкі-пытанні:

А што гарыць без полымя? *(Зара, сонца).*
А што расце без кораня? *(Камень).*
А што бяжыць без повада? *(Вада).*
А што плача без голасу? *(Конь, скрыпка).*
А што чорна не чэрнена? *(Воран).*
А што бела не белена? *(Лебедзь).*
А што цвіце — цвету нету? *(Папараць).*

Усе гэтыя пытанні датычыліся найбольш важных прадметаў і з'яў, якія паўсюдна абагаўлялі, якім пакланяліся, пра якія складалі міфы. Загадкі такога тыпу былі, відаць, своеасаблівым мінімумам міфічных ведаў, неабходнасць засвоіць якія была замацавана традыцыяй. Магічны комплекс загадак мог служыць свайго роду знакам, паролем людзей аднаго племя, адной абшчыны.

Запісы збіральнікаў сведчаць, што балады гэтага віду ў народным рэпертуары мелі самае разнастайнае прымеркаванне. У залежнасці ад этапу гадавога ці сямейна-абрадавага цыклу, да якога яны былі прымацаваны, балады-загадкі прымалі тыпавыя напевы, характэрныя рэфрэны, што, аднак, мала змяняла іх першапачатковую сутнасць.

Балады гульнёва-карагоднага складу — гэта песні, пабудаваныя на параўнанні мілага (мілай) з найраднейшымі людзьмі: бацькам, маткай, братам, сястрой. Ва ўсіх сюжэтах паслядоўна праводзіцца думка, што мілы (мілая) даражэй за радзіну. Прынцып паўтарэння з нарастаннем, які ляжыць у аснове кампазіцыі балад гэтага віду, а таксама пэўны схематызм і ўмоўнасць зместу сведчаць на карысць ранейшай гульнёва-карагоднай функцыі твораў. Беларускія балады гульнёва-карагоднага складу заўсёды захоўваюць толькі кампазіцыйную схему, а само апавяданне ў розных сюжэтах набывае адметнае выражэнне (алегарычнае — «ластаўка на моры», гістарычнае — «удава ратуецца ад татараў», «выкуп з турэцкай няволі» і інш., сямейна-бытавое, а дакладней, велічальнае — «дзяўчына тоне, але нікому, апроч мілага, не дае руку», «дзяўчына просіць знайсці яе персцень», «удоўка і яе радня»).

Вось прыклад алегарычнай балады-карагода, якая раней, верагодна, мела разгорнутае параўнанне дзяўчыны з ластаўкай:

Да ў нядзельку раненька на зары
Шчабятала ластаўка на моры,
На беленькім камушку седзючы
І на беражочак гледзючы:
— Ой, татулька, татулька, для бога,
Знімі мяне з камушка бялога.
У татулькі жаласці нямнога,
Не зняў мяне з камушка бялога [36].

---

[36] ЦДГА ЛітССР, ф. 1135, воп. 10, спр. 203, с. 310, № 86.

З аналагічнай просьбай «ластаўка» звяртаецца па чарзе да ўсіх сваіх родных, але толькі мілы паслухаў яе, зняў з «камушка бялога». Такой жа паэтычнасцю, гульнёвай умоўнасцю апавядання, лаканізмам і празрыстасцю малюнка вызначаецца іншая балада, на якой асабліва адбілася велічальная функцыя (яна выконвалася як валачобная з прыпевам «А віно ж, віно зеляно!»).

Ой на моры, моры сінюсенькім,
На Дунаю да быструсенькім
Маладая паненка, маладая Марылька
На Дунаю хусты мыла,
Злотны пярсцёнак з ручанькі ўраніла,
Шчука й а рыба яго ўхапіла,
Ухапіла ды й паплыла.

Дзяўчына просіць адшукаць яе пярсцёнак, толькі ніхто не мог ёй памагчы: ні бацька, ні брат, нават конік з стайні «не выступаў».

А мілага конік з стайні выступіў,
З стайні выступіў і на ножкі ступіў,
І на белы крамень, і на жоўты пясок.
А мой міленькі, на коніка сеўшы,
На коніка сеўшы і скрыпаньку ўзяўшы,
Зыскаў персцень, рыбу расплатаўшы [37].

Змест беларускіх (гульнёва-карагодных) балад гістарычнай тэматыкі прадыктаваны тымі трагічнымі калізіямі, якія ўзнікалі ва ўмовах чужаземных, пераважна татарскіх (турэцкіх), наездаў. Форма ж іх нязменна заставалася карагодна-гульнёвай прыўзнятай над суровай рэчаіснасцю, высветленай, арнаментальна прыгожай, напрыклад:

А на моры, на Дунаі
Панна з туркам ў карты грае,
Да бацюхны лісты піша:
— Мой бацюхна, мой родненькі,
Выкуп мяне з няволенькі,
Да з цяжкое работанькі!
Бацька дае, не жалуе
Трыццаць валоў і чатыры.
На тое турак не пагляну́ў,
Слугам ключоў не выдавае,
Панну з няволі не выпускае [38].

Турак не бярэ платы ад маці, ад сястры і ад брата, толькі калі мілы прапанаваў «трыццаць шабель і чатыры», турак выпускае панну з няволі. Адным словам, як і ва ўсіх гульнёва-карагодных баладах, мілы ўзвялічваецца над усімі роднымі.

Балады навелістычныя — гэта апавяданні, у якіх адлюстроўваюцца рэальныя жыццёвыя калізіі, канфлікты і нягоды. Для выяўлення падзей у пераважнай большасці навелістычных балад амаль не выкарыстоўваюцца элементы фантастыкі, звышнатуральнага. Наадварот, найбольшы эфект эмацыя-

---

[37] M. Federowski. Lud białoruski, t. V, c. 670.

[38] Е. Р. Романов. Материалы по этнографии Гродненской губернии, вып. I. Вильна, 1911, с. 128—129.

нальнага ўздзеяння тут дасягаецца падкрэсленай жыццёвасцю, сапраўднасцю апавядання. Яно перадаецца нібы цалкам выхаплены з жыцця выпадак, нейкая чарговая навіна-дзіва.

Прыкладам можа служыць балада пра дзяўчыну, што ўтапіла нялюбнае дзіця і за гэта была пакарана смерцю. Жыццёвасць здарэння тут падкрэсліваецца і характарам суда, цалкам адпаведнага звычаёваму і фармальнаму праву, выяўленнем прычыны трагедыі (даўні звычай хадзіць на начлежкі), рознымі іншымі бытавымі дэталямі. Гэты сюжэт адносіцца якраз да той групы балад, дзе канфлікт узнікае не ў процiборстве асобных людзей, носьбітаў розных тэндэнцый і інтарэсаў, ■ ў сутыкненні чалавека з грамадствам, са знешнімі абставінамі (патрабаваннямі звычаю, закону), яго можа напаткаць цяжкі лёс і г. д. Гэтыя балады ўспрымаюцца як паведамленні пра дзіўныя навіны. Сюды ж трэба аднесці сюжэты пра дзяўчыну, звезеную за мора, пра Марысю, што паслала казака па зелле, абяцаўшы выйсці за яго замуж, а слова не стрымала («заморскае зелле»), пра Бандароўну, пра дзяўчыну, што паехала з казакамі і інш.

«Бандароўна» — адна з нешматлікіх балад, дзе канфлікт набывае сацыяльнае гучанне, дзе прабіваюцца ноты пратэсту супраць сацыяльнай несправядлівасці, супраць бяспраўя працоўнага чалавека. У меншай ступені сказанае адносіцца да балады «Пятрусь», хоць і ў першым і ў другім выпадках маладыя людзі гінуць ад рук усеўладных феадалаў, спазнаўшы згубнасць і панскай любові і панскага гневу.

Значная група навелістычных балад асэнсоўвае ўнутрысямейныя канфлікты. Гэта сюжэты «сын Даніла», «муж забівае жонку па намове маці», «сястра атручвае брата», «жонка губіць нялюбага мужа», «муж сплаўляе па рацэ жонку-няўдаліцу» і інш. Ва ўсіх іх дакладна перадаецца бытавая аснова падзеі і адпаведна выбіраюцца выяўленчыя сродкі, захоўваецца ўстаноўка на жыццёвасць. Прыкладам можа служыць сюжэт «жонка губіць нялюбага мужа». Шматлікія варыянты гэтай балады пачынаюцца з паведамлення-матывіроўкі: «Жана з мужам не ў любосці жыла, жана мужа загубіла ўзяла». Далей дзеянне разгортваецца ў дыялогу, як у драме: прыехалі два дзеверы, дапытваюцца, дзе падзеўся іх брат. Яны абвяргаюць усялякія адгаворкі сваёй «братоўкі-лябёдкі», і тая ўрэшце сама прызнаецца і вызначае сабе кару — зняць галаву з плеч.

Неабходна адзначыць таксама групу сюжэтаў выразна авантурнага плана — «хлопец прыкідваецца мёртвым, каб завабіць да сябе ў двор мілую, якую пільна сцеражэ маці», «жонка прыкідваецца мёртвай, каб праверыць вернасць мужа», «Кузёмка выкрадае дзяўчыну, пераапрануўшыся ў дзявоцкае адзенне» і інш. Усе гэтыя сюжэты сустракаюцца і ў фальклоры некаторых суседніх народаў.

Беларускі народ тысячамі сувязей злучаны з іншымі народамі. Тут і кроўнае сваяцтва, якое выводзіцца ■ праславянскай даўніны, і доўгае суседства, узаемная дапамога, супрацоўніцтва, агульны гістарычны лёс. Усё гэта абумовіла з'яўленне ў нацыянальным баладным рэпертуары значнай колькасці вандроўных сюжэтаў, матываў. Балада пра атручэнне маладых сякроўкай («Паехаў Яська на Русь жаніцца») уключае матыў дрэў, што вырастаюць на магілках закаханых, схіляюцца адно да аднаго. Гэты матыў вядомы ў фальклоры народаў ледзь не ўсяго еўраазіяцкага кантыненту. Сустракаюцца таксама асобныя выпадкі, запазычаныя з антычнай літаратуры. Так, прыгожы міф старажытных грэкаў пра Геро́ і Леандра (Леандр, кіруючыся на свет факела каханай, штоноч пераплываў праліў Гелеспонт і загінуў у хвалях, калі непагода пагасіла факел) на беларускай глебе ператварыўся ў прыгожую баладу пра каралеўну Лявутаньку і закаханага рыцара, якіх загубіла зайздрасць ключніцы (яна пагасіла свечку, што паказвала рыцару,

дзе пераплываць раку). Гэты рамантычны сюжэт не адзін раз прыцягваў увагу еўрапейскіх паэтаў (Ф. Шылер), ён пранік і ў фальклор многіх іншых народаў. Так, М. Чыкавані [39] называе сюжэт тыпу «Геро і Леандр» сярод грузінскіх народных балад. Тут адбываўся такі цікавы кругаварот: народны твор старажытных грэкаў (міф), прайшоўшы праз антычную літаратуру (Авідзій), якая захавала яго нашчадкам, увайшоў потым у фальклор іншых народаў.

Запазычанне з літаратуры ў беларускім фальклоры — з'ява вельмі рэдкая, значна часцей можна назіраць адваротны працэс. Народныя творы не раз натхнялі паэтаў на стварэнне новых мастацкіх вартасцей, якім адводзіцца зараз значнае месца ў нацыянальным літаратурным набытку. Першай у беларускую літаратуру ўвайшла балада пра паходжанне кветак «браткі». На гэты сюжэт яшчэ ў 1857 г. В. І. Дунін-Марцінкевіч напісаў паэму «Травіца брат-сястрыца». У творчай спадчыне Янкі Купалы, акрамя славутай «Бандароўны», вельмі блізкай да адпаведнай народнай балады па сюжэтнай задуме, вобразах, агульнай настраёвасці, трапляюцца апрацоўкі іншых балад: «сын Даніла», «сустрэча брата і сястры, што не ведалі пра сваё сваяцтва» і інш. Прыклады творчага ўзаемадзеяння беларускага фальклору і літаратуры нават у межах аднаго жанру балады гэтым не вычэрпваюцца.

Беларускія народныя балады, створаныя мастацкім геніем народа і клапатліва пранесеныя праз вякі ўражлівай на хараство памяццю мінулых пакаленняў, увабралі ў сябе па крупінцы найбольш яркія малюнкі жыцця нашых продкаў, іх уяўленні пра справядлівасць і дабро, іх мары пра волю і шчасце. Без гэтага мастацтва наш духоўны свет быў бы бяднейшы, наша веданне гісторыі народа было б няпоўным. Высокія эстэтычныя і гістарычныя вартасці беларускіх народных балад, па-новаму асэнсаваныя прафесійнай літаратурай і мастацтвам, будуць садзейнічаць развіццю нацыянальнай культуры.

* * *

Том «Балады» складаецца з дзвюх кніг. У першую ўвайшлі балады з міфалагічнымі матывамі, балады казачныя і легендарныя, балады, што змяшчаюць загадкі, і балады гульнёва-карагоднага складу. У другую ўключаны балады навелістычныя, балады бытавога характару без якіх-небудзь элементаў надзвычайнага.

Актыўнае бытаванне балад у народным рэпертуары, іх вялікая пашыранасць дае шмат цікавых варыянтаў, што ўлічвалася пры складанні тома. Для публікацыі адбіраліся найбольш дасканалыя творы, сабраныя ў розныя гістарычныя часы на ўсёй тэрыторыі Беларусі. Перавага аддавалася непублікаваным тэкстам, якія запісаны разам з напевамі.

Згодна з прынятымі для шматтомнага выдання фальклору правіламі, тэксты балад пададзены па сучасных нормах правапісу і ў той жа час захаваны лексічныя і асноўныя марфалагічныя асаблівасці першакрыніц. У адрозненне ад празаічных жанраў балады вызначаюцца выключнай чысцінёй, адпрацаванасцю мовы, на іх амаль не адбіваецца індывідуальны стыль выканаўцаў. Таму пры праўдзенні тэксталагічнай работы найбольшая ўвага звярталася на ўпарадкаванне строфікі, на ле адпаведнасць напевам.

*Л. Салавей*

---

[39] Грузинское народное поэтическое творчество. Тбилиси, 1972, с. 379.

# НАПЕВЫ БАЛАД

Нягледзячы на значную колькасць грунтоўных прац, у якіх выяўляюцца вытокі і мастацкая прырода балады як жанру вуснапаэтычнай народнай творчасці, балада ўсё ж застаецца адным з найменш даследаваных жанраў у беларускай і ўсходнеславянскай музычнай фалькларыстыцы. Канстатацыя гэтага факта мэтанакіраваная: высвятленне пытанняў генезісу жанру, сувязі з іншымі жанрамі, выяўленне спецыфічных мастацка-стылявых асаблівасцей беларускай балады немагчымы без разгорнутага аналізу напеваў, у якіх увасабляюцца нацыянальна спецыфічныя рысы мастацкай вобразнасці — рысы, якія ўвогуле абумоўліваюць эмацыянальна-вобразны змест балады як мастацкага твора. Толькі ў гэтым ракурсе магчымы пошук дакладнага вызначэння межаў жанру і ў канчатковым выніку яго дэфініцыя. Іншыя ж спробы пакуль што не мелі поспеху, хоць глыбока аргументаваным можна лічыць дапушчэнне аб немагчымасці ўніверсальнага вызначэння жанру з прычыны нацыянальнай спецыфічнасці балад розных народаў. Прапанаваны І. Горакам на аснове параўнальнага аналізу паэтычных тэкстаў прынцып размеркавання балад па сямі акругах (раманская; англа-шатландская; скандынаўская; нямецка-галандская; заходнеславянская; руская; сербскахарвацкая і балгарская) у некаторай ступені пярэчыць яго ж заўвазе аб нацыянальнай спецыфічнасці балад розных народаў, таму што сапраўды мае ў аснове агульнамастацкія з'явы, але міжнацыянальнага значэння. Больш дэталёвы падзел балад па лакальных акругах, што дае Э. Сіман, таксама фіксуе групы балад на аснове мастацка-стылістычных з'яў міжнацыянальнага значэння, што сведчыць, безумоўна, пра ўзаемаўплыў фальклорных традыцый розных народаў, высвятляе пытанні генезісу жанру. Прынцып «падабенства — адрозненне», які шырока карыстаюцца ўсе даследчыкі балад і які, на нашу думку, найбольш пераканальна і паслядоўна праведзены ў даследаваннях Б. Пуцілава, сведчыць пра гнуткасць, шматзначнасць з'яў, што характарызуюць эстэтычную сутнасць жанру. Сам факт, што тэрмін «балада» для народных спевакоў і тварцоў не нясе зместу, адэкватнага іх разуменню песні, якую даследчыкі лічаць баладай, таксама нельга не ўлічваць.

Гістарычныя і сацыяльныя ўмовы адбіваліся на самім жанры і формах яго бытавання. Разнастайнасць відаў балад, іх неаднароднасць, функцыянальная разназначнасць спрыялі захаванню стылістычных з'яў, уласцівых розным этапам развіцця музычнага мастацтва. Статычнасць адных музычна-выяўленчых сродкаў, дынамічнае развіццё іншых, перакрыжаванне стылістычных з'яў розных жанраў і розных этапаў развіцця музычнага мастацтва ўтвараюць складаны і супярэчлівы малюнак музычнага стылю балад і нават не заўсёды даюць падставы канстатаваць гэты стыль як адзіную мастацкую з'яву, а не сукупнасць разнастайных і рознасэнсавых мастацкіх з'яў.

Супадзенне мастацкіх асаблівасцей балад з песнямі іншых жанраў не заўсёды дазваляе прасачыць ступень іх блізкасці. Хутчэй наадварот, захоўваючы генетычную ці эвалюцыйную сувязь з іншымі жанрамі, балады трывала захоўваюць самыя розныя стылістычныя «напластаванні», не сінтэзуючы

іх у адзінае, што можна было б лічыць музычным стылем, як скажам, у вясельных песнях.

Адсутнасць «формульных» асаблівасцей хутчэй за ўсё і абумовіла хісткасць, лабільнасць вызначэнняў жанру балады [1]. Аднак амаль ва ўсіх вызначэннях падкрэсліваецца: балады—апавядальныя песні. І толькі разгорнутыя, па-за межамі дэфініцыі, апісанні асаблівасцей баладнага жанру выяўляюць яго тыпалагічныя, агульныя для творчасці многіх народаў рысы. Але спробы сцвердзіць і абгрунтаваць жанр як катэгорыю навуковай класіфікацыі ў дачыненні да беларускіх балад маюць і адмоўную, на нашу думку, тэндэнцыю: у выяўленні агульных заканамернасцей, прынцыпаў і сродкаў тыпізацыі, уласцівых жанру цалкам, нівеліруюцца, а часам не ўлічваюцца прыкметы, што характарызуюць балады як тып мастацкай творчасці пэўнага народа, як тып мастацкай формы, «што народжана той задачай, якую ставіць мастацтва, адлюстроўваючы з'явы рэчаіснасці, вызначаючы пэўныя да яе адносіны» [2]. Так, вызначэнне «апавядальная» (эпічная), якое прысутнічае амаль ва ўсіх дэфініцыях балад, нельга прыняць як адзінае ці пераважаючае ў дачыненні да беларускіх балад. Вызначэнне «лірыка-эпічная баладная песня» таксама не ахоплівае ўвесь жанр. Магчыма, грунтуючыся толькі на паэтычных тэкстах, можна было б гэтым абмежавацца, але ж балада — песня, складаны мастацкі вобраз, у раскрыцці якога музычна-выяўленчыя сродкі не менш важныя, чым паэтычныя тэксты. Іменна яны дазваляюць адзначыць, што спецыфіка беларускай балады ў паступовым разгортванні вобраза праз некалькі фаз эмацыянальнага напружання, якія ў адпаведнасці з агульнапрынятай тэрміналогіяй можна было б вызначыць як эпічную, лірычную, драматычную. Нам уяўляецца, што гэты фактар вылучыў баладу ў самастойную групу, адмежаваную ад лірычнай і ад абрадавай песні. Ён жа з'яўляецца пакуль што адзінай агульнай для ўсяго жанру істотнай прыкметай і дазваляе лічыць неаднародную групу баладных песень жанрам, зыходзячы з прынцыпу дыялектычнага адзінства зместу і формы ў мастацтве: спецыфічнасць сюжэтаў выклікала да жыцця іменна такую асаблівасць музычнага ўвасаблення вобразнасці, якая стала характэрнай якасцю мастацкай з'явы.

Самі напевы балад не ў роўнай ступені пацвярджаюць гэта. Сувязь усходнеславянскіх балад, у прыватнасці беларускіх, з каляндарнымі і сямейна-абрадавымі песнямі спрыяла захаванню (галоўным чынам у баладах міфалагічнага зместу) меладычных, ладавых, метрарытмічных мастацкіх сродкаў, агульных з песнямі старажытнага пласта. Выяўленчыя сродкі, уласцівыя гэтаму этапу развіцця музычнага мастацтва, змяняліся ў нязначнай ступені. У баладах яны і цяпер могуць быць адзначаны як статычныя і найбольш старадаўнія. Тут і мясцовыя асаблівасці музычнай лексікі праяўляюцца больш разнастайна. Здавалася б, выхад за межы, акрэсленыя гэтымі

---

[1] Т. В. Попова. Русское народное музыкальное творчество, вып. II. М., 1956, с. 53; Народные баллады. М.—Л., 1963, с. 7; В. Я. Гусев. Эстетика фольклора. Л., 1967, с. 162; И. Земцовский. Песни — баллады. «Советская музыка», 1966, № 4, с. 89; Д. М. Балашов. Русская народная баллада. М.—Л., 1963; Д. М. Балашов. Постановка вопроса о балладе в русской и западной фольклористике. «Тр. Карельского филиала АН СССР», вып. 35. Петрозаводск, 1962; С. Г. Лазутин. Русские народные песни. М., 1965; Б. Н. Путилов. Славянская историческая баллада. М.—Л., 1965; В. Я. Пропп. Жанровый состав русского фольклора. «Русская литература», 1964, № 4; Н. С. Гілевіч. Наша родная песня. Мінск, 1968.

[2] Н. П. Колпакова. Опыт классификации традиционной крестьянской лирики. Русский фольклор, т. V. М.— Л., 1960, с. 169.

асаблівасцямі, немагчымы. Аднак у працэсе выканання адбываецца такое разгортванне сюжэта, што ахарактарызаваць мастацкі вобраз адназначна (лірычны, эпічны, драматычны) немагчыма, бо ён быццам праходзіць праз розныя зоны эмацыянальнай выразнасці. І чым прасцейшы сам напеў, тым большую, а часам галоўную ролю ў стварэнні мастацкага вобраза адыгрывае характар інтанавання ў працэсе выканання, узровень напоўненасці, напружанасці ў межах кожнай эмацыянальнай зоны. Такім чынам, можна назіраць цікавую, вельмі спецыфічную з'яву сінтэзавання, а, магчыма, мастацкага сінкрэтызму, у якім у непарыўнай сувязі знаходзяцца слова, напеў і выкананне. Гэта сінкрэтызм, а не толькі традыцыйныя (асобныя фармальныя або эмацыянальныя, гістарычныя або сацыяльныя) крытэрыі, становіцца істотнай прыкметай жанру балады. Больш таго, тэксталагічнае (слова — напеў, без уліку выканання) вывучэнне балад выяўляе разнастайнасць, неаднароднасць музычнага матэрыялу, значны ўплыў іншых яскравых і стабільных па музычнай стылістыцы жанраў, г. зн. якасцей, што не могуць быць мастацка-структурнымі або грамадска-функцыянальнымі прыкметамі жанру. І толькі ў працэсе ўспрыняцця мастацкага вобраза выяўляецца яго сутнасць, тое, што гістарычна, сацыяльна і эстэтычна абумовіла ўзнікненне і жыццё жанру балады.

Таму ў дадзеным выпадку наўрад ці магчыма выдзеліць спецыфічныя, уласцівыя толькі баладнаму жанру сродкі музычнай выразнасці, не звязаныя з выканальніцтвам, як гэта можна зрабіць у каляндарных або сямейна-абрадавых песнях. У баладах ёсць цікавыя з'явы ў музычнай стылістыцы, абумоўленыя і выкліканыя да жыцця пераходамі ў працэсе выканання з адной эмацыянальнай сферы ў другую, і іншымі, больш прыватнымі выканальніцкімі асаблівасцямі.

Такім чынам, перыпетыі нават аднаго сюжэта ў кожным канкрэтным выпадку аказваюць непасрэдны ўплыў на характар выканальніцкага інтанавання. Таму кожны раз нараджаецца вобраз непаўторны, новы ў эмацыянальных адценнях. А тое, што зафіксавана тэксталагічна, у тым ліку і нотны запіс, бадай-што ў мінімальнай ступені ў параўнанні з іншымі жанрамі народнай творчасці адлюстроўвае сапраўдны мастацкі вобраз баладнага твора. Гэта таксама пацвярджае нашу думку, што філалагічнае даследаванне балад нават на самым высокім узроўні не выяўляе сапраўднай сутнасці жанру з-за яго сінкрэтычнасці. Як доказ можна прывесці і той факт, што падабенства асобных груп балад суседніх народаў грунтуецца галоўным чынам на сюжэтнай блізкасці, не пацверджанай падабенствам напеваў. Сюжэтныя сувязі балад розных народаў не абумоўліваюць блізкасць або падабенства інтанацыйнае або якое іншае ў музычна-выяўленчай сферы. І гэта дыктуе неабходнасць у характарыстыцы кожнага нацыянальнага варыянта балады грунтавацца перш-наперш на музычным увасабленні мастацкага вобраза, прычым не на статычным, зафіксаваным яго абліччы, а на працэсе яго разгортвання. Нам вядомы балады, калі адным і тым жа сюжэтам або блізкім варыянтам адпавядаюць розныя напевы, часта з рысамі, характэрнымі для песень іншых жанраў, аднак мы не назіралі, каб існавалі разнасюжэтныя балады з аднолькавымі ці падобнымі напевамі. Апошняе можна адзначыць як дастаткова выразную рысу баладнага жанру. Усё гэта абвяргае «формульнасць» праяўленняў музычнай стылістыкі жанру і адначасова становіцца адной з яго характарыстык. Напеў не з'яўляецца ў баладах функцыянальным паказчыкам песень, ён не дыферэнцыруе балады і не групуе іх паводле гістарычнага, стылістычнага ці якога іншага прынцыпу. Гэту функцыю выконвае сюжэт, на аснове якога магчыма класіфікацыя балад, безумоўна, з улікам тэматычных, стылістычных і функцыянальных прыкмет.

Дакладных музычна-стылістычных межаў паміж сюжэтнымі групамі ба-

лад няма і наўрад ці яны былі, хоць гэта і не з'яўляецца сведчаннем аднароднасці жанру або яго эвалюцыі. Разам з тым адзін сюжэтны тып аб'ядноўвае песні, што па музычна-стылістычных асаблівасцях маглі б быць аднесены да іншых жанраў. Асабліва многа такіх прыкладаў у зборніках М. Федароўскага, М. Гарэцкага і А. Ягорава. Такім чынам, мы можам назіраць і цікавую з'яву жанравага пераасэнсавання напеву, прычым гэта датычыць галоўным чынам песень каляндарных, абрадавых. Думка А. М. Весялоўскага аб генетычнай сувязі ўсходнеславянскіх балад з каляндарнай і сямейна-абрадавай песеннасцю пацвярджаецца беларускім фальклорным матэрыялам.

Адваротная з'ява, калі каляндарна-песенныя цыклы паступова пашырыліся за кошт уключэння песень, што «не мелі ўжо ніякай нават генетычнай сувязі з абрадамі ці з каляндарнай працай», была адзначана Э. Эвальд [3]. Пры самым дыферэнцыраваным стаўленні да жанрава пераасэнсаваных напеваў яны не выяўляюць набытых рыс, таму што іх мала, і ў той жа час страчваюць сваё прымацаванне да пэўнай пары года, да пэўнага працоўнага цыкла, да пэўнага абраду, г. зн. функцыянальныя прыкметы, прыкметы семантычнай сувязі са «сваім» жанрам.

Фалькларысты звычайна фіксавалі напеў па першых, пачатковых строфах паэтычнага тэксту, не заўсёды асэнсоўваючы спецыфіку жанру, не прасочваючы асаблівасці паступовага разгортвання мелодыі, працэс «назапашвання» мелодызму ў варыянтным развіцці напеву. Зліццё ў баладах музычнага і моўнага інтанавання, што сведчыць пра важнасць паэтычнага тэксту, пластычная зменлівасць мелодыі на аснове такога зліцця—магчыма, у гэтым закладзена пакуль што непадуладная даследчыкам класіфікацыя балад паводле іх вобразна-інтанацыйнага зместу. Падставы да такога меркавання даюць магнітафонныя запісы, зробленыя супрацоўнікамі ІМЭФ АН БССР на працягу двух апошніх дзесяцігоддзяў. У параўнанні з папярэднімі, слыхавымі запісамі, яны больш дасканалыя і даюць багаты і складаны матэрыял для даследавання жанру, таму што зафіксавалі рухомасць інтанацыйнай выразнасці, дынаміку варыянтнага развіцця напеваў.

Пры параўнанні беларускіх балад з баладамі іншых славянскіх народаў даследчыкамі былі адзначаны агульныя ці блізкія сюжэты. «Найбольш блізкае падабенства выявілі беларускія і ўкраінскія балады (каля 60 агульных сюжэтаў, што складае каля 45 працэнтаў сюжэтаў беларускіх балад). Гэта пацвярджаецца не толькі колькасцю сюжэтных адпаведнасцей, але і падабенствам мастацка-стылявых прыкмет амаль да тэкставых супадзенняў. Такіх сюжэтна-тэматычных адпаведнасцей у беларускім і рускім матэрыяле каля 40, у беларускім і польскім — больш за 20, у беларускім і славацкім — каля 20» [4]. Пры адносна невялікай колькасці сюжэтных тыпаў балад у Літве (да 70), агульных з беларускімі выяўлена каля 30. Аднак музычны матэрыял дае зусім іншую карціну. Сюжэтнае падабенства або нават поўнае супадзенне паэтычных тэкстаў не абумоўлівае падабенства або блізкасць напеваў. Сюжэтна-тэматычныя адпаведнасці беларускіх балад і балад іншых славянскіх народаў не маюць таксама і акрэсленых супадзенняў ці агульных момантаў у музычнай стылістыцы. Інтанацыйныя і іншыя сувязі беларускага матэрыялу з усходнеславянскім ёсць, але ў баладах яны на ўзроўні агульных інтанацыйных сувязей у песеннай творчасці славянскіх народаў [5].

---

[3] Белорусские народные песни. М.— Л., 1941, с. 112.

[4] Л. М. Соловей. Белорусская народная баллада. Автореферат канд. дис. Минск, 1973.

[5] У баладах, распаўсюджаных на тэрыторыі Беларусі і Літвы, музычна-стылявая блізкасць больш прыкметная.

Ф. Рубцоў піша, што «папеўкі — музычныя формулы, якія не паддаюцца вычарпальнаму ўдакладненню, складалі асноўны фонд народнага папевачнага слоўніка, што быў калісьці агульнаславянскім. Іменна гэтыя папеўкі, якія выяўляюць сэнсавае прызначэнне песень калектыўнага выкарыстання і практычнага прызначэння, аказаліся найбольш устойлівымі і, як можна меркаваць, захаваліся ў той або іншай ступені да цяперашняга часу ў славянскіх народаў»[6].

У баладах назіраюцца складаныя суадносіны паэтычнага і музычнага. Захоўваючы сюжэт, паэтычныя вобразы, паэтыку ў творчасці розных славянскіх народаў, балады ў той жа час адрозніваюцца музычным складам. Разглядаць гэта як бытаванне розных па напеву варыянтаў — спрошчваць з'яву. На нашу думку, у такой форме адбывалася крышталізацыя нацыянальнага ў мастацкай вобразнасці балад, такім шляхам выяўлялася нацыянальна спецыфічнае ў мастацкім мысленні вялікага творцы — народа. Асаблівасці музычнага ўвасаблення шырока распаўсюджаных сярод славян і літоўцаў сюжэтаў, уключаючы мясцовыя традыцыі (творчыя, выканальніцкія, індывідуальныя прыёмы асобных выканаўцаў), таксама фарміравалі беларускія балады як самастойны жанр.

Пошук трывалых, устойлівых, формульных унутрыжанравых прыкмет нязменна прыводзіць да мастацкіх з'яў, якія акрамя балад уласцівы і іншым жанрам беларускай народнай творчасці. Але гэтыя з'явы не могуць быць аднесены да сумежных, пераходных, што гнутка і выразна «абслугоўваюць» розныя жанры. Хутчэй наадварот. Іх універсальнасць — вынік тыпізацыі нацыянальна спецыфічных асаблівасцей у народнай песнятворчасці, якія ўтвараюць асноўны музычны фонд сярод мора сродкаў музычнай выразнасці, вынік спрадвечнай крышталізацыі тых прыкмет, па якіх мы адрозніваем беларускую народную музыку ад музыкі іншых народаў.

Многія даследчыкі ўсходнеславянскага фальклору (І. Зямцоўскі і інш.) адзначаюць: «Спецыфіка тых або іншых фальклорных жанраў не толькі ў наяўнасці шэрагу ўстойлівых тэматычных і фармальных унутрыжанравых прыкмет, але і ў асаблівасці ўзаемаўплыву, узаемапранікнення песень розных форм і жанраў»[7]. Адсутнасць адной унутрыжанравай прыкметы—тыповых музычных варыянтаў песень-балад у дадзеным выпадку эстэтычна кампенсуецца іншымі з'явамі: наяўнасцю стабільных рознажанравых варыянтаў (песень з «агульнай сюжэтнай асновай, але з напевамі розных жанраў»[8]) і напеваў, узнікшых як вынік інтанацыйнага сінтэзавання некаторых рыс, тыповых для іншых жанраў. У кожным з гэтых выпадкаў незалежна ад інтанацыйных вытокаў напеву, незалежна ад ступені адпаведнасці эмацыянальнага характару мелодыі зместу паэтычнага тэксту, выканаўца, яго эмацыянальная ацэнка сюжэта вызначае «эмацыянальны тонус» песні: дыяпазон музычнай выразнасці, ступень напружанасці пачуцця, межы пераходаў ад апавядальнасці, лірыкі да драматычнага, а часам трагічнага выказвання. Большасць даследчыкаў (Ф. Рубцоў, Р. Шырма і інш.) схіляюцца да думкі, што інтанацыйная прырода балад, стракатасць іх інтанацыйных вытокаў, наяўнасць рознажанравых меладычных варыянтаў на адзін паэтычны сюжэт абумоўлены прымеркаванасцю выканання. Але тут трывала захоўваюцца і мясцовыя традыцыі, якія істотна адбіваюцца на нацыянальных асаблівасцях

---

[6] Ф. Рубцов. Интонационные связи в песенном творчестве славянских народов. Л., 1962, с. 17.

[7] И. Земцовский. Русская протяжная песня. Л., 1967, с. 9.

[8] Ф. Рубцов. Основы ладового строения русских народных песен. Л., 1964, с. 196.

фарміравання напеваў. Так, калі для рускіх і ўкраінскіх балад характэрна прымеркаванне да некаторых абрадаў, у тым ліку да вясельнага, то, нават адзначаючы агульныя моманты ў бытаванні балад розных славянскіх народаў, нельга не падкрэсліць, што беларускім больш уласціва сувязь з веснавымі, купальскімі, жніўнымі, восеньскімі песнямі.

Больш складаныя сувязі балад з традыцыйнымі жанрамі, што маюць тыловыя інтанацыйныя асаблівасці, выяўляюцца ў шырокім пранікненні рознажанравых інтанацыйных зваротаў, папевак у меладычную структуру балад. Праявы гэтых сувязей разнастайныя і шматлікія, аднак яны не ўскрываюць нейкіх спецыфічных заканамернасцей мэтанакіраванага інтанацыйнага адбору. Народныя балады запазычваюць музыку з самых розных песень і таму могуць быць аднесены да фалькпорных жанраў, якія не ствараюць своеасаблівыя музычныя інтанацыі, а карыстаюцца ўжо гатовымі, што склаліся ў іншых песнях, і толькі па-свойму фарміруюць іх[9]. Гэтыя назіранні над меладычнымі асаблівасцямі рускіх балад слушныя і ў дачыненні да беларускіх, розніца толькі ў больш-менш устойлівых прынцыпах арыентавання на тыя або іншыя жанры, што мы адзначаем як характэрную рысу творчасці таго або іншага народа ў баладным жанры. Як характэрнае ў гэтай з'яве магчыма падкрэсліць той факт, што ў працэсе такога запазычання ў баладны жанр трапляюць найбольш дасканалыя, найбольш інтанацыйна выразныя звароты, якія крышталізаваліся як нацыянальна характэрныя.

Пэўныя групы песень, вызначаныя агульным сюжэтам, нават асобныя балады выяўляюць некаторыя стылістычныя асаблівасці (напрыклад, перавага квінтавых інтанацый I—V ступені), якія могуць лічыцца прыкметай жанру. Але чым шырэй матэрыял даследавання, чым большая колькасць напеваў бярэцца для параўнання, тым цяжэй вызначаць агульнае, тым больш складанымі і разнастайнымі ўяўляюцца асаблівасці саміх напеваў. Так, балады на вельмі распаўсюджаны ў славянскіх народаў сюжэт «дачка-птушка» маюць стабільныя меладычныя, рытмічныя і структурныя асаблівасці, часам нават ідэнтычныя ў песнях, запісаных у розных месцах Беларусі. Аднак у іншым сюжэце гэтыя асаблівасці не выяўляюцца ў той ступені, каб лічыць іх вызначальнай прыкметай жанру. Тое ж датычыць і іншых сюжэтаў — «цмок», «сын, закляты ў явар», «браткі», «маці разгадвае дзіўны сон», «удава і сыны-карабельнікі» і г. д. Гэта з'ява можа стаць для даследчыка генезісу жанру унікальным матэрыялам, бо нясе на сабе адбітак розных працэсаў фарміравання напеваў балад, гнуткіх форм узаемаўплыву розных жанраў, ускрывае ўплыў народнапаэтычнай рытмікі на рытмічную і структурную арганізацыю мелодыі, асаблівасці міграцыі балад і, нарэшце, інтанацыйныя вытокі і вобразны або мастацкі сэнс найбольш стабільных элементаў стылістыкі.

Перавага музыкі ў стварэнні мастацкага вобраза — спецыфічная для балад рыса. Вобраз увасабляецца шляхам паступовага раскрыцця зместу праз эмацыянальныя адносіны выканаўцы да зместу, г. зн. музычнымі сродкамі. Мелодыя ўзбагачае паэтычны тэкст, эмацыянальна ўдакладняе яго. Музычная і паэтычная вобразнасці ў баладах непарыўна звязаны ў адно, дапаўняючы і ўзбагачаючы адна адну. Таму нам амаль невядомы варыянты розных паэтычных сюжэтаў на адзін напеў. Таму так своеасабліва выяўляецца ўстойлівасць некаторых элементаў (інтанацыйных, рытмічных, структурных) унутры сюжэтных груп.

Працэс фарміравання напеваў балад праходзіў, на нашу думку, супярэчліва, нават у самых выразных і дасканалых паводле мастацкай вобразнасці

---

[9] И. Земцовский. Песни-баллады. «Советская музыка», 1966, № 4, с. 95.

баладах іх жанравая прыналежнасць не выяўляецца праз напеў. Таму няшначныя прычыны могуць парушыць мастацкую цэласнасць песень: напрыклад змяненне паэтычнага тэксту (усячэнне, скарачэнне), калі знікаюць рысы, уласцівыя мастацкай вобразнасці балад. Іншыя ўмовы «жыцця» песні таксама змянялі, часам істотна, не толькі напеў (уплыў чужароднага інтанацыйнага стылю), але і мастацкі вобраз цалкам. Творчая індывідуальнасць выканаўцы, што мае ўстойлівы асабісты выканальніцкі стыль, часта з'яўляецца асновай пераасэнсавання вобраза, узнікнення новага варыянта песні. На фарміраванні напеваў адбіўся яшчэ і характар бытавання і міграцыі балад—вельмі важны фактар для разумення прыроды кожнага фальклорнага жанру.

Станаўленне баладнага жанру адбывалася пад уплывам шмат якіх гістарычных, сацыяльных, грамадскіх, мастацкіх з'яў. Найбольш старажытныя балады, якім уласцівы, як іншым старажытным песням, больш простыя сродкі музычнай выразнасці (невялікі дыяпазон, звычайна квінтавы або тэрцавы з субквартай; дэкламацыйная аснова; адсутнасць унутрыскладовай распеўнасці), захаваліся і да сённяшняга дня [10]. Як бачым, больш развітыя формы балад не выціснулі іх.

Уласна ў развіцці і пашырэнні тэматыкі (смерць на чужыне, сум па каханым, доля нявесткі ў доме свякрухі, братоў-разбойнікаў і г. д.) больш пэўна выяўляецца змяненне характару паэтычнай вобразнасці, а гэта непазбежна аказала ўплыў на музычную мову, сродкі музычнай выразнасці, таму што ў баладах, як бадай ні ў якім іншым жанры, напеў застаецца формай вымаўлення тэксту і ў той жа час раскрывае, эмацыянальна ўвасабляе яго сэнс. «Паглыбленне зместу ішло па шляху ўнясення ў песні лірычнага струменю, абумоўленага імкненнем выявіць эмацыянальныя адносіны да з'яў жыцця, што замяшчае ў музычным мастацтве меркаванне пра гэтыя з'явы. Па меры развіцця зместу песень змянялася і значэнне песеннай мелодыкі. Найбольш простыя музычна-сэнсавыя пабудовы перараслі ў складаныя і і шматгранныя напевы-вобразы, якія патрабавалі для свайго ўвасаблення больш ці менш разгорнутай музычнай страфы. Разгортванне музычнай страфы ажыццяўлялася шляхам ускладнення музычна-сінтаксічнай формы напеву» [11].

Наогул балады займалі значнае месца ў народнай песеннай творчасці, не звязанай з абрадамі ці календаром. Тым часам стылістыка іх складалася ва ўзаемадзеянні розных жанраў, але на аснове ці ў нетрах уласнай паэтычнай і музычнай змястоўнасці.

Паступовасць фарміравання жанру сёння прасачыць наўрад ці магчыма, нават выявіўшы прынцыпы развіцця найбольш простых элементаў музычнай мовы і іх выкарыстання ў музычным кантэксце, вывучыўшы «слоўнікавы» склад напеваў балад, асновы формаўтварэння. Гэта немагчыма таму, што ў працэсе эвалюцыі жанру найбольш простыя папеўкі ўвайшлі як асобныя інтанацыйныя злучэнні ў больш складаныя меладычныя пабудовы і імі прасякнуты меладызм наогул: праз суадносіны пабудоў, ладавую пераменнасць і г. д. Сам інтанацыйны матэрыял у баладах вельмі разнастайны як па вытоках, так і складанасці, характэрнасці, выразнасці. Але наўрад ці можна лічыць яго галоўным фактарам у нараджэнні мастацкай з'явы — песні. На нашу думку, у баладах галоўным з'яўляюцца прынцыпы асэнсавання інтанацыйнага матэрыялу ў час формаўтварэння. Балады не заснаваны на спецыфічным, нідзе невядомым інтанацыйным матэрыяле, але тым часам з'яў-

---

[10] У дадзеным выданні яны прадстаўлены галоўным чынам у запісах М. Федароўскага.

[11] Ф. Рубцов. Основы ладового строения русских народных песен с. 86.

ляюцца самастойным, гістарычна і эстэтычна абумоўленым жанрам і выяўляюць заканамернасці розных этапаў народнай песнятворчасці.

У баладах мелодыя мае ўласную логіку формаўтварэння, найчасцей звязаную са структурай паэтычнага тэксту. Аднак і аднатыпныя тэксты звычайна не абумоўліваюць аднатыпныя па структуры напевы. Тут сувязі, відаць, больш складаныя і сярод іх не апошняе месца займаюць мясцовыя традыцыі (можна вызначыць чатыры лакальныя тэрыторыі: Міншчына, Віцебшчына і паўночная частка Гомельшчыны, Брэстчына; захад Гомельшчыны — назвы ўмоўныя), мясцовыя і індывідуальныя стылі выканання, гістарычныя напластаванні і г. д.

Сярод балад можна вылучыць два тыпы напеваў: напевы, што заснаваны на адзіным інтанацыйным тэзісе; напевы, якія разгортваюцца на аснове іншых кампазіцыйных прынцыпаў (апошніх болей). Ніводзін з гэтых тыпаў нельга лічыць галоўным ні ў сэнсе колькасці выяўленых прыкладаў, ні ў сэнсе іх спецыфічнасці. Да таго ж яны не з'яўляюцца ўласцівымі толькі баладнаму жанру. Натуральна, што ў напевах, заснаваных на адзіным інтанацыйным тэзісе, інтанацыйная сутнасць высвятляецца больш поўна, больш канцэнтравана.

Структурныя асаблівасці баладных напеваў цалкам падпарадкаваны структуры паэтычнага тэксту. З гэтага пункту погляду найбольш тыповая структура баладнага напеву складаецца з дзвюх раздзельных, звычайна роўных або нязначна змененых (пашыраных, скарочаных) паўстроф, што завяршаюцца апорным ладаваўстойлівым гукам. Агульны для балад і такі прынцып формаўтварэння — парушэнне квадратнасці метра-рытмічнымі сродкамі. Указаныя рысы ўласцівы большасці разгледжаных прыкладаў.

Інтанацыйныя тэзісы, на аснове якіх разгортваюцца мелодыі многіх балад, вельмі рэдка бываюць у выглядзе кароткай завершанай папеўкі «тэзіснага» сэнсу. Значна часцей яны ўваходзяць у больш буйную меладычную фразу, пранізваюць развіццё напеву, не будучы адмежаванымі. Інтанацыйны тэзіс амаль ва ўсіх напевах гэтага тыпу мае лірычны характар, нягледзячы на надзвычай вялікую іх разнастайнасць. Беларускім баладам найбольш характэрныя квінтавыя з пашырэннем дыяпазону да сексты інтанацыйныя тэзісы, у меншай ступені квартавыя з пашырэннем дыяпазону да квінты. Звычайна дыяпазон напеву значна шырэй за дыяпазон інтанацыйнага тэзіса. Інтанацыйныя тэзісы маюць у аснове ўстойлівыя гукі ладу, а па функцыянальнаму сэнсу значна пераважаюць танічныя, хоць у працэсе такіх тэзісаў характэрна іх функцыянальнае пераасэнсаванне амаль заўсёды ў плагальны бок.

Здавалася б, форма пабудовы мелодыі падобнага тыпу прадугледжвае формульнасць. Гэта, сапраўды, так, але толькі ў межах пэўнага сюжэта («дачка-птушка», «тры птушачкі», «ціхоня»). У дачыненні ж да жанру цалкам тыпізацыі сродкаў не адбываецца: ці то з прычыны надзвычай шырокай шкалы выразнасці саміх інтанацыйных тэзісаў, ці то з якой іншай прычыны.

Аналагічная асаблівасць назіраецца і ў метрарытмічнай арганізацыі мелодыі ў межах страфы. Незалежна ад прынцыпу будовы напеву, колькасці меладычных хваль (іх часцей за ўсё дзве, рыху радзей чатыры, зусім рэдка тры), месца кульмінацыі унутры сюжэтнай групы (асабліва прадстаўленай значнай колькасцю песень) выяўляюцца пэўныя заканамернасці («дачка-птушка», «браткі», «удава і сыны-карабельнікі» і інш), якія, аднак, не пацвярджаюцца іншымі сюжэтнымі групамі.

І толькі зачыны і кадансы, не ўтвараючы ў межах сюжэтных груп больш-менш трывалых элементаў, уласцівых жанру, па-за межамі сюжэтных груп маюць тэндэнцыю да паўторнасці, аднатыпнасці. Магчыма, у дадзеным выпадку, калі не ўдаецца вылучыць стабільных элементаў музычнай мовы, якія

былі б характэрны для жанру ці ўласцівы яму цалкам, можна дапусціць, што такі матэрыял даюць зачыны і кадансы. Але гэта не так, бо ў зачынах і кадансах выяўляюцца ладаваінтанацыйныя асаблівасці, уласцівыя баладнаму жанру ў той самай ступені, што і іншым жанрам беларускай народнай песнятворчасці.

У сэнсе ладавай арганізацыі напеваў баладны жанр выяўляе бадай-што ўсе асаблівасці беларускага музычнага фальклору ад тэрцавага ладу з субквартай (аднаго з найбольш распаўсюджаных ладоў раннетрадыцыйнай песнятворчасці) да гарманічнага мінору. Але роля натуральналадавых сістэм своеасаблівая. Акрамя натуральнага мінору, які з'яўляецца пануючым ладам ў баладным жанры, іншыя натуральныя лады выкарыстоўваюцца эпізадычна, галоўным чынам як вынік ладавай пераменнасці, як адхіленне ў натуральным міноры, радзей — у натуральным мажоры.

«Нейтральная» тэрцыя (у парушэнне тэмперацыі—сярэдняя па вышыні паміж мажорнай і мінорнай) дастаткова распаўсюджана галоўным чынам у двух адценнях: як стабільная з'ява, што выяўляе ладавую пераменнасць напеву, і як эпізадычная з'ява, звычайная для першай страфы песні, калі выканаўца яшчэ не ўвайшоў у інтанацыйны лад песні і быццам шукае, набліжаецца да яго.

Гэта ж датычыць і тэмпу, які ўстанаўліваецца ў час выканання трэцяй і чацвёртай строф балады. Цікава, што выканаўцы, нават самыя таленавітыя і эмацыянальныя, пачынаюць спяваць хутчэй, больш дынамічна, чым сапраўдны тэмп, які ўстанаўліваецца ў час выканання, крыху пазней. Нешта падобнае назіраецца і ў канцы песні (адна ці дзве апошнія строфы), калі паэтычны тэкст дастаткова разгорнуты, працяглы. Зразумела, у нотных запісах гэта ніяк не адлюстравана.

Некаторыя фалькларысты часта ў дачыненні да іншых жанраў адзначаюць аналагічна «нейтральнай» тэрцыі пераменнасць VII ступені ладу, праз якую выяўляецца натуральнае або гарманічнае яго нахіленне. У меншай ступені, чым тэрцыя, але ўсё ж дастаткова пэўна і VII ступень зазнае гэтыя інтанацыйныя хістанні. Прычым мастацкая сутнасць такой пераменнасці залежыць цалкам ад інтанацыйнага руху мелодыі з тэндэнцыяй пры ўзыходным руху да гарманічнага, пры зыходным — да натуральнага мінорнага нахілення і ніколі не звязана з уласным устанаўленнем ладу.

Ужо адзначалася, што баладам менш уласцівыя замкнёныя інтанацыйныя тэзісныя пабудовы. Наогул песні, што развіваюць квінтавы або квартавы інтанацыйны тэзіс, маюць уласцівасць разнастайнага выяўлення ў першым выпадку кварты, тэрцыі ладу, у другім — квінты і сексты. Унутрыскладовая распеўнасць, што можна адзначыць як эпізадычны сродак выразнасці, прыпадае на гукі прамежкавыя, якія не ўтвараюць інтанацыйнага касцяка.

Са сродкаў формаўтварэння ў напевах, заснаваных на пэўным інтанацыйным тэзісе, галоўным становіцца прынцып простага або варыянтнага яго паўтору. Песні ж іншыя даюць больш выразны тып формаўтварэння на аснове развіцця аднаго або некалькіх элементаў. Такая кампазіцыйная асаблівасць балад.

І ўсё ж ні песні, заснаваныя на пэўным інтанацыйным тэзісе, ні песні іншых вядомых тыпаў мелодый не з'яўляюцца стылістычна аднароднымі групамі, таму што маюць розныя інтанацыйныя вытокі, да процілегласці рознахарактарныя, нават пры агульных прынцыпах формаўтварэння. Фарміраваліся такія напевы і гістарычна таксама неадначасова; у сваім фальклорным жыцці не зазналі тэндэнцый да ачышчэння ад шматлікіх пераходных, жанрава нейтральных элементаў.

У баладах рытм з'яўляецца актыўным фактарам меладычнага развіцця

і формаўтварэння і адначасова знаходзіцца ў блізкай кампазіцыйнай сувязі з рытмікай паэтычнага тэксту. Баладны жанр мае адзін вельмі спецыфічны паказчык — уплыў словамаўлення на мелодыку, інтанацыйны і рытмічны яе бакі. Магчыма ні адзін з іншых музычных жанраў народнай творчасці не ведае такога ўплыву. І ўсё ж сістэматызацыя асобных рытмічных утварэнняў, іх спецыфічных паказчыкаў не дае магчымасці вылучыць жанрава характэрнае — ізноў з прычыны разнастайнасці і пераменлівасці, рознахарактарнасці да межаў супярэчлівасці і процілегласці. Прывязанасць да паэтычнага тэксту і парушэнне яго рытмікі, капіраванне яго «ячэек» і разбурэнне іх, метрычныя перабівы, амаль пастаяннае паўтарэнне будовы верша ў буйных структурах (страфа, паўстрафа) і разбурэнне аж да словаабрываў у дробных, тэндэнцыя да сіметрычнасці пабудоў, метрычнай цотнасці і ўсячэнне або пашырэнне сіметрычных ячэек, асобных працяглых гукаў — усё гэта ў поўнай меры выяўляецца ў баладах і няма такога «стрыжаня», на які б нанізваліся гэтыя супярэчнасці, утвараючы жанрава характэрныя мастацкія якасці. Чым больш дасканалыя сучасныя магнітафонныя запісы і расшыфроўкі, тым больш глыбокімі і амаль парадаксальнымі прадстаюць супярэчнасці. Чым большая колькасць балад становіцца вядомай, тым большая разнастайнасць іх выяўляецца.

Амаль усе напевы балад падзяляюцца на паўстрофы і больш дробныя структуры, хоць іменна ў гэтым фактары выяўляюцца лакальныя асаблівасці жанру, традыцыі прымеркавання балад. Поўнач Беларусі дае напевы з падкрэслена раздзеленымі паўстрофамі. Але ў такіх напевах назіраецца тэндэнцыя да інтанацыйнага счаплення асобных раздзелаў, іх ладавага адзінства. Іншыя раёны Беларусі, асабліва паўднёвы захад рэспублікі, не выяўляюць такой тэндэнцыі і даюць больш стракатую карціну.

Многія балады ўнутры паўстроф маюць несіметрычную будову раздзелаў, што дасягаецца скарачэннем або пашырэннем апошняга перад завяршэннем паўстрофы раздзела. Пашырэнне або скарачэнне структуры ў межах каданса баладам не характэрна, наадварот, кадансы, як правіла, маюць падобны рытмічны малюнак.

Страфічнасць будовы настолькі дакладна выражана ў баладах, што можа лічыцца прыкметай жанру, але ў той жа час на баладах адбіліся самыя разнастайныя метрарытмічныя асаблівасці іншых жанраў, прычым не толькі ў песнях, блізкіх па напевах ці падобных да песень іншых жанраў, але і тых, што не мелі або страцілі сувязі з іншымі жанрамі. Перакрыжаванне самых разнастайных жанравых і міжжанравых з'яў, безумоўна, вынік складаных генетычных вытокаў жанру і не менш складанага і супярэчлівага яго бытавання.

Найбольш распаўсюджана ў баладным жанры двухрадковая страфа з аднолькавай, звычайна 8+8, складовай структурай. Але даволі часта адбываецца пашырэнне або скарачэнне галоўным чынам другой паўстрафы да 9—10 або 7, 6 і нават 5 складоў. Менш характэрны для балад іншыя роўнаскладовыя строфы. Трохрадковыя строфы сіметрычнай будовы з роўнай колькасцю складоў у радках менш распаўсюджаны. І ўсё ж як уласцівасць жанру трэба адзначыць супадзенне ў большасці прыкладаў радкоў з меладычнымі сінтагмамі.

Найбольш распаўсюджаныя ў беларускай народнапесеннай творчасці структуры AA, AB, AAB, ABB выяўляюцца і ў баладах, пры гэтым жанравыя асаблівасці балад больш поўна выражаны ў суадносінах меладычнага і паэтычнага зместу, асабліва ў выпадках кантрастных суадносін асобных фраз — найбольш дасканалага, нябачнага на першы погляд сродку дынамізацыі напеву, пераходу з адной эмацыянальнай фазы да наступнай. Варыянт-

насць АА, асабліва калі яна датычыць розных элементаў музычнай мовы, таксама выконвае падобную ролю ў дынамізацыі або адынамізацыі напеву.

Сюжэт песні, паэтыка, нягледзячы на цесную сувязь слова і музыкі ў баладах, усё ж не дыктуе, не абумоўлівае выкарыстанне пэўнай структуры. Іменна ў баладах высвятляецца глыбокая сутнасць такіх суадносін: адзіны паэтычны сюжэт выклікае да жыцця разнастайныя структуры напеву.

Адзначыць найбольш тыповыя для пэўнай мясцовасці структуры немагчыма з прычыны няроўнасці тэрытарыяльнай распаўсюджанасці розных тыпаў структур (наколькі даюць падставы меркаваць сабраныя ўзоры). Спецыфіка выкарыстання той або іншай структуры — у іншых яе параметрах: мелодыі, метрарытме, ладавай арганізацыі. Так, на поўдні рэспублікі балады багацейшыя па меладызму, на поўначы больш арганічныя і развітыя ў структурных адносінах, захад дае стракатую карціну змяшчэння разнастайных з'яў.

Баладная песня пераважна аднагалосая, што вызначаецца спецыфікай жанру — індывідуальнае апавяданне. Аднагалоссе з'яўляецца бясспрэчнай прыкметай гэтага жанру. Манадыйнае інтанаванне — пераважная якасць і ў песнях шматгалосых. У баладным жанры найбольш часта сустракаюцца два віды шматгалосся: гетэрафонія і двухгалоссе, пры якім адзін з галасоў дубліруе асноўную мелодыю ў тэрцыю, кварту, радзей квінту (інтэрвалы вузкага дыяпазону). Гетэрафонія ж у баладах мае не выпадковы характар «разыходжання» у час выканання, а з'яўляецца адзнакай стылю.

Неаднародны па якасці матэрыял, натуральна, не спрыяе поўнаму і цэласнаму ўяўленню пра жанр. Але гэта непазбежна: без папярэдніх слыхавых запісаў нашы сённяшнія звесткі пра жанр былі б значна бяднейшыя. З пункту погляду сучаснай методыкі, галоўным недахопам слыхавых запісаў з'яўляецца не недакладнасць фіксацыі, а «падвядзенне» фальклорнага музычнага стылю пад законы прафесійнага мастацтва. Найбольшыя скажэнні ў гэтым сэнсе датычаць метрарытмічнай арганізацыі напеву, а таксама яго інтанацыйнага складу (арыентацыя пры запісах на раўнамерную тэмперацыю).

І толькі запісы на магнітафонную стужку (магнітаграмы) выявілі багацце і разнастайнасць жанру, найтанчэйшыя адценні інтанацыйнай і ладавай арганізацыі напеву. У нотных расшыфроўках магнітаграм немагчыма адлюстраваць усе асаблівасці песні, яе ўнутранай драматургіі, характэрныя рысы і адценні выканальніцтва. Магнітаграма дае ў значнай ступені статычны адбітак песні — жывога мастацкага твора, непаўторнага па эмацыянальнай насычанасці, мабільнага, кволага ў вытанчаных нюансах мастацкай вобразнасці. Нотны ж запіс (расшыфроўка) фіксуе абагульненыя, дастаткова стабільныя рысы і толькі ў самай малой ступені асаблівасці выканання, што для балад з'яўляецца надзвычай важным.

Напеў даецца разам з паэтычным тэкстам. Адсутнасць паэтычнага тэксту азначае: адсутнасць яго ў папярэднім выданні і няпоўны запіс у час экспедыцыі або немагчымасць расшыфраваць па тэхнічных прычынах (ціхае гучанне, тэхнічныя перашкоды і г. д.). Азначэнні тэмпаў даюцца з захаваннем адпаведных азначэнняў у першакрыніцы, калі запісы друкаваліся; у архівах ІМЭФ — паводле паказчыкаў метранома; у слыхавых архіўных запісах — у адпаведнасці з вызначэннем збіральніка.

Дынамічныя, агагічныя і іншыя асаблівасці выканання фіксуюцца наступнымі знакамі, што дапаўняюць нотнае пісьмо:

— прыблізная вышыня

— няпэўная вышыня

— глісанда

(𝄽) (𝄾) — нетэматычная паўза (звязана з момантам глыбокага ўздыху), якая не ўваходзіць у асноўную метрычную структуру напеву

V — глыбокая цэзура, перахоп дыхання

\+ — павышэнне гуку менш чым на адзінку тэмперацыі (1/2 тону)

− — паніжэнне гуку менш чым на адзінку тэмперацыі (1/2 тону)

( ) — у дужках даюцца дадатковыя да асноўнага тэксту фанемы (паўгалосныя, прадзіктавыя і інш.), якія ў паэтычным тэксце не ўлічваюцца.

*Т. Дубкова*

## ДАЧКА-ПТУШКА — I

### 1

Moderato

Ад- даў бaць- ка дач- ку за- муж
сем міль ад ся- бе, сем міль ад ся- бе.

Аддаў бацька дачку замуж
Сем міль ад сябе [1].

Ды не вялеў ў гасцях быці
Сем год у сябе.

Ды на трэці ўжо гадочак
Бацька дачку жджэ:

— Няхай маё ды дзіцятка
Ка мне ў госці йдзе!

— Не пайду я к татку ў госці
Малодачкаю,

Палячу я к татку ў госці
Зязюлечкаю!

Ой, палячу, пагляджу я,
Што татка робіць.

Ды адно ж мой татка родны
Па двару ходзіць,

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Ды за правую ручаньку
Сыночка водзіць,

Ды ў левай ручаньцы
Стрэлачку носіць:

— Ой, стрэльма, мой татачка,
Шару зязюльку!

— Не страляй жа, мой сыночак,—
Сястрыца твая!

— Калі шэра зязюлька,
Шугі ў шчыры бор,

Калі ты — мая сястрыца,
Прашу на мой двор!

— А я з таго жалю-плачу
Ў лугі палячу,

Ды як стану кукавацї,
Татку засмучу,

Ды як стану бедавацї,
Лясы пасушу,

Ды як стану горка плакаць,
Лугі затаплю!

Ды як прыйдзе мой брацетка
Лугі касіці.

Ды баіцца аступіцца,
Каб не ўтапіцца.

— Ты не бойся, мой брацетка,
Гэта не вада,

Ты не бойся, мой брацетка,
То слёзы мае!

## 2




Аддаў мяне татулька замуж далёка,
Аддаў мяне родненькі замуж далёка.

А сказаў мне татулька у госці не йсці,
А сказаў мне родненькі у госці не йсці.

Пражыла я гадочак, пражыла другі,
Пражыла я гадочак, пражыла другі.

А на трэці гадочак зажурылася,
А мне ў госці к татульку захацелася.

Абярнуся зязюляй, абярнусь шэрай,
Да паляту к татку ў сад, стану кукаваць

Ці не ўчуець татачка, ў свіран ідучы,
Ці не ўчуець родненькі, ў свіран ідучы.

Ці не ўчуець мамачка, ў каморы сплючы,
Ці не ўчуець родная, ў каморы сплючы.

Ці не ўчуець сястрыца, сені метучы,
Ці не ўчуець родная, сені метучы.

Ці не ўчуець брацетка, коні пасучы,
Ці не ўчуець родненькі, коні пасучы.

Да не пачуў татачка, ў свіран ідучы,
Да не пачуў родненькі, ў свіран ідучы.

Не пачула мамачка, ў каморы сплючы,
Не пачула родная, ў каморы сплючы.

Не пачула сястрыца, сені метучы,
Не пачула родная, сені метучы.

Толькі пачуў брацетка, коні пасучы,
Толькі пачуў родненькі, коні пасучы.

— Калі шэра зязюля — ляці ў зялён бор,
Калі мая сястрыца — хадзі ка мне ў двор.

Калі шэра зязюля — ляці кукаваць,
Калі мая сястрыца — будзем размаўляць.

На каліне сядзела — ягад не ела,
Бо [illegible] ў свайго татулькі гасцей не мела.

## 3




Як аддаў жа татухна замуж даляко,
Як аддаў жа родненькі замуж даляко.

Загадаў мне татухна ў госці не хадзіць,
Загадаў жа родненькі ў госці не хадзіць.

Жыла я і гадочак, жыла і другой,
А на трэці гадочак здумала дамой.

Папрашу я ў салаўя сізыя крыллі,
Папрашу я ў кукушкі тонкі галасок.

Палячу я к татухну ў зялёны садок,
Палячу я к роднаму ў зялёны садок.

Закукую татухну тонкім галаском,
Закукую роднаму тонкім галаском.

Ці не ўчуець татухна, на куце сідзя?
Ці не ўчуець матухна, абед гатуя?

Ці не ўчуюць сястрыцы, дварочак мяця,
Ці не ўчуюць брацеткі конікаў пая.

А не ўчуў жа татухна, на куце сідзя,
А не ўчула матухна, абед гатуя.

А не ўчулі сястрыцы, дварочак мяця,
А учулі брацеткі, конікаў пая.

Самы старшы брацетка мецiўся страляць,
А сярэдні брацетка — яму не даваць.

А сярэдні брацетка яму не даваць,
Самы меншы брацетка ружжо адбіраць:

— Калі ты нам сястрыца, хадзі к нам на двор,
Калі шэра зязюля, ляці ў шчыры бор.

Я й барамі ляцела — бары глушыла,
Я й палямі лётала — палі тапіла.

## 4

♪=150

Ад- даў мя- не та- тач- ка
шчэ(й) да- лё- ка за- муж, ад- даў мя- не
род- нень- кі шчэ(й) да- лё- ка за- муж.

Аддаў мяне татачка шчэ й далёка замуж,
Аддаў мяне родненькі шчэ й далёка замуж.
Прыказаў мне татачка ў госці не хадзіць [1].
Вот жыву я гадочак, жыву ж я другі.
А хочацца ў госцікі к татачку свайму.
Як скінусь я, молада, серай зязюляй,
Як палячу, молада, з таскі на ляскі.
Як сяду я, паду я на скрыпу елу:
— Не скрып, не скрып, елушка, я шчэ й не ела.
Як сяду я, паду я на скрыпу ліпу:
— Не скрып, не скрып, ліпушка, я шчэ й не піла.
Як палячу, молада, я ў зялёны сад.
А што ж па тым садочку братка мой ходзе.
Ён на правай ручачцы стрэльбачку носе.
— Пазволь, пазволь, татачка, серу зязюлю біць.
— Не бі, не бі, сыночак, серай зязюлькі.
Пакладзі ёй, сыночак, золат персцянёк
І насып ёй, сыночак, пшанічна зярна.
Калі ж гэта зязюлька — зерне паклюе,
Калі ж гэта сястрычка — персцянёк возьме.

## 5

♩=70

(й) Ад_даў мя_не та_ тач_ка да_ лё_ ка за_ муж,
не бы_ ла я га_ до_ ча_к (ы) , не бы_ ла дру_гі.

Аддаў мяне татачка далёка замуж,
Не была я гадочак, не была другі.

Не была я гадочак, не была другі,
А на трэці гадочак хочацца ў госці.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

А на трэці гадочак хочацца ў госці,
Ой, скінуся, скінуся сівай зязюляй.

Ой, скінуся, скінуся сівай зязюляй,
Ой, палячу, палячу к татачку і ў сад.

Самы большы братачка па саду ходзіць,
Ародненькі татачка па двару ходзіць.

А родненькі татачка па двару ходзіць,
Самы меншы братачка ружжо наводзіць.

Самы меншы братачка ружжо наводзіць.
— Ой, татачка, татачка, заб'ю зязюлю.

— А сыночак, сыночак, не бі зязюлі,
Гэта ж не зязюлечка — сястрыца ваша.

— Калі наша сястрыца, няхай ляціць у двор,
Калі сіва зязюля, няхай ляціць ў шчыры бор.

— Багдай табе, братачка, бог долі не даў,
Як ты мяне зязюлькай ў шчыры бор паслаў.

Я й барамі ляцела — бары глушыла,
Я й лугамі ляцела — лугі тапіла.

## 6



Аддаў мяне татуля вельмі далёка,
Аддаючы, прыказаў ў [г]асцях не бываць.

Пабыла я [г]адочак, пабыла другі,
А на трэці [г]адочак засмуцілася.

А на трэці [г]адочак засмуцілася,
Да татулі ў [г]осцікі захацелася.

Абярнусь я й, малода, рабой зязюляй,
Да й паляту, малода, да татулі ў сад.

Да й паляту, малода, да татулі ў сад,
А я сяду, молада, вельмі высока.

А я сяду, малода, вельмі высока,
Закукую, малода, вельмі жалосна.

Закукую, малода, вельмі жалосна,
Ці не ўчуе татуля, ці не ўчуе родны?

А мой родны татуля з карчомкі ідзе,
Самы старшы брацятка татулю вядзе.

Самы старшы брацятка татулю вядзе,
А сярэдні брацятка шапачку нясе.

А сярэдні брацятка шапачку нясе,
Самы младшы брацятка стрэльбуньку нясе.

Самы младшы брацятка стрэльбуньку нясе.
— А мой родны татуля, буду страляці.

А мой родны татуля, буду страляці.
— Ой, не страляй, сыночак, можа сястрыца.

Калі наша сястрыца, кідайся сюды,
Калі раба зязюля, кінься у лугі.

## 7




Аддаў мяне татачка ў замуж далякі, ой,
Аддаў мяне татачка ў замуж далякі.

Пажыла гадочак я, пажыла другі, ой,
А на трэцім годзіку зажурылася.

А на трэцім годзіку зажурылася, ой,
Да роднага татанькі захацелася.

Пайшла б я пяхотаю, дык я не зайду, ой,
Папрасіла б коніка, дык мне не дадуць.

— Сівая зязюлечка, спусці пёрышка, ой,
Палячу я, пагляджу, што тата робіць.

Ажно мой татуленька па саду ходзіць, ой,
Самы старшы брацейка пад ручку водзіць.

Серадульшы брацейка мёд, віно носіць, ой,
А малодшы брацейка ды ружжо носіць.

А малодшы брацейка ды ружжо носіць ой:
— Дазволь, дазволь, татанька, зязюльку забіць!

— Не дазволю, сыночак, зязюлю забіць, ой,
Гэта не зязюлечка, гэта сястрыца!

— Калі гэта сястрыца, садзіце за стол, ой,
Калі гэта зязюля, шугі на лугі!

Ляцела палямі — сушыла палі, ой,
Ляцела лугамі — мачыла лугі.

## 8




Аддаў мяне татачка далёка замуж [1],
Прыказаў мне татачка ў гасцях не бываць.
А й жыла я гадочак, жыла і другі,
А й на трэці гадочак хочацца ў госці.
Да скінуся, скінуся сіваю зязюляй,
Да палячу, палячу і к татку ў госці.
Аж а мой жа татачка па саду ходзіць,
Серадольшы братачка стрэльбу наводзіць
Да й меціцца й цэліцца зязюльку біці.
— Да й не страляй, сыночак, ці зязюлька, ці не,
А й у цябе сястрыца ў чужой старане.
Да й насып жа, сыночак, пшонку на дварэ,
Палажы, сыночак, залаты пярсцёначак.
Калі сіва зязюлька — пшонку паклюе,
Калі твая сястрыца — пярсцёнак вазьме.
— Бадай табе, братачка, бог долі не даў,
Як жа ты мяне, сястрыцу, з садзіку прагнаў.
Да й палячу, палячу я й у шчыры бор,
Ой, сяду ж я, паду на высокай сасне.
Да й не скрыпі, сасонушка, да й мне й так тошна.
Да як закукую, бары заглушу,
Да сільненька заплачу — лугі патаплю.

## 9

Аддаў мяне татка замуж далёка,
За шчыры бары, за быстры рэкі.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Жыла я гадок, жыла я другі,
А на трэці гадок радзіўся сынок.

На трэці гадок зажурылася,
К татачку ў госці захацелася.

— Свякратка-татка, пусці мяне ў госці!
Свякратка пусціў, дык свякроўка не.

— Свякроўка-мамка, пусці мяне ў госці.
Свякроўка пусціла, дзевяратка не.

— Дзевяратка-братка, пусці мяне ў госці!
Дзевяратка пусціў, дык залвіца не.

— Залвіца-сястрыца, пусці мяне ў госці!
Залвіца пусціла, дык мой мілы не.

Ой, мілы-любы, пусці мяне ў госці!
Пакуль мілы пусціў, дык рэкі пайшлі.

Абярнулася ж я ды шэрай зязюляй,
Як паляту я шугі на лугі.

Як сяду-паду ў таткавым саду,
Запяю я сільна, сільна, голасна.

А мой татка ўстаў, у доме ходзіць,
У доме ходзіць, нявестачак будзіць.

— Што ў нашым садзе за птушка пяе,
Дзе яна, бедная, прычыты бярэ?

Большы братачка па двару ходзіць,
Па двару ходзіць, стрэльбу наводзіць.

А меншы братачка яго просіць:
— Не бі, братачка, шэру зязюлю,

Гэта не зязюля, а наша сястрыца.
Тут старэйшы братачка зязюлі кажа:

— А калі зязюля, ляці ты у бор,
А калі сястрыца, хадзі ты у двор.

Як паляту я шугі на лугі,
Лугам ляцела, слёзкі ўраніла.

Лугам ляцела, слёзкі ўраніла,
Увесь луг затапіла.

Борам ляцела, пёрка ўраніла —
Увесь бор запаліла.

Як сяду-паду на суху сосну.
— Ой, не скрыпі, сосна, мне і так тошна,

Ой, не скрыпі, сосна, мне і так тошна,
Ой, не скрыпі, ліпа, мне і так ліха.

## 10




Ой, аддаў мяне ж мой жа бацюхна,
Ой, да й аддаў мяне ж замуж далёка.

Жыву я гадок, жыву ж я другі,
Ой, на трэці гадок занудзілася.

Мне к матцы ў госці захацелася.
Дай жа мне, божа, пер'е цяцер'е,

Пер'е цяцер'е, сакаловы вочы,
Палячу я к матцы хоць сярод ночы.

Ой, сяду, ўпаду ў вішнёвым саду,
Ой, у вішнёвым саду да й на яблынцы,

Да й пагляджу ж я, што матка робіць.
Аж мая матка па саду ходзіць,

Большы сыночак пад ручкі водзіць,
А серадольшы мёд-віно носіць,

А самы меншы з стрэльбаю ходзіць.
— Пазволь, мамачка, мне пташачку ўбіць!

— Не пазволю, сынку, ой, не пазволю, родны,
Негдзе ж е ў мяне дзіця далёка,

То можа яно ліст іспісала,
Ліст іспісала, пташачкай прыслала.

— Калі ты сястра, то ляці на двор,
Калі родная, то хадзі за стол,

Калі ты пташачка, то стрэльбай заб'ю.
А мне ж, маладзенькай, горненька стала,

Да й паляцела з той яблынкі,
Да села, ўпала на сухой ліпцы.

— Чаму табе, ліпка, цвет лісту не даў,
А мне, маладзенькай, бог долі не даў?

## 11

♪=125

Да(й) за- ду- маў вой- чань-ка мя- не за- муж ад- даць,
да (й) вя- леў мне вой- чань-ка сем год не- бы-ваць.

Да й задумаў войчанька мяне замуж аддаць,
Да й вялеў мне войчанька сем год не бываць.

Не была гадочак, не была другі,
На трэці гадочак зажурылася.

На трэці гадочак зажурылася
Да к войчаньку ў госцейкі захацелася.

Да пераключуся я шэрай зязюлькай,
Да палячу, палячу я к татку у сад.

Да палячу, пагляджу, што мой татка робіць,
Ажной мой татачка па саду ідзе.

Ажно мой татачка па саду ідзе,
Самы большы брацетка пад ручкі вядзе.

Я із тое жаласці стала кукаваць,
А стаў жа мой татачка гор'енька плакаць.

— Гэтак майму дзіцяці ў чужой старане,
Як гэтая зязюлечка накукавала мне.

Ой, палячу, пагляджу, што мамка робіць.
Ажно мая мамачка па садочку йдзе.

Ажно мая мамачка па садочку йдзе,
Самы меншы брацетка пад ручкі вядзе.

Я із тое жаласці стала кукаваць,
Стала мая мамачка цяжанька ўздыхаць.

— Гэтак майму дзіцяці ў чужой старане,
Як гэтая зязюлечка накукавала мне.

Самы большы брацейка намеціў страляць.
— Ды не страляй, мой сыночак, то ваша сястра.

— Калі наша сястрыца, то просім за стол.
Калі сіва зяўзюлечка, ляці ў шчыры бор.

І шугі ў лугі, у лугі сіва зяўзюлька.
Калі паляцела я ў шчырыя бары.

Барамі ляцела — бары сушыла,
Лугамі ляцела — лугі тапіла.

## 12




Аддаў мяне татачка замуж далёка,
Эй, ён казаў-прыказываў ў госці не хадзіць.

Ён казаў-прыказываў у госці не хадзіць,
Эй, не пашла ж я гадочак, не пашла другі.

Не пашла ж я гадочак, не пашла другі,
Эй, [illegible] на трэці гадочак засмуцілася.

А на трэці гадочак засмуцілася.
Эй, мне к татачку ў госцікі захацелася.

Мне к татачку ў госцікі захацелася.
Эй, прасіла ж я коніка, каня не даюць.

Прасіла ж я коніка, каня не даюць,
Эй, прасілася ж пяшочкам, дак не пускаюць.

Прасілася ж пяшочкам, дак не пускаюць.
Эй, вой, скінуся, згарнуся сівай зязюляй.

Ой, скінуся, згарнуся сівай зязюляй,
Эй, да палячу, палячу к татачку ў садок.

Да палячу, палячу к татачку ў садок,
Эй, у том жа садочку татачка ходзіць.

А ў том жа садочку татачка ходзіць,
Эй, самы большы сыночак пад ручку водзіць.

Самы большы сыночак пад ручку водзіць,
Эй, селядоршы сыночак дазваляецца.

Селядоршы сыночак дазваляецца:
— Эй, пазволь, пазволь, татачка, зязюлю убіць.

Пазволь, пазволь, татачка, зязюлю убіць.
— Эй, не пазволю, сыночак, зязюлі убіць:

Не ёсць то зязюля, ёсць маё дзіця,
Эй, гэта не зязюлечка, а ваша сястра.

## 13




Была ў маткі дочка адна-адзіночка.
Калінку ламала, дочку гадавала,
Так далёка замуж аддала.

Дала яна, дала, да шчэ й прыказала:
— Каб маё дзіцятка, каб маё раднoе,
Сем год у гасцях не бывала.

А як захацела, праз год прыляцела,
У вішнёвым садзе у матулі села,
У вішнёвым садзе села.

Села яна, села, стала кукаваці,
Ад яе галасу, ад яе галасочку
Сталі сады пасыхаці.

А за ёй браце, а за ёй радненькі,
А за ёй радненькі зязюлю страляці,
А за ёй зязюлю страляці.

А за ім матуля, а за ім радная,
А за ім матуля — страляць не даваці,
Не даваць зязюлю страляці.

— Не страляй, сыночак, не страляй, радненькі,
Гэта не зязюля, гэта не рабенькая,
А твая сястрыца радненькая.

## 14




Аддала мяне мамачка замуж далёка,
Не была я ў мамачкі чатыры гады.

Як скінусь, як скінусь я шэрай зязюляй,
Як палячу, як палячу к мамачцы ў госці.

Ажно мая мамачка па двары ходзя,
Йна й нявестушак, йна й ластушак пабуджавае.

— Устаньце вы й, нявестачкі, й мае ластушкі,
Што у нашым садзе за птушка пяе?

Калі сера зязюлечка — ляці ў шчыры бор,
Калі мая дачушачка — хадзі ка мне ў двор.

А дачушка не дагадалась маміных размоў,
Як скінулась ды паляцела зноў у шчыры бор.

Чыраз бары ляцела — бары сушыла,
Чыраз лугі ляцела — лугі тапіла.

Бары яна сушыла сваёю красой,
Лугі яна тапіла горкаю слязой.

## 15

♩=92

Ад_ даў мя_ не та_ тач_ ка
за_ муж да_ лё_ ка, эй,
ай, да_ ле_ ка (й), да_ лё_ ка,
ў чу_ жу ста_ ра_ ну.

Аддаў мяне татачка замуж далёка, эй,
Ай, далёка, далёка, ў чужу старану.

А сказаў мне татачка ў госці не хадзіць,
А сказаў мне татачка ў госці не хадзіць.

Не пашла я гадочак, не пашла другі,
А на трэці гадочак заташнілася.

А на трэці гадочак мне сташнілася,
Мне к татачку ў госцікі захацелася.

А к татачку ў госцікі захацелася,
Я скінуся, згарнуся сівой зязюляй.

А скінуся, згарнуся сівой зязюляй,
А палячу, палячу к татачку ў госці.

А мой родны татачка па садзе ходзя,
Самы меншы братачка пад ручкі водзя.

— Пазволь, пазволь, татачка, сіву зязюлю ўбіць,
Пазволь, пазволь, татачка, сіву зязюлю ўбіць.

— Гэта не зязюлечка — сястрыца наша,
Гэта не зязюлечка — сястрыца наша.

— Калі наша сястрыца, ляці к нам у двор,
Калі наша сястрыца, ляці к нам у двор.

Калі сіва зязюля, ляці ў шчыры бор,
Калі сіва зязюля, ляці ў шчыры бор.

— Бадай табе, братачка, бог долі не даў,
Як ты мяне, братачка, ў шчыры бор прагнаў.

## 16

♪=140

Як (ы) най_лен_ша_му дзе_ раў_ цу бог ліс_ту не даў,
як (ы) най_лен_ша_му дзе_ раў_ цу бог ліс_ту не даў.

Як найлепшаму дзераўцу бог лісту не даў [1],
Так найлепшай дзевіцы бог долі не даў.
Аддаў мяне татухна замуж далёка,
Аддаў мяне родненькі замуж далёка.
Жыву я гадочак, жыву я другі,
А на трэці гадочак здумала думу.
Папрашу я ў зязюлі лёгкія крылля,
Папрашу я ў салаўя тонкі галасок.
Да палячу к татухну ў зялёны садок,
Закукую, молада, тонка, жалосна.
Ці не ўчуець матухна, абед гатуя,
Ці не ўчуець родная, абед гатуя.
Ці не ўчуець татухна, на куце седзя,
Ці не ўчуець родненькі, на куце седзя?
Ці не ўчуець сястрыца, хатаньку мяця,
Ці не ўчуець родная, хатаньку мяця.
Ці не ўчуюць брацеткі, конікі пая,
Ці не ўчуюць родныя, конікі пая.
Да не ўчуў жа старшы брат, коніка пая,
Да учуў жа младшы брат, ля яго стая.
А старшы жа брацетка хацеў жа страляць,
А младшы жа брацетка яму не даваць.
— Не страляй жа, брацетка,— наша сястрыца.
Калі наша сястрыца, ідзі к нам у дом,
Калі шэра зязюля, ляці ў шчыры бор.
Шугі-шугі, зязюля, у шчырыя бары.

## 17




[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Усякаму дзераўцу бог лісточак даў [1],
А мне, маладзюсенькай, бог долі не даў.
Аддаў мяне татулька замуж далёка,
Прыказаў мне ён жыці, ў гасцёх не быці.
Жыву, жыву гадочак, жыву і другі,
А на трэці гадочак — зажурылася,
Да татунькі ў госцікі захацелася.
Абярнусь я, молада, шэрай зязюляй,
Да й палячу, молада, да татулькі ў сад.
Да й стану ж я, молада, жалка кукаваць,
Ці не ўчуець мой татка, ў крэсле седзючы,
Ці не ўчуець матулька, печку цеплючы,
Ці не ўчуюць сястрыцы, двары метучы,
Ці не ўчуюць брацеткі, коні пасучы.
Не пачуў мой татулька, ў крэсле седзючы,
Не пачула матулька, печку цеплючы.
Не пачулі сястрыцы, двары метучы,
А пачулі брацеткі, коні пасучы.
— Калі шэра зязюля, ляці ў шчыры бор,
Калі наша сястрыца, ляці к нам у двор.

## 18




Чаму таму дзераўку бог лісточак даў,
А мне, маладзенькай, бог долі не даў?

Аддаў мяне татулька замуж далёка,
Прыказала маманька ў госці не ехаць.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Жыву я гадочак, жыву я другі,
На трэццім гадочку зажурылася.

На трэццім гадочку зажурылася,
Да татулькі ў госцікі захацелася.

Запрагу я коніка, конік не вязець,
Ды пайду, пайду я ў чыста поле,

Ды найду, найду я цяцер'е пер'е,
Цяцер'е пер'е, саколля крылля.

Цяцер'е пер'е, саколля крылля,
Ды паляту, паляту прама ў шчыры бор

Ды паляту, паляту прама ў шчыры бор,
Ды закукую ж я громка, жаласна.

Ці не ўчуець браценька, каня пасучы,
Ці не ўчуець сястрыца, ваду несучы?

— Калі шэра зязюля, ляці ў шчыры бор,
Калі наша сястрыца, ляці у наш двор.

## 19

Сухому дзераву бог лісця не даў,
А мне, маладзенькай, бог долі не даў.

Аддаў мяне ойчанька замуж далёка,
Не вялеў мне ойчанька часта ў госці хадзіць.

Жыву я гадочак, жыву я другі,
На трэці гадочак я засмуцілася.

[На трэці гадочак я засмуцілася]
Да ойчанька ў госці захацелася.

Пашла б я ножкамі — не зайдуць,
Папрасіла б я коніка — не дадуць.

Скінуся-скінуся сівай зазулькаю,
Да палячу-палячу к ойчаньку ў сад.

Сяду, ох, я сяду ж да на вішаньцы,
Да буду ж я бачыць, што нашы робяць.

Адно ж тры браценькі па саду ходзяць,
Роднага ойчаньку пад ручкі водзяць.

Самы старшы брацепька страляці хоча,
Селядоршы брацепька стрэлкі падае,

Самы меншы брацепька страляць не дае:
— То не сіва зазулька — сястрыца наша.

Калі сіва зазулька, ляці ў шчыры бор,
Калі сястрыца наша, ідзі к нам за стол.

— Палячу-палячу я ў шчыры бор,
А не сяду — паду ж я на сасне сухой.

Не скрыпі, не рыпі, сухая сосна,
Бо мне, маладзе, на душы тошна.

Я сваімі мыслямі бор ссушыла,
Я сваімі слёзкамі двары патапіла.

Затапіла сем сёл, а восьмы двор,
Затапіла ойчаньку за ўсіх наўпярод.

## 20

♩=96

А што та_ му дзе_ ра_ ву бог ліс_цей_ка даў,
а што та_ му дзе_ ра_ ву бог ліс_цей_ка даў.

## 21

Аддаў мяне брацетка замуж далёка
І сказаў мне брацетка ў госці не хадзіць.

Не была я гадочак, не была другі,
А на трэці гадочак затужылася.

А на трэці гадочак затужылася,
Да брацяткі ў госцікі захацелася.

Вышла я на вулачку, страсанулася,
Рабою зязюлечкай абярнулася.

Паляту ў садочак, стану кукаваць,
Чы не выйдзе брацетка мяне сустракаць.

Закукую раненька, слонца ўсходячы,
Чы не ўчуе брацетка, коні поячы.

Закукую позненька, слонца сходзячы,
Чы не ўчуе мамачка, на дварэ йдучы.

Ой, не ўчуў мой брацетка, коні поячы,
Да учула мамачка, на дварэ йдучы.

— А мае ж вы сыночкі, сыночкі мае,
А што ў нашым садочку так рана пяе?

Старшы брат за стрэльбу, сярэдні ланцугі,
А найменшы брацетка на сястру думаў:

— Ой, не біце, брацяткі, гэтай пташачкі,
Гэта наша сястрыца з чужой стараны.

Калі раба зязюля, шугі на лугі,
Калі наша сястрыца, падай на рукі.

Чэраз бор ляцела — ягадкі ела,
А ў свайго брацяткі чэсці не мела.

Чэраз мора ляцела — вадзіцу піла,
Я ў свайго брацяткі у гасцях не была.

## 22




Да й аддала матка замуж да й у Белую Русь,
Да сказала яна мне ў гасцях не бываць.

Ой, скінуся я сіваю зязюлькаю, да палячу ж я,
Да палячу ж я, да пагляджу ж я, што мая матка робіць.

Ажно ж мая матачка па саду ходзіць,
Яе родныя брацейкі пад ручкі водзяць.

Да я з тае радасці стану кукаваці.
Самы старшы брацейка страляці бярэ.

Селядоршы брацейка стрэлы падае,
Самы меншы брацейка страляць не дае:

— Да не страляй, брацейка, сівай зязюлькі,
Бо гэтая зязюлька — сястрыца нашая.

Калі сіва зязюлька, ляці ў шчыры бор,
Калі наша сястрыца, ідзі к нам за стол.

Калі сіва зязюлька, ляці ў бор кавaць,
Калі наша сястрыца, будзем частаваць.

Калі сіва зязюлька, ягадкі ў барку,
Калі наша сястрыца, піражкі ў мядку.

Ох, я з тае жаласці да палячу ж я,
Ох, палячу ж я на сухі бара.

Дзе крыльцом махнула — бор усушыла,
Дзе слёзачка ўпала, там рэчанька стала.

Як у лесе на дзераве не даў бог клёну,
Так старшай нашай сястрыцы не даў бог долі.

## 23

Была у маткі дачка тая адзіначка,
Калінку ламала, мяне гадавала,
Далёка замуж аддала.

Аддала далёка, за Дунай глыбокі,
Яшчэ прыказала, яшчэ прывялела
На сем гадоў у гасцях не быць.

Была я гадочак, была я і другі,
На трэці гадочак я зажурылася,
Да маткі ў госці захацела.

Абярнуся, молада, рабой зязюлькай,
Ой, ляту-паляту ў вішнёвы садочак,
Стану жалка кукаваці.

Стану кукаваці, к садам прылягаці.
Сады мае, сады, сады зялёныя
Голасам разлягаюцца.

А старшы брацетка па садочку ходзе,
Ён ходзе-гуляе, ён меціць страляці —
Хоча зязюльку забіці.

А за ім матуля свайго сынка просе:
— А мой сыночку, а мой ты сакалочку,
Не бі рабой зязюлечкі:

Не ёсць то зязюля, не ёсць то рабая,
Ёсць маё дзіцятка, а ваша сястрыца,
Гэта наша гаратніца.

А калі зязюлька, то шугі на лугі,
А калі сястрыца, наша гаратніца,
Просім шчыранька дахаты.

Праз сені ішла, дробны слёзкі ліла,
Села за столікам, села, абамлела,
Да матулькі прамовіла:

— Матуля, матуля, аддала далёка,
Аддала далёка, за Дунай глыбокі,
Ды не ў змірную сямейку.

Сямейка ліхая, дружок яшчэ горшы —
Няма з кім мне стаці, з некім пагукаці
І вернага слоўца сказаці.

## 24

♩=73

(і) Бы_ла я у ма_ мач_кі ад (ы)_на на ра_ ду,
'дда_ ла ж мя_ не ма_ мач_ка за_ муж ма_ ла_ ду.

Была я у мамачкі адна на раду,
'Ддала ж мяне мамачка замуж маладу.

Не сказала мамачка: «У госцікі хадзі».
А сказала мамачка: «Свякроўцы гадзі».

Гадзіла я гадочак, гадзіла другі,
На трэці я гадочак зажурылася.

На трэці я гадочак зажурылася,
Да мамачкі ў госцікі захацелася.

Абярнуся, молада, шэрай зязюляй,
Паляту я, молада, ў зялёны сады.

Праз лугі я ляцела — вады не піла,
Праз бары я ляцела — ягад не ела.

Праз бары я ляцела — ягад не ела,
А я ў сваёй мамачкі ў гасцях не была.

А прышлі тры брацеткі сюды ваду брацъ,
А сталі ўсе брацеткі птушку пазнаваць.

А што ж гэта за птушка, а што йна пяе
Адкуль яна, бедная, песенькі бярэ.

Адзін кажа брацетка: «Я стрэлам уб'ю»,
Другі кажа брацетка: «Глядзі ж не губі».

Другі кажа брацетка: «Глядзі ж не губі»,
Трэці кажа брацетка: «Жывую злаві».

А пашоў жа татачка той птушкі глядзець,
А што ж гэта за птушка песенькі пяе.

А што ж гэта за птушка песенькі пяе.
Калі шэра зязюля, ляці ў ціхі бор.

Калі шэра зязюля, ляці ў ціхі бор,
Калі мая дачушка, прыдзі за мой стол.

## 25




Спарадзіла ж мамачка шчэ й маленькую,
Эй, аддавала замуж маладзенькую.

Аддавала замуж маладзенькую,
Эй, аддавала, 'ддавала, ды й прыказвала:

— Не хадзі, дзіцятка, часта ў госцікі,
Эй, не хадзі ты, роднае, часта ў госцікі.

Жыву я гадок, жыву я другі,
Эй, на трэцці гадочак засмуцілася.

На трэцці гадочак засмуцілася,
Эй, мне к мамачцы ў госцікі захацелася.

Да й зраблюся, зраблюся сівай зязюляй,
Эй, да й палячу, палячу к мамцы ў госцікі.

Да й пагляджу, пагляджу, што мамка робіць,
Эй, ажно мая мамка па саду ходзіць.

Самы большы брацейка пад ручкі водзіць,
Эй, самы меншы брацейка стрэл набівае:

— Дазволь, дазволь, мамачка, зязюлю убіць.
— Не дазволю, дзіцятка, зязюлю убіць.

Не дазволю, дзіцятка, зязюлю убіць,
Эй, гэта не зязюлечка — ваша сястрыца.

— Калі наша сястрыца, хадзі к нам за стол,
Калі сіва зязюля, ляці ў шчыры бор.

## 26

♩=50

(і) Ад- да- ла ма- ці ж(ы),
ад- да- ла дач- ку
на чу- жу ста- ро- нач- (ку).

## 27

Рабіна, рабінушка, рабіна мая,
Чаму ж ты, рабінушка, рана адцвіла?

Дзяўчына, дзяўчынушка, дзяўчына мая,
Чаму ты, дзяўчынушка, засмуцілася?

Мяне матка ў злую пару на свет радзіла,
Не сабраўшы розуму, замуж аддала.

Жыву я гадочак, жыву я другі,
На трэці гадочак зажурылася.

[На трэці гадочак зажурылася],
К мамачцы у госцікі захацелася.

Абярнуся, маладая, сівою зязюляй,
Палячу я, палячу к мамачцы ў госці.

Ой, сяду я, паду ў вішнёвым саду,
Запяю я песеньку жаласную, громку.

Я думала, думала, што матачка спіць,
Ажно мая матачка па сенях ходзіць,

[Ажно мая матачка па сенях ходзіць],
Нявестачак-ластачак абуджаючы.

— Устаньце, нявестачкі, ластачкі мае!
Пасматрыце, што за пташка ў садочку пяе!

Калі наша дзіцятка — ляці к нам на двор,
Калі сіва зязюля — ляці ў шчыры бор.

Палячу я, палячу з тугі на лугі,
Лугамі ляцела — лугі затапіла.

Барамі ляцела — бары засушыла.
Ой, сяду я, паду на сухім дрэве.

— Чаму табе, дрэвушка, бог лістоў не даў?
Чаму мне, малодзенькай, бог долі не даў?

## 28




Рабіна, рабіначка, рабіна мая [1],
Чаму ты, рабіначка, рана адцвіла?

Дзяўчына-дзяўчыначка, дзяўчына мая!
Чаму ты, дзяўчыначка, засмуцілася?

Ой, не ў тую порачку на свет я прышла:
Маці, не падумаўшы, замуж аддала.

Да у тую вёсачку, не ў вядомую,
У чужую сямеечку не ў вясёлую.

Дальняя старонaчка без ветру сушыць,
Няродны татулечка без віны журыць.

Вой, жыву гадочак я, жыву і другі,
А на трэцім годзіку зажурылася.

К мамачцы у госцікі захацелася,
Па родным татулечку затужылася.

---

[1] Замест працягу апошняга склада часам пяюць «гэй!»

Абвярнуся птушачкай шэрай зязюляй,
Паляту я, молада, к мамачцы сваёй.

Ой, паду, ой, сяду я ў вішнёвым саду,
Запяю там песеньку жаласну сваю.

Я думала, думала, што мамачка спіць,
Ажно мая мамачка у сенях стаіць.

Ды будзіць нявестачак: «Ластаўкі мае!
Паслухайце птушачку, што ў садзе пяе».

Што гэта за птушачка жаласна пяе?
Адкуль гэта птушачка прычыты бярэ?

Калі наша дзіцятка, ляці к нам у двор,
А зязюля шэрая — ляці ў шчыры бор.

Не дачула дочанька матчыных размоў,
Паляцела дочанька ды у шчыры бор.

Ляцела лужочкамі — злівала слязмі,
Ляцела барочкамі — сохнуў бор з тугі.

Села-пала зязюля на дрэве сухім,
Завяла жалосную размовачку з ім:

— Чаму табе, дзераўка, бог лісткі забраў?
Чаму мне, малодзенькай, долі бог не даў?

**29**

♩=78

Ра_ бі_ на, ра_ бі_ нуш_ ка, ра_ бі_ на ма_ я,

ча_ го ж ты, ра_ бі_ нуш_ка, ра_ на рас_ цві_ла?

— Рабіна, рабінушка, рабіна мая,
Чаго ж ты, рабінушка, рана расцвіла?

Дзяўчына-дзяўчынанька, дзяўчына мая,
А чаму ты смутная, невясёлая?

Ці не ў тую порачку маці радзіла?
— Мяне не падумаўшы замуж аддала.

У такую вёсачку не ў вясёлую,
У такую сямеечку не ў знакомую.

Абярнуся зязюляй, буду кукаваць,
Буду роднай матулі жалю задаваць.

Ці не ўчуе брацетка, траву косячы,
То ўчуе сястрыца, руту полючы.

Ці не ўчуе татачка, коні поячы,
А ўчуе матуля, праз сені йдучы.

Не учуў брацетка, травы косячы,
Не учула сястрыца, руту полючы,

Не учуў і татачка, коні поячы,
А учула матуля, праз сені йдучы!

— Уставайце сыночкі, сыночкі мае,
А што ж там за пташачка жаласна пяе?

Самы старшы брацетка кажа стрэльбу браць,
А малодшы брацетка кажа пачакаць.

А сярэдні брацетка на волі жыве,
Ён жалоснай пташачкі нігды не заб'е.

Калі родна сястрыца, то сядай за стол,
Калі шэра зязюля — вылятай на двор.

А я з тога жалю за столік не села,
Распусціла скрыдэлкі да й паляцела.

Села на рабіначку, рабінку з'ела,
Я ў сваёй матулечкі долі не мела.

## 30

♩=75

Ра_ бі_ на, ра_ бі_ нач_ ка, ра_ бі_ на
ма_ я, ча_ му ж ты, ра_ бі_ нач_ ка,
ра_ на (й) ад_ цві_ ла? Ча_ му ж ты, ра_бі_ нач_ ка,
(й) ра_ на (й) ад_ цві_ ла?

Рабіна, рабіначка, рабіна мая,
Чаму ж ты, рабіначка, рана адцвіла?[1]

Дзяўчына-дзяўчыначка, дзяўчына мая,
Чаму ты, дзяўчыначка, зажурылася?

Ды не ў тое ўрэмячка я на свет прышла,
Маці не падумаўшы замуж аддала.

Ды у тую вёсачку невядомую,
А ў чужую староначку невясёлую.

Чужая староначка без ветру сушыць,
Нягодная мамачка без віны журыць.

Абрачуся птушачкай — шэрай зязюляй,
Палячу я, молада, к мамачцы сваёй.

Ох, паду я, сяду я ў зялёным саду,
Запяю я песеньку жаласна сваю.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Я думала, молада, што мамачка спіць,
Ажно мая родная у акно глядзіць.

— Устаньце, нявестачкі, ластачкі мае,
Паслухайце птушачкі, што ў садзе пяе.

Чыя гэта птушачка у садзе пяе,
Адкуль гэта птушачка прычыты бярэ?

Калі маё дзіцятка, хадзі ка мне ў двор,
Калі шэра зязюля, ляці ў шчыры бор.

## 31

Рабіна-рабіначка, рабіна мая,
Чаго ж ты, рабіначка, рана расцвіла?

Дзяўчына-дзяўчыначка, дзяўчына мая,
Чаго ж ты, дзяўчыначка, зажурылася?

— А не ў тую порачку я на свет прышла,
Маці, не падумаўшы, замуж аддала.

А у тую вёсачку не ў вядомую,
А ў чужую сямейку незнакомую.

Дальняя старонaчка без ветру шуміць,
Няродны татулечка без віны журыць.

А жыла ж я гадочак, жыла я другі,
А на трэці гадочак зажурылася.

Мне к мамачцы ў госцікі захацелася.
Мне к мамачцы ў госцікі захацелася.

Папрасіла б я каня, каня не даюць,
Пашла б я пехатою, пяшком не зайду.

А як абярнуся я шэрай зязюляй,
А як палячу я к мамульцы ў госці.

А сяду я, паду я ў таткавым саду,
Запяю я песеньку жалобна сваю.

Я ж думала, думала, што мамачка спіць,
Аж мая мамачка у сянёх стаіць.

І будзя нявестачак: «Ластачкі мае,
Паслухайце птушачку, што ў садзе пяе.

Што ж гэта за птушачка жалобна пяе,
А дзе ж яна, птушачка, прычыты бярэ?

Калі ж мая дзетачка, ляці к нам на двор,
А зязюля шэрая, ляці ў шчыры бор».

Дзетка не расслухала мамчыных размоў,
А як паляцела жа а у шчыры бор.

А борам ляцела ж я, бары глушыла,
А лугам ляцела ж я, лугі тапіла.

А як сяду ж, паду я на дрэве сухім,
Запяю я песеньку жалабна із ім.

А што ж у цябе, дрэвачка, бог лісце забраў,
А мне, маладзенечкай, бог долі не даў.

## 32

— Рабіна-рабіначка, рабіна мая,
Чаго ж ты, рабіначка, рана расцвіла? [1]

Дзяўчына-дзяўчыначка, дзяўчына мая,
Чаго ж ты, дзяўчыначка, зажурылася?

— Ды не ў тую порачку я на свет прышла,
Мамка не падумаўшы замуж аддала.

---

[1] Другі радок кожнай страфы, за выключэннем шостай, паўтараецца два разы.

У чужую вёсачку невясёлую,
Ў чужую сямеечку незнакомую.

А чужая вёсачка без ветру сушыць,
А чужая мамачка без віны журыць.

Пражыла я годзічак, пражыла другі,
А на трэці годзічак зажурылася,
К роднай мамцы ў госцікі захацелася.

Абярнуся птушачкай, шэрай зязюляй,
Паляту я ў госцейкі к роднай матулі.

— Нявесткі, нявестачкі, ластаўкі мае,
Паслухайце птушачкі, што ў садзе пяе.

Калі шэра зязюля, ляці ў цёмны бор,
Калі мая дачушка, хадзі ка мне ў двор.

Дочка не даслухала мамчыных размоў,
Доўга не падумаўшы, паляцела ў бор.

Паляцела, села на дзераўцы сухім,
Развяла размову да жаласную з ім.

— Чаму табе, дзераўца, бог лісце адняў,
А мне, маладзенечкай, бог долі не даў?

## 33

♩=58

Ра_ бі_на, ра_ бі_ на, ра_ бі_на ма_ я,

ча_ го жты, ра_ бі_ на, ра_ на рас_ цві_ ла?

Ча_ го ж ты, ра_ бі_ на, ра_на рас_цві_ ла?

— Рабіна, рабіна, рабіна мая,
Чаго ж ты, рабіна, рана расцвіла?[1]

Дзяўчына-дзяўчына, дзяўчына мая,
Чаго ж ты, дзяўчына, засмуцілася?

— Да не ў тую порачку на свет я прышла,
Маці, не падумаўшы, замуж аддала.

Да у тую вёсачку невядомую,
Шчэ ў тую сямеечку невясёлую.

Ой, жыву я гадочак, жыву я другі,
А на трэці гадочак зажурылася.

На трэці гадочак я зажурылася,
Да к мамачцы ў госцікі папрасілася.

Зраблюся я птушкаю, шэрай зязюляй,
Палячу я ў госцікі к мамачцы сваёй.

Я думала, думала, што мамачка спіць,
Ажно мая мамачка у сенях стаіць.

Ды будзіць нявестачак: «Ластаўкі мае,
Што гэта за птушачка у садзе пяе.

Што гэта за птушачка жаласна пяе,
Адкуль гэта птушачка прычыты бярэ?

Калі маё дзіцятка, ляці ка мне ў двор,
А зязюля шэрая, ляці ў шчыры бор».

Не дачула дочачка матчыных размоў,
Зрабілася птушкаю, паляцела ў бор.

А праз лугі ляцела — лугі тапіла,
Эй, а сяду, паду я ў мамчыным саду.

А сяду я, паду я ў мамчыным саду,
Эй, як запяю песеньку громка, жаласна.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Як запяю песеньку громка, жаласна,
Эй, мамка па сенях ходзе, сыночкаў будзе.

Мамка па сенях ходзе, сыночкаў будзе:
— Эй, а ўставайце сынкі, сыночкі мае.

А ўставайце сынкі, сыночкі мае,
Эй, што ў нашым садочку за птушка пяе?

Што ў нашым садочку за птушка пяе?
Эй, самы большы братачка стрэльбачку бярэ.

Самы большы братачка стрэльбачку бярэ,
Эй, серадзейшы братачка ўжо й набівае.

Серадзейшы братачка ўжо й набівае,
Эй, самы меншы братачка страляць не дае.

Самы меншы братачка страляць не дае.
— Эй, а вынесем, браточкі, мы цясовы стол.

А вынесем, браточкі, мы цясовы стол,
Эй, а пасыпім, пасыпім белай пшоначкі.

А пасыпім, пасыпім белай пшоначкі,
Эй, а на другім кончыку — рыжа золата.

А на другім кончыку — рыжа золата,
Эй, калі сіва зязюля, пшонку паклюе.

Калі сіва зязюля, пшонку паклюе,
Эй, калі наша сястрыца, золата збярэ.

Калі наша сястрыца, золата збярэ,
Эй, калі сіва зязюля, ляці ў шчыры бор.

Калі сіва зязюля, ляці ў шчыры бор,
Эй, калі сіва зязюля, ляці ў шчыры бор.

Калі сіва зязюля, ляці ў шчыры бор,
Эй, калі наша сястрыца, ідзі к нам на двор.

Калі наша сястрыца, ідзі к нам на двор,
Эй, калі наша сястрыца, ідзі к нам на двор.

## 34

♩=60

Ра_ бі_ на, ра_ бі_ нуш_ ка, ра_ бі_ на ма_ я (ой)

ча_ го ж ты, ра_ бі_ нуш ка, ра_ на рас_ цві_ ла?

## 35

♩=76

Ра_ бі_на, ра_ бі_ нуш_ ка, ра_ бі_ на ма_ я,

ча_му ж ты, ра_ бі_ нуш_ ка, ра_ на рас_ цві_ ла?

## 36

♩=73

Ра_бі_ на, ра_ бі_ ну_ш (ы)_ка, ра_ бі_ на ма_ я,

ра_ бі_ на, ра_ бі_ нуш_ ка, ра_ бі_ на ма_ я.

## 37

♩=104

Ра_ бі_ на, ра_ бі_ нач_ ка, ра_ бі_ на ма_ я,

зой, ра_ бі_на, ра_ бі_ нач_ка, ра_ бі_ на ма_ я.

## 38




Ах і ты, рабінушка, рабіна мая,
Эй, нашто ж ты, рабінушка, рана расцвіла?

Нашто ж ты, рабінушка, рана расцвіла?
Эй, мяне ў тую порачку мамка радзіла.

Мяне ў тую порачку мамка радзіла,
Эй, не счакаўшы розуму, замуж аддала.

Не счакаўшы розуму, замуж аддала,
Эй, прыказала мамачка ў госці не хадзіць.

Прыказала мамачка ў госці не хадзіць,
Эй, а жыву я гадочак, жыву я другі.

А жыву я гадочак, жыву я другі,
Эй, а на трэці гадочак засмуцілася.

А на трэці гадочак засмуцілася,
Эй, мне к мамачцы ў госці захацелася.

Мне к мамачцы ў госці захацелася,
Эй, хацела я ехаці — каня не даюць.

Хацела я ехаці — каня не даюць,
Эй, прасілася пешшу ісці — дык не пускаюць.

Прасілася пешшу ісці, дык не пускаюць,
Эй, абярнуся, малада, сівай зязюляй.

Абярнуся, малада, сівай зязюляй,
Эй, а палятy, палятy к мамачцы ў госці.

А паляту, паляту к мамачцы ў госці,
Эй, а праз бары ляцела — бары сушыла,

А праз бары ляцела — бары сушыла,
Эй, а праз лугі ляцела — лугі тапіла.

## 39

♩=68

(а)Ра_ бі_ на, ра _бі_ нач_ ка, ра_ бі_ на ма_ я,

ча_му ж ты, ра_ бі_ нач_ка, ра_ на ад_ цві_ ла?

Ча_му ж ты, ра_ бі_ нач_ ка, ра_ на ад_ цві_ла?

Рабіна, рабіначка, рабіна мая,
Чаму ж ты, рабіначка, рана адцвіла? [1]

Дзяўчына-дзяўчынанька, дзяўчына мая,
Чаго ж ты, дзяўчынанька, засмуцілася.

— Ой, не ў тую пораньку на свет я прышла,
Маці, не падумаўшы, замуж аддала.

Ды не ў тую вёсачку, не ў вядомую,
У чужую сямеечку не ў вясёлую.

Дальняя старонанька без ветру сушыць,
Няродны татулечка без віны журыць.

Жыву я гадочак, жыву я другі,
А на трэцім гадочку занудзілася.

А на трэцім гадочку занудзілася,
Да роднай матулечкі захацелася.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Абярнуся птушачкай, шэрай зязюляй,
Паляту я ў госцікі да у мамы двор.

Я думала, думала, што матуля спіць.
Ажно мая матуля ў варотах стаіць.

Села-пала зязюля ў вішнёвым саду,
Завяла жалосную размовачку з ёй.

— Выйдзіце, дачушачкі, ластаўкі мае,
Паслухайце птушачку, што ў садзе пяе.

Паслухайце птушачку, што ў садзе пяе,
Скуль яна такія прычыты бярэ.

Калі ты дачушачка, ляці ты ў наш двор,
А зязюля шэрая, ляці ў сыры бор.

Не дачула дачушка матчыных размоў,
Паляцела зязюляй да й у сыры бор.

Ляцела палямі — злівала слязьмі,
Ляцела лясамі — стаяў бор сухі.

— Чаму ж табе, дзераўка, бог лісцё забраў,
А мне, маладзенькай, бог долі не даў?

## 40

Andante

Ка_ лі_ на з ма_ лі_ на_ ю
не ра_ зам цві_ ла, гэй! Ой, не ў ту_ ю
по_ рань_ ку ма_ ма ра_ дзі_ ла.

Каліна з малінаю не разам цвіла, гэй!
Ой, не ў тую пораньку мама радзіла.

Ой, радзіла, радзіла, долі не дала, гэй!
Не сабраўшы розуму, замуж аддала.

Ой, аддала, аддала вельмі далёка, гэй!
Прыказала матуля тры гады не быць.

Выбыла гадок, выбыла другі, гэй!
А на трэці гадок засмуцілася.

А на трэці гадок засмуцілася, гэй!
Мне да сваёй матулі захацелася.

Пашла б пяхотаю, знаю, не дайду, гэй!
Папрасіла б коніка, знаю, не дадуць.

Ой, зраблюся я сівой зязюляй, гэй!
Ой, палячу, палячу ў матулін садок.

Ой, палячу, палячу ў матулін садок, гэй!
Ой, закую, закую на ўвесь галасок.

Ой, закую, закую вельмі жаласна, гэй!
Ці не ўчуе матуля ў печы палючы?

Ці не ўчуе матуля, у печы палючы, гэй!
Ці не ўчуе ойчанька, поле гаручы?

Ці не ўчуе сёструнька, рутку полючы, гэй!
Ці не ўчуе брацейка, валоў пасучы?

Не учуў ойчанька, поле гаручы, гэй!
Не учуў і брацейка, валоў пасучы.

І не ўчула сёструнька, руту полючы, гэй!
Толькі ўчула матуля, печку палючы.

— Што там за зязюлька у нашым садзе, гэй!
Што там за сіненька у нашым садзе?

Калі сіня зязюля, то ляці праз лясы, гэй!
А калі мая дачуля, то прашу да хаткі.

Як ляцела праз лясы, лясы ламала, гэй!
Як ляцела праз бары, бары сушыла.

Дзе сірота плакала — рэчунька стала, гэй!
Дзе слёзунька капнула — камень разбіла.

## 41




Зялёна каліначка рана расцвіла,
Эй, так ты мяне, мамачка, ў той час радзіла.

Так ты мяне, мамачка, ў той час радзіла,
Эй, не дабраўшы розуму, замуж аддала.

Не дабраўшы розуму, замуж аддала,
Эй, да й аддаўшы замуж, эй, а прыказвала.

Да й аддаўшы замуж, эй, прыказвала,
Эй, каб на тры гадочкі ў госці не прышла.

Жыву я гадочак, жыву я другі,
Эй, на трэці гадочак засмуцілася.

На трэці гадочак засмуцілася,
Эй, мне к мамачцы ў госцікі захацелася.

Папрашу ў зязюлькі крылак, ў сакала вочак,
Эй, паляту я к мамачцы на ўсю цёмну ноч.

Паляту я к мамачцы на ўсю цёмну ноч,
Эй, лугамі ляцела — лугі сушыла,

Лугамі ляцела — лугі сушыла,
Барамі ляцела — бары тапіла.

Лугі сушыла ўсё песенькамі,
Эй, бары тапіла ўсё слёзанькамі.

Прыляцела к мамцы ў вішнёвы садок,
Эй, мая мамачка па сенечках ходзіць.

Мая мамачка па сенечках ходзіць,
Эй, сыночкаў будзіць, сыночкаў будзіць:

— Уставайце, сынкі, пара ужо ўстаць,
Эй, у нашым садочку зязюлька пяе.

У нашым садочку зязюлька пяе,
Эй, самы большы брацейка ружжо надзяе.

Самы большы брацейка ружжо надзяе,
Эй, серадольшы брацейка мерыцца страляць.

Серадольшы брацейка мерыцца страляць,
Эй, самы меншы брацейка страляць не дае.

Самы меншы брацейка страляць не дае:
— Не страляйце, братцы, сястрыца наша.

Не страляйце, братцы, сястрыца наша,
Эй, калі наша сястрыца, ляці к нам за стол.

Калі наша сястрыца, ляці к нам за стол,
Калі сіва зязюлечка, ляці ў шчыры бор.

## 42




Каліна, калінaчка, каліна мая,
Чаму ж ты, калінaчка, рана расцвіла? [1]

Каліну з малінаю вада падмыла,
Нешчаслівай гадзінкай маці радзіла.

А як нарадзіла, долі не дала,
Розуму не даўшы, замуж аддала.

Пабыла я гадочак, пабыла другі,
А на трэці гадочак засмуцілася.
Да матулі ў гісцікі захацелася.

Папрасіла б коніка — знаю, не дадуць,
Пашла б пяхотанькай — знаю, не дайду.

Абярнуся зязюляй, буду кукаваць,
А сваёй матулі жалю задаваць.

Ці не ўчуе сястрыца, руту полючы,
Ці не ўчуе брацетка, коні пасучы?

Ой, не ўчула сястрыца, руту полючы,
І не ўчуў брацетка, коні пасучы.

А учула матуля, па ваду йдучы,
А й учула родная, па ваду йдучы.

---

[1] Другі радок кожнай страфы, за выключэннем чацвёртай, паўтараецца два разы.

— Уставайце, сыночкі, ўставайце мае,
А што ж там за пташачка жаласна пяе?

Самы старшы брацетка кажа стрэльбу браць,
А малодшы брацетка кажа пачакаць.

Самы меншы брацетка на волі жыве,
Ён жалоснай птушачкі нігды не заб'е.

## 43




Каліна, калініца, каліна мая,
Чаго ж ты, калініца, рана расцвіла? [1]

Дзяўчына-дзяўчыначка, дзяўчына мая,
Чаго ты, дзяўчыначка, невясёлая?

Ці не ў тую порачку ты на свет прышла?
Маці, не падумаўшы, замуж аддала.

У доўгую дарожачку незнаемую,
У вяліку дружыніцу несуборную.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Пакуль я дружыніцу пераведала,
То не раз я слёзкамі паабедала.

За гарою сонейка, віджу, коціцца,
Мне да матуленькі ў госці хочацца.

Ведаю дарожачку, знаю,— не дайду,
Папрасіла б коніка, знаю,— не дадуць.

Абярнуся пташачкай, шэрай зязюляй,
Палячу я ў госцікі к матулі сваёй.

Сяду я і паду я ў вішнёвым саду,
Развяду я песеньку жаласна сваю.

Ці не ўчуець татачка, дроўцы секучы,
Ці не ўчуець сястрыца, ваду беручы.

А не ўчуў жа татачка, дроўцы секучы,
Да не ўчула сястрыца, ваду беручы.

Да не ўчула сястрыца, ваду беручы,
Да ўчула матуля, печку палючы.

— Дзетачкі-сыночкі, ластаўкі мае,
Выйдзіце, паслухайце, хто ў садзе пяе.

Калі наша дзіцятка, зайдзі к нам у двор,
Калі шэра зязюля, ляці ў цёмны бор.

Не пачула дзіцятка матчыных размоў,
Паляцела плачучы аж у цёмны бор.

Ляцела лужочкамі, аблівала слязьмі,
Ляцела барочкамі, бор жа стаў сухі.

Пайду я дарожачкай, дзераўца зламлю,
Развяду я песеньку жаласну сваю.

— Чаму табе, дзераўца, бог лісткі адабраў,
Чаму мне, малодзенькай, бог долі не даў?

Чаму табе, дзераўца, трэба пасыхаць,
Чаму мне, малодзенькай, гора гараваць?

## 44

Ой, каліна-маліна, не парой цвіла,
А мяне той поранькай маці радзіла.

А мяне той поранькай маці радзіла,
А нарадзіўшы, матуля долі не дала.

А нарадзіўшы, матуля долі не дала,
Ой, не сабраўшы розуму, замуж аддала.

Ой, не сабраўшы розуму, замуж аддала,
Прыказала матуля сем год не бываць.

Ой, пабыла я гадочак, засмуцілася,
Ой, да матулі ў госцейкі захацелася.

Пашла б я пехатою, знаю, не дайду,
Папрасіла б коніка, знаю, не дадуць.

Абярнуся я, млода, сіняю зязюляю,
Паляту я да ойчанькі ў вішнёвы садок.

Стану ж я кукаваці, стану плакаці,
Ці не ўчуе брацейка, каня пасучы?

Ці не ўчуе брацейка, каня пасучы,
Ці не ўчуе ойчанька, у полі гаручы?

Ці не ўчуе ойчанька, у полі гаручы,
Ці не ўчуе сястрыца, руту полючы?

Не учуў брацейка, каня пасучы,
Не учуў ойчанька, поле гаручы.

Не учула сястрыца, руту полючы,
Да ўчула матуля, у печы палючы.

Да ўчула матуля, у печы палючы,
Вышла на ганачак, стала плакаці:

— Калі маё дзіцятка, то прашу за стол,
Калі сіня зязюля, то шугі у бор.

— Дзякуй, мая матуля, паабедала,
Борам ляцела — каліну ела.

Борам ляцела — каліну ела,
А долам ляцела, сукі сушыла.

## 45

♩=60

Ка_ лі_на, ка_ лі_ нач_ка, ка_ лі_ на ма_ я,
ча_ му ж ты, ка_ лі_ нач_ ка, ра_ на рас_ цві_ла?
Ча_ му ж ты, ка_ лі_ нач_ ка, ра_ на рас_цві_ ла?

Каліна, каліначка, каліна мая,
Чаму ж ты, каліначка, рана расцвіла? [1]

Матуля-матулечка, матуля мая,
Не сабраўшы розуму, замуж аддала.

У чужую староначку незнакомую,
У чужую сямеечку несуборную.

Пакуль усю сямеечку пераведала,
То не раз я слёзкамі паабедала.

Пакуль усю дружыначку пералічыла,
То не раз я слёзкамі павячэрала.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Прыказала мамачка ў госці не хадзіць,
У чужой жа старонаачцы мне адною жыць.

Не пайшла я гадочак, не пайшла другі,
А на трэці гадочак затужылася.

А на трэці гадочак затужылася,
Да мамачкі ў госцікі захацелася.

Абярнуся зязюляй, абярнусь шэрай,
Паляту я ў садочак і закукую.

Ці не ўчуе брацетка, коні пасучы,
Ці не ўчуе сястрыца, сені метучы?

Ці не ўчуе мамачка, печку палячы,
Ой, не ўчуў жа брацетка, коні пасучы.

Ой, не ўчула сястрыца, сені метучы,
А учула мамачка, у печы палячы.

— Уставайце, сыночкі, уставайце мае,
Паслухайце, у садзе зязюля пяе.

А старшанькі брацетка стрэльбачку набіў,
А сярэдні брацетка зязюлю убіў.

А малодшы брацетка зязюлю падняў,
Ён па ручках, па ножках зязюлю пазнаў.

— А мае ж вы брацеткі, што ж вы зрабілі,
Ой, нашто ж вы сястрыцу нашу забілі.

**46**

Каліна-маліначка ваду паняла,
Мяне мамка нарадзіла, долі не дала.

Мяне мамка нарадзіла, долі не дала,
Не сабраўшы розуму, замуж аддала.

Ой, аддала мяне мамка ў чужу старану
І казала не бываці сем лет у сябе.

А чужая староначка без ветру сушыць,
Нядродная матулька без віны журыць.

Жыла я гадочак, жыла я другі,
А на трэцім годзіку зажурылася.

А на трэцім годзіку зажурылася,
Мне да мамкі ў госцейкі захацелася.

Абярнусь я, молада, сівою зязюлькаю,
Паляту я, молада, ў матульчын садок.

Ой, да закукую там на тры галасы,
Ці не ўчуе татулька, у карчомцы п'ючы.

Ці не ўчуе брацетка, коні пасучы,
І родная сястрыца, кароў доючы.

Ды пачула мамачка, у сенях ходзячы,
Нявестачак Настачак пабуджаючы:

— Нявестачкі, Настачкі, пара уставаць,
Што ў нашым садочку за птушка пяе.

Што ў нашым садочку за птушка пяе,
Адкуль яна, маладая, прычыну бярэ?

Вышаў большы брацетка, кажыць стрэлам біць
А сярэдні брацетка — ■ абеду зварыць.

Кажа меншы брацетка: «Стойце, не біце!
Калі сіва зязюлька, ляці ў шчыры бор.

Калі сіва зязюлька, ляці ў шчыры бор,
Калі наша сястрыца, ляці к нам за стол.

Для сівое зязюлькі ягадкі ў барку,
Для нашае сястрыцы пірагі ў мядку».

— Я ў мамулечкі была, чэсці не мела,
Я ляцела лугамі — лугі тапіла.

А ляцела барамі — бары ламіла,
На каліналцы села — калінку з'ела.

Каб мяне калінка гэта ўдавіла,
Як мяне радзіначка ўся пазабыла!

Большага брацетку у салдаты бяруць,
Сярэдняму брацетку кандалы кладуць.

А меншы брацетка на волі жывець,
Што ў садах птушачак ніколі не б'ець.

## 47

У лузе каліначка жарка зацвіла,
Мяне ў тую порачку маці радзіла.
Не дадаўшы розуму, замуж аддала,
У тую дзярэвушку нецясовую,
У тую сямеечку невясёлую.
Жыла я гадочак, жыла я другі,
На трэцім гадочку зажурылася,
К матульцы ў госці захацелася.
Абярнуся, малада, шэрай зязюляй,
А паляту, малада, к радзіні ў госці.
Я й сяду я, паду ў вішнёвым саду.
У вішнёвым садзіку на сухім дрэве.
Закукую, молада, ды й зашчабячу
Я сваімі рознымі галасочкамі.
Што гэтаму дзераўцу бог лісту не даў,
А мне, маладзенькай, бог долі не даў.
Як зачула матуля, ў хаце седзючы,
А мой родны татулька, з клеткі ідучы.
Нявестачкі, ластачкі, пара ўставаці,
А што ў нашым садочку за птушка пяе,
А дзе яна, бедная, прыпеўкі бярэ.
Як зачулі-пачулі тры панічыкі,
Ой, да тры панічыкі, родныя брацеткі.
Самы старшы брацетка стрэльбачку бярэ,
Серадольшы брацетка не дае —

Есь і ў нас сястрыца ў чужой старане.
Самы меншы брацетка кліча да сябе:
— Калі родна сястрыца, прашу у мой двор,
Калі шэра зязюля, ляці ў шчыры бор.
А я, маладая, ў смутку бывала,
Да матулькі на двор не залятала,
Я у шчыры бор лепей задумала.
Я палямі ляцела — поле глушыла,
Я барамі ляцела — боры ламіла.
Я сваёю нудою поле заглушу,
Я сваімі крылцамі боры паламлю,
Я сваімі слёзкамі лугі затаплю.
Не скрыпі ты, сосна, мне і так тошна,
Я ў матулькі бывала — не начавала,
Мяне маці не знала — з саду прагнала.
Гасіце лучыначку, кладзіцеся спаці,
А я, маладая, ўсю ночку не спаці,
Паляту, молада, радзінку шукаці.

## 48




Каліна-малiначка не парой цвіла [1],
Толькі мяне маменька парой радзіла.
Не ў шчаслівы дзянёчак да у пятніцу.
Не сабрала розуму — замуж аддала.
І сказаў мне татулька ў госці не хадзіць.
Не йшла я адзін гадок, не йшла і другі,
А на трэцім годзіку зажурылася,
Мне да таткі ў госцікі захацелася.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Пайшла б я пяхотаю, знаю, не зайду,
Папрасіла б коніка, знаю, не дадуць.
Абярнуся, молада, шэрай зязюляй,
Палячу я з пташкамі ў татулькаў сад.
Сяду [redacted] на дзераўца, стану кукаваць,
Буду свайму татачку жалю задаваць.
Бадай табе, дзераўца, бог лісту не даў,
Як мне, маладзюсенькай, бог долі не даў.
Ці не ўчуець татулька, дроўцы секучы,
Ці не ўчуець мамулька, печку палячы,
Ці не ўчуець сястрыца, вулку метучы,
Ці не ўчуець брацетка, коней поючы?
Толькі ўчула мамулька, печку палячы.
— Калі мая дачушка, хадзі ка мне ў двор,
Калі шэра зязюлька, ляці ў цёмны бор.
І з вялікай жаласці ў бор паляцела.
Я сваёй бядою бары глушыла,
Я сваёй слязою лугі абтапіла.

## 49

♩=100

Ах, ка_ лі_ на- ма_ лі_ на ра_ на рас_ цві_ла, эй,

ах, ка_ лі_ на - ма_ лі_ на, ра_ на рас_ цві_ ла.

Ах, каліна-маліна рана расцвіла, эй [1],
Не парой матулечка мяне радзіла, эй,
Не сабраўшы розуму, замуж аддала, эй.
Аддала да аддала у далёку Вільну, эй.
Прыказала матулька тры гады ў госці не йсці, эй.
Прабыла я гадочак, засмуцілася, эй.
Да матулькі ў госцікі захацелася, эй.

---

[1] Кожны радок паўтараецца без выклічніка «эй».

Пайшла б я пяхотаю,— знаю, не дайду, эй.
Папрасіла б коніка,— знаю, не дадуць, эй.
Абярнуся зязюляй, стану палячу, эй.
Палячу я й палячу ў сваю старану, эй.
Па барочку ляцела — вяршкі крышыла, эй.
На лужочку сядзела — траўку сушыла, эй.
На камушку сядзела — слёзкі раніла, эй.
Дзе слязінка капнула — камень прабіла, эй.

## 50




Каліна-маліна рана зацвіла,
Ой, ў ліхую пораньку матка радзіла.

Не сабраўшы розуму, замуж аддала.
Да казала маці сем год не бываці.

Ой, да была гадок, да была другі,
А на трэйці гадочак засмуцілася.

Сяду я, упаду сіняю мглою,
А зраблюся я сіваю зазулёю.

Палячу я ў матчын садок кукаваць.
Цераз бор ляцела, горку каліну ела.

Цераз лугі плыла, тую ваду піла,
Ой, не доўга ў маткі ў гасцінах пабыла.

Матка ж мая старая па сенях ходзіць,
Белы ручкі ломіць, нявесты будзіць:

— Ой, нявесты, нявесты, да ўстаньце ж вы!
Ой, устаньце, нявесты, да паслухайце.

Што ў саду-вінаграду за птушка пяе,
Ці не тая бяздольніца, што на чужой старане?

Ой, старшы брацейка стрэльбу да купіў,
Серадольшы братка тую стрэльбу набіў.

Самы меншы брат тую пташку забіў.
Найстаршага братка ў жаўнеры аддалі.

Серадольшага да няволі ўзялі,
Самаму меншаму з плеч галоўку знялі,
За сівую зазульку, за родну сястронку.

## 51

♩=80

Ка_ лі_ на _ ма_ лі_ на не ра_ на рас_ цві_ ла,

мя_ не ў ту_ ю по_ рань_ ку ма_ ці ра_ дзі_ла,

мя_ не ў ту_ ю по_ рань_ ку ма_ ці ра_ дзі_ла.

Каліна-маліна не рана расцвіла,
Мяне ў тую пораньку маці радзіла [1].

Не набраўшы розуму, замуж аддала.
Аддаў мяне войчанька ў чужыя края.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А сказаў мне войчанька сем лет не бываць,
А на восьмым годзіку ў госці прылятаць.

Прыляту я, сяду я ў калінавы сад,
Прыляту я, сяду я, пачну кукаваць.

Ці не ўвіджу мамачкі, ў печы палючы,
Ці не ўвіджу брацейка, коні пасучы.

Ці не ўвіджу войчаньку, поле гаручы,
Ці не ўвіджу сястрыцу, мяту полючы.

Я думала, мамачка, мамачка да спіць,
Ажно мая мамачка у сенцах стаіць.

Старшы брат гаворыць — зязюлю страляць,
Младшы брат гаворыць — яшчэ пачакаць.

Калі раба зязюля, ляці ў зялён бор,
Калі наша сёстрачка, ляці у наш двор.

Цераз лясы ляцела — лясы лажыла,
Цераз лугі ляцела — лугі сушыла.

Села на каліну я — каліну ела,
З калінава лісцейка расіцу піла.

З калінава лісцейка расіцу піла,
А ў свае матулі ў гасцях не была.

## 52



А каліна-маліна
У лузе зацвіла,
А-а-а, ў лузе зацвіла [1].

Маці дачку радзіла,
Замуж аддала,

Не вялела ў госцейкі
Тры гады хадзіць.

На чацвёрты гадочак
Надумала йці.

Папрасіла коніка —
Свёкар не даець.

А пашла б пехатой,
Дак я не зайду.

Сырая зямелечка
Ножкі атаб'ець,

Малое дзіцятачка
Ручкі атарвець.

Абярнуся, молада,
Шэрай зязюляй,

Палячу, молада,
У таткаў зелен сад.

А сяду я, молада,
У саду на цвяту,

Як стану, молада,
Жаласна пяяць,

Ці не выйдзець мамачка
У мяне пытаць.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з дадаткам «А-а-а» ў пачатку радка.

Ажні мая мамачка
Па сянёх ходзіць,

Па сянёх ходзіць,
Нявестак будзіць.

— Нявестушкі, ластушкі,
Пара ўставаць.

Пара ўставаць,
У поле выганяць.

А што ў нашым садочку
Ды за пташачка.

Ды за пташачка
Жаласна пяець.

Пташачка ні пташачка,
Ці маё дзіця.

Калі шэра зязюля,
Ляці у лугі.

Калі мая дачушка,
Хадзі ж ты сюды.

Ажні мой татулечка
П'яненькі ідзець,

А большанькі брахнейка
За ручку вядзець.

А меньшанькі брахнейка
Па двару ходзіць.

А на правай ручанькі
Ружайко носіць.

Ён свайго татулькі
Дазваляецца.

Дазволь, дазволь татулька
У зелен сад схадзіць,

Дазволь, дазволь, татулька,
Гэту пташку ўбіць.

— Пташачка ні пташачка
Ці мае дзіця.

Калі шэра зязюля,
Ляці на лугі,

Калі ж мая дачушка,
Хадзі ж ты сюды.

А я ўзяла з жаласці
Ды паляцела.

Я сваімі слёзкамі
Лугі ўтапіла,

Я сваёю сухатой
Бары ўсушыла.

Як сяду я, молада,
Ды на соснушку:

— А не шумі, сосналька,
Мне так тошненька.

Як сяду я, молада,
Ды на ліпінку:

— А не скрыпі, ліпінка,
Мне так ліхенька.

А як сяду, молада,
На сухі кусток.

Як гэтаму кусточку
Бог лісту не даў,

Так жа мне, маладзі,
Бог долі не даў.

## 53

♩=60

Ды ка_ лі_ на — ма_ лі_ на

ўлу_ зе за_ цві_ ла, ды не ўту_ ю

по_ рань_ ку, ма_ ці ра_ дзі_ ла.

## 54

♩=96

Ка_лі_ на_ма_лі_ нач_ка не па_ рой цві_ ла, эй,

ка_ лі_на _ ма_ лі_ нач_ ка не па_ рой цві_ ла.

## 55

Moderato

На ста_ рой кар_ чом_ цы ста_ лё_ вы за_

ве_ сы, ста_ лё_ вы за_ ве_ сы.

На старой карчомцы сталёвы завесы,
Сталёвы завесы [1].
Ой, аддала мяне маці за бо́ры, за ле́сы.
Як аддавала, то ўсё прыказвала,
Каб сем лет у госці не бывала.
А я, маладзенька, на тое не ўпавала,
Да ў рок прыляцела, на вішаньцы села.
Да з вішанькі ўпала, вішаньку зламала.
Вышаў старшы братко́, стрэльбу купляе,
Серадольшы братко́ стрэльбу набівае,
А сам меншы братко́ з стрэльбы забівае.
— Бывайце здаровы, тутэйшыя людзі,
Прашу не судзіце, як мяне тут не будзе,
Прашу спамінаці добрымі славамі:
Дзе тая дзяўчына з чорнымі брывамі?
Ці яна забіта, ці ў няволю ўзята?
Ніколі не вольна, ні ў будзень ні ў свята.

## 56

Moderato

Па_ ля_ це_ ла па_ вань_ ка
па вы_ со_ кай га_ рэ, па_ пу_ шча_ ла
пер'_ еч_ ка па шаў_ ко_ вай тра_ ве.

Паляцела паванька па высокай гарэ,
Папушчала пер'ечка па шаўковай траве.

Ці жаль табе паванькі, ці пер'я яе?
Ці жаль табе дзецятка на чужой старане?

---

[1] Другая частка кожнага радка паўтараецца два разы.

— Не жаль жа мне паванькі, ні пер'я яе,
Да жаль жа мне дзецятка на чужой старане.

Ой, палячу, палячу ў айцоў садок,
Як я стану каваці, усёй сад звесялю,

Як я стану плакаці, ўсей род пасмучу.
Ой, зачуў жа ойчаньку, з бяседы ідучы.

— Калі сіва зязюлька, то шугі ў лугі,
Калі маё дзіцятка, прыбывай да мяне.

Буду цябе трымаці сем лет у сябе,
Буду цябе карміці пшанічным хлебам.

Высокаму дзераву верх вецер уламаў,
Найменшаму дзецятку бог долі не даў.

## 57

Каюся, млода, а непамалу,
Што млода замуж пашла.
Жыву я гадок, жыву я другі
У мамкі не бываю.
Абярнуся я шэрай зязюляй
І палячу ў мамкін сад.
Сяду ў мамкіным саду.
На белай ліліі.
Як закукую, як зашчабячу
Жалосным галасочкам.
Чы не пачуе мая маменька,
Пад аконцам седзя.
Як вышаў старшы брацец
З новага церама:
— Калі зязюля, калі шэрая,
Ляці ў шчырыя бары,
Калі сястрыца, калі родная,
Хадзі ка мне ў госці.
— Ах, добра табе, мой брацетка,

Гдзе радзіўся, там і жыць,
А я, маладзенька, ў чужой старане,
Цяжанька мне жыць!
Чужа старана тугою арана,
Слёзмі засеяна,
Свая старана сошкаю арана,
Пшонкаю засеяна.

## 58

Даўно ж я, даўно
У бацька я была,
Ужо мая сцежанька
Дзярном зарасла.
Ой, не так дзярном,
Як шыпшынаю,
Была я ў баценькі
Яшчэ дзяўчынаю.
Дзе я ляцела,
Травіца шумела,
Дзе я адпачывала,
Крынічанька стала.
Па вішнёвым садзе
Я, млода, лятала.
Як я заспяваю,
Увесь сад звесяляю,
Як я заплачу,
То весь сад вымачу.
Ходзіць мая матанька
Па новым двары,
Чуе, чуе пташаньку
У вішнёвым садзе.
— Нявестачкі-дзетачкі,
Паслухайце мяне,
Што гэта за пташанька,
Што ў садзе пяе?
— Матанька да ластаўка!
Гэта да не пташанька,
Гэта да не пташанька,

Гэта дзіцятка да тваё!
Без шчасця, без доленькі
Урадзілася,
На чужу староналньку
Пахілілася.
Калі сіва зязюлька —
Ляці ў бор каваці,
Калі маё дзіцятка —
То прашу дахаты!
Калі сіва зязюленька,
Ляці ў шчыры бор,
Калі маё дзіцятачка,
То прашу за стол.

## ДАЧКА-ПТУШКА — III

### 59

Andante

Ча_ му не пры_ шоў, як ме_ сяц ўзы_
шоў, як ця_ бе гу_ ка_ ла? Ці ка_ ня не
меў, ці сцеж_кі не знаў, ці маць не пус_ ка_ ла?

— Чаму не прышоў, як месяц ўзышоў,
Як цябе гукала?
Ці каня не меў, ці сцежкі не знаў,
Ці маць не пускала?[1]

— Я коніка меў і сцежачку знаў,
І маці пускала.
Ды меньша сястра, дай бог не ўзрасла,
Сядло захавала.

Цячэ рэчанька невялічанька,
Схачу — пераскочу,
Аддай, маменька, аддай, родная,
За каго я хочу.

Маці аддала, выгаворвала:
— У госці не бываці,

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

А як вернешся ды дадоманьку,—
Выганю із хаты.

Цярпела я год, цярпела я два,
Ды не уцярпела.
А скінулася шэрай зязюляй,
К роду паляцела.

Лесам ляцела — голле ламала
Белымі рукамі.
Полем ляцела — зямлю крапіла
Дробнымі слязамі.

Прыляцела ў сад, у сад зялёненькі,
У сад вішнёвенькі,
Стала куваці, стала куваці,
Каб пачула маці.

Родна мамачка ля акеначка
Рушнік вышывае,
Мой меншы браток, мой любы браток
Ружжо заражае.

— Пазволь, мамачка, пазволь, родная,
Зязюлю забіці,
Каб жа яна не лятала,
Жаль не задавала.

— Не дазволю я, не дазволю я
Зязюлю тую ўбіці,
Бо зязюля та — родная дачка,
А не трэба біці.

Калі зязюленька тая зязюля,
Прашу кукаваці,
А як дочанька тая родная,
То прашу дахаты.

## 60

♩=80

Ча_ му не пры_ шоў, як (ы) ме_ сяц зай_ шоў,
як я ця_ бе жда_ ла?
Ці ка_ ня не маў, ці сцеж_ кі не знаў,
ці маць не пу_ шча_ ла? Ці ка_ ня не маў,
ці сцеж_ кі не знаў, ці маць не пу_ шча_ ла?

Чаму не прышоў, як месяц зайшоў,
Як я цябе ждала?
Ці каня не маў, ці сцежкі не знаў,
Ці маць не пушчала? [1]

Я й коніка маў, і сцежку я знаў,
Маці выпраўляла,
Младшая сястра да шчэ й не ўзрасла
Сядельца схавала.

Цячэць рэчанька, цячэць быстрая,
Скочу — пераскочу,

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

Аддай, мамачка, аддай, родная,
За каго я хочу.

Аддавала маць, шчэ прыказала
Гасцём не бываці,
Як будзе ж табе да й гора табе
Ты не йдзі дахаты.

Пражыла я год, пражыла другі,
Трэці не сцярпела.
Апранулася шэрай кукуляй
У гай паляцела.

Гаем ляцела — голле ламала
Войстрымі крыламі.
Полем ляцела — зямлю мачыла
Горкімі слязамі.

Прыляцела ў сад, глянула назад,
Села на каліне,
Стала кукаваць, шчэ й прычытаваць
Гора на чужыне.

Мая маць сядзіць, у вакно глядзіць,
Рушнік вышывае,
Самы меншы брат на дварэ стаіць,
Ружжо заражае.

— Пазволь, мамачка, пазволь, родная,
Кукулю забіці,
Бо яна пяе, шчэ й прычытае —
Гора на чужыне.

— Не пазволю, сын, не пазволю мой
Кукулю ўбіці,
Гэтай кукулі, як тваёй сястрэ
Гора на чужыне.

## 61




— Чаму не прышоў да не прыехаў,
Як я цябе ждала?
Ці каня не меў, ці сам не хацеў,
Ці маць не пускала?

— Я коніка меў, і сцежачку знаў,
І маці пускала.
А менша сястра, бадай не ўзрасла,
Сядзельца схавала.

А больша сястра сядзельца знайшла,
Каня асядлала:
— Паязджай, мой брат, да любімай жа,
Катора цябе ждала.

Цячэць рэчанька невялічанька,
Скочу — пераскочу,
Ой, не аддай мяне, мая мамачка,
За каго я не хочу.

А як аддала, загадавала
Ў гасцях не бываці.
— А як прыедзеш, мая дочанька,
То выганю з хаты.

Вот і год жыла, і другі сышоў,
Трэці не сцярпела.
Ператварылась шэрай зязюляй
Да роду ляцела.

Борам ляцела, голле ламала
Белымі рукамі.
Лугам ляцела, лугі тапіла
Дробнымі слязамі.

Сядзіць мамачка ля вакошачка,
Рушнік вышывае,
А мой меншы брат на парозе стаў,
Руж'ё заражае.

— Пазволь, маменька, пазволь, родная,
Ту зязюлю ўбіці,
Бо яна пяе, жалю задае,
Цяжка і мне жыці.

— Не пазволю я, не пазволю я
Ту зязюлю біці,
Бо тэй зязюлі, як маёй дачцэ,
На чужыне жыці.

## 62

— Чаму не прышоў, як месяц ўзышоў,
Як я гаварыла?
Ці каня не меў, ці сцежкі не знаў,
Ці маць не пусціла?

— Я й сцежачку знаў, я й коніка меў,
І маці пускала,
Меньшая сястра, дай бог не ўзрасла,
Сядзельца схавала.

Старшая сястра сядзельца нашла,
Коніка сядлала.
— Паязджай, брат мой, да дзяўчыны той,
Каторая ждала.

Цячэ рэчанька, цячэ быстрая,
Скочу — пераскочу,
Аддай, маменька, аддай, мілая,
За каго я хочу.

Яна ж аддала ды й прыказала
Сем год не бываці,
А як вернешся, дочка мілая,
Дык выжану з хаты.

Пражыла гадок, пражыла другі,
На трэці не сцярпела.
Ператварылась сівой зязюляй,
У госці паляцела.

Борам ляцела — голле ламала
Сваімі крыламі.
Полем ляцела — землю тапіла
Горкімі слязамі.

Пырляцела ў сад, села на дубок,
Стала кукаваці.
Стала кукаваць, жалю задаваць,
Каб пачула маці.

А маці ў саду на скамеечцы
Рушнік вышывае,
Самы меншы брат на парозе стаў,
Руж'ё заражае.

— Ой, пайду заб'ю, міла маменька,
Сівую зязюльку.
— Гэта не зязюлька, а сястра твая
Ў госці пpыляцела.

63

♩=80

Ад_ даў мя_ не та_ ту_ леч_ка

на Ўкра_ і_ ну за_ муж,

на Ўкра_ і_ ну за_ муж.

64

♩=75

– Ча_ му не пры_ шоў, як ме_сяц ўзы_ шоў,

як я ця_ бе жда_ ла?

Ці ка_ ня не маў, ці сцеж_ кі не_ знаў,

ці маць не пу_ шча_ ла? Ці ка_ ня не маў,

ці сцеж_кі не знаў, ці маць не пу_ шча_ ла.

— Чаму не прышоў, як месяц ўзышоў,
Як я цябе ждала?
Ці каня не маў, ці сцежкі не знаў,
Ці маць не пушчала? [1]

— І каня я маў, і сцежку я знаў,
Маці выпраўляла,
Младшая сястра, бадай не ўзрасла,
Сядзельца схавала.

Цячэ рэчачка, цячэ быстрая,
Скочу — пераскочу.
Аддай, мамачка, аддай, родная,
За каго я хочу.

Аддавала йна, шчэ й прыказвала
У гасцях не бываці,
А як будзеш ты ў горы ці бядзе,
То не йдзі дахаты.

Пражыла гадок, пражыла другі,
Трэці засмуціла.
Апранулася шэрай зязюляй,
У госці паляцела.

Ґаем ляцела, голле ламала
Пёстрымі крыламі.
Полем ляцела, зямлю мачыла
Горкімі слязамі.

Прыляцела ў сад, стала кукаваць,
Села на каліну,
Стала кукаваць, да й прычытываць,
Гора на чужыне.

Сядзіць мамачка ў вакошачка,
Рушнік вышывае,
А малодшы брат стаіць ля варот,
Ружжо заражае.

— Пазволь, мамачка, пазволь, родная,
Зязюлечку ўбіці,

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

Бо яна пяе ды й прычытае,
Гора на чужыне.

— Не пазволю, сын, не пазволю мой,
Зязюлечку ўбіці,
Бо зязюлі тэй, як дачцэ маей,
Гора на чужыне.

## 65

♩=72

—Ча- му не пры- шоў, я-к(ы) ме- сяц ўзы- шоў,
як я ця- бе жда- ла?
Ці ка- ня не маў, ці сцеж- кі не знаў,
ці маць не пу- ска- ла? Ці ка- ня не маў,
ці сцеж-кі не знаў, ці маць не пу- ска- ла? (ой)

— Чаму не прышоў, як месяц ўзышоў,
Як я цябе ждала?
Ці каня не маў, ці сцежкі не знаў,
Ці маць не пускала? [1]

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

— Ой, каня я маў, і сцежачку знаў,
І маці пускала.
Младшая сястра, каб і не ўзрасла,
Сядзельца схавала.

Старшая сястра сядзельца нашла,
Каня асядлала:
— Паязджай, браток, да дзяўчыны той,
Катораая ждала.

Цячэ рэчанька, цячэ быстрая,
Скочу — пераскочу,
Аддай мяне, маць, аддай, родная,
За каго я хочу.

Маці аддала, шчэ й прыказала
Роднаму дзіцяці,
Што б маё дзіця роўна тры гады
Не бывала ў хаце.

Пражыла гадок, пражыла другі,
Ждаці надаела,
Абярнулася шэрай зязюляй,
У сяло паляцела.

Ляцела лесам — голле ламала
Белымі крыламі,
Ляцела полем — поле тапіла
Дробнымі слязамі.

Прыляцела ў сад, села на суку,
Стала кукаваці,
Як родная маці мілае дзіця
Стала забываці.

Старэнькая маці ля вакна сядзіць,
Кудзельку прадае,
А малодшы брат за сталом сядзіць,
Ружжо заражае.

— Пазволь, маменька, пазволь, родная,
Зязюльку і ўбіці,
Бо яна пяе, жалю заўдае,
Не магу я жыці.

— Не пазволю я, мілае дзіця,
Зязюльку забіці,
Бо яна пяе, як маёй дачцэ
На чужыне жыці.

## 66

Andante

— Чом ты не пры_ шоў, як ме_ сяц ўзы_шоў,
як я ця_ бе жда_ ла? Чы ка_ ня не меў,
да_рож_кі не знаў, чы маць не пу_ шча_ ла?

— Чом ты не прышоў, як месяц ўзышоў,
Як я цябе ждала?
Чы каня не меў, дарожкі не знаў,
Чы маць не пушчала? [1]

— Я й коніка меў і дарожку знаў,
І маці пушчала.
А младшая сястра, бадай не ўзрасла,
Сядэлка схавала.

А старша сястра сядэлка знайшла,
Каня асядлала.
— Паязджай, браток, да дзяўчыначкі,
Каторая ждала.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

8. Зак. 100

Чэраз рэчаньку, чэраз быструю
Скочу — пераскочу,
Аддай, матуля, аддай, родная,
За каго я хочу.

— Не йдзі, дочанька, не ідзі, родная,
Дзе хлопец багаты.
Пажывеш гадок, пажывеш другі,
І выганіць з хаты.

Пражыла гадок, пражыла другі,
Трэці наступае.
Адвярнулась я шэрай зязюляй,
У госці палящела.

Ляцела лясом, ляцела гаём,
Нізкімі кустамі.
Полем ляцела — поле мачыла
Дробнымі слязамі.

Прыляцела ў сад, у сад зялёненькі,
Стала кукаваці.
Стала кукаваць і расказаваць,
Як жыць на чужбіне.

А старая маці пры акне сядзіць,
Слёзы праліває,
А малодшы брат у дзвярах стаіць,
Руж'ё заражае.

— Пазволь, мамачка, пазволь, родная,
Ту зязюлю ўбіці,
Яна кукуе — жалю задае,
Не магу я жыці.

— Не пазволю я, ой, сынок ты мой,
Той зязюлі біці.
Бо той зязюлі, як маёй дачцэ,
На чужбіне жыці.

Ой ты, зязюля, ой ты, шэрая,
Прэстань кукаваці.
Калі дочанька, калі родная —
Захадзі да хаты.

## 67

♩=50

— Ча_ му не пры _шоў, як ме_ сяц ўзы_ шоў,
як я ця_ бе жда_ ла? Ці ка_ ня не меў,
ці сцеж_кі не знаў, ці маць не пу_ ска_ ла?

— Чаму не прышоў, як месяц ўзышоў,
Як я цябе ждала,
Ці каня не меў, ці сцежкі не знаў,
Ці маць не пускала? [1]

— Я коніка маў і сцежачку знаў,
Мяне маць пускала,
Младшая сястра, бадай не ўзрасла,
Сядзельца схавала.

Старшая сястра сядзельца знайшла,
Коніка сядлала.
— Ой, едзь, мой браток, да той дзяўчыны,
Каторая ждала.

Цячэ рэчанька невялічкая,
Скочу — пераскочу.
Ой, аддай мяне, мая маманька,
За каго я хочу.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

Як аддавала, то й прыказвала
У госцях не бываці,
Ой, як прыйдзеш ты, мая дочанька,
То й выганю з хаты.

Цярпела я год, цярпела я два,
Трэці не сцярпела,
Перарадзілась сівай зязюляй,
К роду паляцела.

Гаем ляцела — голле ламала
Сваімі крыламі,
Полем ляцела — поле крапіла
Сваімі слязамі.

Прыляцела ў сад, сад зялёненькі,
Села на каліне.
Ой, яна села, закукавала:
— Гора на чужбіне.

Сядзіць маменька, сядзіць родная,
Рушнік вышывае,
А старшы браток стаіць у варот,
Ружжо заражае.

— Дазволь, маманька, дазволь родная,
Ту зязюлю ўбіці,
Бо яна куе, шчэ й расказуе,
Што ёй гора жыці.

— Не дазволю я, роднае дзіця,
Ту зязюлю ўбіці,
Бо той зязюлі, як нашай дачцэ,
На чужыне жыці.

Як ты зязюля, яшчэ й сівая,
Просім кукаваці,
А як ты дачка, яшчэ родная,
То просім дахаты.

## 68

♩ = 68

— Ча- му ж не пры- шоў, як ме- сяц зай- шоў,
як я ця- бе жда- ла? Ці сцеж- ку не знаў,
ці ка- ня не маў, ці маць не пу- ска- ла?

— Чаму ж не прышоў, як месяц зайшоў,
Як ■ цябе ждала?
Ці сцежку не знаў, ці каня не маў,
Ці маць не пускала?

— Я сцежачку знаў, і коніка маў,
І маці пускала,
Младшая сястра, яшчэ не ўзрасла,
Сядзельца схавала.

Старшая сястра сядзельца найшла,
Коніка асядлала:
— Едзь жа, мой ты брат, да дзяўчыны той,
Каторая ждала.

Цячэ рэчанька, цячэ быстрая,
Скочу — пераскочу.
Аддай жа мяне, мая мамачка,
За каго я хочу.

Як аддавала, шчэ й прыказвала
У гасцях не бываці,
А калі ж табе да гора ж будзе,
Не прыходзь дахаты.

Гаравала год, гаравала два,
Трэцці не сцярпела,

Ператварылася ў шэру зязюлю,
Да роду паляцела.

Лугам ляцела — лугі тапіла
Горкімі слязамі.
Борам ляцела — галлё ламала
Белымі рукамі.

Прыляцела ў сад, у сад зялёненькі,
Стала кукаваці.
Стала кукаваць, шчэ й прычытываць:
— Гора на чужбіне.

Сядзіць мамачка у акошачка,
Рушнік вышывае.
Самы старшы брат стаіць у варот,
Ружжо заражае.

— Пазволь, мамачка, пазволь, родная,
Ту зязюлю ўбіці,
Бо яна сядзіць шчэ й прычытуе:
— Гора на чужбіне.

— Не пазволю сын, сын мой родненькі,
Ту зязюлю ўбіці,
Бо той зязюлі, як тваёй сястры,
Гора на чужбіне.

## 69

— Чаму не прышоў, як месяц ўзышоў,
Як я цябе ждала?
Ці каня няма, ці сцежку не знаў,
Ці маць не пускала? [1]

— Ой, каня я маў, і сцежку я знаў,
І маці пускала.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

А старша сястра, бадай не ўзрасла,
Сядзелка схавала.

А менша сястра сядзельца знайшла,
Каня асядлала:
— Паязджай, браток, да дзяўчынанькі —
Да што цябе ждала.

Цячэ рэчанька невялічанька —
Скочу — пераскочу.
Ой, аддай мяне, мая маманька,
За каго я хочу.

Як аддавала, так прыказвала,
У гасцях не бываці,
Як калі прыдзеш, мая дачушка,
То выганю з хаты.

Ой, прайшоў гадок, прайшоў другенькі,
Трэці не сцярпела.
Ператварылась сівай зазулькаю,
Знялась, паляцела.

Полем ляцела — сцежку крапіла
Дробнымі слязамі,
Гаем ляцела — галлё ламала
Белымі рукамі.

Заляцела ў гай, гай гусцесенькі,
На бярозу села,
Стала кукаваць, жалю задаваць,
Усё, што пержыла.

Сядзіць маманька на крылечку,
Ручнік вышывае,
Найменшы браток стаіць ля варот,
Ружжо заражае.

— Дазволь, маманька, дазволь, родная,
— Ту зазу́льку ўбіці.
Бо яна куе, жалю задае
На беламу свеце.

— Не дазволю я, мой жа сынаньку,
Ту зазульку ўбіці,
Бо той зазульцы, як маёй дачцы,
Трудна ў свеце жыці.

Калі зазулька, калі рабенька,
То прашу каваці,
А як ты роднае маё дзіцятка,
То прашу дахаты.

— Ой, не пайду я, мая маманька,
Да не пайду дахаты,
Бо як аддавала, то й прыказвала
Ў гасцях не бываці.

## 70

♩ =65

Ця_ чаць рэ_ ча_ н(і). ка, ця_ чэць быст_ра_ я,
ско_ чу — пе_ ра_ ско_ чу,
Ад_ дай, ма_ мань_ ка, ад_ дай, род_ на_ я,
за_ ка_ го я хо_ ву, Ад_ дай, ма_ мань_ка,
ад_дай, род_ на_ я, за ка_ го я хо_ чу.

— Цячэць рэчанька, цячэць быстрая,
Скочу — пераскочу,
Аддай, маманька, аддай, родная,
За каго я хочу [1].

— Ідзі, дочанька, ідзі, родная,
За каго хацела,
Жыві, дочанька, жыві, родная,
Што б не прыляцела.

— Вот жыву я год, вот жыву другі,
Трэці наступаіць,
Абрацілася шэрай зязюляй,
Стала, паляцела.

Полем ляцела — поле мачыла
Сваёю слязою,
Борам ляцела — бары сушыла
Сваёю жальбою.

Прыляцела я на падвор'ейка,
Стала кукаваці,
Стала кукаваць, стала спамінаць
Пра сваю радзіну.

Сядзіць мамачка для ваконечка,
Рушнік вышываіць,
А брацішачка на падвор'ейку
Руж'ё набіваіць.

— Пазволь, мамачка, пазволь, родная,
Шэру зязюлю ўбіці.
Яна кукуіць, яна бядуіць,
Нельга пеpажыці.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

## 71

♩ =63

Ця_ чэць рэ_ чань_ка, ця_ чэць быст_ ра_ я,
ско_ чу — пе_ ра_ско_ чу.
Ад_ дай, ма_мань_ка,
ад_ дай, род_ на_ я, за ка_ го я хо_ чу.
Ад_ дай, ма_ мань_ ка, ад_ дай, род_ на_ я,
за_ ка_ го я хо_ чу.

Цячэць рэчанька, цячэць быстрая,
Скочу — пераскочу.
Аддай, маманька, аддай, родная,
За каго я хочу [1].

Аддала мацi ды й прыказала
Ў госцi не бывацi.
— А як прыедзеш ты, мая дачушка,
Дык выганю з хаты.

Жыла годзiк я, жыла i другi,
Трэцi не сцярпела.
Абярнулася серай зязюляй,
К роду паляцела.

Паляцела я ў зялёны садок,
Села на рабiну,

---

[1] Апошнiя два радкi кожнай страфы паўтараюцца два разы.

Стала кукаваць да й прычытываць,
Як жыць на чужбіне.

Маць сядзіць у вакне,
Ручнік вышывае,
А меншанькі брат стаіць край варот,
Руж'ё заражае.

— Пазволь, маменька, пазволь, родная,
Ту зязюлю ўбіці,
Бо яна кукуе, жалю прыдаець,
Не магу я жыці.

— Не пазволю, сын, не пазволю я
Ту зязюлю ўбіці.
Бо зязюлі тэй, як маей дачцэ,
На чужбіне жыці.

## 72

♩=60

Ця_ чэ рэ_ чань_ ка, ця_ чэ быст_ра_ я,
ско_ чу — пе_ ра_ ско_ чу.
Ад_ дай, ма_ мач_ ка, ад_ дай, род_ на_ я,
за ка_ го я хо_ чу. Ад_дай, ма_ мач_ ка,
ад_ дай, род_ на_ я, за ка_ го я хо_ чу.

Цячэ рэчанька, цячэ быстрая,
Скочу — пераскочу.
Аддай, мамачка, аддай, родная,
За каго я хочу [1].

Маці аддала, шчэ наказала
У гасцях не бываці.
А як прыдзеш ты ка мне ў госцікі,
Не пушчу ў хату.

Вот і год прайшоў, і другі настаў,
Дачка засмуцілася.
Перарадзілась шэрай зязюляй,
У госці паляцела.

Борам ляцела — голле ламала
Белымі рукамі.
Полем ляцела — зямлю мачыла.
Горкімі слязамі.

Прыляцела ў сад, сад зялёненькі,
Стала кукаваці.
Стала кукаваць, жалю прыдаваць,
Каб пачула маці.

Сядзіць мамачка ля вакошачка,
Рушнік вышывае.
Ходзе брацейка па надвор'ейку,
Ружжо заражае.

— Пазволь, мамачка, пазволь, родная,
Ту зязюлю ўбіці.
Бо яна пяе, жалю прыдае,
Не магу я жыці.

— Не пазволю я, сын раднюсенькі,
Ту зязюлю ўбіці,
Бо твая сястра на чужой старане,
Гора, трудна жыці.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

## 73

♩=63

Ця_ чэ рэ_ ча_н(і)_ка не_ вя_ лі_ ча_н(і)_ка,
ско_ чу — пе_ ра_ ско_ чу,
Ой, ад_ дай мя_ не, ма_ я ма_ мань_ ка,
за ка_ го я хо_ чу. Ой, ад_дай мя_ не,
ма_ я ма_ ма_н(і)_ка, за ка_ го я хо_ чу.

Цячэ рэчанька невялічанька,
Скочу — пераскочу.
Ой, аддай мяне, мая маманька,
За каго я хочу [1].

Як аддавала да й прыказвала
У гасцях не бываці.
— А як прыбудзеш, маё дзіцятка,
То й выганю з хаты.

Цярпела я год, цярпела я два,
Трэці не сцярпела:
Перакінулась зазуленькаю,
У госці паляцела.

Лесам ляцела — голле ламала
Белымі рукамі.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

Полем ляцела — поле крапіла
Дробнымі слязамі.

Да й заляцела я да маманькі,
На каліну села.
— Ой, выйдзі, выйдзі, мая мамачка,
Дочка прыляцела.

Старшы брацейка на падвор'ейку
Ружжо заражае,
Меншы брацейка на ганку стаіць,
Страляць не давае.

— Ой, пазволь, пазволь, мая маманька,
Ту зазульку ўбіці.
— Гэтай зазульцы, як нашай дачцы,
На чужыне жыці.

## 74

♩ = 65

Ця_ чэ рэ_ чань_ка, ця_ чэ быст_ ра_ я,
ско_ чу — пе_ ра_ ско_ чу. Ой, ад_ дай мя_ не,
ма_ я ма_ мань_ка, за ка_ го я хо_ чу.
Ой, ад_дай мя_не, ма_ я ма_мань_ка, за ка_го я хо_ чу.

## 75

♩=70

Ця_ чэ рэ_ ча_н(і)_ка не_ вя_ лі_ ча_н(і)_ ка,

ско_ чу — пе_ ра_ ско_ чу.

Ой, ад_ дай мя_ не, ма_ я ма_ ма_н(і)_ ка,

за ка_ го я, схо_ чу (а).

Ой, ад_ дай мя_ не, ма_ я ма_ ма_н(і)_ ка,

за ка_ го я схо_ чу (а).

## 76

♩=78

Ця_ чэ рэ_ чань_ ка (й)не_ вя_ ліч_ ка_ я,

я (й) не пе_ ра_ ско_ чу.




Цячэ рэчанька невялічкая,
Я й не пераскочу.
— Аддай жа мяне, родна матуля,
За каго [redacted] хочу [1].

Як аддавала, да й прыказ дала
У гасцях не бываці.
— Бо як прыдзеш ты, родна дочанька,
То й выжану з хаты.

Не пашла я год, не пашла другі,
Трэці не сцярпела.
Ператварылась шэрай зязюляй,
Дадому ляцела.

Гаем ляцела — галлё ламала
Белымі рукамі.
Полем ляцела — поле крапіла
Горкімі слязамі.

Прыляцела ў сад, сад зялёненькі,
Села на каліне,
Стала кукаваць, ўсё расказаваць,
Як жыць на чужыне.

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

А маці сядзіць у края стала,
Платок нашывае,
А малодшы брат стаіць у варот,
Ружжо заражае.

— Ой, пазволь жа, маць, пазволь, родная,
Ту зязюлю ўбіці.
Бо зязюля та ўсё расказвае,
Як ёй цяжка жыці.

— Не пазволю ж я, не пазволю, сын,
Ту зязюлю біці.
Бо зязюлі той, як дачцэ маёй,
Цяжка жыць на свеце.

## 77

♩ =55

Ця_ чэ рэ_ ча_н(і)_ ка, ця_ чэ быст_ ра_ я,
ско_ чу — пе_ ра_ ско_ чу.
Ад_ дай мя_ не, маць, што(й)рад_ ню_ се_н(і)_ ка,
за ка_ го я хо_ чу.
Ад_ дай мя_ не, маць,
што(й)рад_ ню_ се_н(і)_ ка, за ка_ го я хо_ чу.

Цячэ рэчанька, цячэ быстрая,
Скочу — пераскочу.
Аддай мяне, мацъ, што й раднюсенька,
За каго я хочу [1].

Мацi аддала, выгавар дала,
За дзеда старога,
Прыказала мне шанаваць яго
Так, як маладога.

Шанавала год, шанавала два,
Трэцi не сцярпела.
Ператварылась шэрай зязюляй,
Да роду зляцела.

Прыляцела ў сад, сад зялёненькi,
Стала кукавацi.
Стала кукаваць, шчэ й прычытаваць,
Што б пачула мацi.

А мацi сядзiць ды й у горнiцы,
Рушнiк вышывае.
А малодшы брат на парозе стаў,
Ружжо заражае.

— А пазволь мне мацъ, мацъ раднюсенька,
Зязюлю убiцi.
Яна кукуе, жалю задае,
Цяжка ў свеце жыцi.

— Не пазволю сын, сын раднюсенькi,
Зязюлю забiцi.
Гэтай зязюлi, як нашай дачцэ,
Гора на чужыне.

---

[1] Апошнiя два радкi кожнай страфы паўтараюцца два разы.

## 78

♩=65

Ця_ чэ рэ_ чань_ ка, (й) ця_ чэ быст_ра_ я (й),

ско_ чу — пе_ ра_ ско_ чу (й),

Ад_ дай, ма_ мань_ ка, ад_ дай, род_ на_ я,

за ка_ го я хо_ чу. Ад_ дай, ма_мань_ка,

ад_ дай, род_на_ я, за ка_ го я хо_ чу.

## 79

♩=70

Ця_ чэ рэ_ чань_ ка, ця_ чэ быст ра_ я,

а я пе_ ра_ ско_ чу. Ад_ дай мя_ не, маць,

ад_ дай, род_ на_ я, за ка_ го я хо_ чу.

9*

Цячэ рэчанька, цячэ быстрая,
А я пераскочу.
Аддай мяне, мацъ, аддай, родная,
За каго я хочу.

Ідзі, ідзі, доч, ідзі, родная,
Госцем не бывайся.
Ой, як будзе там табе горушка,
Дамоў не вяртайся.

Жыла яна год, жыла яна два,
Трэці не сцярпела.
Скінулась яна шэрай зязюляй,
К роду паляцела.

Полем ляцела — землю скрапляла
Дробнымі слязамі.
Лесам ляцела — голле ламала
Чорнымі крыламі.

Пpыляцела ў сад к сваёй мамачцы,
Села на каліне.
Ой, яна пяе, ды й прыказвае:
— Гора на чужыне.

Яе родна мацъ сядзіць у вакна,
Рушнік ушывае.
Яе родны брат стаіць у вакна,
Ружжо заражае.

— Пазволь, пазволь, мацъ, зязюлю страляць,
Што ў нас на каліне.
Ой, яна пяе, ды й прыказуе:
— Гора на чужыне.

— Не пазволю, сын, зязюлі страляць,
Што ў нас на каліне.
Недзе наша доч так прыказуе:
— Гора на чужыне.

## 80

Як выйду я за вуланьку,
Як выйду я за вуланьку
І гляну я ў канец сяла.
Ай, мой мілы з вайны едзіць,
Ён коніка ў руках вядзець.
Я коніка — за удзільку,
А мілага — за ручаньку.
Я коніка — ў стаеньку,
А мілага — ў свяцёлачку.
Я коніку — сена-[а]брок,
А міламу — віна-мёд.
Выйду я ў стаеньку,
Пагляджу я на коніка.
Аж мой конік не п'ець, не есць,
Па стаенцы пахажываець,
Праз вароцікі паглядываець.
Выйду я ў свяцёлачку,
Пагляджу я на мілага.
Аж мой мілы не п'ець, не есць,
Усё па свяцёлцы пахажываець,
Праз вакошачка паглядываець.
— Знаю, знаю, разумею,
Хочаш мяне пакінуці.
Хочаш мяне пакінуці,
У Русь на вайну паехаці.
Абярнуся я, молада,
Шэраю зязюленькай,
Дзеткі мае салаўямі.
Я палячу у шчыры бор,
Закукую жалабна,
Дзеткі мае жалчэй мяне.
— Служкі мае вярненькія,
Не ганіце вараных коні,
Паслухаем гэтых пташачак:
Шэрае зязюленькі

І дробненькіх салавейкаў.
Не зязюлечка кукуець,
Не салавейка шчабечыць,
Мая жана па мне плачыць,
Дзеткі мае жалчэй яе.

## 81

А я свайму міламу
Шуткай слова змовіла,
Шуткай слова змовіла,
Жаніцца пазволіла.
— Жанісь, жанісь, міленькі,
Жанісь чарнабрывенькі!
Бяры сабе лепшую,
Лепшу, прыгажэйшую!
А мой мілы веры даў,
Жаніціся задумаў.
Мыецца, румяніцца,
К вянцу прыбіраецца.
Стала думаць, гадаці,
Чым мілага уегнаці?
А ўегнаю мілага,
Шаўковаю хустаю.
Мой міл хусты не бярэць,
Й жаной мяне не завець.
Мыецца, румяніцца,
К вянцу прыбіраецца.
Стала думаць, гадаці,
Чым мілага уегнаці?
А ўегнаю мілага
Залатым пярсцёначкам.
Мой мілы персня не бярэць,
Жаной мяне не завець.
Мыецца, румяніцца,
К вянцу прыбіраецца.
Абярнуся, молада,
Я шэрай зязюляю,
А палячу, молада,

Я з тугі у лугі.
А сяду я, молада,
Пры бойкай дарозе,
Я пры бойкай дарозе,
Ў ракітавым кусціку.
Будзець мілы ехаці,
З другою жаніціся —
Страпянуся, молада,
Ў ракітавым кусціку.
Кусцічак разляжацца,
Конічак спужаецца.
Конічак спужаецца,
А міленькі зваліцца.
Мой міленькі зваліўся,
Ды да смертанькі забіўся.
Няхай міл не 'станецца,
Ні мне, ні таварышцы,
Няхай міл астанецца
Сырой зямлі-матушцы.

## 82

♪=146

Я ўчо_ ра ўпі_ ру бы_ ла,
п'я_ нень_ ка да_ моў пры_ шла.
(і) Я ўчо_ ра ўпі_ ру бы_ ла,
п'я_ нень_ ка да_ моў пры_ шла.

Я ўчора ў піру была,
П'яненька дамоў прышла [1].

П'яненька дамоў прышла,
З міленькім паспорыла.

З міленькім паспорыла,
Жаніцца пазволіла.

— Жанісь, жанісь, міленькі,
Жанісь, чарнабрывенькі.

Бяры сабе лепшую,
Сястру маю меншую.

Я ж думала, ў жарт прыняў,
Ажны ён баяр сабраў.

Паехаў жаніціся
На вараненькім кані.

Воран конь упудзіўся,
Мой міленькі забіўся.

А няхай не [а]станецца,
Ні мне, ні младшай сястрэ.

А няхай астанецца
Сырой зямлі-матушцы.

83

Я ўчора ў піру была [2],
П'янюсенька ў двор прышла,
З міленькім паспорыла,
Жаніцца пазволіла.
— Жанісь, жанісь, міленькі,
Жанісь чарнабрывенькі.

---

[1] Кожная страфа паўтараецца два разы.
[2] Кожны радок паўтараецца два разы.

А бяры сабе лепшую,
Сястру маю меншую.
Сястра мая меншая
Яна красівейшая.
У сястры маёй меншыя
Падушкі пуховыя.
Я думала, молада,
Міленькі за жарт пpыняў,
Ажно мой міленькі
Ў суботу сватоў паслаў.
А ўскінуся, молада,
Шэраю зязюляю,
Сяду-паду, молада,
Ў арэхавым кусціку.
Кусцічак зварухнецца,
Конічак спужаецца.
А ўдарыцца міленькі
Аб сыру зямлю-матушку.
Не астанешся, міленькі,
Ні мне, ні сястрэ маёй,
Ні мілай таварачцы.

## ЖОНКА-ПТУШКА — II

### 84

♩=84

А ўсе лю_ дзі дво_ ру йдуць,

а ўсе лю_ дзі дво_ ру йдуць,

я мо_ ла_ да, — га_ ру_ ша.

А ўсе людзі двору йдуць [1],
Я, молада,— гаруша.

Я, молада,— гаруша,
Двору іці баюся.

Двору іці баюся
Я свайго нялюбага.

Скінуся я, молада,
Сераю зязюляю.

Палячу я, молада,
К нялюбаму пад вакно.

Сяду я, паслухаю,
Што нялюбый гаворыць.

Што нялюбый гаворыць
Із дробнымі дзеткамі:

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Цыцця, дзеткі, не плачце,
Прыдзіць ваша мамачка.

Прыдзіць ваша мамачка
Із чужога полічка.

Із чужога полічка,
Із чужыя нівачкі.

Накорміць вас, напоіць
І спацічкі паложыць.

Хвала табе, божачка,
Што пачула словачка.

Што пачула словачка
Я 'д свайго нялюбага.

## 85

Умерана

А ўсе лю- дзі дво- ру йдуць.
я, мла- да, не ду- ма- ю.
Ай, лю- люш- кі, лю- люш- кі,
я, мла- да, не ду- ма- ю

А ўсе людзі двору йдуць,
Я, млада, не думаю,
Ай, люлюшкі, люлюшкі,
Я, млада, не думаю [1].

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Ай, люлюшкі, люлюшкі».

Я, млада, не думаю,
Я к свайму нялюбаму.

Я скінусь, я, молада,
Сераю зязюляю.

Ай, сяду я, молада,
Да я пад вакошачка.

Паслухаю, молада,
Што мой нялюб гаворыць.

Што мой нялюб гаворыць,
А з дзеткамі гамоніць:

— Не плачце-ка, дзетушкі,
Не плачце-ка, любыя.

Не плачце-ка, любыя,
Прыдзець ваша мамачка.

Прыдзець ваша мамачка
Із чужыя нівачкі,

Яна вас накорміць, напоіць
І спацечкі паложыць.

### 86

♩=124

А ўсе лю_ дзі дво_ ру йдуць,
а ўсе лю_ дзі дво_ ру йдуць,
ад_ на я не ду_ ма_ ю.

А ўсе людзі двору йдуць,
А ўсе людзі двору йдуць,
Адна я не думаю.

Адна я не думаю,
Адна я не думаю,
Я к свайму нялюбаму.

Я ўскінуся, молада,
Я ўскінуся, молада,
Сераю зязюляю,

Палячу я, молада,
Палячу я, молада,
Я к свайму нялюбаму.

Пагляджу я, молада,
Пагляджу я, молада,
Што нялюбы дзелаіць.

А мой жа нялюбенькі,
А мой жа нялюбенькі,
Дзіцятачку калыша.

— Баю, баю, дзетачка,
Баю, баю, любачка,
Няма тваёй мамачкі.

Няма тваёй родненькай,
Няма тваёй родненькай,
Із чужой работачкі.

Чэраз чужу нівачку,
Чэраз чужу нівачку
Пацярала сілачку.

Ходзячы па ночачкі,
Ходзячы па ночачкі,
Пацярала вочачкі.

— Хвалі цябе, божачка,
Хвалі цябе, божачка,
Што пачула словачка.

Што пачула словачка,
Што пачула словачка
Ад свайго нялюбага.

87

♩=100

А ўсе лю_ дзі дво_ ру йдуць,

а ўсе лю_ дзі дво_ ру йдуць,

я, мла_ да, не ду_ ма_ ю.

А ўсе людзі двору йдуць [1],
Я, млада, не думаю.

Я, млада, не думаю,
Я к свайму нялюбаму.

Як скінуся, молада,
Сераю зязюляю,

Палячу я, молада,
Я к свайму нялюбаму.

Як сяду я, молада,
На красны акеначка.

Пагляджу я, молада,
Што нялюбы дзелаіць.

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А мой жа нялюбенькі
Дзіцятачку калышыць.

— Баю, баю, дзіцятка,
А дзе твая мамачка?

А твая да й мамачка
На чужой на нівачцы.

На чужой на нівачцы
Пакідаіць сілачку.

Чужая работачка
'Дабрала ўсе ручачкі.

— Слава табе, божачка,
Што пачула словачка,

Што пачула словачка
Ад свайго нялюбага.

## 88

А ўсе людзі двору йдуць,
А я йшчэ не думаю,
Ой, лёлюхны, лёлюхны,
А я йшчэ не думаю [1].

А я йшчэ не думаю
А к свайму нялюбаму.

Скінуся я, малада,
Сераю зязюляю.

Палячу я, малада,
К свайму нялюбаму.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Ой, лёлюхны, лёлюхны».

Свёкарка ў варот стаіць,
Свякрова ў акно глядзіць.

І жураць-браняць,
Мяне, маладу, пабіць вяляць.

— Бі, сынок, жану нагайкаю,
Што б была хаэяйкаю.

І бі жану дубінаю,
Што б была гаспадыняю.

## МАЦІ-ПТУШКА

### 89

♩=140

Як бы_ ло ў мам_кі да тры донь_кі, да па_
шлі ж я_ ны у бор па я_ гад_ кі.

Як было ў мамкі да тры донькі,
Да пашлі ж яны у бор па ягадкі.

Адна донька й утапілася,
Другую доньку звяры з'елі.

Другую доньку звяры з'елі,
Трэцюю доньку татары ўкралі.

Ой, не так жаль тае, што ўтапілася,
Ой, не так жаль тае, што звяры з'елі.

Ой, не так жаль тае, што звяры з'елі,
Вельмі жаль тае, што татары ўкралі.

Ой, скінусь я да зязюлькаю,
Да маленькаю, да рабенькаю.

Да маленькаю, да рабенькаю,
Да палячу ж я к доньцы ў госці.

Да палячу ж я к доньцы ў госці,
Да сяду, упаду ў зялёным саду.

Аж мая донька па саду ходзіць,
На белых ручках дзіцятка носіць.

10. Зак. 100

На белых ручках дзіцятка носіць,
Дзіцятка носіць, мілага просіць:

— Ты ж мой міленькі, голуб сівенькі,
Да пусці ж мяне к мамцы ў госці.

## 90

У канцы сяла жыла там удава,
І было ў тае ўдавы тры дачкі.

Пайшлі ж яны у ягадкі,
Ідуць да ідуць да пад цёмны лес.

А ў цёмным лесе да шуміць да гудзе,
Сама больша кажа: «Рака раве».

Серадольша кажа: «Звяры гудуць»,
Сама менша кажа: «Татары ідуць».

Сама большая й утапілася,
Серадольшу звяры з'елі.

Саму меншу татары ўзялі,
Узялі, узялі да ў свой край павялі.

Дачулася старэнькая маці,
Стала па іх сільненька плакаці:

— Не так жаль мне тое, што ўтапілася,
Не жаль мне тое, што звяры з'ели,

Не жаль мне тое, што звяры з'ели,
А жаль мне тое, што татары ўзялі.

А скінуся я зязюлькаю,
А палячу я ў татарскі сад.

І закую, і закую,
Што б майму дзіцяці жалка не было.

Маё дзіцятка па садочку ходзіць,
Татаранятка за ручку водзіць.

— Дай жа, дай жа мне бляшаных вядзёр,
Пайду ў крыніцу па вадзіцу.

Татаранятка, маё дзіцятка,
Дай жа ты мне востры ножык,

Я пакрою палаценца,
Не так палаценца, як шчыра сэрца.

## 91

Як у полі пад дубровушкай,
Як у полі пад дубровушкай,
Як у полі пад зялёненькай.

Там касілі ды два брацеткі,
Там касілі ды два родненькіх.
Прыкасіліся к дубраваньцы.

Прыкасіліся к зялёненькай.
— Ты скажы, скажы, дубраванька,
Ты скажы, скажы, зялёная,

Пра майго брата пра роднага.
А не скажаш — з коранем вырвем,
Агнём, поланню выпалім.

— Я скажу, скажу, дубраванька,
Я скажу, скажу, зялёная,
Пра твайго брата пра роднага.

Твой жа брацец, ён забіты ляжыць,
Белы ножанькі к дарожаньцы,
Рацівым сэрцам к сырой зямлі,

Буйнай галавой у цёмны лясы.
Прыляцелі тры зязюленькі,
Прыляцелі тры шэранькіх.

Жонка села ў белых ножаньках,
Сястра села на сярдзечушка,
Мамка села ў буйнай галаве.

Жонка плачыць дзень да вечара,
Сястра плачыць год до году,
Мамка плачыць век до веку.

Жонка плачыць — раса пала,
Сястра плачыць — ручайкі пашлі,
Мамка плачыць — рэчка быстрая.

Сонца ўзойдзець — раса высахнець,
Мароз станець — руччы вымерзнуць,
Быстрай рэчцы змену нетуці.

### 92

Як на лужку на зялёненькім,
Як на лужку на зялёненькім,

Там касіла да два брацеткі,
Там касіла да два родненькіх.

Прыкасіліcь ка дубровушкі,
Прыкасіліcь ка зялёненькай:

— А скажы, скажы, дубровушка,
А скажы, скажы, зялёная,

Пра нашага братца роднага,
Пра нашага братца роднага.

А не скажаш, дык касой скашу,
А не скажаш, дык касой скашу.

Сахой-бараной павыраю,
Сахой-бараной павыраю,

Агнём-поланей павыпалю,
Агнём-поланей павыпалю.

— Ой, скажу, скажу, дубровушка,
Ой, скажу, скажу, зялёная,

Пра вашага братца роднага,
Пра вашага братца роднага:

А ваш брацетка забіт ляжыць,
А ваш брацетка забіт ляжыць.

Бодрым ножкам ка дарожанькі,
Бодрым ножкам ка дарожанькі.

Раціво серца ка сырой зямлі,
Раціво серца ка сырой зямлі.

Прыляцела да тры пташачкі,
Прыляцела да тры шэранькіх.

Адна села к буйной галаве,
Адна села к буйной галаве.

Другая села к раціву сэрцу,
Другая села к раціву сэрцу.

Трэця села к бодрым ножанькам
Трэця села к бодрым ножанькам.

Сястра села к буйной галаве,
Сястра села к буйной галаве.

Мамка села к раціву сэрцу,
Мамка села к раціву сэрцу.

Жонка села к бодрым ножанькам,
Жонка села к бодрым ножанькам.

Сястра плачыць, як руччы льюцца,
Сястра плачыць, як руччы льюцца.

Мамка плачыць быстрай рэчанькай,
Мамка плачыць быстрай рэчанькай.

Жонка плачыць — дробны дождж ык ідзець,
Жонка плачыць — дробны дождж ык ідзець.

93

Скажы, клён, чы ты не дзераўца,
А мой брацец чы не моладзец?
Гдзе мой брацец, гдзе мой моладзец?
Пашла ж яна да к суседушкам:
— Вы суседкі, вы суседушкі,
Чы не відзелі майго брата,
Чы не чулі аб маём родным?
Адзін кажыць: «Я не відзеў»;
Другі кажыць: «Я не слышаў»;
Трэці кажыць: «Я там бываў
І твайго брата відаў».
Забіт ён, забіт пры дарожаньцы,
Забіт пры шырокай,
Буйнай галавой у шчыры бор,
Скорымі ножкамі к дарожцы.
На ім упалі да тры ворагі:
Адзін жа паў на буйнай галаве,
Другі на рацівым сэрцы,
Трэці на скорых ножках.
Первы недруг — то шэры ваўчок,
Другі недруг — палавы мядзведзь,
Трэці недруг — чорны воран.
Ваўчок кажыць: «Я сэрца выдзеру»;
Мядзведзь кажыць: «Я кроў высмакчу»;
Воран кажыць: «Я косці разнясу».
Прыляцелі тры зязюлькі
Да тры шэрыя:
Адна села на буйнай галаве,
Другая пала на рацівым сэрцы,
Трэцяя на скорых ножках.
Матка плачыць, як рака льецца,
Дачка плачыць, як ручэй цячэць,
Жонка плачыць, як раса падзець.
Матка плачыць век да веку,
Дачка плачыць год да году,
Жонка плачыць ад дня да дня.

## 94

А ці не пыл у полі запыляецца [1],
А ці не туман у моры занімаецца?
А ляцяць, ляцяць гусі шэрыя,
Гусі шэрыя, лебедзі белыя,
А за імі ляціць воран чорны.
Гусі шэрыя напужаліся,
Ў цёмныя лясы пахаваліся.
— Вы не бойцеся, гусі шэрыя,
Я й не біць лячу, распрасіць хачу,
Ці не відзелі варанога каня,
Варанога каня, белага малайца.
— Вараны кося на стайні стаіць,
Белы моладзець убіты ляжыць.
Яго ножанькі — пры дарожанькі,
Яго ручанькі — на тры штучанькі,
Скрозь яго рэбрачкі трава парасла,
Скрозь яго галованьку змяя прапаўзла,
Скрозь яго горланька вада працякла.
Ай прыляцелі да тры ластаўкі:
Першая пала ў белых ножаньках,
Другая пала ў галованьцы,
Трэцяя пала проціў сэрданька.
Што ў белых ножаньках — то жана яго,
Што ў галованьцы — то сястра яго,
Што процiў сэрданька — то маці яго.
Дзе маці плача, там рэкі цякуць,
Дзе сястра плача, там ручаі бягуць,
Дзе жана плача, там ракі няма.
Ай, маці плача, ай, век па веку,
Ай, сястра плача, ай, год па году,
Ай, жана плача, ай, зрання да абеду.
А па абеду ў зялён сад пайшла,
[У зялён сад пайшла], другога знайшла.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

## 95

♩=78

Ой, са- кол, са- кол,

вы- со- ка ля- таў,

ой, вы- со- ка ля- таў,

ой, што ж ты ві- даў?

— Ой, сакол, сакол, высока лятаў,
Ой, высока лятаў, ой, што ж ты відаў?

— Ой, відаў, відаў зялёна жыта,
А у тым жыце казака ўбіта[га].

Убіта[га], ўбіта[га] — не схаронена[га].
Ай, парасла трава скрозь раберачка.

Парасла трава скрозь раберачка,
Ой, абкіпела кроў кругом сэрданька.

Ой, прыляцела да тры пташачкі,
Ой, тры пташачкі — родны сёструшкі.

Адна пташачка села ў ножанькі,
Друга пташачка — у галованькі.

Друга пташачка — у галованькі,
Ай, трэця пташачка — каля сэрданька.

Ой, у ножачках — то сястра яго,
У галованькі — то мамка яго.

У галованькі — то мамка яго,
Ой, каля сэрданька — жана малада.

Дзе мамка плача, там рэчка цячэ,
Ай, дзе сястра плача, там Дунай цячэ.

Дзе сястра плача, там Дунай цячэ,
Ой, жана малада, там суха зямля.

Суха зямля пакалолася,
Ох, малада жана павянчалася.

## 96

Гусі серыя,
А лебедзі белыя,
Чы не чулі, чы не бачылі
Яснага сакала?
Ляціць ясён сакол
Да ўжо падбіты,
Ляжыць, ляжыць удалы малойчык
Да ужо забіты.
Ляжаць яго ножанькі
На тры дарожанькі,
Ляжаць яго ручанькі
На тры штучанькі.
Прылятае да яго
Вох, тры ластушкі.
Первая ластушка —
Родная матушка,
А другая ластушка —
Родная сястрыца,
А трэця ластушка —
Ведзьма да жонка.

Плакала матушка
Ад веку да веку,
Плакала сястрыца
Ад году да году,
Плакала ведзьма да жонка
З світу да абеду.
Па абедзе пашла ў садок
Да звіла вянок,
А звіўшы вянок,
Да пашла ў танок.

## 97

Ох, вы горы мае, горы высокія,
Высокія задунайскія!
Што на вас, на гарах, што нішо не ўраджуе,
Толькі ўраджуе ўсяго част да ракітавый куст.
Як пад тым пад кустом сізы арол сядзіць,
Ён чорнага ворана у кагцях дзяржыць.
Ён не б'ець, не дзярэць, ён толькі распрашуе:
— Ох, і дзе, воран, лятаў, дзе палётаваў,
Ох, і што, воран, відаў?
— Лятаў жа я па сіняму мору, па чыстаму полю,
Відаў дзіву дзіўную, чуду чудную:
Ляжыць пад кустом цела белае,
Ніхто к тому целу не прыступіцца.
Прыступіліся к целу тры ластушкі:
Первая ластушка, то яго матушка,
А другая ластушка, то яго сёструшка,
А трэццяя ластушка, то яго жонушка.
А дзе матушка плача, там рака цячэ,
А дзе сёструшка — там калодзезі,
А дзе жонка плача, там расы няма.
Да матушка плача да век да веку,
А сястра плача да год да году,
А жана плача дзень да абедзейка.

98

Стаяла бяроза пры зацішку,
Ніхто да той бярозы не заедзіць,
Толькі зайшоў, заехаў бел моладзец.
Папрасіўся у бярозы ноч начаваць:
— Пусці мяне, бяроза, ноч пераначаваць!
Да з вечара бяроза ціха стаіць,
А з паўночы бяроза зашумела,
Залатое лісціка зашумела,
Залатое лісціка яе зазвінела:
— Пара, пара молайцу ўставаць,
Белай бярозе за начлег дзенькаваць.
— Да выспаўся у бярозы на карані,
Як у роднай матулькі на калені.
Да выспаўся у бярозы на вярхушцы,
Як у роднай мамкі на падушцы.
Да выспаўся у бярозы на лісточку,
Як у роднай мамкі ў жываточку.
Да выспаўся у бярозы на сучочку,
Як у роднай мамкі на ручачках.
У чыстым полі пад белай бярозай,
Там моладзец краватаньку мосціць.
Мосціць, мосціць, пасцеленьку сцеліць,
Сцеліць, сцеліць, ён спаткі кладзецца.
Як усталі ды буйныя ветры,
Зламілі ў бярозы вярхушку,
Забілі молайца ў кравbooaці,
Ды некаму па ім кукаваці.
Прыляцелі тры зязюлі з бору:
Адна села ў молайца ў галоўцы,
А другая — на шчыранькім сэрцу,
А трэцяя — у беленькіх ножках.
Што ў галоўцы — то матуля яго,
Што на сэрцы яго — то жонушка яго,
Што у ножках — то сястра яго.
Жонка плачыць ад году да году,
Сястра плачыць паабеддзе,
Мамка плачыць ад веку да веку.

## 99

Стаяла бяроза пры дарозе,
А ніхто к бярозе не заходзе.

Як зайшоў, як заехаў бел-малойчык,
Папрасіўся у бярозы начаваці.

— А начуй, бел-малойчык, і не баўся,
Будзе на цябе родны татка сварыціся.

— Узбудзі, бел-бяроза, заўтра рана,
Узбудзі, бел-кудрава, заўтра рана.

Зашумела бел-бяроза сы вячора,
Зашумела бел-кудрава сы вячора:

— Уставай, бел-малойчык, ды паязджай,
Уставай, бел-кудравы, ды паязджай.

— Яшчэ рана, бел-бяроза кудравая.
Зашумела бяроза са паўночы:

— Уставай, бел-малойчык, ды паязджай,
Уставай, бел-кудравы, ды паязджай.

— Яшчэ рана, бел-бяроза кудравая.
Яшчэ рана, бел-бяроза кудравая.

Зашумела бел-бяроза як чуць дзянёк,
Зашумела кудравая як чуць дзянёк:

— Уставай, бел-малойчык, ды паязджай,
— Уставай, бел-малойчык, ды паязджай,

Ад'ехаўся бел-малойчык паўдарогі,
А забыўся бярозе дзенькаваці.

— Я вярнуся бел-бярозе падзенькую:
— А дзенькую, бел-бяроза, за начлег твой.

Начаваў я ў бярозы на лісточку,
Як у роднай мамкі ў жываточку.

Начаваў я ў бярозы на карэнні,
Як у роднай мамкі на каленях.

## 100

Ў чыстым полі пад белай бярозкай
Белы маладзец сачывачку косіць.
Пакасіўшы, краватачку сцеліць,
А паслаўшы, спатачкі кладзецца.
Як насталі буйныя ветры
І забілі малойца ў караватцы.
Некаму па ім кукаваці,
А й некаму па ім шчабятаці!
Прыляцелі тры зязюлькі з бору,
Прыляцела тры шэранькіх з бору,
Яны сталі па ім кукаваці,
Яны сталі па ім шчабятаці.
Адна села ў малайца ў галоўцы,
Другая — у малайца на сэрцу,
А трэцяя — у белых ножках яго.
А як сталі па ім кукаваці,
А як сталі па ім шчабятаці,
Як родныя маткі па дзіцяці.
Што ў галоўцы — то яго мамулька,
Што на сэрцу — то яго жанухна,
Што у ножках — то яго сястрыца.
Мамка плачыць ад веку да веку,
Сястра плачыць ад году да году,
Жана плачыць ад абеду да абеду.
Паабедаўшы пашла у садочык,
Звіла сабе на галоўку вяночык.

## 101

Як у полі пад белай бярозай,
Там малойчык краватку мосціць,
Намасціўшы, стаў пасцельку слаці,
А паслаўшы, стаў богу маліцца,
Памаліўшысь, стаў спаці лажыцца.
А ўзняліся буйныя вятрочкі,
А сарвалі ў бярозкі вяршочкі,
Ах, убілі молайца ў пасцелі.

Ах, некаму па молайцу плакаць!
Закукавала шэра зязюля ў барочку,
А зачула родна маманька ў дамочку.
Ажно яе цела абмярцвела,
Падламіліся ножанькі у яе,
Затрасліся белы ручанькі яе.
Прыляцела шэрай пташачкай к яму,
А сазвала перапёлачак к яму,
Стала плакаць у галованьках яго.
Жана мілая проціў сердзечка яго.
Маці плачыць з веку да веку,
Сястрыца плачыць з году да году,
Жана плачыць з рання да вечара,
А вечарам на вулку выхадзіла,
Дружка мілага за ручку вадзіла.

## 102

Andante

А ў са_ доч_ ку, у са_ доч_ ку
ста_ іць студ_ ня кле_ на_ ва_ я,
а ў ей ва_ да ха_ лод_ на_ я

А ў садочку, у садочку
Стаіць студня кленавая,
А ў ей вада халодная.

Тонкая ліпка, высокая,
На ей лісцё шырокае,
Вярхом неба даставала,

Лісцём землю прыкрывала.
Пад таею ліпанькаю
Стаіць ложак маляваны.

На том ложку казак ляжыць
Пасечаны, парубаны,
На тры часці падзелены.

Прыляцела тры зязюлькі,
А ўсе яны тры сівенькі.
Селі, ўпалі, закавалі.

Селі, ўпалі, закавалі,
Селі, ўпалі, закавалі,
Так сардэчна заплакалі.

Адна села край галоўкі,
А друга села край сэрданька,
А трэця села ў канцы ножак.

Край галоўкі — то матуля,
А край сэрданька — то мілая,
Ў канцы ножак — то сястронка.

Плача міла да нядзелі,
А плача сястра аж да року,
А маці аж да веку.

— Чаго міла, чаго плачаш,
Чы я табе не пакінуў,
[Чы я табе не пакінуў?]

Пакінуў табе пару коні вараненькіх,
Пару валоў сівуленькіх
І два сынкі маладзенькіх.

— Што мне, мілы, па тых канях,
Няма каму паязджаці,
А што жа мне па тых валах,

Няма каму закладаці,
А што жа мне па тых сынках,
Няма каму научаці.

# 103

♩=132

А ў чыс_ты_м(ы)по_ лі пад бе_ лай бя_ ро_ зай,
ў чыс_ты_м(ы)по_ лі пад бе_ лай бя_ ро_ зай.

А ў чыстым полі пад белай бярозай,
Ў чыстым полі пад белай бярозай,

Там маладзец атаваньку косіць,
Там маладзец атаваньку косіць.

Косіць, косіць, краватаньку мосціць,
Косіць, косіць, краватаньку мосціць.

Як ўзняліся ды буйныя ветры,
Як пачаліся ды дробныя дожджы,

Сарвала з бярозы макушку,
А убіла молайца ў падушку.

А некаму ж па ім кукаваці,
А некаму ж па ім ташнаваці.

Прыляцелі тры зязюлькі з бору,
Як родная сямеечка з дому.

Яны ж сталі па ім кукаваці,
Яны ж сталі па ім ташнаваці.

Адна села у буйнай галоўкі,
Другая села ля рацівага сэрца.

Другая села ля рацівага сэрца,
Трэцяя села ў скорынькіх ножках.

Мамка плачыць ад веку да веку,
Сястра плачыць ад году да году.

Сястра плачыць год да году,
А жонка ж плачыць ад 'беда да 'беда.

Мамка ж плачыць — раку разліваіць,
Сястра плачыць — раса выступаіць,

Сястра плачыць — раса выступаіць,
Жонка плачыць — расу высушаіць.

## 104

♩ = 67

Ў кан_цы грэ_б(ы)_лі, ў кан_цы грэб_ лі ста_ яць вер_ бы,

у_ се вер_ бы за_ шу_ ме_ лі.

Ў канцы грэблі,
Ў канцы грэблі стаяць вербы,
Усе вербы зашумелі.

Усе вербы,
Усе вербы зашумелі.
Адна вярба не шумела.

Адна вярба,
Адна вярба не шумела.
Пад сабою госця мела.

Госця мела,
Госця мела жаўнерыка,
Ляжыць жаўнер пад вярбою.

Ляжыць жаўнер,
Ляжыць жаўнер пад вярбою
На купінку галавою.

На купінку,
На купінку галавою,
Прыляцелі тры пташачкі.

Прыляцелі,
Прыляцелі тры пташачкі
Чорненькія, як галачкі.

Чорненькія,
Чорненькія, як галачкі.
Перва села у галоўках.

Перва села,
Перва села ў галоўках,
Друга села ў белых ножках.

Друга села,
Друга села ў белых ножках,
Трэцяя села ў шчырым сэрцы.

Што ў галоўках,
Што ў галоўках — сястра яго,
Ў белых ножках — жона яго.

Ў белых ножках,
Ў белых ножках — жона яго,
Ў шчырым сэрцы — мамка яго.

Мамка плача,
Мамка плача век ад веку,
Сястра плача год ад году.

Сястра плача,
Сястра плача год ад году,
Жана плача да 'беддзейка.

Жана плача,
Жана плача да 'беддзейка,
А па абедзе — госць прыедзе.

А па абедзе,
А па абедзе — госць прыедзе,
Дык я сяду ды й паеду.

## 105




Ехаў маладзец адзін па дарозе,
Ехаў маладзец адзін па дарозе.

А ў малайца таварышаў нету,—
Толькі ў малайца конік вараненькі,

Ля боку бяжыць ды бойкінькі хорцік.
Абняла малайца ды цёмная ночка.

Стаў маладзец а думаць-гадаці.
Дзе малайцу ночку начаваці?

— Заначую пад зялёным дубам.
Усхвацілась і хвіля і бура.

Зламіла а дубу вярхушку,
Прабіла малайцу макушку.

Ні пава па полю лятала,—
Малайцова маці сыночка шукала,
Сыночка шукала, поле праклінала:

— Багдай ты, поле, запрапала,
Як майго сыночка не стала.

## ТРЫ ПТУШАЧКІ ЛЯ ЗАБІТАГА МАЛОЙЧЫКА — II

### 106

♩=132

(І) Да (й) па_ мёр, па_ мёр бел
ма_ лой_ чык, (а) ой, па_ мёр,
па_ мёр бел ма_ лой_ чык.

(І) да й памёр, памёр бел малойчык,
Ой, памёр, памёр бел малойчык,

Ох, на чужой жа старонцы
І да ў вялікай сямейцы.

Да некаму па ім плакаці.
Да прыляцела тры ластаўкі.

Першая села у галовачках,
І першая села ў галовачках.

Другая села на грудачках,
І друга села ж на грудачках.

Трэцяя ж села у ножачках,
Трэцяя ж села й у ножачках.

Што ў галовачках — то ж маці яго,
Што ў галовачках — то ж маці яго.

Што на грудачках — сястра яго,
Што на грудачках — сястра яго.

Што ў ножачках — жана яго,
Што ў ножачках — жана яго.

Дзе ж маці плача — там рэчачка,
Дзе ж маці плача — там рэчачка.

Дзе сястра плача — там лужынка,
Дзе сястра плача — там лужынка.

Дзе жана плача — там суханька,
Дзе жана плача — там суханька.

## 107

Пад лесам, лесам пад цёмненькім,
Пад тым гаёчкам зялёненькім.

Там бел-малойчык убіт ляжыць,
Ой, убіт ляжыць, няжыў будзіць.

Прыляцела тры зязюлькі,
Прыляцела тры шэранькіх.

Першая ляцела — ў галоўках села,
Другая ляцела — у ножачках села,

Трэцяя ляцела — процiў сэрца села.
Што ў галоўках — то матулька,

Што процiў сэрца — то сястрыца,
Што у ножачках — то жанушка.

Матулька плачыць век да веку,
Сястрыца плачыць год да году,

А жанушка плачыць да абедзейка,
А паабедаўшы, у садок пайшла.

У садок пайшла, вянок звіла,
Звіўшы вянок, пакацiла.

На вуліцу пайшла — трох спалюбіла.
Адзін любіць — саян купіць,

Другі любіць — кабат купіць,
А трэці любіць — канчук купіць,

А трэці любіць — канчук купіць,
Канчук купіць — шкуру злупіць.

— Гэта табе, жонушка, саянікі,
Атласовыя кабацікі.

## 108




Памёр, памёр бел малойчык,
Ды некаму плакаць па ём.
Прыляцелі тры пташачкі [1].
Адна пала ў галовачках,
А другая — на грудачках,
А трэцяя — у ножачках.
У галоўках — то мамачка,
На грудачках — то сястрыца,
А ў ножачках — то жоначка.
Мамка плача — рэчка стала,
Сястра плача — палужжайка,

[1] Далей кожны радок паўтараецца два разы.

Жана плача — сухусенька.
Жана плача рыдаючы,
Ў мужа праўды пытаючы:
— Скажы, скажы, мой міленькі,
Ці жаніцца, ці журыцца?
— Не журыся, да жаніся,
З дробных дзетак не глуміся.

## 109




А што ў Кіеве і ў Чарнігаве,
Ой, рана, рана, і ў Чарнігаве [1].
Там ляжыць цела, як пабел бела.
Ой, ніхто к целу не прыступіцца.
Прыступілася маць прачыстая.
Прыляцела к яму тры ластушачкі,
Тры ластушачкі-шчабятушачкі.
Ой, адна села і ў галовачках,
Другая села проці сердзечка,
Трэццік села ў белых ножачках.
У галовачках — то мамка яго,
Проці сердечка — то сястра яго,
У белых ножачках — то жана яго.
Ой, мамка плача, як рэчка льецца,
Ой, жана плача, як раса стаіць.
Як раса спадзе, у жонкі жаласць прападзе.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ой, рана, рана».

## 110

♩=126

(й) На Ту_ ра_ ве, на
му_ ра_ ве да ля_ жыць пе_
ла, я_х(ы) дзе_ н(і), бе_ ла.

## 111

♩ = 62

Ой ты, го_ ра, го_ руш_ ка, да
эй, эй, го_ руш_ ка,
што ж ты мне спа_ ра_ дзі_ ла,
што ж ты мне спа_ ра_ дзі_ ла?

Ой ты, гора, горушка,
Да эй, эй, горушка,
Што ж ты мне спарадзіла [1].

Ляжыць цела бітае,
Да эй, эй, бітае
Пад ракітавым кустом.

Ніхто к таму целушку,
Да эй, не прыхіліцца,
Ніхто не прыхіліцца.

Прыляцелі да яго,
Да эй, эй, да яго
Усе тры ластушкі яго.

А первая ластушка,
Да эй, эй, ластушка —
Яго родна матушка.

А другая ластушка,
Да эй, эй, ластушка —
Яго родна сяструшка.

А трэцяя ластушка,
Да эй, эй, ластушка —
Яго міла жонушка.

Як матушка плакала,
Да эй, эй, плакала —
Глыбокі калодзісь стаў.

Як сёструшка плакала,
Да эй, эй, плакала —
Быстра рэчка пацякла.

Як жонушка плакала,
Да эй, эй, плакала —
Туман, роса апала.

---

[1] Трэці радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Туман, роса апала,
Да эй, эй, апала —
Міла гуляці пашла.

Міла гуляці пашла,
Да эй, эй, ды пашла,
Сабе другога нашла.

### 112

Ля крынічанькі, ля глыбокія [1]
Ой, лі, ой, люлі, ля глыбокія.

Ляжыць целечка, цела белае,
Ой, лі, ой, люлі, цела белае.

Ніхто к целечку не прыступіцца,
Ой, лі, ой, люлі, не прыступіцца.

Прыступілі тры ластавачкі,
Ой, лі, ой, люлі, тры ластавачкі.

Тры ластавачкі, тры лябёдачкі,
Ой, лі, ой, люлі, тры лябёдачкі.

Перва села ў яго галовачках,
Ой, лі, ой, люлі, у яго галовачках.

Другая села пасярод серца,
Ой, лі, ой, люлі, пасярод серца.

Трэцяя села каля ножачак,
Ой, лі, ой, люлі, каля ножачак.

— Што ў галовачках, то матка мая,
Ой, лі, ой, люлі, то матка мая.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Пасярод серца, то сястра мая,
Ой, лі, ой, люлі, то сястра мая.

Каля ножачак, то жана мая,
Ой, лі, ой, люлі, то жана мая.

Дзе матка плача, там рака льецца,
Ой, лі, ой, люлі, там рака льецца.

Дзе сястра плача, там крынічанька,
Ой, лі, ой, люлі, там крынічанька.

Дзе жана плача, там расы няма,
Ой, лі, ой, люлі, там расы няма.

## 113




А памёр, памёр малады казак,
Ой, лялё й рана, малады казак [1].
А ніхто ж к яму не прыступіцца.
А прыляцела а тры ластаўкі.
Ой, адна села на шчырым сэрцы.
Другая села ў галовачках.
Трэцяя села ў белых ножачках.
Што ў галовачках — то жана яго.
На шчырым сэрцы — то мамка яго.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ой, лялё й рана».

У белых ножаньках — то сястра яго.
Дзе мамка плача — там рэкі цякуць.
Дзе сястра плача — там ручаёчкі.
Дзе жана плача — там сухусенька.

## 114

♩=66

Ой, на га_ ры, ой, на га_ ры цэр_
каў ста_ іць. Пад цэр_ каў_ ю,
пад цэр_ каў_ ю ка_ зак ля_ жыць.

## 115

♩=69

Ля ка_ ло_ дзе_ жа, ля_ сцю_
дзе_ на_ га, ай, лё_
лі, лё_ лі, ля сцю_ дзе_ на_ га.

Ля калодзежа, ля сцюдзёнага,
Ай, лёлі, лёлі, ля сцюдзёнага [1].
Ай, ляжыць цела, як папера бела,
Ніхто к целічку ні прыступіцца.
Прыступіліся ды тры ластаўкі,
Ды тры ластаўкі, тры касатыя.
Ах, адна села ў галовачках,
Другая села проця сердзічка,
Трэцяя села ў белых ножачках.
Што ў галовачках — дык то маць яго,
Проця сердзічка — то сястра яго,
У белых ножачках — то жана яго.
А йдзе маць плачыць — там рака цячэць,
Дзе сястра плачыць — там ручай бяжыць,
Дзе жана плачыць — там расы нету.
Прыняслі цела ды й да цэркаўкі,—
Сама цэркаўка расчынілася,
Самі званы зазваніліся,
Самі свечачкі запаліліся,
Самі кніжачкі зачыталіся,
Самі папы дагадаліся,
Само целічка схаранілася.

## 116

Каліна,
Ой, памёр, памёр молад-малойчык,
Каліна! [2]
А некаму паплакаці.
Ай, прыляцелі ды тры пташачкі.
Адна пташачка села ў галоўках.
Другая пташачка — на грудачках.
Трэцяя пташачка — у ножачках,
У галовачках — родна мамачка,

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ай, лёлі, лёлі».
[2] Рэфрэн «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

А на грудачках — сястрыца.
А ў ножачках — мілая жана.
Дый сталі ж яны там плакаці.
Дзе мамачка — там рэчачка.
Дзе сястрыца — там крыніца.
Дзе мілая жана — расіцы няма.

## 117




Каліна,
А ў лузе, ў лузе ляжыць маладзец,
Каліна! [1]
А ў лузе, ў лузе ляжыць маладзец.
Ён сечан, рубан, хораша прыбран.
Прыляцелі тры зязюлечкі.
Адна ўпала на галовачку.
Другая ўпала на ножачкі.
Трэцяя ўпала на сэрданька.
Што на галоўцы — мамачка яго.
Што на ножачках — сястрыца яго.
Што на сэрданьку — мілая яго.
Мамка плача — рэчачкі бягуць.
Сястра плача — ручайкі ідуць.
Мілая плача — замуж хоча.

---

[1] Рэфрэн «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

## 118




## 119




## 120

Ляцела страла да і ўдоўж сяла,
Ох, і я лелю, да і ўдоўж сяла! [1]
Убіла страла добрага молайца
Па добраму молайцу некаму плакаці.
Мамка старэнькая, сястра маленькая.
Жана малада, выша горада.
Дзе мамка плача, там рэкі цякуць.

---

[1] Другая палавіна кожнага радка паўтараецца з рэфрэнам «Ох, і я лелю».

Дзе сястрычанька — там крынічанька.
Дзе жана плача, там расы няма.
Мамка плача век да веку.
А сястра плача год да году.
А жана плача да абеданька.
А паабедаўшы, да звіла вянок.
Звіла вянок да й пашла ў танок.
А ў танку трох палюбіла, усіх надарыла.
Аднаму дала шаўковы платок.
Другому дала залаты персцянёк.
А за трэцяга да й сама пашла.

12. Зак. 100

## 121

Стрыкуча крапіва балотная,
Журліва свякрова нягодная.

Біла нявесту як дзень, дак ноч,
Гнала нявесту з двара далоў:

— Ідзі, нявеста, у чыста поле,
Скінься, нявеста, рабінай.

Ванечка-сыночык з вайны ідзець,
Прышоўшы ва двор, дзіва кажыць:

— Ах, маць мая радзімая,
Весь свет праехаў, дзіва не бачыў.

На сваём полі дзіва ўбачыў:
Стаіць рабіна кудравая.

Без ветру шатаецца,
Без веццялась схілілася.

Без дождджу макрусенька,
Без сонца краснюсенька.

— Ідзі, Ванечка, у нову клець,
Вазьмі, Ванечка, войстры й меч,

Вазьмі, Ванечка, войстры й меч,
Сячы рабіну, вярхушачку.

— Сякнуў я раз — схілілася,
Сякнуў у другі — заплакала,

Сякнуў у трэці — прамовіла:
— Ванечка, ты дружок мой,

Не рабіну сячэш, да жану сваю,
Не сучча цярэбіш, да дзяцей сваіх.

Як рассердзіўся Ванечка,
Прышоў дамой к мацеры:

— А не маць ты мая радзімая,
Змяя ты лятучая.

Ухадзіла жану маю і дзяцей маіх,
Як сена ў пагоду.

## 122




Крапіўка мая жучлівая,
Крапіўка мая жучлівая,

Свякроўка мая журлівая,
Свякроўка мая журлівая.

Журыла мяне як дзень, так ноч:
— Ідзі, нявехна, ад дому проч.

Ідзі, нявехна, ў чыста поле,
Ой, стань, нявехна, пры дарозе.

Ой, стань, нявехна, пры шырокай,
Як будзе мой сын з вайны ехаць.

Будзе з калінкі дзівіціся.
Як прыдзе дамоў — хваліціся.

— Ой, праехаў Русь, Украіну,
Ой, не стрэў такую каліну.

Без дожджу яна высокая,
Без сонца яна чырвоная.

Без ветру яна схілілася,
Мне, маладому, скланілася.

— Ой, вазьмі, сынку, ты вострую меч,
Ой, ідзі, сынку, каліну сеч.

Ой, узяў жа ён ды войструю меч,
Ой, пайшоў жа ён калінку сеч.

Секануў ён раз — кроў свіснула,
Секануў другі — прамовіла:

— Не каліну сячэш — жану сваю.
— Ой, жана мая найвярнейшая,

Ой, дружка мая наймілейшая,
Хто ж табе сказаў тут стаяці?

— Ой, сказала мне твая маці,
Ой, сказала мне твая родная.

Ой, узяў жа ён ды вострую меч,
Ой, зняў жа матцы галовачку з плеч.

— От табе, мамка, радасць мая,
От табе, мамка, разлука мая.

## 123




Крапіўка ж мая пяклівая,
Да свякроўка ж мая журлівая.

Да свякроўка мая журлівая
Да журыла ж мяне як дзень, так ноч.

Да журыла мяне як дзень, так ноч,
Праганяла ж мяне ад сына проч.

— Да йдзі, нявехна, далінаю,
Да стань, нявехна, рабінаю.

Да тудою будзе сынок іці,
Да йдучы будзе дзівіціся.

Да йдучы будзе дзівіціся,
Да прышоўшы дамоў, хваліціся.

— Да мамачка ж мая радненькая,
Да бачыў я дзіва дзіўненькае:

Без дажджу рабіна макрусенька,
Без сонца рабіна яснюсенька,

Без ветру рабіна хіляецца,
Без ветру рабіна хіляецца.

— Да бяры, сыночак, ты ж войстру меч,
Да зрубі рабінцы галоўку з плеч.

Першы раз цюкнуў — цяжка ўздыхнуў,
Другі раз цюкнуў — дык кроў пайшла.

Другі раз цюкнуў — дык кроў пайшла,
Трэці раз цюкнуў — прамовіла:

— Не рабіну сячэш — жонку сваю,
Не голле цярэбіш — дзетак сваіх.

Не капаўшы калодзеж — не піць вады,
Паслухаўшы маткі — не мець жаны.

## 124




Ды крапіва, ды крапівушка пяклівая,
Як у мяне свякровачка бурклівая.

Сварылася на нявехну як дзень, так ноч.
— Ідзі, ідзі, нявехна, ад мяне ўпроч.

Не станавіся ж ты ў лузе калінаю,
Стань жа ты пры дарозе арабінаю.

Да ехацьме твой міленькі з Украіны,
Да й угледзіць арабіначку за тры мілі.

— Да сыночак мой, да сакалочак,
Вазьмі ў ручкі да тапарочак.

Вазьмі ў ручкі да тапарочак,
Да зрубі ты ў арабіначчы саменькі вяршочак.

Секануў ён раз — цела бела,
Секануў другі — кроў канула.

Секануў другі — кроў канула,
Секануў трэці — слова мовіла:

— За што, за што, мой міленькі так мяне караеш,
Ці ты сваёй роднай мамцы патураеш?

## 125




Жычка-крапіўка стрыклівая,
Свякруха мая журлівая.

А журыла мяне як дзень, так ноч,
Выганяла мяне ад сына ўпроч.

— Ідзі, нявехна, даліною,
Скінься, нявехна, рабіною.

Будзе мой сынок з вайны іці,
Будзе з рабінкі дзівіціся.

Будзе з рабінкі дзівіціся,
А прышоўшы дамоў, хваліціся:

— Ой, мамка мая, старэнькая,
Бачыў я дзіва дзівенькае.

Без дажджу рабінка макрусенька,
Без сонца рабінка яснюсенька.

Без сонца рабінка яснюсенька,
Без ветру рабінка шатаецца.

— Ідзі, мой сынок, у нову клецЬ,
Вазьмі, мой сынок, войструю меч.

Вазьмі, мой сынок, войструю меч,
Да ссячы рабінцы галоўку з плеч,

Да ссячы рабінцы галоўку з плеч.
Першы раз цюкнуў — прамовіла,

Другі раз цюкнуў — кроў капнула,
Трэці раз цюкнуў — заплакала.

— Не рабіну сячэш — жану сваю;
Не голле цярэбіш — дзетак сваіх.

## 126




Крапіўка мая жыглівая,
Свякроўка мая журлівая.

Журыла мяне як дзень, так ноч
І выправіла ад сябе проч.

— Ідзі, нявестка, ў роўна поле,
Да й стань, нявестка, рабінаю.

Да й стань, нявестка, рабінаю,
Да й стань, нявестка, кудраваю.

Як будзе мілы з вайны ехаць,
То стань прад ім жалюсенька,

Схілі галоўку нізюсенька,
Схілі галоўку нізюсенька.
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
— Бяры, мой сынок, сякерачку,
Зрубі рабінцы галовачку.

Адзін раз махнуў — трэска пала,
Другі раз махнуў — жалка стала.

Трэці раз махнуў — прамовіла:
— Не сячы рабінцы галовачку,
Бо гэта ж родная жоначка.

## 127

♩ =70

Кра_ піў_ ка ма_ я жыж_лі_ ва_ я,
свя_кроў_ ка ма_ я жур_ лі_ ва_ я.

Крапіўка мая жыжлівая,
Свякроўка мая журлівая.

Журыла мяне як дзень, так ноч,
Прагнала мяне ад сябе проч.

— А йдзі, нявестачка, ў чыста поле,
А стань, нявеста, вярбінкаю.

Будзе мой сынок з вайны ісці,
Будзе табе, вярбінка, дзівіціся.

Будзе табе, вярбінка, дзівіціся,
Прышоўшы дамоў, хваліціся:

— Мамачка мая, радненькая,
Бачыў я дзіва дзіўленькае:

Стаіць у полі вярбіначка,
Яна без ветру схілілася.

Яна без ветру схілілася,
Мне у ножанькі скланілася.

— Вазьмі, сыночак, войстранькі меч,
А йдзі, сыночак, вярбінку сеч.

Сekануў я раз — трэска пала,
Сekануў другі — кроў капнула.

Сekануў другі — кроў капнула,
Сekануў трэці — прамовіла:

— Не вярбінку сячэш — жану сваю,
Не веццe цярэбіш — дзетак сваіх.

— Хто цябе, мілая, тут пасадзіў,
Хто цябе, мілая, тут паліваў?

— Пасадзіла мяне мамка твая,
Палівалі мяне сёстры твае.

## 128




Крапіўка мая пяклівая,
Свякрухна ж мая сварлівая.

Сварыла ж мяне як дзень, так ноч,
Да гнала прочкі проці ночкі.

— Да ідзі, нявехна, ў чыста поле,
Да скінься, нявехна, рабінкаю.

Да скінься, нявехна, рабінкаю,
Скінься, нявехна, кудраваю.

Як будзе мой сын з вайны ісці,
Будзе з рабінкі дзівіціся.

Будзе з рабінкі дзівіціся,
Прышоўшы дамоў, хваліціся.

— Ой, мамка, мая радненькая,
Да бачыў я дзіва дзіўленькае:

Да стаіць у полі рабіначка,
Стаіць у полі кудравая.

Да й без ветрыку шатаецца,
Да й без дожджыку макрэнькая.

— Да йдзі ж, мой сынок, у нову клець,
Да й вазьмі, сынок, да й востру меч.

Да й вазьмі, сынок, да й востру меч,
Да зрубі рабінцы галоўку з плеч.

Першы раз цюкнуў — прамовіла:
— Не рабінку сячэш — жану сваю.

А што ветачкі — а ўсё дзетачкі,
А што лісточкі — то ўсё сыночкі.

— Ах, мамка мая, ізрадніца,
Ізрадзіла мне дзве душачкі.

## 129




Ой, мамка й мая й любімая,
Ой, мамка мая й любімая.

Увесь свет прайшоў — дзіва не бачыў,
Назад вярнуўся — дзіва ўбачыў,

Назад вярнуўся — дзіва ўбачыў:
Стаіць у полі рабіначка.

Стаіць у полі рабіначка,
Без ветрыку яна шатаецца,

Без ветру яна шатаецца,
Мне, маладому, кланяецца.

— Сынок мой радзімы, ідзі ў клець,
Ідзі у клець, вазьмі ж ты меч.

Ідзі ў чыста поле рабінку сеч,
Ідзі ў чыста поле рабінку сеч.

Сэкануў я раз — трэска пала,
Сэкануў другі — кроў капнула.

Сэкануў другі — кроў капнула,
Сэкануў трэцці — прамовіла:

— Не рабінку сячэш — жану сваю,
Не веццe цярэбіш — дзеткі свае.

— Хто цябе, рабінка, тут пасадзіў?
— Пасадзіла мяне мамка твая.

Ай, мамка твая, свякроў мая,
Ай, мамка твая, свякроў мая.

— Хто ж цябе, рабінка, тут паліваў?
— Палівалі мяне сёстры твае.

Ай, сёстры твае, залвы мае,
Ай, сёстры твае, залвы мае.

— Хто ж цябе, рабінка, тут даглядаў,
Хто ж цябе, рабінка, тут даглядаў?

— Даглядалі мяне браты твае,
Браты твае, дзеверы мае.

## 130

♩=116

Стрык_ лі_ ва кра_ пі_ ва ба_
лот_ ка_ я, стрык_ лі_ ва кра_
пі_ ва ба_ лот_ на_ я.

Стрыкліва крапіва балотная [1],
Журліва свякрова няродная.
Журыць нявестку як дзень, так ноч,
Гоніць нявестку скрозь ноч упроч.
— Ідзі, нявестка, скрозь ноч упроч!
Ідзі ж, нявестка, далінаю,
А стань, нявестка, рабінаю.
А йшоў Івачка з салдацікаў,
А й відзеў дзіва дзіўленькае:
Без ветру рабіна калышыцца,
Без сонца рабіна — як жар гарыць,
Без дажджу рабіна — макросенька.
— Мамачка ж мая радненькая,
Відзеў жа дзіва дзіўленькае:
Без ветру рабіна калышыцца,
Без сонца рабіна, як жар гарыць,
Без дажджу рабіна макрусенька.
— А й вазьмі ж ты, сынку, востры меч,
Ссячы рабіну кудравую.
Ай, раз секануў — дык кроў пайшла,
Другі раз секануў — прамовіла:
— Не рабінку сячэш — жану сваю,
Не трэскі ламаеш — дзяцей сваіх.
— Мамачка ж мая, радзіцелка,
А й не ёсць ты мне радзіцелка,
А й ёсць жа ты мне злабіцелка.

## 131

Andante

Ка_ля пло_ту кра_ пі_ вуш_ ка ўсё кус_ лі_ ва_
я, ёсць у мя_ не свя _ кро_ вуш_ ка
ўсё жур_ лі_ ва_ я, ёсць у мя_не _я.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Каля плоту крапівушка ўсё куслівая.
Есць у мяне свякровушка ўсё журлівая [1].

Ой, журыла як дзень, так ноч, прэч праганяла,
Яна мяне, маладую, з свету зжывала.

Ой, пайду я, маладая, ў поле роўнае,
Ой, стану я, маладая, хоць рабіначкай.

Ішлі хлопцы — два малойцы з Украіначкі,
Увідзелі рабіначку за тры мілечкі.

Сталі яны на дарожцы, падзівіліся,
А прыйшоўшы дахатачкі, пахваліліся:

— А мая ж ты матулечка, я ўвесь свет прайшоў,
Нідзе такой рабіначкі жаркай не найшоў.

## 132




## 132₁




---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Крапіўка мая жыглівая [1],
Свякрухна мая журлівая.
Журыла мяне як дзень, так ноч,
Праганяла мяне ад сябе проч.
— Проч, проч, нявехна, проч, нябога,
Ідзі, нявехна, у чыста поле,
Да стань, нявехна, рабінкаю.
Да будзе твой муж з вайны іці,
Да будзе з рабінкі дзівіціся,
Да прышоўшы дамоў, хваліціся:
— Мамка мая радненькая,
Бачыў я дзіва дзівенькае.
Стаіць у полі рабіначка,
Стаіць у полі кудравая.
Без дажджу рабіначка макрусенька,
Без ветру рабіна шатаецца.
— Вазьмі, сыночак, сякерачку
Да ссячы, сыночак, рабіначку.
Першы раз сакануў — трэска адпала,
Другі раз секануў — кроў ганула,
Трэці раз секануў — абазвалася:
— Не рабіну сячэш, жонку сваю,
Трэска адпала — дзеткі твае,
Кроў ганула — слёзкі мае,
Адзывалася — жонка твая.

## 133

А ў гародзе крапівачка жарлівая,
Ёсць у мяне свякроўка сварлівая.

Журыць мяне, маладую, як дзень, так ноч.
— Ідзі, ідзі, нявестачка, ад мяне проч.

Ідзі, ідзі, нявестачка, ў чыста поле,
Там жа табе дарожачка бласлаўлёна.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Не стой, не стой, нявестачка, пад калінай,
Да стань, да стань, нявестачка, пад рабінай.

Як выехаў міленькі з Украіны,
Як увідзеў рабіначку за тры мілі,

Вяршок яе чырвоненькі за чатыры.
Як прыехаў яе мілы з Украіны:

— Што я відзеў, мая мамка, за дзераўца,
Як я выехаў з Украіны,

Я увідзеў тое дрэўца за тры мілі,
А вяршок яе чырвоны за чатыры.

— Рабіначка, мой сыночак, рабіначка,
Да вазьмі ты, мой сыночак, тапарочак,

Зрубі гэту рабіначку ў кладочак.
Як секануў адзін разок — цела бела,

Як секануў другі разок — кроў канула,
Як секануў трэці разок — адмовіла:

— Нашто, нашто, мой міленькі, так рубаеш,
Ці на сваю стару мамку патураеш.

— А каб цябе, матулечка, пярун забіў,
Як я сваю мілу з свету згубіў,

Як я сваю мілу з свету згубіў,
Сваіх дзетачак маленькіх асіраціў.

## 134



Крапіўка мая стрыклівая [1],
Свякроўка мая журлівая.
А журыць мяне як дзень, так ноч.
— А йдзі, нявеста, ад мяне проч.
А стань, нявеста, пры дарозе,
Абярніся, нявеста, калінушкай.
Як будзіць сынок з вайны ісці,
А будзіць жа ён дзівіціся,
Прышоўшы дамоў хваліціся:
— Мамачка мая раднюсенька,
Відзеў я дзіва дзіўнюсенька:
Пры дарожаньцы калінушка.
Без ветру яна калышацца,
Без сонца яна краснюсенька,
Без дожджу яна макрусенька.
— Вазьмі, сыночак, ты войстру меч,
Ссячы калінцы вяршочак з плеч.
Першы раз секануў — дык цела знаць,
Другі раз секануў — дык кроў пашла,
Трэці раз секануў — прамовіла:
— Не сячы мяне — жана твая.
— Хто цябе пасадзіў? — Мамка твая.

## 135




Крапіўка мая стрыклівая,
Крапіўка мая стрыклівая.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Свякроўка мая журлівая,
Свякроўка мая журлівая.

Журыла мяне як дзень, так ноч,
Праганяла ж мяне ад сябе проч.

— А йдзі, нявеста, ты далінкаю,
А стань, нявеста, ты рабінкаю.

Будуць салдаты з вайны ісці,
Ай, будуць дзіва дзівіціся.

Ай, будуць дзіва дзівіціся,
Прышоўшы у двор — хваліціся.

— Ай, маць мая, мацьродненькая,
Ай, відзеў я дзіва дзіўненькае,

Ай, відзеў я дзіва дзіўненькае —
Стаіць рабінка пры дарозе.

Без ветру яна калышыцца,
Без дажджу яна макрэнькая.

— Бяры, сыночак, тапарочак,
А ссячы, зрубай рабіначку.

А ўзяў сыночак тапарочак,
А й раз секануў — цела бела.

Другі секануў, дык кроў пайшла,
Трэці раз секануў — прамовіла.

Трэці раз секануў — прамовіла:
— Не рабінку сячэш — жану сваю.

Не трэскі ляцяць — твае дзеткі,
Не кроў бяжыць — твае слёзкі.

## 136




Крапіўка мая шумлівая,
Крапіўка мая шумлівая.

Свякроўка мая журлівая,
Свякроўка мая журлівая.

Журыла мяне як дзень, так ноч:
— Ідзі ад мяне, нявестка, проч.

Ідзі ад мяне ў роўна поле,
А стань, нявестка, пры дарозе.

А стань, нявестка, пры дарозе,
Ды абярніся рабінаю.

Будзіць твой мілы з вайны ісці,
Будзіць з рабінкі дзівіціся,

А што без ветру калышыцца,
А што без дожджу — макрусенька.

А што без дожджу — макрусенька,
А што без сонца — сухусенька.

Секану я раз — трэска ляціць,
Секану другі — цела бела.

Секану другі — цела бела,
Секану трэці — прамовіла:

— Не сячы мяне — жана твая.
— Хто цябе садзіў? — Мамка твая.

А твая мамка не навучніца,
А не наўчыла — разлучыла.

## 137




## 138




Крапіўка мая стракліваяя,
Свякруха мая журлівая.

Журыла мяне як дзень, так ноч,
Прагнала мяне із хаты проч.

— А йдзі, нявехна, далінаю,
А стань жа ты там калінаю.

Сын будзе табой дзівіціся,
Прыедзе дамоў хваліціся:

— Стаіць каліна даліною,
Без сонца яна краснёханька.

Без ветру яна калышыцца,
Без дожджыку ўся макроханька.

— Вазьмі ты, сынку, свой востры меч,
Ды тую ссячы каліначку.

Ударыў ён раз — схілілася,
Ударыў другі — заплакала:

Я й не каліна — жана твая,
Адросткі мае — дзеці твае.

## 139




## 140



## 141




## 142




Ой, у полі ды каліданька шумлівая,
Ёсць у мяне ды свякровачка журлівая [1].

Журыць яна мне галовачку як дзень, так ноч,
— Ідзі, ідзі, нявестанька, ад мяне проч.

Ідзі, ідзі, нявестанька, далінаю,
Абярнісь ты, нявестанька, калінаю.

---

[1] Другі радок кожнай страфы, акрамя сёмай, паўтараецца два разы.

Будзе ехаць твой міленькі з Украіны,
Ён увідзе гэту калінку за тры мілі.

— Ой, мамачка мая родная, увесь свет я прайшоў,
А не бачыў такой каліны, як тут знайшоў.

— Бяры, сынку, сякеранькуваструсеньку,
Зрубі, сынку, каліыаньку нізюсенька.

Секануў я адзін раз — забялела,
Секануў я другі раз — кроў патанула,
Секануў ■ трэці раз — загаварыла:

— Ой, за што ж ты, мой міленькі мяне сячэш,
Ці ты сваёй ліхой матулі паслухаеш.

А бадай цябе, матуля, сырая зямля,
Як ты мяне, маладзеньку, разлучыла.

## 143




Да ў лузе каліначка жарлівая,
Ё ў мяне свякровачка сварлівая.

Ё ў мяне свякровачка сварлівая
Да сварыцца на мяне як дзень, так ноч.

Да сварыцца на мяне як дзень, так ноч:
— Ідзі, мая нявехначка, ад мяне ўпроч.

Не станавіся ў лузе калінаю,
Стань сабе ў чыстым полі рабінаю.

Да будзе ехаць мілы з Украіны,
Да ўгледзіць рабіну за тры мілі.

Да ўгледзіць рабіну за тры мілі.
— З'ездзіў я, мая матка, ўсю Украіну.

З'ездзіў я, мая матка, ўсю Украіну,
Да не бачыў, мая матка, такого дзіва.

Да не бачыў, мая матка, такога дзіва,
Стаіць у чыстым полі рабіна.

Стаіць у чыстым полі рабіна,
Да што яна без сонейка яснюсенька.

Да што яна без сонейка яснюсенька,
Да што яна без дожджыку макрусенька.

— Вазьмі, мой сыночак, тапарочак,
Да ссячы рабіну пры карэнні.

Да ссячы рабіну пры карэнні.
Першы раз секануў — белае цела.

Першы раз секануў — белае цела,
Да другі раз секануў — кроў капнула.

Да другі раз секануў — кроў капнула,
Трэці раз секануў — слова мовіла.

Трэці раз секануў — слова мовіла:
— Да гэта ж не рабіна — твая міла.

Да гэта ж не рабіна — твая міла,
Чырвоныя веткі — нашы дзеткі.

Чырвоныя веткі — нашы дзеткі.
Што ж ты мне, мая матка, ізрабіла?

Што ж ты мне, мая матка, ізрабіла,
Нашто ты мяне, маладога, заўдавіла?

Нашто ты мяне, маладога, заўдавіла,
Дзеткі нашы драбненькія пасіраціла?

## 144

♩ =66

Ой, у са_ дзе кра_ пі_ вуш_ ка пяк_

лі_ ва_ я, ёсць у мя_ не свя_

кро_ вач_ ка свар_ лі_ ва_ я.

## 145

♩ =69

Ў лу_ зе ка_ лі_ на ка_ ра_ ні_ ва_ я,

да свя_кру_ ха ма_ я свар_ лі_ ва_ я.

У лузе каліна каранівая,
Да свякруха мая сварлівая.

Да свякруха ж мая сварлівая,
Да сварылася са мной як дзень, так ноч.

Да сварылася са мной як дзень, так ноч,
Праганяла мяне ад сябе проч.

— Ідзі, нявехна, у чыста поле
Да і сядзь, нявехна, калінаю.

Да будзе ісці муж з вайны, дзівіціся,
Да прышоўшы дамоў, хваліціся.

— Мамачка мая, радненькая,
Бачыў я дзіва дзіўненькае.

У чыстым полі каліна красненькая,
Ветру няма — калышыцца.

Ветру няма — калышыцца,
Дажджу няма — раса стаіць.

— Ідзі, сынок, у нову клець,
Вазьмі, сынок, вайстрэйшу меч.

Ідзі, сыночак, у чыста поле
І ссячы каліну з верху ў камель.

Секануў первы раз — кару злузаў,
Секануў другі — кроў капнула.

Секануў трэці раз — абазвалася:
— Не каліну сячэш, а жану сваю.

— Хто цябе, жана, тут пасадзіў?
— Пасадзіла мяне маці твая.

— Садзіся, жана, на майго каня,
Паедзем, жана да майго двара.

Паедзем, жана, да майго двара.
Сустрэла мамачка за новым дваром

Сыночка свайго з зялёным віном,
А нявестачку з атраваю.

Сын віна не піў, пад каня выліў,
А атрутачку напалам выпіў.

— Калі ўмела, маці, пасылаці,
Умей, маці, пахаваці.

Пахавай мяне ля ганачку,
Жану маю на другом баку.

Пасадзі на мне бярозачку,
На жане маёй яварыначку.

Каб мы раслі, схіліліся,
Лісткі з лісткамі зляпіліся.

Каб з нас людзі дзівіліся,
Што на тым свеце злюбіліся.

## 146




Была ў лесе дубровачка шумлівая,
Была ў мяне свякровачка сварлівая.

Сварылася на мяне як дзень, так ноч:
— Ідзі, мая нявехначка ад мяне ўпроч.

Не садзіся ў цёмным лузе калінаю,
Да садзіся ў чыстым полі рабінаю.

Будзе ехаць мой сыночак з Украіны
Да убачыць рабіначку за тры мілі.

— Я ж, мая мамачка, увесь свет прайшоў,
Ну такой рабіначкі нідзе не нашоў,

Што без ветру хіляецца,
І мне, маладому, кланяецца.

— Не хваліся, мой сыночак, не хваліся,
Да вазьмі ж ты, мой сыночак, сякерачку.

Да зрубі ж ты, мой сыночак, рабіначку,
Першы раз секануў — цела бела.

Другі раз секануў — кроў пабегла,
Трэці раз секануў — азвалася:

— Не сячыся, мой міленькі, не сячыся,
Да ідзі дадому ажаніся.

А табе ж, маладому, жонка будзе,
А маім дробным дзеткам мамкі не будзе.

— А хто ж цябе, мая міла, тут пасадзіў?
— Пасадзіла мяне тут маці твая.

Палівалі мяне тутака сёстры твае,
А плакалі па мне дзеткі мае.

## 147

♩ =78

(і)Ка_ля пло_ ту да кра_ пі_ вущ_ ка пяк_ лі_ ва_ я,

(і)ёсць у мя_ не свя_ кроў_мам_ка свер_ лі_ ва_ я.

## 148

♩ =39

Ой, у по_ лі кра_ піў_ ка ля_к(ы)-лі_ ва_ я,

бы_ ла ў мя_не свя_ кроў_ ка жур_лі_ ва_ я.

Ой, у полі крапіўка пяклівая,
Была ў мяне свякроўка журлівая.

А журыла мяне як дзень, так ноч,
Праганяла мяне ад сябе проч.

— Ідзі, ідзі, мая нявехна, ад мяне проч,
Ды й скінься ў полі ды рабінаю.

А твой муж з паходу — дзівіцьмецца,
А прыдзе дадому — ды хваліцьмецца.

— Усю Расею сышоў і Руменію,
Не бачыў такога дзіва, як з рабінаю.

— Ой, ідзі, мой сынок, у нову клець,
Вазьмі, мой сынок, ды востру меч.

Вазьмі, мой сынок, ды востру меч
Ды сячы, зрубі рабіну з плеч.

Першы раз рубануў — трэска ўпала,
Другі раз рубануў — кроў капнула.

Другі раз рубануў — кроў капнула,
Трэці раз рубануў — абазвалася:

— Не рабінку сячэш, не зялёную,
Ды сваю жану маладую.

Ды й не трэскі ляцяць, не бяленькія,
Ды твае дзеткі драбненькія.

**149**

♪ =160

Бо_ жа ж мой! Кра_піў_ ка ма_ я
стрык_лі_ ва_ я, бо_ жа ж мой!

Божа ж мой,
Крапіўка мая стрыклівая.
Божа ж мой! [1]
Свякроўка мая журлівая.
Журыла мяне як дзень, так ноч.
Выпраўляла мяне ад сына проч.
А йдзі, нявехна, далінаю.
А скінься, нявехна, рабінаю.
Будзе мой сын з вайны ісці.
Будзе з рабінкі дзівіціся.
Прыйшоўшы дамоў, хваліціся.
Бачыў я дзіва дзіўнюсенька.
Без сонца рабіна яснюсенька.
Без ветру рабіна калышыцца.
Без дажджу рабіна макрусенька.
Да як узяў ён тапарочак.
Да пайшоў рабіну ён рубаці.
Не трэскі ляцяць — дзеткі яе.
Не дождж ідзець — слёзкі яе.

## 150

Каліна, ой, ель мая зялёная, каліна [2],
Свякроў мая шалёная,
Журыла мяне як дзень, так ноч,
Выгнала мяне з хаткі проч.
— Ідзі, нявестка, у чыстае поле
Ідзі стань там калінкаю,
І стань ты там шумліваю.
Будзіць мілы з вайны ехаць,
Будзіць з калінкі дзівіцца.
Ехаў міленькі з вайны,
Стаіць калінка ў лузе,
Сівому каню пакланілася,
А ветачкамі зацапілася.
Прыехаў мілы з вайны дамоў:

---

[1] Рэфрэн «Божа ж мой» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.
[2] Рэфрэн «Каліна» паўтараецца ў пачатку і ў канцы кожнага радка.

— Мамачка мая, родненькая,
Я свет праехаў, не відзеў дзіва,
Як я відзеў пад калінкаю.
— Бяры, сынку, востры меч,
Ідзі ў поле калінку сеч.
Пайшоў мілы ў поле калінку сеч.
Секануў разок — трэсачкі лятуць,
Секануў другі — адгукнулася:
— Я не каліна — твая мілая,
А не трэсачкі — твае дзетачкі.

## 151

Калюча трава асотачка,
Ліхо серца свякроўчына.
Слала нявестку ў ціхі Дунай па вадзіцу,
Слала й праклінала:
— Да каб ты туды не дайшла
Й адтуль не прышла.
Ажно нявестка адтуль ідзець,
Поўны судзенцы вады нясець.
Слала нявестку ў шчыры бары па ягадачкі,
І ена слала й праклінала:
— Каб ты туды не дайшла
І адтуль не прышла.
Ажно нявестка адтуль ідзець,
Поўны судзенкі ягадак нясець.
Слала нявестку ў чыста поле па рабіначку.
І яна слала й праклінала:
— Кабы туды не дайшла
І адтуль не прышла.
Ажно нявестка адтуль не прышла —
Рабінкай стала.
Ехаў сынку з вайны ваяваўшы,
І замеціў тую рабіну.
Прыехаў дадому і стаў казаць маці:
— Ох, маць мая, матулечка,
Да дзе я быў, да дзе ездзіў,
Я не відзеў такога дзіва.

Як у сваім чысценькім полі.
Без ветру рабіна шатаецца,
Без дажджу рабіна макрусенька,
Без сонца рабіна яснусенька.
— Ох, сынку мой, сынулечка!
Ідзі ў стайню, у новую,
Вазьмі шабельку ваструсеньку,
Сажні рабіне вярховачку —
Самую маковачку.
Як сцяў рабіне вярховачку —
Самую маковачку,
Гарачая кроў палілася,
Мне, маладому, на падалочкі,
Майму коніку на капыточкі.
— Ох, маць мая, матулёчка!
Не зняў рабіне вярховачку —
Сваёй жане галовачку.
Ох, маць мая, матулёчка!
Не ўмела нас пасылаць,
Умей цяпер нас пахаваць.

14. Зак. 100

## СВЯКРУХА ЗАКЛІНАЕ НЯВЕСТКУ У РАБІНУ — II

### 152

♪ =145

Свя_к(ы)_роў ня_ вест_ ку бі_ ла — ка_ ра_ ла,
бі_ ла — ка_ ра_ ла, у_проч пра_га_ ня_ ла.

Свякроў нявестку біла-карала,
Біла-карала, упроч праганяла.

— Йдзі, нявестка, упроч на ўсю цёмну ноч.
Стань сабе ў полі хоць каліною.

Хоць каліною, хоць чырвонаю.
Туды мой сынок [illegible] вайны будзе ісці.

З цябе, каліна, дзівіцца будзе.
Прышоўшы дамоў, хваліцца будзе:

— Мамачка мая, родная мая,
Увесь свет абышоў, такога дзіва нідзе не бачыў:

А ў полі, ў полі на нашай ніве
Каліна стаіць, без ветру шуміць.

На ёй голлейка да зямлі ляжыць,
На ёй расіца без дажджу стаіць.

На ёй ягадкі без сонца спеюць,
На ёй ягадкі без сонца спеюць.

Пайдзі, сынок, ў клець, вазьмі войстру меч —
Зрубі каліну у палавіну.

Пайшоў сынок у клець, узяў войстру меч
Зрубаць каліну у палавіну.

Секануў параз — цела белае.
Секануў другі — кроў капнула.

Секануў трэці — яна мовіла:
— Міленькі ты мой, дружына мая.

Не рубі мяне — я жана твая.
Гэта голлейка — косачкі мае,

Гэта расіца — слёзачкі мае,
Гэты ягадкі — дзетачкі твае.

Яны селі і паехалі,
Ой, выйшла маці дзяцей страчаці.

Сыну вынесла зялёна віна,
Маладой нявесце — белу атруту.

Сын віна не піў, пад каня разліў,
А белу атруту напалам дзяліў.

— Ой, не ўмела, маці, ты нас пераняці,
Дак сумей, маці, нас пахаваці.

Сына пахавала каля цэркаўкі,
А нявестку на другім баку.

На сыну пасадзіла зялёны дубочак,
На маладой нявесце — белу бярозу.

Вот раслі яны, пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

На іх людзі падзівіліся,
Што яны верна любіліся.

## 153

Moderato

Вы- бі- ра- ла ма- мань- ка сы- на ў да- ро- -гу, вы- бі- ра- ла ма- мань- ка сы- на ў да- ро- гу.

Выбірала маманька сына ў дарогу,
Выбірала маманька сына ў дарогу.

Большую нявесту ў поле лёна браць,
Большую нявесту ў поле лёна браць.

— Не выбраўшы лёніцу, не йдзі дадому!
Ты ідзі даліною, стань яліною!

Прыехаў Ванюшанька, Ваня з дарогі,
Стала яго матушка распрашываці:

— А гдзе ты, Внюшанька, гдзе ты быў, прабываў?
— А гдзе я не янджаў, а гдзе не бываў,

Я гэтакага дзіва нігдзе не відаў.
Гэта на нашым полюшку яліна стаіць,

Тонкая, высокая, кучаравая.
Пайду я, маменька, яліну зрублю,

Тонкую, высокую, кучаравую.
Я перщы раз рублю — руда пацякла,

Я другі раз рублю — кроў руччом пайшла,
Я трэці раз рублю — слова сказала:

— Не сячы, мой міленькі, я твая жана,
Здалёка прывезена, тута узрасла.

## 154




Выпраўляла маці сына ў дарожаньку,
А нявехначку да белы лянок браці.

Яна выпраўляла і ёй прыказвала:
— Не дабярэш лёну — не йдзі ты дадому.

Лёну не дабрала, там заначавала,
Там заначавала, таполею стала.

А прышоў сыночак з доўгае дарожкі:
— Ой, маць мая, маці, маці старэнькая.

А я бачыў дзіва, дзіва дзіўненькае —
А на нашым полі вырасла таполя.

— Вазьмі ты, сыночак, войстры тапарочак,
А ссячы таполю нізенька пры полю.

Первы раз секануў — беленькае цела,
Другі раз секануў — кроў жа закіпела.

Другі раз секануў — кроў жа закіпела,
Трэці раз секануў — слоўца прамовіла:

— Бог дай тваёй маці цяжанька ўміраць,
Як мне, маладзенькай, таполей стаяць.

## 155

♩ =132

Ма_ ці сы_ на ў сал_ да_ ты 'дда_ ла,
а! у сал_ да_ ты 'дда_ ла,
а ня_ вес_ тач_ ку ў чыс_та по_ ле звя_ ла,
а! ў чыс_та по_ ле звя_ ла.

## 156

♩ =72

Ды(й)па_ е_ хаў сын_ ку ў вя_ лі_ ку да_ ро_ у,
ды (й)па_ кі_нуў до_ ма ма_ це_ ру ста_ ру.

Ды й паехаў сынку ў вяліку дарогу,
Ды й пакінуў дома мацеру стару[ю].

Ды й пакінуў дома мацеру старую,
Мацеру старую, жану маладу[ю].

Мацеру старую, жану маладую.
Пасылала маці нявехну лёну браці.

— Да ідзі, нявехна, ў поле лёну браці,
Не выбераш лёну — не хадзі дадому.

Не выбераш лёну — не хадзі дадому,
Да стань жа ты ў полі, ў полі тапалёю.

Да стань жа ты ў полі, ў полі тапалёю,
Да й тонкай, высокай, голлейкам кудравым.

І тонкай, высокай, голлейкам кудравым,
Голлейкам кудравым, лісцем кучаравым.

Голлейкам кудравым, лісцем кучаравым,
Да ехаў жа сынку з вялікай дарогі.

Да ехаў жа сынку з вялікай дарогі,
Да й забачыў ў полі, ў полі тапаліну.

Да й забачыў ў полі, ў полі тапаліну
І тонку й высоку, голлейкам кудраву.

І тонку й высоку, голлейкам кудраву,
Голлейкам кудраву, лісцем кучараву.

Голлейкам кудраву, лісцем кучараву.
Прыехаў дадому, мацеры гаворыць,

Прыехаў дадому, мацеры гаворыць:
— Ой, мамачка мая, што й на нашым полі.

Ой, мамачка мая, што й на нашым полі,
Ой, на нашым полі да стаіць таполя.

Што на нашым полі да стаіць таполя,
І тонка й высока, голлейкам кудрава.

І тонка й высока, голлейкам кудрава,
Голлейкам кудрава, лісцем кучарава.

Голлейкам кудрава, лісцем кучарава.
— Ой, вазьмі ты, сынку, вострую сякеру.

Ой, вазьмі ж ты, сынку, вострую сякеру
Да зрубі таполю пры самаму полю.

Да зрубі таполю пры самаму полю.
— Я й першы раз гакнуў — дык жывое цела.

Я й першы раз гакнуў — дык жывое цела,
Я й другі раз гакнуў, дык кроў закіпела.

Я й другі раз гакнуў, дык кроў закіпела,
Я й трэці раз гакнуў, дык загаварыла.

Я й трэці раз гакнуў, дык загаварыла:
— Не таполю сячэш — дзетачак сіроціш.

Не таполю сячэш — дзетачак сіроціш,
Не таполю рубіш — душу з свету губіш.

## 157

Ой, ды схапілася на моры хвыля,
Удава маладая нарадзіла сына.
Яна ж нарадзіла ды й не гадавала,
Ды й не гадаваўшы, у сем год ажаніла.
Узяла нявестку ды й не палюбіла.
Паслала сыночка ў вяліку дарогу,
А бедну нявестку ды ў поле да лёну.
Ой, паслала, цвёрда прыказала:
— Як не вырвеш лёну, то й не ідзі дадому.
Бедная нявестка плакала-рыдала,
Плакала-рыдала, лёну не дарвала,
Ды ў чыстым полі ды заначавала,
Да белага света тапалінай стала.

Прыходзіць сыночак з вялікай дарогі,
Прыйшоў ды скланіўся мацеры у ногі:
— Добры вечар, маці, ці ўся сям'я ў хаце?
— Ой, уся, мой сыночку, ды няма аднае,
Няма ж аднае — міленькай твае.
Абхадзіў я ж, маці, Польшчу і Расію,
Не бачыў таполі, як на сваім полі.
— Ой, бяры ж, сыночак, вострую сякеру,
Ды сячы-рубай у полі таполю,
І ссячы, і зрубай ў полі таполю.
Ой, як узяў сыночак вострую сякеру,
Ды пайшоў рубіці ў полі таполю.
Ой, як стукнуў раз, то й пахілілася,
Як стукнуў другі, то й кроў палілася,
А стукнуў трэці раз, то й загаварыла:
— Не сячы, не рубай, бо я ж твая міла,
Гэта ж твая маці так нам нарабіла,
Што нас маладзенькіх, з пары разлучыла,
А малых дзетачак ды й пасіраціла.
— Ой, ты ж, маці, маці, парадніца ў хаце,
Парадзь жа мне, маці, дзе мілую ўзяці,
Прыдзе цёмна ночка — не з кім размаўляці.
— Ой, вазьмі, мой сынку, каня варанога,
Пастаў на стаенцы, размаўляй да ёга.
— Бадай табе, маці, так цяжка ўміраці,
Як мне цяжка-важка з канём размаўляці.
Конік вараненькі на сенечка ляжа,
А мне, маладому, праўданькі не скажа.

## 158

Andante



Маці сына, маці сына ажаніла,
А нявесткі не злюбіла.

Паслала яе ў чыстае поле
Ох, белы лён да рваці:

— Не выр веш лёну, не йдзі дадому,
Да начуй у полі пры даліначцы.

Муж выязджае, выязджае на вайну,
Просіць: «Матка ж мая родная,

Глядзі, глядзі мае жонкі маладое,
Глядзі, глядзі мае жонкі маладое».

Едзе, едзе мілы з Украіны,
Угледзеў таполю за тры мілі.

— Матка мая родная, што то ў полі
За тапаліналька сядзіць?

— Ох, не [г]лядзі тапаліналькі, сынку,
Вазьмі сякерку, сатні тапалінку!

Ох, секануў раз, яна зазвінела,
Секануў другі — загаварыла:

— Ах, мілы ж ты мой, што ж ты цяпер зрабіў,
Ох, ты ж мяне, млоду, забіў,

Мае дзеткі маленькія пасіраціў
І сам сябе ўдаўцом зрабіў!

Ды й упаў матцы радной на ножанькі:
— Ох, што ж, мамачка, зрабіла,

Ох, дзеткі да мае пасіраціла,
Мяне, маладога, ўдаўцом нарадзіла.

## 159




Ой, маці сына да й ажаніла,
Маладой нявестухны да й не злюбіла [1].

Паслала сынка на ваеначку,
Маладу нявестухну белы лён палоці.

— Не аполеш льну, не йдзі дадому,
А стань ў чыстым полі хоць калінаю!

Пашла палоць лён да й нагнулася,
Чырвонаю калінаю абярнулася.

А і ехаў сынок з ваеначкі,
Угледзеў каліваньку за тры мілечкі.

Без яснага слонечка асвяцілася,
Без буйнага ветрыку нахілілася.

Прыехаў сынок да й дадоманьку
Да й упаў матуленцы на белы ногі:

— Матуля мая, усей свет звандраваў,
Такое каліначкі ў свеце не відаў!

— Эй, вазьмі, сынку, востру сякерку,
Ой, вытні да высечы тую калінку.

Ой, як вытнуў раз — пахілілася,
Да як вытнуў другі — папрасілася:

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Не рубай мяне, я міла твая,
А то нам нарабіла матулька твая.

Што мы маладзенькі пажаніліся
А на той святочак паспяшыліся.

## 160

Не скора

А_ жа_ ні_ ла ма_ ці ма_ ла_ до_ га сы_ на,

ма_ ла_ дой ня_ вест_ кі не уз_ лю_ бі_ ла,

ма_ ла_ дой ня_ вест_ кі не уз_ лю_ бі_ ла.

Ажаніла маці маладога сына,
Маладой нявесткі не узлюбіла [1].

Выправіла сына ў далёку дарогу,
Маладу нявестку ды лён палоці.

— Не праполеш лёну — не ідзі дадому,
Стань у чыстым полі ты каліною.

Не спалола лёну, не пайшла дадому,
Стала ў чыстым полі, ой, каліною.

Як прыехаў сынку з далёкай дарогі,
Расказаў матулі свае навіны.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Матуля, матуля, па свеце бадзяўся,
Ды такой калінкі нідзе не бачыў.

— Ой, бяры, сынку, востру сякеру,
Пасячы ты, сынку, тую калінку.

Секануў адзін раз, секануў другі раз,
А за трэцім разам адазвалася:

— Ой, не сячы мяне, каханы мой мужу!
— А хто разлучыў нас? — Твая матуля.

## 161




Ажаніла маці маладога сына,
Маладой нявесткі не палюбіла [1].

Выправіла сына ў вяліку дарогу,
Маладу нявестку ў поле лён палоць:

— Не аполеш лёну, не ідзі дадому,
Ідзі ў чыста поле, стань каліною.

Не палола лёну, не пайшла дадому,
Стала ў чыстым полі ды каліною.

Як прыехаў Яся з вялікай дарогі,
Расказаў матулі свае навіны:

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Матуля, матуля, ўвесь свет вандраваў,
А такой калінушкі ў свеце не відаў:

Ад буйнага ветрыку нахланілася,
Ад дробнага дождж ыку распусцілася.

— Бяры хутчэй, Ясю, вострую сякеру,
Ідзі сячы, Ясю, тую каліну!

Секануў ён раз — адазвалася,
Секануў другі раз — аказалася:

— Не сячы мяне, Ясю, я твая жана!
— А хто разлучыў нас? — Матуля твая!

Ой, із нас жа людзі насмяяліся,
Што мы, маладзенькія, павянчаліся.

Ой, із нас жа людзі надзівіліся,
Што мы, маладзенькія, разлучыліся.

## 162

♩=72

(і) А- жа- ні- ла ма- мач- ка
сы- ноч- ка свай- го да ўзя- ла (й) ня-
вех- нач- ку не па лю- бо- ві.

Ажаніла мамачка сыночка свайго
Да ўзяла нявехначку не па любові.

Да ўзяла нявехначку не па любові,
А ў тае нявехначкі чорныя бровы.

Выправіла сыночка ў далёк дарогі,
А сваю нявехначку ў поле да лёну.

— Як не вырвеш лёнушку, не йдзі дадому,
Стань на маім полюшку да й былінаю.

Стань на маім полюшку да й былінаю,
Тонкаю, высокаю, ўсё й зялёнаю.

Да прыехаў сыночак з вялік дарогі,
Да упаў жа мамачцы нізка на ногі.

— Ці здарова, мамачка, здарова была,
Дзе ж твая нявехначка, а мая жана?

Дзе ж твая нявехначка, а мая жана?
— Прыгарнула, сыночак, сырая зямля.

— Ой, што ж гэта, мамачка, ой, што за зямля,
Да праехаў, мамачка, усе гарада.

Да праехаў, мамачка, усе гарада,
Да ні чуў, ні відзеў жа такога дзіва.

Так на маім полюшку стаіць быліна,
Тонкая, высокая, усё й зялёная.

— Да вазьмі жа, сыночак, гостры тапарок,
Да зрубай былінушку, каб і не было.

Як сякануў першы раз — пахілілася,
Як сякануў другі раз — абазвалася:

— За што мяне, міленькі, сячэш, рубаеш,
Ці ж ты сваёй мамачцы ўсё й патураеш?

Будзе ж табе, міленькі, жонка, як жонка,
А маім жа дзетачкам долечка горка.

## 163

Ды жаніла маменька сына з няволі,
Ды ўзяла нявехначку не да любові.

Выправіла сына ды ў даль-дарогу,
А сваю нявехначку ў поле да лёну.

Ды прыехаў сынок з даль-дарогі,
Ды скланіўся маменьцы нізка на ногі.

— Ці здарова, маменька, маць мая родна,
Дзе твая нявехначка, да мая жана?

Ой, аб'ехаў, маменька, ды ўсе гарада,
А такога дзіва нідзе не відаў.

А такога дзіва нідзе не відаў,
Як на нашым полі стаіць быліна.

— Ды пайдзі ж ты, сынку, ссячы, зрубі.
Секануў раз — нахілілася.

Як секануў другі — паваліласся,
Як секануў трэці — папрасілася:

— За што, мілы, сячэш, за што рубаеш.
Ці ты сваёй маменьцы патураеш?

Ці я табе, мілы, пасцелі не слала,
Ці я табе, мілы, кашулькі не мыла?

## 164

Andante

А_ жа_ ні_ ла ма_ ці сы_ на,
сы_ на ма_ ла_ -до_ га, да ўзя_
ла ня_ вех_ ну, да не па лю_ бо_ ві.

Ажаніла маці сына, сына маладога,
Да ўзяла нявехну, да не па любові.

Як паехаў сынку ў вяліку дарогу,
Паслала нявехну ў поле лёну брацї.

— Не выбераш лёну, не ідзі дадому.
Не выбрала лёну, не пайшла дадому.

Не пайшла дадому, да і заначавала.
Назаўтра ўстала, калінаю стала.

Да прыехаў сынку з вялікай дарогі,
Да кланяецца мамцы нізенька ў ногі:

Маці мая, маці родная,
Ой, гдзе ж мая жана маладая?

— Жана маладая з дзеўкамі гуляе.
Ой ты сыночак мой, Васілёчак,

Вазьмі, сыночак, ты тапарочак,
Зрубай калінцы вяршочак.

Первы раз цюкнуў — кроў капнула,
Другі раз цюкнуў — прамовіла:

— Не калінку сячэш — жану сваю,
Не голлейка рубаеш — дзетачак сваіх.

Пайшоў моладзец да й заплакаўшы,
Пайшоў моладзец да й заплакаўшы.

— Ой, мамка ж мая, празводніца,
Празвяла мяне, добрага молайца.

## 165

♩=50

А_ жа_ ні_ ла ма_ ці

сы_ на па_ ня_ во_ лі,

у_ зя_ ла ня_ вех_ ну,

ды(й) не да лю_ бо_ ві.

Ажаніла маці сына па няволі,
Узяла нявехну ды не да любові.

Узяла нявехну ды не да любові,
Не белае лічка, не чорныя бровы.

Адправіла сына ў вяліку дарогу,
Маладу нявехну — ў поле брацi лёну.

Маладу нявехну — ў поле браці лёну:
— Не выбераш лёну, то не йдзі дадому.

Не выбераш лёну, то не йдзі дадому,
Станеш у чыстым полі тонкаю таполей.

Прыязджае сынку з вялікай дарогі,
Пытаецца ў маці пра сваю худобу.

— Нідзе я не бачыў, як на нашым полі,
Як на нашым полі тонкая таполя.

— Ай, ваазьмі ж ты, сынку, вострую сякерку,
Прырубай таполю пры самаму полю.

Ой, як цюкнуў раз я, дзераўцо схілілась,
Ой, як цюкнуў другі, то кроў паказалась.

Ой, як цюкнуў другі — то кроў паказалась,
А як цюкнуў трэці — міла абазвалась.

— Ой, не рубай, мілы, бо я твая міла,
Мяне твая маці тут пастанавіла.

## 166

♩ =52

А_ жа_ ні_ ла ма_ ці сы_ на_н(і)_ка
(й) па_ ня_ во_ лі,
у_ зя_ ла ды ня_ вес_ тач_ ку
не па лю_ бо_ ві.

## 167

♩ =62

А_ жа_ ні_ ла ма_ ці сы_ на

не па_ ня_ во_ лі,

ды у_ зя_ ла (й) ня_ вес_ тач_ ку

не па лю_ бо_ ві.

## 168

Не па волі маманька сына жаніла,
Да ўзяла нявестачку не па любові.

Да ўзяла нявестачку не па любові,
А не бела лічанька, не чорны бровы.

Выправіла сынанька ў бальшу дарогу,
А маладу нявестачку ў поле да лёну:

— Бяры, бяры, нявехна, бяры дробны лён,
Як выбераш ляночак — прыходзь дадому.

А не выбераш ляночак — не йдзі дадому.
Стань жа ты у полечку, стань быліною.

А стань жа ты ў полечку, стань быліною,
Тонкаю, высокаю, распрыўдалаю.

Да прыехаў сыночак з бальшой дарогі,
Да ўпаў роднай маманьцы на белы ногі.

— Здраствуй, здраствуй, матанька, родная мая,
Дзе твая нявестачка, а мая жана?

— Ой, сынаньку, сынаньку, ўзяла сыра зямля.
— Ой, маманька, маманька, няпраўда твая.

Што ў полі былiначка — то мая жана.
— То ідзі ж ты, сынаньку, да камораньні.

Да выбер сякерачку найгастрэйшую,
Да зрубай былiначку найкраснейшую.

Як секануў я первы раз — пахілілася,
А секануў я другі раз — так цела бела.

Як секануў я трэці раз — папрасілася:
— Да не сячы, міленькі, не рубай мяне.

Бадай твая ж маманька марне прапала,
Як нас, маладзенькіх, паразлучала.

Як нас, маладзенькіх, паразлучыла,
А нашыя дзетанькі пасіраціла.

## 169



Мела маці сына,
Да й не згадаваўшы, ўзяла ажаніла.

Да й не згадаваўшы, ўзяла ажаніла,
Маладу нявестку да й не вазлюбіла.

Адправіла сына ў бальшую дарогу,
Маладу нявестку ў поле да й да лёну.

Маладу нявестку ў поле да й да лёну.
— Як не вырвеш лёну, то не йдзі дадому.

Плакала, рыдала — лёну не дарвала,
Малада нявестка да й заначавала.

Малада нявестка да й заначавала,
Да белага свету тапалёчкам стала.

— Добры вечар, маці, ці уся сям'я,
А што маёй мілай тут не відаці?

— Вазьмі, мой сыночак, вазьмі тапарочак,
Ідзі ў поле, сынку, сячы тапалёчак.

Рубнуў першы раз — бела цела відна,
Рубнуў другі раз — кроўю акіпела.

Рубнуў другі раз — кроўю акіпела,
Рубнуў трэці раз — да й загаварыла:

— Не сячы, не рубай, гэта ж твая міла,
Гэта твая маці усё нарабіла.

Гэта твая маці усё нарабіла,
Нас, маладзенькіх, навек разлучыла.

## 170

Ажаніла маці сына ды не па нyволі,
Узяла нявестку ды не па любові.
Паслала сыночка ў бальшую дарогу,
Маладу нявестку браць белага лёну:

— Не выбярэш лёну — не ідзі дадому.
Брала яна дзянёчак, брала йна другей,
На трэці дзянёчак захацела двору.
— Сценю мой, сценю, скінься даліною,
А я, маладзенька, бальшою тапалёю.
А як будзіць ехаць мілы із дарогі,
Будзіць пазнаваці мяне між народу.
Як прыехаў сынку з бальшое дарогі,
А ён сваю маці стаў жа пытаці:
— Ах, мацьмая, маці, мацьмая радная,
Мацьмая радная, дзе жана маладая?
— Жана маладая з дзеўкамі гуляіць,
З дзеўкамі гуляіць, вянкі завіваіць.
— Ай, мацьмая, маці, што на нашым полі,
Што на нашым полі вырасла тапаля,
Тонка і высока, лісцейкам шырока.
— Бяры-ка, сыночак, войстры тапарочак
І сячы таполю пад самы карашочак.
Першы раз рубануў — толькі пашатнулась,
Другі раз рубануў — кроўка палілася,
Трэці раз рубануў — словечка сказала:
— Дай бог тваёй маці так лёгка дыхаці,
Як мне, маладзенькай, у полі стаяці.
Прыйшоў сын дадому, сеў ён каля столу
Сеў ён каля столу, апёрся рукою,
Апёрся рукою, абліўся слязою.
А ў яго маці ды стала пытаці:
— Ай сынку, мой сынку, аб чым зажурыўся?
— А ты мне не маці, а лютая змяя,
З'ела жарка сонца, з'ела дробны звёзды,
З'ела дробны звёзды, еш жа ясны месяц.

## 171



Мела матуля аднаго сына,
Узяла ды ажаніла маладзенькага [1].

Паслала сына ў вяліку дарогу,
А маладую нявестку лянок палоць:

— Не споліш лёну, не ідзі дадому,
Стань у чыстым полі хоць быліною.

Прыехаў сын з вялікай дарогі,
Прыехаў, упаў ён матулі ў ногі.

— Матуля мая, увесь свет звандраваў
Такое былінкі нідзе не страчаў.

Былінкі такой нідзе не страчаў,—
Без ветру хіліцца, без сонца свеціцца.

— Ой, вазьмі, сынку, гостру сякеру
І ссячы ты, сынку, ой, тую былінку.

Секануў ён раз — пахілілася,
Ой, секануў другі раз — запрасілася:

— Не сячы мяне, не рубай мяне,
Ой, скажу ўсю праўду: я жонка табе.

Скажу ўсю праўду: я жонка твая,
Нарабіла ўсё ліха матуля твая.

## 172




[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Мела матуля аднаго сынка,
Узяла маладзенькага ды ажаніла,
Нявестухну-ластухну не ўнаравіла.

Паслала сынка ў вельку дарожку,
Нявестухну-ластухну лянок палоці,
Нявестухну-ластухну лянок палоці.

— Не аполеш лёну, не ідзі дадому,
А стань у чыстым полі белай быліною,
Тонкаю, высокаю да вербіною.

Прыехаў сынок з велькай дарожкі:
— Мамачка, мамачка, я відзеў дзівачка,
Мамачка, мамачка, я відзеў дзівачка.

Як на нашым полі расце былінка,
Тонкая, высокая, ой, да вярбінка,
Тонкая, высокая, ой, да вярбінка.

— Вазьмі, сынок, гостру сякерку,
Пайдзі, зрубай белу былінку,
Тонкую, высокую да і вярбінку.

Секануў ён раз — нахілілася,
Секануў другі — запрасілася,
Секануў другі — запрасілася.

— А ты мілы мой, я міла твая,
Ніхто нас не разлучыў — матуля твая,
Ніхто нас не разлучыў — матуля твая.

Матуля твая нас разлучыла,
Нашы дробны дзетачкі пасіраціла,
Нашы дробны дзетачкі пасіраціла.

Буду налятаць я зязюлькаю,
Буду налятаць, буду кукаваць,
Свае дробны дзетанькі буду пабуджаць:

— Устаньце, дзетанькі, вы доўга спіцё,
Вы свае мачысе не ўнаравіцё,
Вы свае мачысе не ўнаравіцё.

## 173




Мела ж гэта маці аднаго сына
І так маладзенькага ўсё ажаніла [1].

Ажаніўшы, у свет пусціла,
Сказала нявестачцы йсці лянок палоць.

Сказала нявестачцы йсці лянок палоць.
— Ідзі, нявестачка, йдзі, назад не прыходзь.

Ідзі нявестка, йдзі, назад не прыходзь,
Зрабіся былінaчкай, ў роўным полі будзь.

Прыехаў сынок з вялікай дарогі,
Пакланіўся мамачцы ў белы ногі,

Пакланіўся мамачцы у белы ногі:
— Матуля мая, што за навіна!

Што у роўным полечку стаіць быліна,
Што у роўным полечку стаіць быліна.

— Мой жа ты сынок, вазьмі тапарок,
Высячы былінaчку, дзе расце лянок.

Высячы былінaчку, дзе расце лянок.
Сeкануў ён раз — пахілілася,

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Секануў другі раз — кроў палілася,
А за трэцім разам папрасілася:

— Ой, муж, ты мой муж, не рубай ты мяне,
Пракляла матулечка твая ж мяне.

— Матуля мая, свет я вандраваў,
А такой былiначкі ў свеце не відаў.

— А мой жа ты сынок, павандруй яшчэ,
Найдзі ж ты быліначку лепшую яшчэ.

## 174

Andante

Ме_ ла ма_ ту_ ля ад_ на_ го сы_ на
і так ма_ ла_ дзень_ ка_ га ра_ на жа_ ні_ ла,
і так ма_ ла_ дзень_ ка_ га ра_ на жа_ ні_ ла.

Мела матуля аднаго сына
І так маладзенькага рана жаніла [1].

Рана жаніла, у свет пусціла,
Сказала нявестаньцы ісці палоць лянок.

Апалоўшы лён, не прыходзь дамоў,
Стань у роўным полі хоць ты быліной.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Прыехаў сынок з вялікай дарогі,
Пакланіўся матулі нізенька ў ногі.

— Матуля мая, дзе ж мая жана?
— Там у роўным полі ўсё поле лянок.

А мой жа ты сынок, вазьмі тапарок,
Вырубай быліначку, што глуша лянок.

Секануў я раз — пахілілася,
Секануў я другі раз — папрасілася:

— Ой, мужу, мужу, не рубі мяне,
Бо твая матуленька пракляла мяне.

Ой, мужу, мужу, скажы, што рабіць,
Ці тут векаваці, ці йсці дамоў жыць?

## 175




## 176



## 177










Мела матуля аднаго сына
І так маладзенькага да й ажаніла [1].

Ажаніўшы сына, у дарожку пусціла.
Сказала нявестачцы йсці лянок палоць.

— Ідзі ты, нявестанька, ідзі не прыходзь,
Стань у роўным полечку да й барлінаю.

Вярнуўся сынок з вялікай дарогі,
Пакланіўся матулі ў белыя ногі.

— Ой ты, мой сынок, вазьмі тапарок,
Вырубай барлінанчку, дзе рос мой барок.

Секануў ён раз — пахілілася,
Секануў другі — кроў палілася.

Ой, муж, ты мой муж, не рубай мяне,
Твая ўжо матулечка пракляла мяне.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 178




Ой, як была ўдовушка самою ўдава,
Ажаніла сыночка не па няволі.

Ажаніла сыночка не па няволі,
Узяла нявестачку не па любові.

Узяла нявестачку не па любові,
Не белае лічанька, не чорны бровы.

Не белае лічанька, не чорны бровы.
Ой, выслала сыночка на край-дарогі.

Ой, выслала сыночка на край-дарогі,
А сваю нявестачку ў поле да лёну.

А сваю нявестачку ў поле да лёну:
— Як не вырвеш лёнушку, не йдзі дадому.

Як не вырвеш лёнушку, не йдзі дадому,
Станавіся ў полюшку ўсё быліною.

Станавіся ў полюшку ўсё быліною,
Тонкаю, высокаю ўсё зеляною.

Ад буйнага ветрыку ўсё шатаецца,
Ад яснага солнышка выкрашаецца.

Як прыехаў сыночак з край дарогі,
Укланіўся маменьцы нізенька ў ногі.

— Здраствуй, родна маманька, дзе мая жана?
— Прыняла, сынаньку, сырая зямля.

Як паслала сынанька ў поле араці:
— Не забудзься, сынку, сякеры ўзяці.

Як на нашым полечку стаіць былінка,
Як секануў я первы раз — пахілілася.

Як секануў я другі — кроў палілася,
Як секануў я трэці раз — папрасілася:

— Не рубай, мой міленькі, я твая жана,
Гэта ж твая маманька нас разлучыла.

## 179




. . . . . . . . . .

Ідзі, нявехна, далінкаю,
Да стань у полі рабінкаю.

Будзе мой сынок з вайны іці,
Да й будзе ён дзівіціся.

Да прышоўшы дамоў, хваліціся:
— Ой, маці мая радненькая,

Да я ж бачыў дзіва дзіўненькае.
Рабінка без ветру шатаецца.

Без дажджу яна макрусенька,
Без сонца яна яснюсенька.

— Ідзі, мой сынок, у нову клець,
Да вазьмі, сынок, войстру меч.

Да вазьмі, сынок, войстру меч,
Да й ссячы рабінцы галоўку з плеч.

Первы раз цюкнуў — шатнулася,
Другі раз цюкнуў — кроў пашла,

Трэці раз цюкнуў — прамовіла:
— Не рабіну сячэш, а жану сваю,

А што ветачкі, то дзетачкі,
А што розачкі, то слёзачкі.

## 180




Ды паехаў мілы ў вяліку дарогу,
Ды пакінуў мілу жывую, здарову.

А маці нявехны ды й не злюбіла,
Узяла й тую нявехну ды й атруціла.

Ды прыехаў мілы з вялікай дарогі,
Скланіўся маці нізенька ў ногі.

—Ой, маці ж ты, маці, маці ж радзіма,
Ой, дзе ж мая міла, дзе ж мая жана?

— А твая жы міла лён дробны бярэ,
Ды й скінулась у полі ды й былінаю.

Ды й скінулась у полі ды й былінаю.
Тонкаю, прыгожаю, ды й высокаю.

Вазьмі, сынку, вазьмі тапарынаньку,
Ды зрубай у полі ты былінаньку.

Ой, секануў я раз — ды й паранілася,
Ой, секануў я другі — пахілілася.

Ой, секануў я другі — пахілілася,
Ой, секануў я трэці — папрасілася:

— За што, за што, мілы, ты мне рубаеш,
Ці ты сваёй маці веранькі даеш?

## 181

♩ =45

Ой, па_ е_ хаў мі_ лень_ кі
ў да_ лё_ ку да_ ро_ гу,
ой, па_ кі_ нуў мі_ лень_ ку
жы_ ву_ ю, з(ы)_ да_ ро_ ву.

Ой, паехаў міленькі ў далёку дарогу,
Ой, пакінуў міленьку жывую, здарову.

Ой, прыехаў міленькі з далёкай дарогі,
Скланіўся мамачцы нізенька ў ногі.

— Здраствуй, здраствуй, маманька, жыва, здарова.
Дзе ж твая нявехнанька, а мая жана?

Дзе ж твая нявехнанька, а мая жана?
Ды й прыняла, сынанька, сырая зямля.

— Ой, што ж гэта, маманька, за прычынанька,
Што вырасла ў полі да былінанька?

Тонкая, высокая, шчэ й прыўдалая
Ад буйнага ветрыка шчэ й шатаецца.

Ад буйнага ветрыка шчэ й шатаецца,
Ад яснага сонейка украшаецца.

— Ой, бяры, сынаньку, тапарынаньку
Ды зрубай жа ў поленьку ту былінаньку.

Ой, як секануў я першы раз — паранілася,
Як секануў я другі раз — пахілілася.

Як секануў я трэці раз — папрасілася:
— За што, за што, міленькі, сячэш, рубаеш,

Што ты маладзенькую з свету збаўляеш,
Што ты маладзенькую з свету збаўляеш?

Што ты маладзенькую з свету збаўляеш,
Шчэ й дробныя дзетачкі асірочваеш?

## 182

♩ =60

І ой, жа_ні_ла мац(і) сы_на

не па_ня_во_лі,

і ой, ўзя_ла ня_вес_тач_ку

не па на_ро_ві.

## 183

Наляцелі журавы,
Селі-палі на раллі.

Сталі яны грагаці,
Аб араллі гукаці:

— Ранейшая лепшая,
Пазнейшая пушчэйшая.

На ранняй — пшаніца,
На позняй — мятліца.

Ажаніўся удавец,
Узяў сабе дзевачку.

З першай жаной дзяцей меў,
А з другой гадаваў.

А з другой гадаваў,
А з трэцяй разагнаў.

— Ідзіце дзеці служыці,
Чым мачысе гадзіці [1].

У Полацку на рынку
Пілі молайцы гарэлку.

— Шынкарачка малада,
А дай мёду гарцы два.

— Тады табе мёду дам,
Калі здзенеш сіў жупан.

---

[1] Тут заўважана Чачотам кантамінацыя.

— Нашто табе сіў жупан,
Калі я маю грошы жбан.

— Калі маеш грошы жбан,
За цябе доч аддам.

А ў суботу гулялі,
А ў нядзелю вянчалі.

А ў нядзелю вянчалі,
У панядзелак спаць клалі.

— А дзевачка нізенька,
Прыкаціся блізенька.

Пытаюся у цябе,
Якога роду і племя?

— А я роду папоўна,
Паповіча Карпоўна.

Пытаецца Касінька,
Якога роду Ясінька.

— А я роду паповіч,
Паповіча Карповіч.

Хвала ж табе, божа,
Што мяне бог сцярог.

Што мяне бог сцярог,
Што з сястрою спаць не лёг.

Што я грэху не зажыў —
Крыві сваёй не праліў.

Адчыніся нова клець,
Сястра з братам з клеці йдзець.

Бадай папы прапалі —
Брата з сястрой звянчалі.

А йдзі, сястра, ў манастыр,
А я пайду ў цёмны лес.

А я пайду ў цёмны лес,
Няхай мяне звер і з'есць.

Калі мяне звер не з'есць,
То самому ў вагонь лезць.

Бадай цела згарэла,
Душа ў неба хацела.

— Пойдзем, сястра, у поле,
Абернемся травою.

На брацетку — сіні цвет,
На сястрыцы — жоўты цвет.

Будуць людзі траву брацъ,
Будуць нас успамінаць:

Гэта тая травіца,
Што брацетка-сястрыца.

## 184

Ой, ляцелі журавы,
Селі-палі на раллі [1].

Сталі яны брукаці,
Аб араллі гукаці:

— Лучшы ралля ранняя,
Чым тая позная.

А на раннім пшаніца,
А на познім мятліца.

Лучшы первая жана,
А чым тая другая.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

З першай жонкай дзяцей мець,
А з другой разагнаць.

А ў суботу позненька
Пашлі дзеці розненька.

— Дзеці мае мілыя,
Дзеці мае дробныя!

Ці лепі людзём служыць,
Ці вам мачысе гадзіць?

— Лепі нам людзём служыць,
Чым мачысе гадзіць.

У Полацку на рынку
П'юць малойцы гарэлку.

— Шынкарачка малада!
Прадай мёду гарцы два.

— Тагды табе мёду дам,
Застаў жа мне сінь кафтан.

— Нашто табе мой кафтан,
Калі маю грошы жбан.

— Калі маеш грошы жбан,
Я за цябе дачку аддам.

У суботу звянчалі,
У нядзелю спаць клалі.

Пытаіцца дзяўчына:
— А сконд роду, дзяціна?

— А я роду мешчанін,
Па бацюшку купчанін.

Пытаіцца дзяціна:
— А сконд роду, дзяўчына?

— А я роду мяшчанка,
Па бацюшку купчанка.

— Багдай маці прапала,
Брата з сястрой звянчала.

А бог жа мяне сцярог,
Што з сястрою спаць ня лёг.

Ты сястрыца мілая,
Пойдзем мы у поле.

Абернемся травою,
Што брацетка з сястрою.

З Купалы на Івана
Прыдуць дзеўкі краскі рваць.

Прыдуць дзеўкі краскі рваць,
Будуць нас успамінаць:

— Гэта тая травіца,
Што брацийка з сястрыцай.

А на брату сіні цвет,
А на сястрэ жоўты цвет.

## 185

Andante

Ой, на ран- няй рал- лі- цы
ро- дзіць жы- та, пша- ні- ца,
ро- дзіць жы- та, пша- ні- ца.

Ой, на ранняй ралліцы
Родзіць жыта, пшаніца [1].

А на позняй ралліцы
Родзіць куколь, мятліца.

Наляцелі жураўлі
Да і паселі на раллі.

Сабраліся мужыкі,
Таргуюцца аб жанкі.

— З першай жоны дзеці меў,
А з другою гадаваў.

А з другою гадаваў
Да і ў свет павыпраўляў:

— Ідзіце, дзеткі, служыці,
Ніж мачысе гадзіці.

Лепшы чужы асьмачок,
Як мачыхі кулачок.

Ідзіце, дзеткі, за мною,
Я пакажу дарогу.

Я пакажу дарогу
Да самага Альбова.

А ў Альбове на рынку
П'юць сіроты гарэлку.

А багаты дзівісе,
Чым сірота жывісе.

— Ты, багаты, не дзівуй,
Чым я маю, тым жыву!

Шынкарачка малада,
Дай мне мёду гарцаў два!

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Скідай, Ясю, свой жупан,
Тады табе мёду дам.

— Нашто табе мой жупан,
Калі ў мяне грошай збан.

— Калі ў цябе грошай збан,
Я за цябе дачку дам.

А не дачку — наймічку,
Харошую паннaчку.

А ў касцеле слюб узялі,
А ў каморы спаць ляглі.

Пытаецца Ясенька:
— Скуль ты родам, Касенька?

— На імене — Лайкоўна,
На прозвіска — Царкоўна.

Пытаецца Касенька:
— Скуль ты родам, Ясенька?

— На імене — Лайковіч,
На прозвіска — Царковіч.

А бог мяне пасцярог,
Што з сястрою спаць не лёг.

— Ідзі, Ясю, да й ты ў лес,
Няхай цябе воўк із'есць.

— Ой, пойдзем мы на поле,
Рассеймося абое.

На мне будзе жоўты цвет,
А на табе сіні цвет.

Будуць людзі квяткі рваць
Брата, сястру спамінаць.

186

Прыляцелі журавы,
Селі ў полі на раллі.

Сталі раллю капаці,
Самі з сабой гукаці:

— Лепей ралля ранняя,
Ніж чым тая позняя.

А на ранняй раллі̇цы
Расцець жыта з пшаніцай.

А на позняй раллі̇цы
Расцець трава мятліца.

Сабраліся два мужы,
Гаварылі аб жаны:

— Лепей жонка першая,
Ніж чым тая другая.

З першай жонкай дзеткі меў,
З першай [жонкай] гадаваў.

[З першай жонкай гадаваў],
А з другой рассылаў:

— Ідзіце, дзеткі, служыці,
Як мачысе гадзіці.

Як мачысе гадзілі,
Без кашулек хадзілі.

А як пашлі служыці,
Сталі сукні насіці.

А ў нядзелю на рынку
П'ець сіротка гарэлку.

— Шынкарачка малада,
Дай мне мёду і віна.

— А калі ты вялік пан,
Так знімі жа свой жупан.

— Нашто табе мой жупан,
Ёсь у мяне грошай жбан.

— Калі маеш грошай жбан,
Я за цябе дачку дам.

То не мая дочачка,
То надабна наймачка.

А ў нядзелю пыталі,
Ў панядзелак звянчалі.

Ў панядзелак звянчалі,
У аўторак спаць клалі.

Яшчэ ж мяне бог сцярог,
Што з сястрыцай спаць не лёг.

Яшчэ ж мяне бог укрыў,
Што я сястры не накрыў.

Бадай папам цяжка жыць,
Сястрэ з братам нельга жыць.

Пытаецца Ясенька:
— Адкуль родам, Касенька?

— А я родам з Кракова,
А назвіскам Вайтова.

Пытаецца Касенька:
— Адкуль родам, Ясенька?

— А я родам з Краковіч,
А назвіскам Вайтовіч.

Пойдзем, браце, ў цёмны лес,
Няхай жа нас воўк із'есць.

Пойдзем, браце, гарою,
Абернемся травою.

Будуць дзеўкі краскі рваць,
Будуць пра нас успамінаць:

— Гэта тая травіца,
Што брацетка з сястрыцай.

Сіні з жоўтым цвяточак,
То сястрыца і браточак.

## 187

Moderato

А ў ня- дзель- ку з-пад за- ры
вы- ля- та- лі жу- ра- вы,
вы- ля- та- лі жу- ра- вы.

А ў нядзельку з-пад зары
Вылятáлі журавы [1].

Вылятáлі журавы,
Селі, палі на раллі.

Сталі раллю капаці,
Сталі з сабой гукаці:

— Лепей ралля ранняя,
Чымся тая позняя.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А на ранняй — пшаніца,
А на позняй — мятліца.

А ў нядзельку раненька
Сабраліся удаўцы.

Сабраліся удаўцы,
Удалыя малайцы.

Сталі яны водку піць,
Сталі з сабой гаварыць.

— Лепей жонка першая,
Чымся тая другая.

Я з першаю дзеткі меў,
А з другою гадаваў.

А з трэцяю, нягодніцай,
Сваіх дзетак разагнаў.

— Йдзеце, дзеткі, служыці,
Чым мачысе гадзіці.

Чым мачысе гадзіці,
Рызы-латы насіці.

Адзін пайшоў да двара,
А другі да кляштара.

Што у двары прабываў,
Той грошыкі зарабляў.

Што ў кляштары прабываў,
Той на конях паязджаў.

Ой, пайшоў ён у карчму
Да шынкаркі маладой.

— Шынкарачка малада,
Дай мне водачкі, віна.

— Як я табе водкі дам,
Калі ў цябе жупан дран?

— Хоць у мяне жупан дран,
Есць у мяне грошай жбан.

— Калі ў цябе грошай жбан,
Я за цябе дачку дам.

Хоць не родную дачку,
Дык верную служачку.

Іх у цэркві вянчалі,
У каморы спаць клалі.

Пыталася дзяўчына:
— Адкуль роду, хлапчына?

— А я роду паповіч,
На прозвішча Вайтовіч.

Запытаўся хлапчына:
— Адкуль родам, дзяўчына?

— А я роду папова,
Па прозвішчу Вайтова!

— Вот жа мяне бог сцярог,
Што з сястрою спаць не лёг.

Вот жа мяне бог укрыў,
Што з сястрою не накрыў.

Пойдзем, сястра, у поле,
Рассеемся травою.

А ты будзеш сіні цвет,
А я буду жоўты цвет.

Будзе свята — свята Ян,
Пойдуць дзеўкі краскі рваць.

Будуць дзеўкі краскі рваць,
Брата з сястрой успамінаць.

— Гэта тая травіца,
Што брацетка й сястрыца.

188

Наляцелі журавы,
Селі-палі на раллі.
Сталі рыці, капаці,
Сталі праўдачкі пытаці:
— Ці лепі ралля ранняя,
Ці лепі [ралля] позняя?
— На ранняй расце пшаніца,
На позняй мятліца.
Сабраліся тры ўдаўцы,
Сталі яны гаварыці:
— З каторай жонкай лепі жыці,
Ці з першай, ці з другой, ці з трэцяй?
— Я з первай дзяцей меў,
А з другой гадаваў.
А з трэцяй рассылаў:
— Ідзіце, дзеці, служыці,
А мачысе гадзіці.
Сын пашоў к цару,
А дачушка к шынкару.
Ехаў сын да цара,
Заехаў да шынкара.
— Шынкарачка малада,
Вынесь мёду і віна.
— А я мёду вынесу,
У цябе шубу садзяру.
— А я шубы не дам,
Ёсць у мяне дзенег жбан.
— Калі ў цябе дзенег жбан,
Я за цябе доч аддам.
У суботу змаўлялі,
У нядзелю звянчалі.
Стала жана ў мужа пытаці:
— Як цябе зваці?
— Па татачку Вайтоўнік,
Па мамачцы Карпоўнік.
Стаў муж у жаны пытаці:
— Як цябе зваці?
— Па татачку Вайтоўна,
Па мамачцы Карпоўна.
— Бадай ўсе ксяндзы прапалі,
Як брата з сястрой звянчалі.

Пойдзем мы, сястра, у чыста поле,
Рассеемся травою.
Будуць людзі траву рваці,
Брата з сястрой памінаці.
На братачку жоўты цвет,
На сястрыцы — сіненькі.

## 189

♩ = 120

Жу- ра- вы, ай, ля- це- -лі жу- ра- вы а з чу- жы- я ста- ра- ны

Журавы,
Ай, ляцелі журавы
А з чужыя стараны.

Стараны,
А з чужыя стараны,
Селі-палі на раллі.

На раллі,
Селі-палі на раллі,
Сталі раллю жыраваць.

Жыраваць,
Сталі раллю жыраваць,
Сталі раллю праклінаць.

Праклінаць,
Сталі раллю праклінаць:
— Лучшай ралля ранняя.

17. Зак. 100

Ранняя,
Лучшай ралля ранняя,
Чымся тая позная.

Позная,
Чымся тая позная.
А на ранняй пшонку жнуць.

Жнуць,
А на ранняй пшонку жнуць,
А на позняй валы йдуць.

Ідуць,
А на позняй валы йдуць,
Лучшай жонка первая.

Первая,
Лучшай жонка первая,
Чымся тая другая.

Другая,
Чымся тая другая.
З первай жонкай дзеці меў.

Дзеці меў,
З первай жонкай дзеці меў,
А з другою гадаваў.

Гадаваў,
А з другою гадаваў,
А з трэццяю рассылаў.

Рассылаў,
А з трэццяю рассылаў,
Ідзіце, дзеці, служыці.

Служыці,
Ідзіце, дзеці, служыці,
Чым мачысе гадзіці.

Гадзіці,
Чым мачысе гадзіці.

## 190




А ляцелі журавы,
Селі ў полі на раллі [1].

Сталі зямлю капаці
І з ралліцай гукаці.

А на ранняй ралліцы
Родзіць жыта-пшаніца.

А на позняй ралліцы
Родзіць гірса-мятліца.

Сабраліся тры ўдаўцы,
Сталі з сабой гаварыць.

А із першай дзеці меў,
А із другой гадаваў.

А із другой гадаваў,
А із трэцяй рассылаў:

— Ідзіце, дзеткі, служыці,
Чым мачысе гадзіці.

Як мачысе гадзілі,
Дык голыя хадзілі.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Як пашлі яны служыці,
Сталі сукны насіці.

А у Слуцку на таргу
П'юць сіроты гарэлку.

— Шынкарачка малада,
Дай мне мёду і віна.

— Як жа ж табе мёду даць,
Калі ў цябе жупан дран.

— Хоць у мяне жупан дран,
Дома стаіць грошай жбан.

— Калі ў цябе грошай жбан,
Я за цябе цурку аддам.

Хоць не сваю цурачку,
Дык верную служачку.

У суботу запілі,
А ў нядзелю шлюб далі.

А ў нядзелю шлюб далі,
У панядзелак спаць ляглі.

— Шынкарачка малада,
Скажы ж праўду, адкуль ты.

— А я з места мешчано,
А назвіска Вайтоўна.

— Ты, галубчык, душа мая,
Скажы ж праўду, адкуль ты.

— А я з места мешчано,
А з наўзвіска Вайтоў сын.

Яшчэ ж мяне бог сцярог,
Што з сястрыцай спаць не лёг.

Яшчэ ж мяне бог жалеў,
Што з сястрыцай грэх не меў.

— Пайдзём, сястра, ў цёмны лес,
Няхай нас звяр'ё із'есць.

— Не, браточак, баюся,
Пайду лепей ўтаплюся.

Сонца кажыць, высушу,
Вецер кажыць, выхаплю.

А бог кажыць, долю дам,
Несумысля шлюб узяў.

Пойдзем, браток, гарою,
Абернемся травою.

Будуць красачкі шчыпаць,
Брата і сястру спамінаць.

Пашлі дзеўкі краскі рваць,
Брата і сястру спамінаць:

— А дзе ж тая травіца,
Што брацетка й сястрыца.

Сіненькі цвет — брацетка,
Жоўценькі цвет — сястрыца.

Гэтая ж тая травіца,
Што брацетка й сястрыца.

## 191

♩=76

А ў ня_ дзель_ ку з_пад за_ ры
вы_ ля_ та_ лі жу_ ра_ вы,
вы_ ля_ та_ лі жу_ ра_ вы.

А ў нядзельку з-пад зары
Выляталі журавы [1].

Выляталі журавы,
Селі-палі на раллі.

Сталі яны жыравацъ,
Между сабой размаўляць:

— Лепей ралля ранняя,
Нячым тая позняя.

На ранняй жыта, пшаніца,
На позняй гірса, мятліца.

А ў мястэчку на канцы
Сабраліся два ўдаўцы.

Сталі яны выпіваць,
Между сабой размаўляць:

— Лепей жонка першая,
Нячым тая другая.

З першай жонкай дзеткі меў,
А із другой гадаваў.

А із другой гадаваў
А із трэцяй рассылаў:

— Ідзіце, дзеці, служыць,
Нячым мачысе гадзіць.

Як мачысе гадзілі,
Голы-босы хадзілі.

Пайшлі дзеці служыці,
Сталі сукні насіці.

Брат служыў у шынкара,
А сястрыца ў шынкаркі.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А ў нядзелю звянчалі,
У панядзелак спаць клалі.

Добра, што бог асцярог,
Што з сястрыцай спаць не лёг.

Пойдзем, сястра, у цёмны лес,
А ніхай нас воўк із'есць.

Пойдзем, сястра, у поле,
Абернемся травою.

Будуць дзеўкі краскі рваць,
Нас з табою ўспамінаць:

— Гэта тая травіца,
Што брацетка й сястрыца.

## 192

Прыляцелі журавы,
Селі-палі на раллі.

Сталі яны гукаці,
Сталі раллю шчыпаці.

Лепі ралля ранняя,
Чымся ралля позняя.

На ранняй раллліцы
Растуць белы пшаніцы.

А на позняй раллліцы
Расце гугаль, мятліца.

Лепей жана першая,
Чымся жана другая.

З першай жаной дзетак меў,
З другой гадаваў.

А з трэцяю разагнаў:
— Ідзіце, дзеткі, служыці.

Будзеце сукні насіці,
Чым мачысе гадзіці.

Пашлі дзеткі служыці,
Сталі сукні насіці.

У Полацку на рыначку
П'юць сіроты гарэлачку.

— Шынкарачка малада,
Дай мне мёду гарцы два.

— Калі ж ты гэткі пан,
Здзень жа ты мне свой шубан.

— Нашто табе мой шубан,
Ёсць у мяне грошай жбан.

— Калі ў цябе грошай жбан,
Я за цябе дачку аддам.

У суботу згукалі,
А ў нядзельку звянчалі.

А ў нядзельку звянчалі,
У панядзелак спаць клалі.

Пытаецца Ясенька:
— Адкуль родам, Касенька?

— Я родам папоўна,
Фаміліі Карпоўна.

Пытаецца Касенька:
— Адкуль родам, Ясенька?

— Я родам паповіч,
Фаміліі Карповіч.

За што ж мяне бог караў,
Што я з сястрой шлюб узяў.

Толькі мяне бог сцярог,
Што з сястрою я спаць не лёг.

Пойдзем, сястра, у чыста поле,
Рассеемся мы абое.

Ты будзеш краска сіняя,
А я буду жоўтая.

Будуць дзеўкі краскі збіраць,
І брата з сястрой успамінаць:

Гэта тая травіца,
Што брацік і сястрыца.

## 193




## 194

Наляцелі сакалы
З чужой, дальней стараны,

Селі-палі на раллі,
Праміж сабой гуркуюць:

— Луччы тая скарацьба,
Чымся тая нараллЯ.

На скарацьбе пшаніца,
А на раллі мятліца.

А ў горадзе на таргу
Да два молайцы ідуць.

Да два молайцы ідуць,
Праміж сабой гаворацЬ:

Луччы первая жана,
Чымся тая, другая.

А я з первАю жаной
Я і дзетушак прыжыў,

Й а з другою жаной
Я дзетушак разагнаў.

А што ў лесе свішчыць?
Бацька дзетушак ішчыць.

— Ах, вы дзетушкі мае,
Сабірайцеся ка мне.

Ці цару будзеце служыць,
Ці мачысе наравіць?

— Цару служомшы — услужыш,
А мачысе не ўнаравіш.

А ў горадзе на таргу
Да два молайцы ідуць.

Да два молайцы ідуць,
Паміж сабой гаворацЬ:

— Шынкарачка малада,
Прадай мёду фунты два!

— А я мёду не прадам,
За цябе дачку сваю аддам.

А ў скрасенне вянчалі,
У панядзелак спаць клалі.

Стаў пытаці дзяціна,
Якога роду дзяўчына.

— Я з Кіева вайтоўна,
Па-бацюшку Карпоўна.

Стала пытаці дзяўчына,
Якога роду дзяціна.

— Я з Кіева вайтовіч,
Па бацюшку Карповіч.

— Ах і дзе ж таму было,
Што б сястра за брата шла?

Сястра за брата не йдзець,
А брат сястру не бярэць.

Мы пойдзем у поле,
Мы скінемся травою.

Мы скінемся травою,
А што брацец з сястрою.

## 195

А першая жоначка,
Як на небе зорачка.

А другая жоначка,
Як у садзе пчолачка.

А трэцяя жоначка,
Як у лесе совачка.

Я з першай дзеці меў,
А з другой гадаваў.

А з другой гадаваў,
А з трэцяю рассылаў.

— Ідзіце, дзеці, служыці,
Чым мачысе наравіці.

Ідзіце, дзеці, за мною,
Пакажу вам дарогу.

Пакажу вам дарогу,
Да самага Арбову.

А ў Арбове на рынку
П'юць сіраты гарэлку.

А багаты дзівіцца,
Чым сіраты жывяцца.

— Ты, багаты, не дзівісь,
Чым бог дае, тым жыві.

А брат сястры пытае:
— Як цябе на імя.

— А на імя Альбоўна,
На прозвішча Царкоўна.

— Мяне бог пасцярог,
Што з сястрою спаць не лёг.

— Ідзём, сястра, мы у лес,
Няхай жа нас звер заесць.

Ідзём, сястра, на поле,
Рассеемся абое.

Ты будзеш цвісці сіні цвет,
А я буду — жоўты цвет.

Будуць людзі нас ірваці,
«Брат-з-сястрою» называці.

## 196

З панядзелка на [а]ўторак [1]
Прыехаў пан з Пахомак.
Ах, мой моцны божа! [2]

Прыехаўшы на рынак,
Пытаецца ў гасподах:

— А дзе тая кірчэмка,
Што младая шынкарка?

Шынкарачка младая,
Павер жа мне мёду жбан.

— Я паверу мёду жбан
Ды за цябе цурку аддам.

— Мы ў касцёле звянчаны
І на ложы спазнаны.

Стаў маладзец плакаці,
А дзявіца пытаці:

— Скажы, скажы, маладзец,
Адкуль твая радзіна?

— Я і родам з Люблюва,
Ёсь там цурка вайтова.

Стала дзеўка плакаці,
А маладзец пытаці:

— Скажы, скажы, дзявіца,
Адкуль твая радзіна?

— А я родам з Люблюва,
Па бацюшку Карпова.

Вазьмі, браце, востры меч,
Знімі глову з белых плеч.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.
[2] Рэфрэн паўтараецца пасля кожнай страфы.

— Нявінны нашы галовы,
Вінны нашы айцовы.

— Пойдзем, браця, у чыста поле,
Абернемся мы травою.

Ты, братанька, сіні цвет,
Я, сястрыца, жоўты цвет.

Прыдуць тыя дзянёчкі,
Пятровыя святочкі.

Пойдуць дзеўкі краскі рваць,
А нас з табой звелічаць.

### 197

Як у Слуцку на рынку
П'ець моладзец гарэлку.

— Шынкарачка малада,
Нясі піва і віна.

Нясі піва і віна
Хуць на тысячу рубля!

— А ці сап'еш жа, моладзец,
— А ці сап'еш жа, беленькі?

— А хуць жа я не сап'ю,
Усю глытву напаю.

А сап'ець мая глытва —
Звесяліцца галава.

— А калі ты гэткі пан,
Скідавай свой сінь жупан!

— Нашто табе мой жупан,
Есь у мяне дзенег жбан!

— А калі ты гэткі пан,
Я за цябе дачку 'ддам:

Мая дачка Тацянка,
У каморы рожана.

У касцёле хрышчона,
А ў цэркаўцы звянчона.

— Скажы, скажы, міленькі,
Галубчык мой сізенькі,

Адкуль жа ты рожаны?
— Я з Кіева вайтовіч,

Па бацюшку Карповіч.
— Скажы, скажы, міленька,

Галубушка сізенька,
Адкуль жа ты рожана?

— Я з Кіева вайтоўна,
Па бацюшку Карпоўна.

— Багдай маці прапала —
Дачку з сынам звянчала!

А пойдзем мы абое,
А пойдзем мы ў поле.

Пойдзем мы з табою,
Скінемся мы травою.

Будуць дзеўкі траву рваць,
Нас с табою памінаць:

— Гэта тая травіца,
Што брацец-сястрыца.

## 198




— Шынкарачка малада,
Падай мёду і віна,
Эй, падай мёду і віна [1].

Падай мёду і віна,
Гарэлачкі гарцы два.

— А ці сап'еш, малойчык,
Ці здзержа твая галоўка.

— Хоць жа сам я не сап'ю,
Таварышаў напаю.

А скажы ж ты мілая,
Галубачка сізая,

Адкуль родам роджана,
Адкуль плодам плоджана.

— Я з Полацку вайтоўна,
Па бацюшку Карпоўна.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з дадаткам «Эй» у пачатку радка.

Скажы ж ты, мой міленькі,
Галубчачак сызенькі,

Адкуль родам роджаны,
Адкуль плодам плоджаны.

— Я з Полацку вайтовіч,
Па бацюшку Карповіч.

Сталі яны вянчацца,
Стала царква здрыгацца,

Самі сталі званы біць,
Сталі людзі гаварыць:

— А што гэта за свет стаў,
Што брат сястру не ўвазнаў.

Ліха ж гэта гадзіна,
Вянчаецца радзіна.

— Пойдзем, братачка, гарой,
Рассыпемся мы травой.

На браточку жоўты цвет,
На сястрыцы сіненькі.

Будуць людзі траву рваць,
Будуць нас успамінаць.

Гэта ж тая травіца,
Што браток і сястрыца.

Пойдзем, братка, ў цёмны лес,
Няхай жа нас воўк паесць.

18. Зак. 100

## 199




— Шынкарачка малада,
Дай мне мёду і віна [1].

— А скінь жа ты сінь жупан,
Тады табе мёду дам.

— Нашто табе сінь жупан,
Калі ў мяне грошай жбан?

— Калі ў цябе грошы жбан,
А за цябе дачку 'ддам.

Спрашывае дзяціна:
— Адкуль родам, дзяўчына?

— Па бацюшку — Карпоўна,
Па матушцы — Вайтоўна.

Спрашывае дзяўчына:
— Адкуль родам, дзяціна?

— Па бацюшку — Карповіч,
Па матушцы — Вайтовіч.

— Бадай маці прапала,—
Брата з сястрой звянчала.

— Пойдзем, сястра, у лясок,
А скінемся травіцай.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А скінемся травіцай,
А што брацец з сястрыцай.

Будуць дзеўкі краскі рваць,
Нас з табою памінаць:

— Вот то ж тая травіца,
Што брахненька й сястрыца.

## 200

♩=148

Ля шын_ кар_ кі, шын_ ка_ ры
і_ шоў па_ рань ма_ ла_ дой.
і_ шоў па_ рань ма_ ла_ дой
па ву_ лі_ цы шаў_ ка_ вой.

Ля шынкаркі, шынкары
Ішоў парань маладой,
Ішоў парань маладой
Па вуліцы шаўкавой.

Ў шынкарэчку захадзіў,
На красілку садзіўся,
На красілку садзіўся:
— Шынкарэчка малада!

Шынкарэчка малада,
Падай мёду і віна.
— А скінь жа ты сінь жупан,
Тады табе мёду дам.

— Нашто табе сінь жупан,
Ёсць у мяне грошай жбан.
— Калі ў цябе грошай жбан,
Я за цябе дочку 'ддам.

Пачаў дзевіцы пытаць,
Як дзевіцу называць.
— Па бацюшку Карпоўна,
Па матушцы Вайтоўна

Стала дзевіца пытаць,
Як малойца называць.
Па бацюшку Карповіч,
Па матушцы Вайтовіч.

Пойдзем, брахненька, ў лясок,
Мы скінемся травою,
Мы скінемся травою,
Як брахненька з сястрою.

А брахненька сіні цвет,
А сястрыца — жоўценькі.
Будуць дзеўкі краскі рваць,
Брата з сястрой памінаць.

А брахненька сіні цвет,
А сястрыца — жоўценькі.
Багдай папы прапалі,
Брата з сястрой звянчалі.

## 201




А ў горадзе на рынку
П'ець худоба гарэлку [1].

А багаты дзівіцца,
Чым худоба жывіцца.

— Шынкарачка малада,
Падай піва і віна!

— Ах ты, добры моладзец,
На сколькі табе?

— А на сто рублей піва,
А на тысячу віна!

— Ах ты, добры моладзец,
Не сап'еш ты ўсяго.

— Хуць я сам не сап'ю,
Таварышаў напаю.

— Калі ты такі пан,
Я за цябе дзеўку 'ддам.

Харошую паненку —
Яўрэйскую наймітку.

Іх ў касцёле вянчалі,
У каморы спаць клалі.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Скажы, скажы, дзевіца,
Якога ты роду?

— Па бацюшку Карпоўна,
Па матушкі Вайтоўна.

— Скажы, скажы, моладзец,
А якога ты роду?

— Па бацюшку Карповіч,
Па матушкі Вайтовіч.

— А хвала ж табе, бог,
Што з сястрою спаць не лёг.

Пойдзем, сястра, у поле,
Рассеемся травою.

А на брату — сіні цвет,
На сястрыцы — жоўценькі.

Будуць дзеўкі краскі рваць,
У вяночкі увіваць.

У вяночкі увіваць,
Нас з табою памінаць.

А на Йвана Купала
Дзеўкі краскі ірвалі.

Дзеўкі краскі ірвалі,
У вяночкі ўвівалі.

У вяночкі ўвівалі,
Брата, сястру паміналі:

А брахненька — сіні цвет,
А сястрыца — жоўценькі.

202

А ў горадзе на рынку
П'е худоба гарэлку.

А багаты дзівіцца,
Як худоба жывіцца.

Худобушка з рукаўка,
А багаты з кулака.

— Шынкарачка малада,
Падай мёду і віна.

[Падай мёду і віна]
І гарэлкі чаркі дзве.

— А за колькі, маладзец,
А за колькі, беленькі?

— Шынкарачка малада,
Хоць за тысячу рублей.

— Не сап'еш ты, маладзец,
Не згуляеш, беленькі.

— А сам жа я не сап'ю,
Худобушку напаю.

— А калі ж ты гэткі пан,
Аддай жа мне сінь жупан.

— Нашто табе сінь жупан,
Ёсць у мяне грошы жбан.

Ёсць у мяне грошы жбан,
Пад карчом закапан.

— Калі ў цябе грошы жбан,
Я за цябе дачку аддам.

Мая дочка Таццяна
У святліцы раджана.

У святліцы раджана,
А ў саборы хрышчана.

А ў саборы хрышчана,
А ў цэркаўцы звянчана.

[А ў цэркаўцы звянчана],
Ў каморы спаць кладзёна.

Пытаецца дзяціна:
— Адкуль родам, дзяўчына?

— З Кіева папоўна,
Па бацюшку Йваноўна.

Пытаецца дзяўчына:
— Адкуль родам, дзяціна?

— З Кіева паповіч,
Па бацюшку Йвановіч.

Бадай папы прапалі,
Што з сястрою звянчалі.

Бадай маці прапала,
Што з сястрою спаць клала.

Як бог мяне засцярог,
Што з сястрою спаць не лёг.

Маць прачыста зберагла,
З братам спаць не лягла.

— Пойдзем, сястра, ў цёмны лес,
Рассеемся травою.

А травою такою,
Што брахнейка з сястрою.

На Івана Купала
Прыдуць дзеўкі краскі рваць.

Прыдуць дзеўкі краскі рваць,
Будуць песенькі спяваць.

Будуць песенькі спяваць,
Нас з табою памінаць:

— А дзе тая травіца,
Што брацетка-сястрыца?

На брахнейку жоўты цвет,
На сястрыцы сіненькі.

Ад таго яна сіненька,
Што плакала сільненька.

А брахненька жоўценькі,
Што ён плакаў моцненька.

На Івана Купала
Сястра з братам прапала.

## 203




Ой, ляцелі жураўлі
Ды паселі на раллі,
Гэй, ды паселі на раллі [1].

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з дадаткам «Гэй» у пачатку радка.

Пыталіся ратая,
Яка лепшая ралля.

— Ой, на ранняй на раллі
Родзіць жыта, пшаніца.

А на позняй на раллі
Родзіць куколь, мятліца.

Ой, сышліся мужыкі
Ды гутараць пра жанкі.

— А першая жоначка,
Як на небе зорачка,

А другая жоначка,
Як у садзе пчолачка,

А трэцяя жанішча,
Як у лесе савішча.

Як не ўкусіць, то ўшчыпне,
А ўсё дарма не міне.

— Ідзіце, дзеткі, служыці,
Чым мачысе гадзіці.

Хто там у лесе гукае?
Бацька дзеці шукае:

— Ідзіце, дзеткі, дадому,
Дрэнна жыці аднаму.

— Жыві, бацька, як бог даў,
Бо харошу жонку ўзяў.

А мы будзем служыці,
Чужым людзям гадзіці.

204

А за рэчкай, за рэчкай
Пасціла дзеўка авечкі,
А пасучы заснула.
Ехаў казак — не чула.
Махнуў хустачкай — не дастаў,
Кінуў яблычкам — не ўлучыў,
Злез з коніка, пабудзіў:
— Уставай, дзеўка, досыць спаць,
Тваіх авечак не відаць.
Садзіся, дзеўка, на каня,
Кладзі ножкі ў страмяна
І паедзем да двара.
Едзем поле і другое:
— Злязай, дзевачка, з каня,
Вымай ногі з страмяна.
Сцялі, дзеўка, пасцельку,
Вары, дзеўка, вячэру.
Стала дзеўка пасцель слаць
І ціхенька ўздыхаць,
І стала сільненька плакаць.
— Чаго, дзеўка, уздыхаеш
І сільненька плакаеш?
— Як жа мне не ўздыхаць:
Было ў маткі дзевяць нас,
А дзесяты брацец наш,
Медзяны пальчык уцяты
І на вайну ўзяты.
— А яшчэ мяне бог сцярог,
Што з сястрыцай спаць не лёг.
Яшчэ мяне бог пакрыў,
Што сястрыцы не накрыў.
Пойдзем, сястрыца, на поле,
Рассеемся абое.
Табе, сястрыца, жоўты цвет,
А мне, брацейку, сіненькі —
Брат з сястрыцаю родненькі.
Пойдуць дзеўкі кветкі рваць,
Брата з сястрою ўспамінаць:
— А дзе тая травіца,
Што брацейка з сястрыцай?

## 205

♩=138

Ой, пад га_ ро_ ю, над кры_ ні_ ца_ ю,
ой, там ся_дзе_ лі брат з ся_ стры_ ца_ю.

## 206

Ой, ля_ це_ лі ле_ бе_ дзі, се_ лі, па_ лі
на ва_дзе. Ой, се_ дзя_ чы, га_ во_ рапь.

## 207

Каля быстрай рэчкі
Пасціла дзеўка авечкі.
Яна пасціла, заснула,
Ехаў малойчык — не чула.
Махнуў хустачкай — не дастаў,
Кінуў яблычкам — не ўлучыў,
Злез з коніка, пабудзіў:
— Уставай, дзевачка, досыць спаць,
Тваіх авечак не відаць.

Садзіся, дзевачка, на каня
Да паедзем у паля.
Прыехалі дадому.
— Сцялі, дзевачка, пасцельку.
Стала дзевачка пасцель слаць,
Стала яна плакаць, наракаць.
— Чаго, дзевачка, плачаш,
Ці ты роду не маеш?
— У мяне роду нямашка:
Айцец з мацяй памёршы,
А сястрыца ў няволі —
Не ўвідзімся ніколі.
А брацейка на вайне,
Не ведае аба мне.
— Ты — родная сястра,
Садзіся, сястрыца, на каня
Да паедзем у паля,
Рассыпімся абое.
На брацейку — жоўты цвет,
На сястрыцы — сіненькі.
Будуць дзевачкі зелле збіраць,
Брата з сястрыцай ўспамінаць:
— Гэта тая травіца,
Што брацейка з сястрыцай.

## 208

Каля рэчкі, каля рэчкі
Пасціла дзеўка авечкі.

Ды пасучы заснула,
Ехаў малойчык — не чула.

— Уставай, дзеўка, досыць спаць,
Тваіх авечак не відаць.

Ды садзіся на каня,
Кладзі ножкі ў страмяна.

Едуць поле, другое,
На трэцце ўз'язджаюць.

Пытаецца Ясенька:
— Скуль ты родам, Касенька?

— Я й родам Кра́каўна,
А назвіска — Войтаўна.

Пытаецца Касенька:
— Скуль ты родам, Ясенька?

— Во я родам Кра́кавіч,
А назвіска — Войтавіч.

Яшчэ мяне бог сцярог,
Што з сястрою спаць не лёг.

— Пойдзем, сястра, у поле,
Рассеемся абое.

З мяне будзіць жоўты цвет,
З цябе будзіць сіні цвет.

Будуць дзеўкі краскі рваць
І брата з сястрою памінаць:

— Гэта тая травіца,
Што брацейка з сястрыцай.

## 209

Ой, прыехаў жаўнеранька
Да к маладой дзяўчынаньцы.
— Маладая дзяўчынанька!
Сцялі мне пасцеленьку.
Яна яго не слухала
Да сільненька заплакала.
— Маладая дзяўчынанька,
Чаго ты так сільна плачаш?
Ці ты роду вялікага,
Ці ты бацькі багатага?
— Я і роду вялікага,

Я й войца, маткі багатае.
Да было ў мяне тры брацейкі,
Да ўсе тры ў службаньку пашлі:
Адзін братка Лукашанька,
Другі братка Тамашанька,
А трэці братка — то Ясенька.
А Ясенька служыць пры пану,
Лукашанька — то пры цару,
Тамашанька — пры жаўнеру.
— Хвала табе, божа,
Што роду дапытаўся,
З сястрою спаць не клаўся
Да граху не набраўся.

## 210

♩=92

А на Йва_ на Ку_ па_ ла
хто што зра_ біў — пра_ па_ ла,
хто што зра_ біў — пра_ па_ (а) ла.

А на Йвана Купала
Хто што зрабіў — прапала [1].

Ў багатага сінь жупан,
А ў беднага грошы ’нбар.

— Калі ў цябе грошы ’нбар,
Я за цябе дачку ’ддам.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Мая дачка Таццяна,
Йна ў касцёле вянчана.

Йна ў касцёле вянчана
І ў каморы спаць клана.

— Скажы, скажы, мілая,
Галубачка сізая.

Скажы, скажы, Таццяна,
Якога ты пароддзя?

— Па бацюшку Вайтоўна,
Па матушцы Карпоўна.

— Гасподзь мяне сасцярог,
Што з сястрою спаць не лёг.

Пайдзём, сястра, у поле,
Рассеемся абое.

А брахненька — сіні цвет,
А сястрыца — жоўценькі.

Будуць дзевачкі ірваць,
Сястру з братам памінаць.

Ой, то тая красачка,
Што брахненька й сястрыца.

У багатага сінь жупан,
А ў беднага грошы 'нбар.

— Калі ў цябе грошы 'нбар,
Я за цябе дачку 'ддам.

## УДАВА І СЫНЫ-КАРАБЕЛЬНІКІ

### 211

Як на горцы, на гарэ,
На высокай, на крутой,
Праявілась навіна —
Удовушка малада
Да трох сыноў радзіла,
У полачкі спавіла
Да й на Дунай насіла.
У карабель усадзіла,
Ў ціхі Дунай пусціла.
— Ох ты, ціхенькі Дунай,
Ўскалышы маіх сыноў
Да дванаццаці гадоў.
На дванаццатым гаду
Пашла ўдоўка па ваду.
Стала ўдоўка ваду браці,
Стаў карабель прыплываці.
Як у том караблі
Тры данцы-малайцы.
Адзін сядзіць ў дудку іграе,
Другі песенькі пяе,
Трэці сядзіць на далу
Да й сватае удаву:
— А ты ўдоўка малада,
Што думаеш-гадаеш —
За мяне замуж ідзеш?
— Я думаю-гадаю,
Сама за цябе іду,
За таварыша твайго
Сваю доч аддаю.
Ў Чарнігаве сваталі,
У Кіеве звянчалі,
А ў каморы спаць клалі.
Да й пытае хлапчына:
— Адкуль родам, дзяўчына?
— Я з Кіева папоўна,

Па бацюшку Йваноўна,
Па матушцы Ўляноўна.
Пытаецца дзяўчына:
— Адкуль родам, хлапчына?
— Я з Кіева паповіч,
Па бацюшку Йвановіч,
Па матушцы Ўляновіч.
А што гэта за свет стаў,
Што брат сястру узяў!
А што гэта за год стаў,
Што брат сястры не ўвазнаў?
Бадай папы прапалі —
Брата з сястрой звянчалі.
Пойдам жа мы ў цёмны лес,
Няхай жа нас звяр'ё з'есць.
— А я звера баюся,
Пайду ў рэчку ўтаплюся.
Рэчка кажа: не прыму,
Вална кажа: выкіну,
Вецер кажа: вывею,
Сонца кажа: выгрэю,
А бог кажа: долю дам,
Што брат сястры не пазнаў.
Ідзіце вы ў дуброўку
І скіньцеся травою:
А ты братка — жоўты цвет,
А ты сястра — сіненькі.
Будуць дзеўкі краскі рваць,
Сястру й брата памінаць:
— Гэта тая травіца,
Што брат з сястрой жаніўся.

## 212

Жыла ўдава на Падоле
Да не мела шчасця-долі.
Спарадзіла да ўдава
Да трох сыноў-сакалоў.
Ні аднаго не ўзрасціла,

У карабель забіла
Да на Дунай пусціла.
— Ой ты, ціхі Дунай,
Калышы маіх сыноў
Да дваццаці гадоў.
А ты, нізкая лаза,
Не шумі ты ля дзяцей.
А вы, жоўтыя пяскі,
Не наносьце мне таскі.
Не ішла ўдава
Восем гадоў да вады.
На дзевяты год пашла
Маладая ўдава.
Толькі стала воду браці,
Стаў карабель вазныраці.
Як у том караблі
Да тры моладцы сядзяць.
Адзін сядзіць у карме,
Ён вясёлікам грабе.
Другі сядзіць у насу
Да ён песенькі пяе.
Трэці сядзіць на дне,
Ён гаворыць удаве:
— Маладая ўдава,
Чы ты пойдзеш за мяне?
— А я доншчыка люблю,
Я за доншчыка пайду,
За другога дочку аддам.
Не пытаецца хлапчына,
Адкуль родам дзяўчына.
На Дунаі сваталісь,
У цэркаўцы звянчалісь.
Пытаецца хлапчына:
— Адкуль родам, дзяўчына?
— Ой, я роду кіеўскага,
Па бацюшку вайтоўна.
Ой, які свет настаў —
Брат сястры не вазнаў!
Ой, якія папы сталі —
Брата із сястрой звянчалі!
— Хадзем, сястра, у сіне мора,
Мы патопімся абое.
Вада кажа: не прыму,

Вална кажа: выкіну.
А бог кажа: долю дам —
Брат сястры не вазнаў.
— Хадзем, сястра, у чыста поле,
Мы рассыпімся абое.
Ты ўзойдзеш сінім цветам,
А я ўзыйду жоўтым цветам.
Будуць дзевачкі хадзіць,
Цвяточкі зрываць
Ї з нас з табой грахі знімаць.
Будуць дзевачкі траву жаць
І нас з табою ўспамінаць:
— От то тая трава,
Што за братам сястра.

## 213

Што й купечаская доч
Па горыњкі хадзіла.

[Па горынькі хадзіла],
Пару сыноў радзіла.
О-хо-хо-хо, о-хо-хо-хо,
Пару сыноў радзіла! [1]

Сама бабушкай была,
Сама іменне дала.

[Сама іменне дала],
Іванюшку й Васіля.

У пялёначкі спавіла,
На ціхі Дунай аднясла.

— Ох ты, ціхі Дунай,
Ускалышы маіх дзяцей.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «О-хо-хо-хо, о-хо-хо-хо».

Ох ты, траушка-камыш,
Маіх дзетак прыкалыш.

Ох ты, ніцая лаза,
Не павыкаль ім глаза.

Ох вы, дзікія пяскі,
Не задайце ім таскі.

Ох ты, рыба-бялуга,
[Ускармі маіх сыноў].

Ускармі маіх сыноў
Да шаснаццаці гадоў.

Не хадзіла малада
Лет шаснаццаць па ваду.

На семнаццатым гаду
Вышла ўдоўка па ваду.

Стала дзеўка ваду браць,
Стаў караблік прыплываць.

Што й на том жа караблі
Двое молайцаў сядзяць.

Адзін сядзіць на насу,
Чэша русую касу.

Другі сядзіць на карме,
Прама смотра на яе.

Распытуе ў яе:
— Ці пойдзеш ты за мяне?

— За аднаго сама пайду,
За другога доч аддам.

Прыехаўшы з-пад вянца,
Стаў маладзец гаварыць:

— Скажы-ка ты, дзевачка,
З якога ты роду?

— Я з Кіева папоўна,
Па бацюшку Пятроўна.

— Скажы ты, маладзец,
Якога ты роду?

— Із Кіева паповіч,
Па бацюшку Пятровіч .

Ох, які то свет настаў,
Што брат сястры не ўпазнаў.

[Што брат сястры не ўпазнаў],
За сябе замуж узяў.

Гасподзь мяне сабярог,
Што з сястрою спаць не лёг.

Бадай папы прапалі —
Брата з сястрой звянчалі.

— Ідзі, сястра, у манастыр
Маліць бога за ўвесь мір.

А я пайду ў цёмны лес,
Няхай мяне звер із'есць.

— Ідзі, брацец, гарою,
[А я пайду далінаю].

А я пайду далінаю —
Скінемся травінаю.

Ты цвецікам сіненькім,
А я цвецікам жоўценькім.

Парасцём мы пад кустом,
Накрыемся хварастом.

Будуць людзі траву ірваць,
Брата з сястрой памінаць:

Гэта тая травіца,
Што брат і сястрыца.

Будуць людзі касіць
І за нас бога прасіць.

## 214




Ўзышоў месяц і зара,
Там хадзіла удава.
Дунай, Дунай, Дунаёчак! [1]

Там хадзіла удава,
Харошая, малада.

Харошая, малада
Спарадзіла два сына.

Спарадзіла два сына,
Ў кітаіньку спавіла.

У карэбчык улажыла,
На чыст Дунай пусціла.

Ах ты, ціхенькі Дунай,
Маіх дзетак калыхай!

---

[1] Рэфрэн «Дунай, Дунай, Дунаёчак!» паўтараецца пасля кожнай страфы.

Ах ты, жоўценькі пясок,
Накармі маіх сыноў!

Ах ты, дробна рыбачка,
Забаўляй маіх сыноў!

На дваццатым на гаду
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду брацъ,
Стаў карэбчык падплывацъ.

А на тым на караблі
Ды два брацікі радны.

Адзін сядзіць на насу,
Чэшыць русую касу.

Другі сядзіць на далу,
Паглядаець на ўдаву.

Цінай рыбу ганяець,
І з удоўкай гукаець:

— Ах ты, ўдоўка-удава,
Харошая, малада!

Чаму, ўдоўка, ты стаіш,
Чаму вады не бярэш?

— Я й вадзіцу бяру,
Я й на молайцаў сматру.

— Ах ты, ўдоўка-удава,
Харошая, малада!

А ці любіш ты нас,
А ці пойдзеш за нас?

— За старшага сама пайду,
За меншага дачку аддам.

## 215

♩=68

Гэй! А што гэ– та за вя–р(ы)– ба,
што без ко– ра– ня рас– ла.
(Г) эй, эй, а– ха– ха,
што без ко– ра– ня рас– ла.

Гэй! А што гэта за вярба,
Што без кораня расла?
Гэй, эй, а-ха-ха [1],
Што без кораня расла.

А што гэта за ўдава
Сем лет без мужа жыла.

Сем лет без мужа жыла,
Двух сыночкаў радзіла.

Двух сыночкаў радзіла,
Іванюшку й Васіля.

Ой, Ванюшку, Васіля
Ў ціхі Дунай аднясла.

Ах ты, ціхенькі Дунай,
Паціхусеньку гуляй.

Паціхусеньку гуляй,
Маіх дзетак даглядай.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Гэй, эй, а-ха-ха».

Ох ты, сіненькі чарот,
Ты глядзі маіх сірот.

Да й глядзі маіх дзяцей
Да семнаццаці ляцей.

На семнаццатым гаду
Прышла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду браць,
Стаў карабель прыплываць.

Што і ў тым жа караблі
Два малойчыкі сядзяць.

Адзін ляжыць на баку,
Курыць люльку табаку.

Другі сядзіць у карме,
Дзяржыць рукі ў кармане.

— Ох ты, ўдовушка-ўдава,
А ці пойдзеш за мяне?

— За аднаго сама іду,
За другога доч аддаю.

Сталі яны вянчацца,
Стала царква здрыгацца.

Сталі яны ў званы біць,
Сталі людзі гаварыць:

— А што гэта за свет стаў,
Што брат сястры не ўгадаў.

Што за стала ж гадзіна —
Вянчаецца радзіна.

— Пойдзем, братка, гарою,
Рассеемся травою.

На браточку — сіні цвет,
На сястрыцы — жоўценькі.

Будуць дзеці цвяты рваць,
Будуць нас успамінаць:

— Гэта ж тая травіца,
Да й братачка й сястрыца.

## 216

♩=75

Па_ ра_ дзі_ ла(й) у_ да_ ва (й)
І_ ва_ ню_ шу й Ва_ сі_ ля,
эй, І_ ва_ ню_ шу й Ва_ сі_ ля.

Парадзіла й удава
Іванюшу й Васіля,
Эй, Іванюшу й Васіля [1].

Іванюшу й Васіля
Пад зялёным яварам.

Пад зялёным яварам,
Пад круценькім беражком.

Пад круценькім беражком
У пялёначкі спавіла.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з дадаткам «Эй» у пачатку радка.

У пялёначкі спавіла,
У Дунай-раку пусціла.

У Дунай-раку пусціла,
У Дунай-ракі прасіла:

— Ах ты, быстрая рака,
Не зганяй маіх дзяцей,

А крутыя беражочкі,
Прыкалыхвайце дзяцей.

А вы, жоўтыя пясочкі,
Не засыпце ім вочкі.

А ў нядзельку ж раненька
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду браць,
Стала вада сільна граць.

Стала вада сільна граць,
Стаў карабель прыплываць.

А ў том жа карабочку
Два малойчыкі сядзяць.

— А ты, ўдоўка-удава,
А ці пойдзеш ты за нас?

— За первага сама йду,
За другога доч аддам.

У нядзельку раненька
Самі званы зазванілісь.

Усе людзі ўваэналі,
Што брата з сястрой звянчалі.

— Хадзем, братка, у поле,
Рассеемся абое.

Ты, братачка, сіні цвет,
А сястрыца — жоўты цвет.

## 217

♩=150

А ў- до- вуш- ка, у- да- ва
сем лет без му- жа жы- ла,
у- до- вуш- ка, у- да- ва
сем лет без му- жа жы- ла.

А ўдовушка, удава
Сем лет без мужа жыла.
Удовушка, удава
Сем лет без мужа жыла.

Сем лет без мужа жыла,
Двух купчыкаў злюбіла,
Э-э-эй, а-ха-ха,
Двух купчыкаў злюбіла.

І двух купчыкаў злюбіла,
Пару сыноў радзіла,
Э-э-эй, а-ха-ха,
Пару сыноў радзіла.

Пару сыноў радзіла,
Сама бабаю была,
Пару сыноў радзіла,
Сама бабаю была.

Сама бабаю была,
Сама імя ім дала,
Э-э-эй, а-ха-ха,
Сама імя ім дала.

Сама імя ім дала:
Іванюшку й Васіля,
Э-э-эй, а-ха-ха,
Іванюшку й Васіля.

Іванюшу й Васіля
Да на рэчку панясла,
Іванюшу й Васіля
Да на рэчку панясла.

Да на рэчку панясла
У Дунай-рэчку бросіла,
Э-э-эй, эй-ха-ха,
У Дунай рэчку бросіла.

— Ох ты, рыба алая,
Прыглядай маіх дзяцей,
Э-э-эй, эй-ха-ха,
Прыглядай маіх дзяцей.

Прыглядай маіх дзяцей
Да семнаццаці ляцей,
Э-э-эй, эй-ха-ха,
Да семнаццаці ляцей.

Цераз семнаццаць жа ляцей
Пайшла ўдоўка па ваду,
Э-э-эй, эй-ха-ха,
Пайшла ўдоўка па ваду.

А шырако размахнула,
Глыбако пачарпнула,
Э-э-эй, эй-ха-ха,
Глыбако пачарпнула.

Аглянулася назад,
Плывець новенькі карабль,
Э-э-эй, эй-ха-ха,
Плывець новенькі карабль.

А ў том жа караблі
Жывуць удоўкіны сыны.

А за раджэння, за нашэння
Ды ты маць наша радна,
Э-э-эй, эй-ха-ха,
Дык ты маць наша радна.

А за кармлёту, за паёту
Дык ты лютая змяя,
Э-э-эй, эй-ха-ха,
Дык ты лютая змяя.

## 218




Мела ўдоўка-чарнаброўка,
Мела яна два сыны [1].

Ой, мела ўдоўка два сыны,
Ды абодва Васілі.

Ой, ды абодва Васілі
Ў быстры Дунай пусціла.

— Ой ты, жоўценькі пясочак,
Прыкрый маіх дзяточак.

На дваццатым на гаду
Пайшла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду браць,
Стаў караблік прыплываць.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А ў тым караблі
Два прыкрасных малайцы.

Адзін кніжачку чытае,
Другі ўдовачку пытае.

— Ах ты, ўдоўка-чарнаброўка,
Ці не пойдзеш за мяне?

Хоць сама я не пайду,
Харошу дачку аддам.

Бадай маці запрапала:
Брата з сястрой звянчала.

— Пойдзем, сястра, у роўна поле,
Рассыплемся травою.

Ой, рассыплемся травою
А братанька з сястрою.

Будуць дзевачкі гуляці,
Гэты красачкі зрываць.

Гэты красачкі зрываці,
Будуць нас успамінаць:

Гэта тыя, што брацятка
Пажаніліся з сястрою.

## 219



Як пайшла удава
Ды ў арэшыкі адна [1].

Сашчыпнула удава
Ды два 'рэшыкі адна.

Раскусіла удава
Ды два 'рэшыкі адна.

Ох, і з'ела удава
Ды й ядзёрушкі адна.

А й з таго ж то удава
Ды й забрэменіла.

А радзіла удава
Ды двух сыноў Васілёў.

Сама й бабаю была,
Сама й імя ім дала.

Як панясла удава
На мора дзяцей тапіць.

— Ох ты, ціхенькі Дунай,
Маіх дзетак прыглядай!

Ох ты, быстрая вална,
Калышы маіх дзяцей!

Ах ты, жаркае сонца,
Абагрэй маіх дзяцей!

Ты, ясёны месячык,
Пасвяці маім дзяцём!

Ах вы, дробныя звёзды,
Забаўляйце вы маіх дзяцей!

Не хадзіла удава
Дзевятнаццаць гадоў па ваду.

На дваццатаму гаду
Пашла ўдова па ваду.

---

[1] Кожная страфа паўтараецца два разы.

Стала ўдова ваду брацъ,
Стаў чавёнчык прыплываць.

[Як] у том жа чаўне
Ды два молайцы сядзяць.

Ды два молайцы сядзяць,
Пра жаніцьбу гавараць.

— За 'днаго ж бы малайца
Сама старасцю пайшла б.

За другога малайца
Я б дачку сваю 'ддала!

— Каб у нашай Расеі
Не паводзіцца таго.

Што адзін на аднаго
Ды паглядываюць,

Ды паглядываюць,
Ды ўсміхаюцца.

Каб і родная маць
Ды за сына б пайшла.

Каб і родную сястру
Ды за брата 'ддала.

— Калі ж мае сыны Васілі,
А хадзіце вы ка мне.

А хадзіце вы ка мне,
Пабывайце ў мяне,

Пабывайце ў мяне
Ды ў бацькавым двара.

— Па раждэнніку твайму,
Дык ты родная маць.

Па ўспітанніку твайму,
Дык ты лютая змяя!

## 220

Сядзела ўдава позна вечара адна,
Позна вечара адна [1].
Усе лучыны прыпаліла, ўсе агарачкі прыжгла.
Як пашла наша ўдава іна ў арэшкі адна.
Іна, прышоўшы з арахоў, да й забрэменела.
Парадзіла ўдава двух сыноў-сакалоў,
Двух сыноў-сакалоў, трэццюю дачку сабе.
Парадзёмшы, іна сама бабаю была,
Сама бабаю была, ў кітаечку спавіла,
Ў кітаечку спавіла, на Дунай-рэчку знясла:
— Уж ты, ціхенькі Дунай, калышы маіх дзяцей,
Ты, сырая маць-зямелька, ты кармі маіх дзяцей,
Ты, жаркае сонца, угравай маіх дзяцей,
Ты, шалковая трава, адзявай маіх дзяцей,
Ты, рыба-бялуга, ты лялей маіх дзяцей.
Вы, дробныя дожджыкі, абмывайце маіх дзяцей.
Не хадзіла ўдава дзевяць гадоў па ваду,
На дзесяты год пашла ўдава па ваду,
Размахнула, пачарпнула, на плечыкі ўзяла.
Іна на плечыкі ўзяла, на круту гару пашла,
На круту гару пашла, іна прыстоілася,
Ну, за ёю бягуць два молайцы харошы.
— За днаго б я молайца сама замуж пашла,
За другога б молайца сваю б дачку аддала!
— Сколька па свету езжавалі,
А мы гэтакай дзіковінкі не відывалі,
Штобы маці за сына яна замуж ішла,
Сваю родную дачку яна б за брата аддала!
Уж ты, маць мая радзіма, ты не ўмела нас карміць,
Не ўмела нас карміць, ты не ўмела нас паіць:
Не кароўім малаком, а ты светлаю вадою,
Ты не маннаю кашай, ты з грачышных круп.
Аддала ты нас, маць, ты на сіняе мора,
Ускарміла, успаіла нас сырая маць-зямля...
Па ражджэнню, па труджэнню ты нам родная маці,
Па ўскармленню, успаенню ты нам лютая змяя!
— Не сярдзіцесь, мае дзеці, пайдзём умесце з вамі жыць,
Пайдзём умесце з вамі жыць, буду хлебам вас карміць,
Буду хлебам вас карміць, усё сытою вас паіць.

---

[1] Другая частка кожнага радка паўтараецца два разы.

## 221

♩=126

А што ж гэ- та за ўда- ва — сем лет без му- жа жы- ла, Ой, сем лет без му- жа жы- ла.

А што ж гэта за ўдава —
Сем лет без мужа жыла,
Ой, сем лет без мужа жыла [1].

Па базару хадзіла,
Палкоўнічка любіла.

Палкоўнічка ж любіла,
На ганачкі ўступіла.

На ганачкі ўступіла,
Два сыночкі радзіла.

Два сыночкі радзіла ж,
Сама яна спавіла.

Сама яна спавіла,
Сама імя наклала.

Сама імя наклала
Да Іванюшку, Васіля.

Іванюшку, Васіля ж
У ціхі Дунай аднясла.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з дадаткам «Ой» у пачатку радка.

— Ціхі Дунай, маладзы ж,
Васпітай маіх сыноў.

Васпітай маіх сыноў
Да семнаццаці гадоў.

А ў семнаццатым гаду
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала яна ваду браць,
Стаў карабель падплываць.

Карабель стаў падплываць,
Капітан стаў гаварыць:

— Ох ты, ўдова малада ж,
Ой, ці пойдзеш за міня?

— Я за цябе не пайду,
Сваю дочар аддаю.

Сталі яны вянчацца,
Стала цэрква дзвігацца.

Стала цэрква дзвігацца,
Сталі папы з'язджацца.

Стала цэрква дзвігацца ж,
Сталі людзі здзіўляцца.

Сталі людзі здзіўляцца,
Сястра з братам вянчаецца.

— Ідзі, сястра, тапіцца,
А я пайду ў цёмны лес.

А я пайду ў цёмны лес,
Няхай мяне звер із'есць.

Сястра пашла тапіцца,
Вада кажа: не прыму.

Вада кажа: не прыму,
Сонца кажа: высушу.

Сонца кажа: высушу,
Вецер кажа: удую.

Зара кажа: замуж аддам,
Месяц кажа: долю дам.

## 222

♩=104

А што гэ_ та за ўда_ ва —
сем лет без му_ жа жы_ ла, ой, да сем лет
без му_ жа жы_ ла.

## 223

♩=62

Бы_ ла са_ бе у_ да_ ва,
па_ ра_ дзі_ ла сы_ ны два.
Па_ ра_ дзі_ ла, па_ ві_ ла,
ў ка_ лы_ бель_ ку ўла_ жы_ ла.

Была сабе удава,
Парадзіла сыны два.
Парадзіла, павіла,
Ў калыбельку ўлажыла [1].

Ў калыбельку ўлажыла,
Ў ціхі Дунай пусціла.
— Ты, Дунайчыку мой,
Ты дасматрывай іх!

А вы, ціхія валны,
Пакалыхівайце!
А вы, ціхія лозы,
Сазывайце вы іх!

А вы, ціхія лозы,
Сазывайце вы іх,
А вы, жоўтыя пяскі,
Накармляйце вы іх!

На пятнаццатым гаду
Пашла ўдова па ваду,
Стала ўдова ваду браць,
Стаў карабчык прыплываць.

А на тым жа карабцы
Два ўдалыя малайцы:
Адзін сядзіць на брусу,
Чэша русую касу.

Адзін сядзіць на брусу,
Чэша русую касу,
Другі сядзіць на далу,
Паглядае на ўдаву.

— Ой ты, ўдова малада,
Да ці любіш ты мяне?
Да ці любіш ты мяне,
Да ці пойдзеш за мяне?

---

[1] Апошнія два радкі кожнай страфы паўтараюцца два разы.

Да ці любіш ты мяне,
Да ці пойдзеш за мяне?
— Я за цябе пайду,
За другога доч аддам.

— Што б жа ты така маць
Наскрозь землю пашла,
Што б за роднага сына
Сама замуж пашла!

## 224

♩=60

Ох ты, ўдоў_ ка, у_ да_ ва,
ты к(ы)_ра_ сі_ ва й ма_ ла_ да.
Эй, ой, ха_ ха,
ты кра_ сі_ ва й ма_ ла_ да.

Ох, ты ўдоўка, удава,
Ты красіва й малада.
Эй, ой, ха-ха,
Ты красіва, малада! [1]

Ты красіва, малада,
Афіцэра любіла.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца ў рэфрэнам «Эй, ой, ха-ха».

Афіцэра любіла,
Двух малойцаў радзіла.

Двух малойцаў радзіла,
У карабочак злажыла.

У карабочак злажыла,
У Дунай-рэчку пусціла.

— Вох, ты рэчка, вой, Дунай,
Маіх дзетак не люляй.

Калышы маіх сыноў
Да семнаццаці гадоў.

На семнаццатым гаду
Прыйшла ўдоўка па ваду.

Стала ўдава ваду браць,
Стаў караблік прыбываць.

А ў тым жа караблі
Два малойчыкі сядзяць.

Адзін кнігу чытае,
Другі ўдовы пытае:

— Ох ты, ўдоўка-удава,
Ты красіва, малада.

Ты красіва, малада,
А ці пойдзеш за міня?

— За аднаго я доч аддам,
За другога сама йду.

— Ох ты, ўдоўка-удава,
Ў цябе глупа галава.

Нігдзе ў свеце ні відаў,
Каб сын мамку замуж ўзяў.

— Ах, сыночкі вы мае,
Дзе ж вы такі параслі?

— Мы плавалі па вадзе,
Параслі мы ў лебядзе.

Умываліся расой,
Уціраліся травой.

## 225

Сышоў месяц і зара,
Ўставай, ўдава малада![1]

Па садочку хадзіла,
Два сыночкі ўрадзіла.

І ў кітайку спавіла,
Да ў карабец ўлажыла.

Да ў карабец ўлажыла,
Ў ціхі Дунай пусціла.

У восемнаццатым гаду
Прышла ўдова па ваду.

Стала ўдова ваду брацъ,
Ой, стаў карабец прыплываць.

Стаў карабец прыплываць,
Сталі ўдову думкі браць:

— Ці ты, ўдоўка, забыла,
Як два сынкі ўрадзіла.

Як два сынкі ўрадзіла,
У ціхі Дунай ўпусціла?

Адзін сядзіць ўпераду,
Разганяе ўсё ваду.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы

Другі сядзіць назаду,
Паглядае на ўдаву:

— А ты, ўдова, ты ўдава,
Да ці любіш, ой, ты нас?

Да ці любіш, ой, ты нас,
Да ці пойдзеш ты за нас?

— За аднаго сама іду,
За другога доч даю!

— Ах ты, ўдава малада,
Дурна твая галава!

Ці ты, ўдова, забыла,
Як два сынкі ўрадзіла?

Ой, за сына сама йдзеш,
За другога доч даеш.

## 226

Moderato

Вох, на га_ ры, на кру_той ста_ іць я_ вар зе_ ля_ ной,
у_ га, у_ га_ га, ста_ іць я_ вар зе_ ля_ ной.

Вох, на гары, на крутой
Стаіць явар зеляной,
У-га, у-га-га,
Стаіць явар зеляной[1].

А з-пад таго явара
Вышла ўдава малада.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «У-га, у-га-га».

Парадзіла два сына
Да ў карабец ўлажыла,

Ў ціхі Дунай пусціла.
У дванаццатым року

Пашла ўдава па воду.
Нагнулася воду брацъ,

Стаў карабель прыплываць.
А з таго карабля

Вышла два малайца,
Пытаюцца ўдавы:

— Ці ты любіш малайцы?
— А чаму ж я не люблю,

За старшага сама йду.
Старшы стаіць на часу,

Чэша русую касу.
Меншы стаіць на далу,

Ўзіраецца на ўдаву:
— Ах, ты ўдава, ты ўдава,

Дзе то ты да відала,
Каб сын з маткай спаці лёг?

Яшчэ мяне бог сцярог,
Каб з сястрою спаці лёг.

**227**

♩=75

У_ до_ вуш_ка, у_ да_ ва па ву_лі_ цы ха_дзі_ла,

О_ ха, о_ ха_ ха, па ву_лі_ цы ха_дзі_ ла.

Удовушка, удава
Па вуліцы хадзіла,
О-ха, о-ха-ха,
Па вуліцы хадзіла [1].

Па вуліцы хадзіла,
Двух сыночкаў радзіла.

І ў кітай павіла,
Ў ціхі Дунай занясла.

— Ай, Дунаю, Дунаю,
Калышы маіх сыноў.

Калышы маіх сыноў
Да дзвінаццаці гадоў.

На дзвінаццатым гаду
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду брацъ,
Стаў карабель выплываць.

## 228

Andante

Ста- ла- ся ў нас на- ві- на — ро-дзіць ўдо- ва
два сы- на, ро- дзіць ўдо- ва два сы- на.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «О-ха, о-ха-ха».

Сталася ў нас навіна —
Родзіць ўдова два сына [1].

Ў каробачку ўлажыла,
Ў ціхі Дунай пусціла.

— Ціхі Дунай, не гудзі,
Маіх дзетак не будзі.

Няхай мае дзеткі спяць,
Каб выраслі за лет пяць.

Аж там пятага року
Пашла ўдова па воду.

Стала ўдова воду брацъ,
Стаў карабец прыплываць.

Ах, а ў том карабцы
Маладых два малайцы.

Ўдова воду набірае,
На малойцы паглядае.

— Ой ты, удова, ты ўдава,
Чы любіш ты малайца?

— Я малойчыка люблю,
За малойчыка пайду.

За старшага сама йду,
За меншага доню даю.

— Сыра зямля, расступіся,
Ты, ўдованька, адступіся.

Ты за сына сама йдзеш,
Братаві сястру даеш!

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

229




Эй, на Йвана Купала
Праявілась праява,
Эй, праявілась праява [1].

Удованька малада
Парадзіла трох сыноў.

Парадзёмшы трох сыноў,
Ў пялёшкі спавіла.

І ў пялёшкі спавіла,
І ў калыскі уклала.

І ў калыскі уклала,
На ціх Дунай занясла.

— А ты, ціхенькі Дунай,
Калышы маіх сыноў.

Калышы маіх сыноў
Да дванаццаці гадоў.

На дванаццаты год
Пашла ўдоўка ваду брадь.

Пашла ўдоўка ваду брадь.
Стала песенькі спявадь.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з дадаткам «Эй» у пачатку радка.

Эх, стала песенькі й спяваць,
Стаў карабель прыплываць.

А ў тым жа караблі
Тры бяленькіх малайцы.

Адзін вёсламі грабець,
Другі песенькі пяець.

Другі песенькі пяець,
Трэці сватае ўдаву.

— А ўдованька малада,
А ці пойдзеш ты за мяне?

— Я за цябе не пайду,
Сярэднюю дачку дам.

## 230

Жыла-была й удава
Удавушка малада [1].

Удавушка малада
Спарадзіла два сына.

Спарадзіла два сына,
У пялёнушкі спавіла.

Ў пялёнушкі спавіла,
Ў ціхі Дунай аднясла.

Ў ціхі Дунай аднясла
Ну й Дуная прасіла:

— Вох ты, ціхенькі Дунай,
Калышы маіх сыноў.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Ты крушынушка, лаза,
Адзявай маіх сыноў.

Ой ты, жоўценькі пясок,
Пракармляй маіх сыноў.

У дванаццатым гаду
Пайшла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду брацъ,
Стаў чаўночак прыплываць.

Вой, у тым жа чаўначку
Два малойцы сядзела.

Адзін сядзіць ўперадзе
Ў чыстай русай барадзе.

Другі сядзіць у карме,
Ён вясёлушкам грабе.

— Вох ты, ўдоўка й удава,
Чаго смотрыш ты на нас?

— Ля таго на вас сматру,
Што вас верненька люблю.

Што вас верненька люблю,
За 'днаго замуж пайду.

За 'днаго замуж пайду,
За другога доч даю.

— Вох ты, ўдоўка й удава,
Нідзе таго не чуваць.

Нідзе таго не чуваць,
Каб за сына ішла мацъ.

Каб за сына ішла маць,
А за братку — сястрыца.

А за братку сястрыца —
Можна было жаніцца.

## 231




А дзе месяц, дзе зара,
Там гуляла удава,
Ой, люлі, люлі,
Там гуляла удава [1].

Там гуляла удава,
Парадзіла сыны два.

Ў чорны полак спавіла
І ў карабец злажыла.

І ў карабец злажыла,
У ціхі Дунай пусціла.

Ах ты, ціхенькі Дунай,
Маіх двух сынкой прымай.

На дваццатым на гаду
Пайшла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду брацъ,
Стаў карабец падплываць.

А у тым у карабцы
Два ўдалыя малайцы.

Адзін стаіць на часу,
Чэша русую касу.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Ой, люлі, люлі».

Другі стаіць у чаўне,
Падганяе воду мне.

Падганяе воду мне
І пытаецца ў мяне.

І пытаецца ў мяне:
— А ці пойдзеш за мяне?

— Я за цябе сама йду,
За другога доч даю.

— Яшчэ ж мяне бог сцярог,
Што з мамкаю спаць не лёг.

Яшчэ ж мяне бог укрыў,
Што я сястры не накрыў.

## 232




Што то, што то за вярба,
Што без кораня расла,
Да гэй,
Што без кораня расла [1].

Што то, што то за ўдава —
Сем лет без мужа была.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з дадаткам «Да гэй» у пачатку радка.

Сем лет без мужа была,
Два малойцы любіла.

Два малойцы любіла,
Два сыночкі радзіла.

Два сыночкі радзіла —
Іванюшу й Васіля.

Іванюшу й Васіля
Па рыночку насіла.

Па рыночку насіла,
У лавачку ступіла.

У лавачку ступіла,
Кітаечку купіла.

Кітаечку купіла,
Свае сынкі спавіла.

Свае сынкі спавіла,
У ціхі Дунай пусціла.

— Ой ты, ціхенькі Дунай,
Ты не шумі, не гудзі.

Ты не шумі, не гудзі,
Маіх дзетак не будзі.

На дваццатым на гаду
Пайшла ўдова па ваду.

Стала ўдова ваду браць,
Стаў карабель прыплываць.

А ў караблі два грабца,
Два прыгожых малайца.

Адзін стаіць на часах,
Другі чэша валаса.

— Ой, прыгожая ўдава,
Ці ты пойдзеш за мяне?

— За аднаго сама йду,
За другога доч даю.

## 233

♩=45

Ой, што ж гэ_ та за вя_ р(ы)_ба,
што бе_ з(ы) ко_ ра_ ня рас_ ла, да
гэй, ну, раз, два, лю_ лі,
што без ко_ ра_ ня рас ла.

Ой, што ж гэта за вярба,
Што без кораня расла,
Да гэй, ну, раз, два, люлі,
Што без кораня расла [1].

Ой, што гэта за ўдава
Сем лет без мужа жыла.

Сем лет без мужа жыла,
Два сыночкі радзіла.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Да гэй, ну, раз, два, люлі».

Два сыночкі радзіла
Канстантына й Васіля.

Праз семнаццаці гадоў
Пайшла ўдава за вадой.

Стала ўдава ваду браць,
Стаў карабель прыплываць.

Адзін сядзіць ўпераду,
Расчэсуе бараду.

Другі сядзіць ды ззаду,
Разглядае удаву.

— Эх ты, удовушка мая,
Ой, ці пойдзеш за меня?

— За цябе сама пайду,
За другога доч аддам.

Як паехалі вянчацца —
Забыліся папытацца.

Забыліся папытацца,
Як па імені назвацца.

— Мяне завуць Канстантын,
А па бацьку — Карпаў сын.

— Мяне завуць Малання,
А па бацьку — Карпаўна.

Штоб тыя папы прапалі,
Як брата з сястрой звянчалі.

— Хадзем, братка, ў чыста поле
Ды й і скінемся травою.

Ох ты, братка, ў сіні цвет,
Я, сястрыца, ў жоўты цвет.

Будуць людзі траву рваць,
Будуць нас успамінаць:

— Гэта ж тая травічка,
Што й братка і сястрычка.

## 234

♩=112

Пай_ шла ўдоў_ ка ва_ ду брацъ,

ста_ ла сы_ на спа_ ра_ джаць,

Ду_ най, Ду_ най, Ду_ на_ ё_ чак.

Пайшла ўдоўка ваду брацъ,
Стала сына спараджаць.
Дунай, Дунай, Дунаёчак [1].

Двух сыноў жа радзіла,
У карабель засадзіла.

У карабель засадзіла,
Ў ціхі Дунай пусціла.

Ў ціхі Дунай пусціла,
Быстру ваду прасіла.

— Ах ты, быстрая вада,
Калышы маіх сыноў.

[1] Рэфрэн паўтараецца пасля кожнай страфы.

Ах ты, рыба-шавіна,
Калышы маіх сыноў.

На дваццатым гаду
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала ж ўдоўка ваду браць,
Стаў жа кораб прыплываць.

Стаў жа кораб прыплываць
У ім сыночкі два сядзяць.

Адзін сядзіць спераду,
Выліваець ён ваду.

Другі сядзіць на часы,
Чэшыць русы валасы.

Выліваець ён ваду,
Падмаўляець ён удаву:

—Ах ты, ўдовачка, ўдава,
А ці пойдзеш за мяне?

— За 'днаго сама йду,
За другога дачку дам.

— А дзе мы бывалі,
Таго не слыхалі,

Каб маці за сына йшла,
А брата з сястрой павянчала.

— Ах вы, дзеткі мае,
Ды дзе ж вы бывалі?

Ды хто ж вас гадаваў,
Ды хто ж вас калыхаў?

Калыхала нас вада,
Гадавала рыба.

Ды стаў вецер калыхаць,
Ды стаў кораб адплываць.

## 235




Свеціць месяц і зара,
Я малада удава [1].

Я малада удава
Двух малойцаў любіла.

Двух малойцаў любіла,
Двух сыночкаў радзіла.

Двух сыночкаў радзіла,
Сама імя ім дала.

Сама імя ім дала,
Ў ціхі Дунай аднясла.

— Ах ты, Дунай, Дунай,
Прынімі маіх сыноў.

Дунай кажыць: прыніму,
Я вадзічкай напаю.

На дваццаць пятым гаду
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду браць,
Стаў карабель прыплываць.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А ў тым караблі
Два ўдалыя малайцы.

Стала ўдоўка — ваду не бярэць,
Стала на малайцоў глядзець.

— Чаго, ўдоўка, ты стаіш,
Чаго вады не бярэш?

— А я вады не бяру,
Я вас, малайцоў, люблю.

За старшага сама йду,
За малодшага доч даю.

— А дзе ж тая старана,
Што бы мацьбыла жана?

А дзе ж тая стараніца,
Каб брат з сястрой жаніўся?

## 236

♩=82

Ой ты, ўдо- вуш- ка, ўда- ва (й),
па- ра- дзі- л два сы- на,
па- ра- дзіў- шы, спа- ві- ла,
да Ду- на- я ад- нясла.

Ой ты, ўдовушка, ўдава,
Парадзіла два сына,
Парадзіўшы, спавіла,
Да Дуная аднясла.

— Ой ты, ціхенькі Дунай,
Калышы маіх сыноў,
Калышы маіх сыноў
Да семнаццаці гадоў.

А ў семнаццатым гаду
Пайшла ўдова браць ваду,
А ў семнаццатым гаду
Пайшла ўдова браць ваду.

Сагнулася ваду браць,
Стаў караблік падплываць.
— Ой ты, ўдовушка, ўдава,
Пойдзеш замуж за меня?

— За аднаго сама пайду,
За другога доч аддам,
За аднаго сама пайду,
За другога доч аддам.

— Ідзі, матка, у цёмны лес,
Няхай цябе воўк із'есць.
А ты, сястра, ў зелен луг,
Цябе стрэне мілы друг.

**237**

♩=87

(і) Ой ты, ўдоў_ ка ма_ ла_ да (й),
спа_ ра_ дзі_ ла два сы_ на, (й) ай
эй, ай, у_ ха_ ха, ла(й)
спа_ ра_ дзі_ ла два сы_ на.

Ой ты, ўдоўка малада,
Спарадзіла два сына,
Ай, эй, ай, у-ха-ха
Да й спарадзіла два сына [1].

У кітайку спавіла,
У Дунай-рэчку бросіла.

У дваццаць першаму гаду
Выйшла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду брадь,
Стаў карабель прыплываць.

Стаў карабель прыплываць —
Два малойчыкі сядзяць.

— А ты, ўдоўка малада,
Ці пойдзеш ты за меня?

— Я за аднаго доч даю,
За другога сама йду.

— Ой ты, ўдоўка малада,
Дурная твая галава,

Што за сына сама йдзеш,
За другога доч даеш.

## 238




[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Ай, эй, ай, у-ха-ха».




Да ў нашага й у купца
Была дочка вумніца,
Эй, лі, вой да люлі,
Была дочка вумніца [1].

Была дочка вумніца,
Па садочку хадзіла.

Па садочку хадзіла,
Двух парнішкаў любіла.

Двух парнішкаў любіла,
Двух сыночкаў радзіла.

Двух сыночкаў радзіла,
Іванюшку й Васіля.

Іванюшку й Васіля,
Сама бабушкай была.

Сама бабушкай была,
Ў пялёначкі спавіла.

Ў пялёначкі спавіла,
Ў ціхі Дунай занясла.

Ў ціхі Дунай занясла,
Ў ціхі Дунай бросіла.

Ў ціхі Дунай бросіла,
Ў ціхага Дунаю прасіла:

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Эй, лі, вой да люлі».

— Ох ты, рэчушка Дунай,
Маіх дзяцей наблюдай.

Ох ты, рэчачка, камыш,
Маіх дзетак прыкалыш.

Калышы маіх сыноў
Да дванаццаці гадоў.

На дванаццатым гаду
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду браць,
Стаў карабель прыплываць.

Стаў карабель прыплываць,
Ўдоўка дзяцей пазнаваць.

## 239

♩=68

А што ў на_ ша_ га куп_ ца
бы_ ла доч_ ка ву_ м(ы)_ ні_ ца,
па са_ доч_ ку, ха_ дзі_ ла,
двух ма_ лой_ цаў лю_ бі_ ла.

А што ў нашага купца
Была дочка вумніца.
Па садочку хадзіла,
Двух малойцаў любіла.

Двух малойцаў любіла,
Двух сыночкаў радзіла.
Двух сыночкаў радзіла,
Сама імюшкі дала.

Сама імюшкі дала —
Іванюшу й Васіля.
Іванюшу й Васіля
У ціхі Дунай занясла.

У ціхі Дунай занясла,
Ціхі Дунай прасіла:
— Ох ты, сіненькі чарот,
Калышы маіх сірот.

Калышы маіх сірот
Хоць да васемнаццаці год.
У васемнаццатым гаду
Пайшла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду браць,
Стала мора бушаваць.
Стала мора бушаваць,
Стаў караблік прыплываць.

А у тым жа караблі
Два ўдалыя малайцы,
Адзін сядзіць у карме,
Дзяржыць ручкі ў кармане.

Другі сядзіць у баку,
Курыць трубку табаку.
— Ах ты, ўдовушка-ўдава,
А ці пойдзеш за міня?

— А я выйсці не пайду,
Адказаці не магу.
За аднаго сама пайду,
За другога доч пашлю.

Сталі яны вянчацца,
Стала цэрква здрыгацца.
Сталі званы самі біць,
Сталі людзі гаварыць.

Сталі званы самі біць,
Сталі людзі гаварыць:
— Ліха гэта гадзіна —
Вянчаецца радзіна.

## 240

♩=64

А ў ба- га- та- га куп- ца
бы- ла доч- ка ха- ра- ша,
гэй, гэй, эх да лю- лі,
бы- ла доч- ка ха- ра- ша.

А ў багатага купца
Была дочка хараша,
Гэй, гэй, эх да люлі,
Была дочка хараша [1].

Была дочка хараша,
У тракцірчык хадзіла,

У тракцірчык хадзіла,
Двух сыночкаў радзіла.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Гэй, гэй, эх да люлі».

Двух сыночкаў радзіла,
Многа гора прыняла.

Многа гора прыняла,
Пакупала, спавіла.

Пакупала, спавіла,
На Дунайчык аднясла.

На Дунайчык аднясла,
Ў калубельчык ўлажыла.

— Ай ты, ніцая лаза,
Ты ж не пахіляйся.

Ай ты, жоўценькі пясок,
Ты ж не пасыпайся.

Ай ты, светленька вада,
Ты ж не налівайся.

Не хадзіла удоўка
Дзевятнаццаць лет па ваду.

На дваццатым гаду
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду браць,
Стаў чаўночак праплываць.

А у тым чаўночку
Два малойчыкі сядзяць.

Ай, першы маладзец
Срэбра-золата ліецъ.

А другі маладзец
Громка песенькі пяець.

А што золата ліець,
Сама за яго пайду.

А што песенькі пяець,
За таго дачку аддам.

Нідзе ж гэта не чуваць —
Сына з мацерай вянчаць.

Нідзе ж гэта не чуваць —
Сястру з братам павянчаць.

## 241




Ой ты, ўдоўка, удава,
Па садочку хадзіла,
Гэй, гэй, ой да люлі, да
Па садочку хадзіла [1].

Па садочку хадзіла,
Двух малойцаў зрадзіла.

Двух малойцаў зрадзіла,
У ціхі Дунай пусціла.

— Ох ты, Дунай, ты Дунай,
Памаленьку іх люляй.

У дваццаць першым гаду,
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду браць,
Стаў карабель прыплываць.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Гэй, гэй, ой да люлі, да».

А ў тым жа караблі
Два малойчыкі сядзяць.

Адзін кніжку чытае,
Другі ўдоўкі пытае:

— Ой ты, ўдоўка-удава,
Што за думку думала?

— Ой, я думку думаю,
Што двух малайцоў маю.

За аднаго сама йду,
За другога доч даю.

А на свеце не чуваць,
Штоб з матуляй шлюб узяць.

Камень у вадзе не плыве,
Сын з матуляй не жыве.

А дзе ж тая граніца,
Што брат з сястрой жэніцца.

## 242

♩=53

(э) Жы- ла — бы- ла у- да- ва,
два куп- чы- кі лю- бі- ла, да
ой, во- ха- ха, два куп-чы- кі лю- бі- ла.

Жыла-была удава,
Два купчыкі любіла,

Да эй, во-ха-ха,
Два купчыкі любіла [1].

Два купчыкі любіла,
Два сыночкі радзіла.

Два сыночкі радзіла,
Сама бабушкай была.

Сама бабушкай была,
Чорным шоўкам спавіла.

Чорным шоўкам спавіла,
Сама імя ім дала.

Сама імя ім дала,
Да й Іванюшку й Васіля.

Іванюшку й Васіля
Узяла ў мора бросіла.

На семнаццатым гаду
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала ўдова ваду брацъ,
Стаў карабель падплывацъ.

А ў тым караблі
Два маладыя малайцы.

Адзін кніжку чытае,
Другі ўдавы пытае:

— Вох ты, ўдовушка мая,
Да й ці любіш ты міня?

— Аднаго сама люблю,
За другога доч аддаю.

— А йшчэ таго не чувацъ,
Што б за сына — родна мацъ.

А йшчэ той свет не настаў,
Каб брат сястру замуж браў.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Да эй, во-ха-ха».

## 242[1]

♩=88

А што ж гэ_ та за вяр_ ба,

што без ко_ ра_ яя рас_ ла,

эй, о_ ха_ ха,

што без ко_ ра_ яя рас_ ла?

## 243

♩=80

А што ж гэ_ та за тра_ ва

ў ма_ ім са_ дзе па_ ві_ ла,

ў ма_ ім са_ дзе па_ ві_ ла?

А што ж гэта за трава
Ў маім садзе павіла?[1]

А што ж гэта за ўдава,
Сем лет без мужа жыла?

Сем лет без мужа жыла,
У карчомку хадзіла.

У карчомку хадзіла,
Двух сыночкаў радзіла.

Двух сыночкаў радзіла,
Узяла ў мора бросіла.

— Ой ты, вецер-вецярок,
Калышы маіх сынкоў.

Калышы маіх сынкоў
Да дванаццаці гадоў.

На трынаццаты гадок
Пашла матка па ваду.

Стала матка ваду браць,
Сталі волны валнаваць.

Сталі волны валнаваць,
Стаў карабель усплываць.

Стаў карабель усплываць,
Сталі матку ўспамінаць.

Адзін сядзіць у насу,
Чэшыць русую касу.

Другі сядзіць у пяце:
— Вось тут ёсць наша маці.

Вось тут ёсць наша маці,
Лепей яе не знаці.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 244




Ой ты, ўдоўка, удава,
Бедна твая галава [1].

Па садочку хадзіла,
Два сыночкі радзіла.

Два сыночкі радзіла,
Кітаечкай спавіла.

Кітаечкай спавіла,
У ціхі Дунай пусціла.

У ціхі Дунай пусціла,
Ціхі Дунай прасіла:

— Ой ты, ціхенькі Дунай,
Маіх дзетак не займай.

Прашу, павей, ветрычак,
Пакалышы дзетачак.

Ветрык кажа: павею,
Сонца кажа: пагрэю.

Дваццаць перненькім гаду
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду браць,
Стаў карабель прыплываць.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А ў тым карабцы
Два слаўныя малайцы.

— За аднаго сама іду,
За другога доч даю.

— А гдзе ж тая старана,
Што б маці жаной стала!

А дзе ж тая граніца,
Што брат з сястрою жэніцца!

Ужо ж мяне бог сцярог,
Што з сястрою спаць не лёг.

## 245



А што гэта за трава,
Што без кораня расла? [1]

А што гэта за ўдава,
Сем лет без мужа была?

У кантору хадзіла,
Канторшчыка любіла.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Канторшчыка любіла,
Двух сыночкаў радзіла.

Двух сыночкаў радзіла,
Сама бабушкай была.

Сама бабушкай была,
Ім імёнушкі дала.

Ім імёнушкі дала,
Іванюшку й Васіля.

Па базару насіла,
Ім кітайку купіла.

Ім кітайку купіла,
Ў ціхі Дунай пусціла.

— Ах ты, вецер-вецярок,
Калышы маіх сыноў!

На дванаццатым гаду
Пашла ўдоўка па ваду.

Стала ўдоўка ваду браць,
Стаў карабель падплываць.

А ў тым карабальку
Два матросікі сядзяць.

Адзін матрос у насу
Чэшыць русую касу.

Другі матрос у пяце,
Ён кажыць: наша маці.

Ён кажыць: наша маці,
А нам яе не знаці.

— Удовушка-удава,
А ці пойдзеш за міня?

— За аднаго сама іду,
За другога доч даю.

## 246

Быў у маткі адзін сын,
Да й той маткі не слухаў
Да на вайну паехаў.
Матка сына правяла
І з жалосці пракляла:
— Бадай, сынок, яварам,
А конічак — каменем,
А шапачка — купінкай,
А хустачка — рэчанькай,
А паясок — сцежачкай!
Тудой ішла дзевачка.
— Ой, явару, явару,
Я з табою гавару.
Будзе на цябе дробны дождж,
Яшчэ к таму з ветрыкам,
Твайго голля надломіць,
Тваё лісце абгоніць.
— Ой, дзевачка, дзевачка,
Цяпер жа ты ў бацюшкі,
Цяпер жа ты молада,
Цяпер жа ты хораша.
А як пойдзеш ты замуж,
Будзе табе ліхі муж:
Тваё лічка надаб'е,
Тваіх косак надарве,
Тваіх слёзак надалье.

## 247

Moderato

Быў у баць-кі а- дзін сын, быў у баць-кі а- дзін сын, і той баць-кі не слу- хаў.

Быў у бацькі адзін сын [1],
І той бацькі не слухаў.

І той бацькі не слухаў
Ды на вайну паехаў.

А там яму бог не памог —
Яго конік гарой лёг.

А сядзельца — каменем,
Сам малады — яварам.

Праз той явар — сцежачка,
Тудой ішла дзевачка.

Тудой ішла дзевачка,
Русу косу часала,

Русу косу часала,
З яварам гаварыла.

— Ой, явару, явару,
Я з табою гавару:

Ты цяпер зялён, харош,
Прыйдзе к табе люты мароз,

Твае веццi памерзнуць,
А лісточкі ападуць.

А лісточкі ападуць
І на мора паплывуць.

— Ой ты, дзеўка-дзевіца,
Праказала ж ты ка мне.

Праказала ж ты ка мне,
Адкажу і я к табе.

Як ты ў мамкі хараша —
Руса каса да пояса,

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Астанешся ў свякроўкі —
Тваіх косак падатне.

— Ёсць у мяне два браты,
Скажу явар сеч-рубаць,

На дарожку выкідаць,
Патаптаць бушуючы,

Конікі гарцуючы,
Я, малада, танцуючы!

## 248

♩=82

Быў у бацькі а_ дзін сын,

і той бацьскі не слу_ хаў.

і той, і той бацькі не слу_ хаў,

сеў, на вой_ ну па_ е_ хаў.

Быў у бацькі адзін сын,
І той бацькі не слухаў.

І той, і той бацькі не слухаў,
Сеў, на вайну паехаў.

А й там яму, а й там яму бог не памог,
Конік яго каменем стаў.

Конік, конік яго каменем стаў,
Сам ён, молад, яварам стаў.

А й шапачка, а й шапачка — купінкай,
А паясок — сцежачкай.

Туды, туды ішла дзевачка.
— Ай, явару, явару.

Ай, явару, ай, явару, явару,
Я з табою гавару.

Ай, цяпер жа, цяпер жа ты, явару,
Цяпер жа ты зелен, харош.

Прыйдзе, прыйдзе к табе, явару,
Прыйдзе к табе ліхі мароз.

Вецце тваё, вецце тваё абатрэ,
Лісце тваё абарве.

— Ой, дзявіца, ой, дзявіца, дзявіца,
Цяпер жа ты молада, хараша.

Будзе, будзе табе ліхі муж,
Будзе табе ліхі муж.

Касы, касы твае уварве,
Ліца твайго уватрэ.

## 249

♪=200

Быў у бацьˍкі аˍдзін сын,
быў у бацьˍкі аˍдзін сын, і той
яˍго не слуˍхаў.

Быў у бацькі адзін сын [1],
І той бацькі не слухаў.

І той бацькі не слухаў,
Сеў на каня, паехаў.

Сеў на каня, паехаў,
Яго бацька моцна скляў.

Яго бацька моцна скляў,
Яго конік гарой стаў.

А сядзельца — каменем,
Ён малады — яварам.

— Ой, явару, явару,
Я з табою гавару.

Як ты цяпер зелен, харош,
А як будзе ліхі мароз.

Тваё пер'е змарозе,
Цябе к зямлі палажа.

— Ой, дзевачка, дзевачка,
Як ты цяпер малада!

Як ты цяпер малада,
Як ты цяпер хараша!

А як будзе ліхі муж,
Тваю коску абарве.

Тваю коску абарве,
Цябе, маладу, наб'е.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 250

А сын маткі не пытаў,
Як на вайну выязджаў.
Яму бог не памог,
Да стаў жа ён яварам,
А сядзёлка — хлістачкай,
А нагаечка — сцежачкай.
Тудэю йшла дзяўчына,
Тудэю йшла малада.
— На дзень добры, яварэц,
На дзень добры, зелянец!
Будзе табе, яварэц,
Вялікая прыгода:
Будуць ветры буйныя
І дожджыкі дробныя.
Голле тваё паломяць,
У вяршэчка высушаць
І карэнне нарушаць.
— Да не прарокуй, дзяўчына,
Да не прарокуй, малада!
Будзе табе, дзяўчына,
Вялікая прыгода:
Будуць сваты сватаці,
То ты будзеш плакаці.
А другая прыгода —
Смяртэльная хвароба,
Лічка тваё уменіць,
І сардэнька тваё высушыць,
І печаней нарушыць.

## 251

Быў у бацькі адзін сын [1]
І той бацькі не слухаў.

І той бацькі не слухаў,
Сеў на каня, паехаў.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Яму там бог не памог,
Яго конік гарой лёг.

А сядзелца — каменем,
Сам, малады,— яварам.

А хустачка — лісточкам,
А шапачка — кусточкам.

Праз той явар сцежачка,
Ішла тудой дзевачка.

Пад яварам ваду брала
Із яварам гаварыла:

— Ой ты, явар, явару,
Як ты цяпер зелен, харош!

А прыдзе табе люты мароз,
Тваё веццe абмерзне.

Тваё веццe абмерзне,
Тваё лісцe ападзе.

— Ох ты, дзеўка-дзевачка,
Як ты цяпер малада.

Як ты цяпер малада,
Як ты цяпер хараша!

Як ты цяпер хараша,
Твая коска ўчэсана.

Будзе табе ліхі муж,
Тваю коску абарве.

Тваю коску абарве,
Сіні вочкі надаб'е.

252

Быў у маткі адзін сынок
Да й той маткі не слухаў,
На ваенку ён паехаў.
Матка сына правяла,
На век вечны пракляла:
— Бадай жа ты, мой сынок,
І полечка не з'ехаў,
На другое не ўз'ехаў,
З конічка зваліўся,
На шабельку прабіўся.
Яму бог не памог:
Ён полечка не з'ехаў,
На другое не ўз'ехаў,
З конічка зваліўся,
На шабельку прабіўся.
Конік стаў яварам,
А сам жа ён — каменем.
З хустачкі — рэчанька,
З шабелькі — кладачка,
З кудзерак — мураўка.
Тудэймі йшла дзевачка.
— Явору, явору,
Я з табою гавору.
Ёсь у мяне два браткі,
Я вялю ім зрубаці,
У скрыпачкі складаці.
Братцы будуць іграці,
А я буду плясаці.
— Ой, дзевушка, дзевушка,
Не пракакай на мяне,
Будзе тое й на цябе.
Пойдзеш ты замуж,
Да трапіцца ліхі муж:
Лічка тваё наджане,
Косак тваіх надарве,
Слёзак тваіх разліе.

## 253

Andante

З_пад я_ ва_ ра сце_ жач_ ка йшла,

з_пад я - ва - ра сце_ жач_ ка йшла,

там дзяў_ чы - на во_ ду няс_ ла.

З-пад явара сцежачка йшла [1],
Там дзяўчына воду нясла.

Там дзяўчына воду нясла,
Да явара гаварыла:

— Ой, явару, ты, явару,
Я да цябе гавару.

Будзе на цябе снег і мароз,
Памарозіць голлейка.

Памарозіць голлейка,
Асыплецца лісцейка.

— Ты, дзяўчына, малада,
Твая доленька ліха:

Будзе ў цябе муж ліхі,
Паб'е тваё бела ліцо.

Паб'е тваё бела ліцо,
Вырве тваю русу касу.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Калі ж мая руса каса
Да пояса не дарасла.

Да пояса не дарасла,
Яшчэ ж бо я й замуж не йшла!

## 254

Andante

Быў у баць_ кі а_ дзін сын,
быў у баць_ кі а_ дзін сын,
і той баць_ кі не слу_ хаў.

## 255

Здалося мне рана ўстаць,
Свайму каню есці даць,
Есці даўшы, напаіць,
Напаіўшы, асядлаць
Да на вайну выязджаць.
Сын каня сядлае,
Маці сына праклінае:
— Каб з двара не з'ехаў!
Каб конь стаў камянём,
Тваё сядло крамянём,
А ты маладым яварам.

З-пад явору рэчка цякла,
Там дзеўка ваду брала
Да з яварам размаўляла:
— А ты, явар, ты харош,
Прыдзе на цябе мароз —
Тваё лісцё замарозіць,
Тваё галлё абломіць.
Тое явар усё сазнаў,
Назад дзеўцы адказаў:
— Цяпер дзеўка хараша,
Цяпер дзеўка малада.
Прыдзе на цябе ліхі муж,
Будзе твае коскі рваць,
Красу тваю ўнімаць.

## 256

♩=44

А ўсе д(ы)-рэ- вы за- шу- ме- лі,
а ўсе дрэ- вы за- шу- ме- (е) лі,
а-д(ы)-на вяр- ба не шу- ме- (ла)

А ўсе дрэвы зашумелі [1],
Адна вярба не шуме[ла].

Адна вярба не шумела,
Пад сабою журбу ме[ла].

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Што пад тою пад вярбою
Там ляжаў салдат забі[ты].

Там ляжаў салдат забіты,
Чорненькім сукном накры[ты].

Ішлі паны-капітаны,
Неслі віна тры стака[ны].

Сталі раны залівацi,
Стаў салдацік прамаўля[ці].

— Ох вы, паны-капітаны,
Вы вазьміце ліст бума[гі].

Напішыце айцу, мацi,
Вы не шліце жане мла[дзе].

Выпраўляла, праклінала:
— Ох, каб цябе, мой мілень[кі].

Перва куля не мінула,
А другая — разарва[ла].

Цераз людзі — куля ў грудзі,
Цераз ночкі — куля ў воч[кі].

Цераз ляскі — куля ў віскі.
Паў салдацічак на нож[кі].

## 257

У нядзелю параненька
Загадалі на ваенку.
У каго сынкі — уладжайце,
У каго няма — наймайце.
Матка сына выпраўляла,
Выладжала і навучала:
— Ідзі, ідзі, мой сынок,

Да й ні з кога не глуміся,
Ні з старога, ні з малога,
Ні з дзяўчыны-сірацціны.
— Адступіся, стара маці,
Годзе мяне навучаці,
Як дам табе ў грудзіну —
Пад коніка паваліішся.
— Бадай цябе, мой сыночак,
Перша куля не мінула,
Цераз людзі — табе ў грудзі,
Цераз рэчы — табе ў плечы.

## 258

Чыя гэта нявестка
Пагнала валы да бору?

Пагнала валы да бору,
Сама не прышла дадому.

Сама не прышла дадому,
Абярнулася вярбою.

Абярнулася вярбою,
Стала радам з асінаю.

— Не калышыся, асінка,
Не горай табе за мяне.

У мяне дома свякроўка ліхая,
Да свякроўкі — ліхі муж.

Мяне рана пабудзя,
На вуліцу выйдзе, абсудзя.

А я свякроўцы ўсё гаджу,
Болей гадзіці не магу.

Болей гадзіці не магу,
У бары вярбою прарасту.

А над тэй вярбою яір рос,
А ў тым яіры моладзец.

Яго там конік гарой стаў,
Яго сядзельца — каменем.

Яго страмёны — каранямі —
Стаіць моладзец з нагамі.

— Ой ты, малады моладзец,
Нядоля наша спаткана.

Нядоля наша спаткана,
Няшчасце наша спазнана.

## СЫН АБЯРНУЎСЯ ВЯРБОЮ

### 259

А што ж гэта за свет настаў,
Што сын матку й у свет паслаў?

— Ідзі, мамка, да суседа,
У мяне будзе бяседа.

Госці ка мне збіраюцца.
Госці былі, пілі, елі.

Пілі, елі, паехалі,
А мамкі як нет, дык нет.

У мяне дома бяда стала,
Жана сына прыспала.

Жана сына прыспала,
Вараны конь на стайні паў.

Сыночак мой найбольшанькі,
Ідзі ў стайню й у новую.

Ідзі ў стайню ў новую,
Выбірай каня найлепшага.

Паедзеш шукаць тваёй бабкі,
Тваёй бабкі, маёй мамкі.

Едзем поле, едзем другое,
На трэцяе ўз'язджаючы.

На трэцяе ўз'язджаючы,
Стаў конічак выскаддзэю.

А сам я, молад,— вярбіначкай,
А вожачкі — дарожачкай.

## 260




А што цяпер за свет настаў,
Што сын мамку й у свет паслаў?

— А йдзі, мамка, ў чыста поле,
А йдзі, мамка, ў чыста поле.

Ў мяне будзе бяседачка,
Бяседачка, любыя госці.

Любыя госці пілі-елі,
Пілі-елі, паехалі.

Пілі-елі, паехалі,
А маёй мамкі як нет, дак нет.

— Служкі мае вярненькія,
Запрагайце коні вараненькія.

Запрагайце коні вараненькія
Паедзем у свет мамку шукаць.

Паедзем у свет мамку шукаць,
Едуць поле і другое.

Едуць поле і другое,
На трэцяе ўз'язджаючы.

На трэцяе ўз'язджаючы,
Сваю мамку страчаючы.

Сваю мамку страчаючы,
Стаў мой конік камянёчкам.

Стаў мой конік камянёчкам,
А вазочак — курганочкам.

А вазочак — курганочкам,
А вожжачкі — дарожачкай.

А вожжачкі — дарожачкай,
А дужачка й вяльмінкаю.

А дужачка й вяльмінкаю,
Сам я, молад,— рабінкаю.

## 261

Adagio

Го_ ман, го_ ман на ву_ лі_ цы,
го_ ман, го_ ман на шы_ ро_ кай.
Пой_ дзем, брат_ кі, па_ слу_ ха_ ем,
што за го_ ман на ву_ лі_ цы.

Гоман, гоман на вуліцы,
Гоман, гоман на шырокай.

— Пайдзем, браткі, паслухаем,
Што за гоман на вуліцы.

То сын мамку з двара гоніць:
— Ідзі, ідзі, мая мамка.

Ты мне дужа надаела,
А жонцы наўпярэчыла!

Пашла маці заплакаўшы,
Свой родны кут пакінуўшы.

Ідзець поле і другое
Ды й трэцяе ўжо мінае.

Шуміць, гудзіць дубравачка,
Гоніць, гоніць пагонечка.

Сын за маткай ўдагон едзе:
— Ой, вярніся, мая мамка.

Ой, вярніся, мая мамка,
Без цябе мне бяда стала:

Мой лепшы конь не стайні паў,
Жана мая зажурылася,
Мае дзеці заплакалі.

## 262

♩=80

Ой, на ву_ лі_ цы го_ ма_ н(ы),
го_ ман, ой, на ву_ лі_ цы
го_ ман, го_ ман, ой, ха_ дзе_м(а), брат_ка,
па_ слу _ ха_ ем.

Ой, на вуліцы гоман, гоман [1],
— Ой, хадзем, братка, паслухаем.

Ой, хадзем, братка, паслухаем,
Ох, сын матку з двара гоніць.

Ох, сын матку з двара гоніць:
— Ой, ідзі ж, маці, з майго двара.

Ой, ідзі ж, маці, з майго двара
Ох, і ты ж мне надаела.

Ох, і ты ж мне надаела,
Ой, маім дзецям спастылела.

Ой, маім дзецям спастылела,
А жане маёй надакучыла.

А жане маёй надакучыла.
Пайшла ж маці з свайго двара.

Пайшла ж маці з свайго двара,
Выйшла ж маці, заплакала.

Выйшла ж маці, заплакала,
Ішла ж маці полем, полем.

Ішла ж маці полем, полем,
Ішла ж маці дарогаю.

Ішла ж маці дарогаю,
Ішла ж маці цёмным лесам.

Ішла ж маці цёмным лесам,
Села маці пад бярозу.

Села маці пад бярозу,
Стала маці горка плакаць.

Стала маці горка плакаць.
А шуміць, шуміць дубровачка.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А шуміць, шуміць дубровачка,
А стогне, гудзіць пагонечка.

А стогне, гудзіць пагонечка,
Ох, сын маці даганяе.

Ох, сын маці даганяе:
Ой, вярнісь, мая мамачка.

Ой, вярнісь, мая мамачка,
А ў мяне ў дварэ тры няшчасцейкі.

А ў мяне ў дварэ тры няшчасцейкі:
Конь вараны на стайні паў.

Конь вараны на стайні паў,
А жана сына нарадзіла.

А жана сына нарадзіла,
А сама навек уваснула.

А сама навек уваснула,
А дзеці мае сіротушкі.

А дзеці мае сіротушкі.
— Не, мой сынок, не вярнуся.

Не, мой сынок, не вярнуся,
А пайду з гора ўтаплюся.

А пайду з гора ўтаплюся.
А шуміць, гудзіць сіне мора.

А шуміць, гудзіць сіне мора,
Патанула маці з гора.

Патанула маці з гора.
— Ў моры ваду я й піць буду.

Ў моры ваду я й піць буду,
А ў цябе сынок я не буду.

## 263




Да што цяпер за свет настаў,
Сын мацеру паважаць не стаў.

Сын мацеру паважаць не стаў,
Цёмнай ночкай упроч прагнаў.

Да пашла ж маці заплакаўшы,
Да йдзе поле, йдзе другое.

Да йдзе поле, йдзе другое
Да на трэцяе й уступае.

Да на трэцяе й уступае,
Ночка цёмная й абнімае.

Ночка цёмная й абнімае,
Да лягла ж маці пад кусточкам.

Да лягла ж маці пад кусточкам,
Да накрылася яна лісточкам.

Да накрылася яна лісточкам,
Да чуе ж яна: нехта гукае.

Да чуе ж яна: нехта гукае,
Сын мацеру да й шукае.

— Вярніся ж, мамка, йдзі дадому,
Да ў мяне ж дома да бяда стала.

Да ў мяне ж дома бяда стала,
Жонка сына да й праспала.

Жонка сына да й прыспала,
Пашоў я ў стайню — конь мой не ўстаў.

Пашоў я ў стайню — конь мой не ўстаў,
Да зачым ты мамку й упроч прагнаў?

## 264




А што цяпер за свет настаў
Да што сын матку з двара прагнаў.

Што сын матку з двара прагнаў.
— Ты ідзі ж, мамка, проч ад мяне.

Ты ідзі ж, мамка, проч ад мяне,
Ты ж маіх дзяцей пасушыла.

Ты ж маіх дзяцей пасушыла,
Ты ж маю жонку зажурыла.

Да й пашла ж яна дарогаю,
Дарогаю шырокаю.

Дарогаю шырокаю
Да й далінаю глыбокаю.

Да й села ж яна пад кусцікам,
Да й пад кусцікам, пад лазовенькім.

Ці не дождж ідзе, ці не гром грыміць —
Да сын за мамкай услед бяжыць.

— Ты ж хадзем, мамка, назад ка мне,
Ты ж маіх дзяцей гадавала.

Ты ж маіх дзяцей гадавала,
Ты ж маю жонку навучала.

## 265




А што гэта за свет настаў,
Што сын мамку жалець не стаў.

Проціў ночкі з дому 'тпраўляў,
Проціў ночкі з дому 'тпраўляў.

А йду ж я адно поле,
Іду ж я і другое.

А йду ж я і другое,
У трэцім полі заначую.

А што гэта стучыць-гручыць,
Ці сынок мой за мной едзіць?

— Вярніся, мая мамка,
Вярніся, мая родна.

— Не вярнуся, мой сыночак,
Не вярнуся, а мой родны.

Тваіх дзетак загубіла,
Тваю жану засмуціла.

266




А ў нядзельку параненьку [1]
Зазлаваўся сын на маці.

— Уйдзі, мамка, проч ад мяне,
Будуць госці цяпер ў мяне.

Будуць кумы, пабрацімы,
Шчэ блізкія суседачкі.

Пайшла маці горанькамі,
Аблілася слёзанькамі.

Ды шчэ маці гор не ўзышла,
А ўжо сына бяда найшла.

Яго жонка й ашалела,
Старша дочка памірае.

Старша дочка памірае,
Сынок маці наганяе.

— Ой, вярніся, мамка мая,
Бо да мяне бяда зайшла.

Мая жонка й ашалела,
Старша дочка й памірае.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

24. Зак. 100

— Не вярнуся, мой сыночак,
Ой, хоць будзе хата гарэць.

Ой, хоць будзе хата гарэць,
То й не прыду паглядзець.

Маці слова прамаўляе —
А сынава хата гарыць.

Маці сэрцам сакрушыла,
Ды ўсё ж гэта патушыла.

## 267

♪=122

Го_ ман, го_ ман на ву_ лі_ цы,
го_ ман, го_ ман на ву_ лі_ цы,
а пай_ду ж я да па_ слу_ ха_ ю.

Гоман, гоман на вуліцы [1],
А пайду ж я да паслухаю.

А сын матку з двара гоніць.
— Ідзі, маці, далоў з двара.

А ты мне ўжо надаела,
Надаела, надакучыла.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Надаела, надакучыла,
А дзяцей маіх памучыла.

Дзяцей маіх памучыла,
Жану маю іззжурыла.

А пашла маці, заплакала,
Ідзець поле і другое.

На трэцяе стала ўсхадзіць.
А ці не стогніць дарожачка.

А стогніць, стогніць дарожачка,
То сын матку даганяіць.

— Вярнісь, вярнісь, мая мамачка,
Вярнісь, вярнісь, мая родная.

У мяне ўжо бяда здзеілася:
Конь вароны на ногі ўпаў.

Конь вароны на ногі ўпаў,
Жана млада ў пасцель лягла.

Жана млада ў пасцель лягла,
Дзеці малыя забалелі.

Стала маці, падумала,
Яна дворачку вярнулася.

К двару стала падыходзіць,
Конь вароны на стайні зарзаў.

Дзеці малыя заскакалі,
Жана млада з пасцелі ўстала.

## 268




А што ж гэта да за свет настаў,
Сын мамачку з двара прагнаў.

— Ідзі ж, мамка, з майго двара,
Ты маіх дзетак пасушыла.

Ты маіх дзетак пасушыла,
Ты жану ж маю сакрушыла.

Пайшла мамка заплакаўшы,
Ішла поле, йшла другое.

Ішла поле, йшла другое
Ды на трэцяе наступае.

На трэцяе наступае,
Абняла ж яе цёмна ночка.

Абняла ж яе цёмна ночка,
Села ж яна пад кусточкам.

Села ж яна пад кусточкам,
Пад кусточкам, пад лазою.

Пад кусточкам, пад лазою,
Аблеілася йна слязою.

Да не гром грыміць, да не стук стучыць —
Сын за мамкай услед бяжыць.

— Ты хадзі, мамка, у маю хату,
Ты маіх дзетак гадавала.

Ты маіх дзетак гадавала,
Ты жану ж маю навучала.

## 269

♩=50

Ой, што ця_ пер за
свет на_ стаў, што сын мам_ ку у_ проч пра_гнаў.

## 270

♪=128

Ды эй, да што гэ_ та за свет на_ стаў,
што сын мам_ ку у_ проч пра_ гнаў.

Ды эй, да што гэта за свет настаў,
Што сын мамку й упроч прагнаў.

І эй, што сын мамку й упроч прагнаў.
— Ідзі, мамка, у чыста поле.

І эй, ідзі, мамка, у чыста поле.
Да праходзіць яна поле.

І эй, да праходзіць яна поле,
Да праходзіць і другое.

І эй, да праходзіць і другое,
На трэцяе поле ступаючы.

І эй, на трэцяе поле ступаючы,
А сын матку даганяючы.

І эй, а сын матку даганяючы:
— Да вярніся, мая мамка.

І эй, да вярніся, мая мамка,
Мая мамка, кукобніца.

І эй, мая мамка, кукобніца,
Майго дому работніца.

І эй, майго дому работніца,
Мусіць, мяне бог пакараў.

І эй, мусіць, мяне бог пакараў,
Што я мамку і ўпроч прагнаў.

І эй, да пайшоў жа на стаеньку,
Аж мой самы лепшы конь упаў.

І эй, да прыходжу я і ў хату —
Жана сына нарадзіла.

І эй, жана сына нарадзіла,
Сама ляжыць нежывая.

І эй, да вярніся, мая мамка,
Мая мамка, кукобніца.

І эй, мая мамка, кукобніца,
Майму дому работніца.

## 271

♪=110

Да што ж гэ_ та за свет на_ стаў, да (й)

сы_ н(ы) мат_ ку ў гос_ ці на_ зваў, да(й)

сын мат_ ку ў гос_ ці на_ зваў.

## 272

♪=140

Ой, што ж ця_ пер за свет на_ стаў, сын

ма_ мач_ ку й у_ проч пра_ гнаў.

Ой, што ж цяпер за свет настаў,
Сын мамачку й упроч прагнаў.

Ідзе мамка поле і другое,
На трэцяе ўзыходзіла.

На трэцяе ўзыходзіла,
Дзе сонейка заходзіла.

Стала мамка бедаваці,
Дзе мне ночку начаваці.

Ў чыстым полі пад кусточкам,
Накрыўшыся верасочкам.

Пайшоў сынок мамку страчаць.
— Ідзі, мамка, дадоміку.

У маім доме бяда стала,
Жонка сыночка прыспала.

Выйшаў на двор — сняжок напаў,
Вайшоў у хлеў — мой конь прапаў.

Затое ж мяне пан бог скараў,
Што я мамку упроч прагнаў.

# ЦІХОНЯ

## 273

Ой, рана, на Яна,
Пашла Ціхоня на кірмаш,
Пашла Ціхоня танцаваць.
Абачыў тое меншы братка,
Прышоў да маткі, даў знаць,
Што наша Ціхоня гуляе.
Прышла Ціхоня дадому,
Стала маці караці:
— Люба ты, Ціхоня, ўтапіся,
Люба ты, Ціхоня, гдзе дзенься!
Пашла Ціхоня за дзверцы,
Пабрала свае вядзерцы,
І пашла Ціхоня па ваду.
Паставіла вядзерцы на бруску,
Паклала сукні на пяску,
Павешала істужкі на кустку,
Панізала пярсцёнкі на дубцы,
Сама стала тануці,
Ой, а сама стала, ўтанула.
Да бачыў тое большы братка,
Прышоў да маткі, даў знаці:
— Ой, матка, матка старая,
Нашто Ціхоню карала!
Да наша Ціхоня ўтанула.
У нядзелю раненька
Ціхоніна матка плакала:
— Ой, зяцю, зяцю Дунаю!
Да паволі ідзі, не гудзі,
Майго дзіцяці не тамі!
Да істужачкі чырвоныя,
Чы кусты вамі ўбіраці?
Пярсцёначкі залатыя,
Чы бочкі вамі набіваці?
Да сукенкі мае дарагія,
Чы пнёўе вамі ўбіраці?

Палаценцы мае белыя,
Чы горы вамі ўсцілаці?
Ручнічкі мае шаўковыя,
Чы старву вамі дарыці?
Не відаць майго дзіцяці валаска,
Не пачую я яе галаска!

## 274

Ой, у нядзелю раненька
У тры званочкі званілі,
У тры таночкі хадзілі:
Первы таночак — дзевачок,
Другі таночак — жаначок,
Другі таночак — жаначок,
Трэці таночак — малайцоў.
Папераду йшла Ціхоня,
Папераду йшла Ціхоня,
Злота маніста згубіла,
Злота маніста згубіла,
Злота маніста згубіла
І залатыя каралі,
І залатыя каралі,
І срэбляныя пярсцёнкі.
Ніхто ж таго дзіва не бачыў,
Толькі чуў да бачыў большы брат,
Пад акенечкам стоючы,
Вараныя коні поючы.
Да прышоўшы братка дадому:
— Ой, матка наша старая,
Ой, матка наша старая.
Да што ж наша Ціхоня згубіла,
Да што ж наша Ціхоня згубіла.
Злота маніста згубіла
І залатыя каралі,
І срэбляныя пярсцёнкі.
— Скажы ты, сынок, Ціхоні,
Хай Ціхоня дамоў не йдзе,
Да няхай ідзе ўтопіцца.
Злота маніста знойдзецца

І залатыя каралі,
І срэбныя пярсцёнкі.
Пайшла ж Ціхоня к Дунаю:
— Да разыграйся, Дунаю,
Выкінь каралі з ваўною,
Выкінь каралі з ваўною,
Да бяры мяне з сабою.
Разыграўся Дунаю
Да выкінуў каралі з ваўною,
Да ўзяў Ціхоню з сабою.
У нядзелю раненька
У тры званочкі званілі.
У тры званочкі званілі,
Па Ціхоні службу служылі.
Па Ціхоні маці плакала.
Пашла маці к Дунаю.
— Ой, разыграйся, Дунаю,
Ой, разыграйся, Дунаю,
Да выкінь Ціхоню з ваўною.
Да выкінь Ціхоню з ваўною,
Да бяры каралі з сабою.
— Жыві сабе, мамка, здарова
З сваім большанькім сынком,
З сваім большанькім сынком,
А з маім родным брацеткам.

### 275

Да была у мамы Ціхоня,
Да пайшла на вулку гуляці,
Шаўковаю лентай махаці.
Да ўбачыў яе старшы брат,
Да прышоў дадому, маме сказаў:
— Да мамачка мая старая,
Што наша Ціхоня зрабіла:
Шаўковую ленту згубіла.
Да прышла Ціхоня дадому,
Да стала яе маці наракаці:
— Да ідзі, Ціхоня, ўтапіся,
Да ніколі дадому не вярніся.

Да ўзяла Ціхоня вядзерцы,
Да пайшла па ваду да броду.
Да паставіла вядзерцы на бруску,
Павесіла лентачку на кустку,
А сама Ціхоня ўплаў пашла,
Палавіну Дунаю выплыла,
Чырвонаю розаю зацвіла,
Сваёй маме знаць дала.
Пашла яе мама шукаці:
— Да Дунаю, Дунаю, зяцю мой,
Ніколі ў гасцях не бываў,
Без пасагу маю дачушку ўзяў.
Да Ціхоня, дачушка мая,
Дзе ж твае абрусы высцілаць,
Дзе ж твае ручнікі вывешваць?
— Вешай ручнікі на кусце,
Засцілай абрусы на вадзе.

## 276

Да было ў мамкі тры сынкі,
А чацвёрта дачка Ціхоня.
Як пашла Ціхоня ў сад гуляць,
Да яна гуляла з дзеўкамі,
Да яна гуляла з дзеўкамі,
Мяняла пярсцёнкі з дзецюкамі.
Як загледзеў тое старшы брат,
Да прышоў да мамкі да сказаў:
— А мамачка наша старая,
Як нашая Ціхоня дурная,
Што яна гуляе з дзеўкамі,
А мяняе пярсцёнкі з дзецюкамі.
Як прышла дадому Ціхоня,
Дак стала яе маці караці,
Дак стала яе маці караці,
Як стала яе маці караці,
Да стала ёй маці наракаці:
— Да хоць ты, Ціхоня, ўдавіся,
Альбо ты, Ціхоня, ўтапіся.
Як узяла Ціхоню вялікая жаль,

Схапіла вядзёркі, пашла па ваду,
Паставіла вёдры на бруску,
Павесіла каралі на зелле,
Павесіла каралі на зелле.
— Вот табе, мамачка, вяселле.
А сама маладзенька ўтанула,
Да на яе вадзіца хлынула,
Да на яе вадзіца хлынула,
Жоўтым пясочкам занясла,
Жоўтым пясочкам занясла,
Чырвонаю калінаю затрасла.
Да пашла ж яе маці шукаці.
Да яна шукала, шукала,
А прышла к Дунаю да й стала:
Да стаяць вядзёркі на бруску,
Да вісяць каралі на зеллі.
— Ой, Дунаю, Дунаю, зяцю мой,
Ты ж ні вяселля не спраўляў,
Ты ж музыкантаў не наймаў,
Да маю дачушку ціха ўзяў.
— Былі ў мяне сватоўя-акунёўя,
Былі ў мяне сваціцы-плаціцы,
Былі ў мяне музыканты — ўгары камары.
— Ой, палотна мае даўгія,
Да падаркі мае белыя,
Ці мне вамі бярозы абвіваць,
Ці мне вамі дарогі ўсціляць?
Павесіўшы на бярозы — пагніюць,
Паслаўшы на дарогі — то саб'юць.

## 277



Ой, у нядзельку парану
Там тры таночкі гулялі.

Паперадзе Ціхоня хадзіла,
Вясёлыя танцы вадзіла.

Вясёлыя танцы вадзіла,
Залату манету згубіла.

Прышоў к Ціхоні адзін брат:
— Ідзі, Ціхоня, дадому.

Ідзі, Ціхоня, дадому,
Будзе цябе маці караці.

Прышоў Ціхонін другі брат:
— Не йдзі, Ціхоня, дадому.

Да йдзі, Ціхоня, ўтапіся,
Альбо, Ціхоня, дзе дзенься.

Ўзяла Ціхоня дзве вядзеркі,
Пайшла пад Дунай глыбокі.

Паставіла вёдры на пясочку,
Павесіла хустку на кусточку.

Прыйшоў Ціхонін меншы брат:
— Ідзі, Ціхоня, дадому.

Ідзі, Ціхоня, дадому,
Залатая манета знайшлася.

## 278

Andante

Пай_ шла Ці_ хо_ ня у мес_ та, ) там

я_ е шлях_ ты злю_ бі_ лі.

Пайшла Ціхоня у места,
Там яе шляхты злюбілі.

Віном і мёдам паілі,
Сітным піражком кармілі.

Ніхто таго дзіва не бачыў,
Толькі забачыў старшы брат,

На ганачку стоячы,
На тое дзіва гледзячы.

Прыйшоў дадому і кажа:
— Мамачка ж мая старая.

Што наша Ціхоня ўчыніла,
Злоты баяры згубіла.

Прыйшла Ціхоня дадому,
Стала яе маці караці.

У нядзельку раненька
Пайшла Ціхоня па ваду,

Па беражочку ходзячы,
З ціхім Дунаем гаворачы.

Ой ты, Дунай, мужу мой,
Ты разыграйся нада мною,

Разыграйся нада мною,
Вазьмі Ціхоню з сабою!

Ніхто таго дзіва не бачыў,
Толькі забачыў малодшы брат.

Над студзенькай стоячы,
Каня варанога поячы.

Прыйшоў дадому ды й кажа:
— Мамачка мая старая.

Нашто ж так строга карала?
Ужо ж Ціхоня ўтанула.

А назаўтра раненька,
Дзе ясная зорачка пляша,
Ціхоніна мама плача.

Па беражочку ходзячы,
З ціхім Дунаем гаворачы:

Ой ты, Дунаю, зяцю мой,
Выкінь Ціхоню на бераг!

Вышла ж Ціхоня на бераг:
— Жыві, мамачка, шчасліва

З сваім старшанькім сыночкам,
З сваім родненькім славечкам!

## 279




Да ў нядзелечку раненька
Чы не кукулечка кукавала.

Чы не кукулечка кукавала,
Ціхоніна матка плакала.

Ціхоніна матка плакала,
Ой, Ціхоню дадому клікала.

Ой, Ціхоню дадому клікала:
— Ідзі, ідзі, Ціхоня, дадому.

А Ціхоня з казакамі гуляла
І залатое малістра ўраніла,

Залатое малістра ўраніла
І дарагія каралі.

А сама, малада, ўтанула
Да паверх Дуная паплыла.

Да паверх Дуная паплыла —
Жоўтым цвяточкам зацвіла.

Да ў нядзельку раненька
Ціхоніна матачка плакала.

Ціхоніна матачка плакала
Да Ціхоню дадому клікала.

Да Ціхоню дадому клікала:
— Ідзі, ідзі, Ціхоня, дадому.

Ідзі, ідзі, Ціхоня, дадому,
Ужо тваё малістра знайшлося.

Ужо тваё малістра знайшлося
І дарагія каралі.

І дарагія каралі,
Срэбна-златы пярсцёнкі.

## 280

♪=133

Пай_ шла Ці_ хо_ ня па ва_ ду,
па_ ста_ ві_ ла вёд_ ры на ля_ ду.

Пайшла Ціхоня па ваду,
Паставіла вёдры на ляду.

Паставіла вёдры на ляду,
Павесіла сукню на круку.

Павесіла сукню на круку,
Сама, малада, ўтанула.

Сама, малада, ўтанула,
За ёю вада шуганула.

За ёю вада шуганула,
І матка ручкамі спляснула:

— Ой ты, ціхі Дунаю,
Да нашто ка мне сваты слаў?

Да нашто ка мне сваты слаў,
Да нашто маё дзіця ўзяў?

Кужалі ж мае тонкія,
Абрусы мае белыя,

А што ж мне з вамі рабіці,
Ці дарожачкі ўсцілаці,

Ці дарожачкі ўсцілаці,
Ці бярозачкі ўвіваці?

Ці бярозачкі ўвіваці
Без маладога дзіцяці?

## 281




Да пашла Ціхоня гуляці,
Сталі яе малойцы чапаці.

Як заглядзеў Ціхоню старшы брат,
Прышоў дадому, гаворыць.

Да прышоў дадому, гаворыць:
— Да мамачка ж наша старэнька.

Да мамачка ж наша старэнька,
Да што наша Ціхоня зрабіла!

Да што наша Ціхоня зрабіла,
Усю сваю красотку згубіла!

Да прышла Ціхоня дадому,
Стала яе мамачка караці.

Стала яе мамачка караці,
Стала яе мамачка пытаці.

Стала яе мамачка пытаці,
Стала Ціхоня плакаці.

Да пашла Ціхоня па ваду,
Паставіла вядзеркі на бруску.

Паставіла вядзеркі на бруску,
Замшовыя чаравічкі — на пяску.

Павесіла сукенкі на беражку,
Зачапіла панчошкі на былінку.

А сама Ціхоня ўплаў пашла,
Да пасярод мора выплыла.

Да пасярод мора выплыла,
Чырвонай ружай расцвіла.

— Гэта табе, мамка, на прызна́к,
Каб не гаварыла на мяне так.

Да пашла ж яе маці шукаці,
Да прышла маці к Дунаю.

— Ой ты, Дунаю, зяцю мой,
Ні разу у гасцях не бываў.

Да ні разу ў гасцях не бываў,
Нашто маю дачушку сабе ўзяў?

Рушнічкі ж мае белыя,
Да ці вас у мора пакідаць?

Абрусы ж мае тонкія,
Да ці вамі горы засцілаць?

Аказалася Ціхоня у моры —
Засланы сталы ў каморы.

Засланы сталы ў каморы,
Павязаны сваты на моры.

Дам табе, мамачка, на прызна́к,
Каб не гаварыла на мяне так.

## 282

Пайшла Ціхоня гуляці,
Да за ёю брацейка слядзіці,

Да за ёю брацейка слядзіці,
Што будзе Ціхоня рабіці.

Да што будзе Ціхоня рабіці,
Да прышоў дадому, гаворыць.

Да прышоў дадому, гаворыць:
— Да мамачка мая родная,

Да мамачка мая родная,
Што наша Ціхоня зрабіла!

Да што наша Ціхоня зрабіла,
Усю сваю красату згубіла.

Да стала яе маці наракаці,
Да стала яе маці наракаці.

Да пачала Ціхоня плакаці,
Да пачала Ціхоня плакаці.

Узяла вядзерцы да й пайшла,
Узяла вядзерцы да й пайшла.

Паставіла вядзерцы на бруску,
Паставіла вядзерцы на бруску.

Павесіла хустачку на кусточку,
Павесіла хустачку на кусточку.

Паставіла чаравічкі на пясочку,
Паставіла чаравічкі на пясочку.

А сама, маладая, да ў Дунай пала,
А сама, маладая, да ў Дунай пала.

Стала яе маці шукаці,
Стала яе маці шукаці.

— Да вярніся, Ціхоня, вярніся,
За цясовы столік садзіся.

Да жоўтыя красачкі зараслі,
Да беленькім цветам зацвілі.

Да беленькім цветам зацвілі,
Да ўжо ж твае таварышкі замуж пайшлі.

— Не вярнуся, мамачка, нікагда,
Бо ты мяне, маладую, пракляла.

Бо ты мяне, маладую, пракляла,
Каб я, маладая, затала.

Да жоўтымі краскамі зарасла,
Да беленькім цветам зацвіла.

Да вот табе, мамачка, прыдмета,
Да жоўтыя красачкі зараслі.

## ДЗЯЎЧЫНА АБЯРНУЛАСЯ ВЯРБОЮ

### 283

Пайшлі дзеўкі па ваду [1],
Кінулі вёдры на ляду.

Кінулі вёдры на ляду.
— Станьце вы, вёдры, камушком.

Станьце вы, вёдры, камушком,
Почапачкі — ланцужком.

Почапачкі — ланцужком,
Каромысел — яварам.

Каромысел — яварам,
А я, молада, вярбою.

А я, молада, вярбою,
Пад крутою гарою.

Пад крутою гарою,
Над быстраю ракою.

Ехалі купцы-таргаўцы,
Сталі тую вярбу сеч-рубаць.

Сталі тую вярбу сеч-рубаць,
На дашчэчкі наскіпаць.

На дашчэчкі наскіпаць,
Звонкі гуслі напраўляць.

Звонкі гуслі напраўляць.
— Іграйце, гуслі, жалосна!

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Я ж, дзевухна, плакала,
За старога ідучы.

За старога замуж ідучы,
Пасцелюшку сцелючы.

Пасцелюшку сцелючы,
Ах, первы рад — каменне.

Ах, первы рад — каменне,
А другі рад — паленне.

А другі рад — паленне,
А ў галоўкі — крапіўка.

А ў галоўкі — крапіўка,
А ў ножанькі — шчыпчынка.

А ў ножанькі — шчыпчынка,
Накрыціся —рагожа.

Накрыціся — рагожа,
Каб старому глядзець нягожа.

Каб старому глядзець нягожа,
А каменне муляець.

А крапіўка шчыплецца,
А шчыпчыннік колецца.

Пайшлі дзеўкі па ваду,
Кінулі вёдры на ляду.

Кінулі вёдры на ляду.
— Станьце вы, вёдры, камушком.

Станьце вы, вёдры, камушком,
Почапачкі — ланцужком.

Почапачкі — ланцужком,
Каромысел — яварам.

Каромысел — яварам,
А я, молада, вярбою.

А я, молада, вярбою,
Пад крутою гарою.

Пад крутою гарою,
Над быстраю ракою.

Ехалі купцы-таргаўцы,
Сталі тую вярбу сеч-рубаць.

Сталі тую вярбу сеч-рубаць,
На дашчэчкі наскіпаць.

На дашчэчкі наскіпаць,
Звонкі гуслі напраўляць.

Звонкі гуслі напраўляць.
— Іграйце, гуслі, радосна.

Я ж, дзевухна, ўзрадавалася
За роўнага ідучы.

За роўнага ідучы,
Пасцелюшку сцелючы.

Ах, первы рад — пярынку,
А ў голавы — падушка.

А ў голавы — падушка,
Накрыціся — адзяялца.

## 284

♩=60

(і) На свя_ ту_ ю ма_ с(і)_ле_ ні_ду
пай_ шла дзе_ вач_ ха па ва_ (ду).

І — на святую масленіцу
Пайшла дзевачка па ва[ду].

І пайшла дзевачка па ваду,
Пусціла вядзерцы па ля[ду].

Пусціла вядзерцы па ляду.
— Станьце, вядзерцы, камень[ем].

Станьце, вядзерцы, камен[ем],
А каромысел яварам.

А ехалі купцы-вільняўцы,
А рубалі явар зялё[ны].

А рубалі явар зялёны,
А часалі дошкі тонкі[я].

А часалі дошкі тонкія,
А рабілі скрыпкі звонкі[я].

А іграйце скрыпкі жаласна,
Як дзевачка плакала.

## 285

Гуляла я, молада, дзень да вечара,
Ой, лялё, лялё, дзень да вечара.

[Згубіла я, молада, залаты ключы],
Ой, лялё, лялё, залаты ключы.

Хто ключы найдзець, за таго пайду,
Ой, лялё, лялё, за таго пайду.

Маленькі найдзець, я й за малага,
Ой, лялё, лялё, я й за малага.

Старэнькі найдзець, я й за старага,
Ой, лялё, лялё, я й за старага.

Роўненькі найдзець, я й за роўнага,
Ой, лялё, лялё, я й за роўнага.

Маленькі пайшоў, ключэй не найшоў,
Ой, лялё, лялё, ключэй не найшоў.

Роўненькі пайшоў, ключэй не найшоў,
Ой, лялё, лялё, ключэй не найшоў.

Старэнькі пайшоў, ключыкі знайшоў,
Ой, лялё, лялё, ключыкі знайшоў.

Мне за старага не хацелася,
Ой, лялё, лялё, не хацелася.

Ні за старага, ні за малага,
Ой, лялё, лялё, ні за малага.

Мне хацелася йціць за роўнага,
Ой, лялё, лялё, йціць за роўнага.

Ідзе я не буду, старага збуду,
Ой, лялё, лялё, старага збуду!

Скінуся я, молада, ў полі краскаю,
Ой, лялё, лялё, ў полі краскаю.

Стары за мною з вастраю касою,
Ой, лялё, лялё, з вострaю касою.

Скінуся я, молада, на моры вуткаю,
Ой, лялё, лялё, на моры вуткаю.

Стары за мною камянём у ваду,
Ой, лялё, лялё, камянём у ваду.

Камень патануў, вутка выплыла,
Ой, лялё, лялё, вутка выплыла.

## СЯСТРА СТАЛА ЯБЛЫНЬКАЮ

### 286




Да стаяла вярба над ракою [1],
Да пад тою вербай вада горка.
Там дзяўчына ваду брала,
Тую вербу праклінала:
— Багдай гэта верба не стаяла,
Залатое суčча не бразжала,
Срэбранае лісце не шумела.
Была ў мамкі [а]дна дачушка,
Аддалі яе замуж далёка.
А ніхто не зайдзець, не заедзець,
А зайшоў, заехаў меншы брацец.
Сястра брата параймала,
Сястра ў брата да й пытала.
Прывяла яна ў хатачку,
Мякку пасцельку да й слала,
Пад аконцам спаць лажыла,
Чыст аконца адпірала.
— А брацетка да ты мілы,
А брацетка да ты родны,
Ці мая пасцелька не мяккая,
Ці я табе сястра не любая?
— Мне твая пасцелька і мяккая,
Ты мне сястрыца і любая.
Пашла сястра брата праважаці.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Брат на кладку — кладка гнецца,
Сястра ад брата не астаецца.
— А брацетка да мой родны,
А брацетка да мой мілы,
Да прымі ж ты ліха-гора.
— А сястрыца мая родна,
А сястрыца мая міла,
Да пасей жа ў чыстым полі,
У чыстым полі на жарствянцы.
Няхай расцець роўна з лесам,
Няхай цвіцець белым цветам,
Што б дзевушкі не шчыпалі,
Такога гора не ажыдалі.
Дзе сястра із братам пастаялі —
Садовая яблынька там стала.
Да дзе сястра [redacted] братам паплакалі,
Слязавая рэчка разлілася.

## 287




У полі, полі стаяла яварына,
Стаяла яварына.

Там жа дзяўчына з казакам гаварыла,
З казакам гаварыла:

— Прынясі, божа, каго верна любіла,
Каго верна любіла!

А хоць не яго, то таварыша яго,
То таварыша яго.

Распытаюся, ці ён жыў, ці ён здароў,
Ці ўміраці думае.

Над маім дваром цёмная хмара пала,
Цёмная хмара пала.

А мне, маладзе, усё няслава стала,
Усё няслава стала.

Я тую хмарку хустачкай разматаю,
Хустачкай разматаю.

Тую няслаўку розумам раздумаю,
Розумам раздумаю.

Йшоў казак ракой, дзяўчына — далінаю,
Дзяўчына — далінаю.

Стаў казак яварам, дзяўчына — калінаю,
Дзяўчына — калінаю.

— Цябе, яварок, пасякуць, парубаюць,
Пасякуць, парубаюць,

А мяне, каліну, пастушкі пашчыпаюць,
Пастушкі пашчыпаюць.

## 288




— Не хадзі, казача, лугам, берагамі,
Ой, не сушы дзяўчыну з чорнымі брывамі.

— Як не вазьму чарнаброву, то не ажанюся,
Ой, пайду я з гаранька ў рэчку утаплюся.

— Не тапісь, казача, бо душу загубіш,
Едзьмо павянчаймося, калі верне любіш.

Едзем мы вянчацца, стаў конь спатыкацца.
— Ой, вернемся, дзяўчыненька, бо шчасця не будзе.

Пайшоў казак гарою, дзеўка даліною,
Расцвіў казак розаю, дзеўка каліною.

На казаку роза стала пасыхаці,
На дзяўчыне каліна стала расцвітаці.

Прышла Марусіна каліну ламаці:
— Ўставай, ўставай, Марусіца, да свайго дзіцяці!

— Ой, як жа мне ўстаці, галоўку падняці,
Сыра зямля, жоўты пясок, не магу я ўстаці!

## 289

Moderato

Ма_ ла_ ды ка_ за_ ча, ча_ го за_ жу_ рыў_ ся,
ці ва_ лы пры_ ста_ лі, ці з да_ рож_ кі збіў_ ся?

— Малады казача, чаго зажурыўся,
Ці валы прысталі, ці з дарожкі збіўся?

— Валы не прысталі, з дарогі не збіўся,
Таго зажурыўся, што долі не маю.

Пайшоў казак полем, шукаць сабе долі,
Да не знайшоў долі, знайшоў быстру рэчку.

Пайду ўтаплюся, бо долі не маю,
Выйшла дзяўчына з зялёнага гаю.

— Не тапісь, казача, бо душу загубіш,
Хадзем павянчаемось, калі верна любіш.

Пайшлі павянчацца — няма папа дома,
Ці не тваё шчасце, ці не мая доля?

Пайшоў казак полем, дзеўка даліною,
Стаў казак цернем, дзеўка — каліною.

Казакова маці ішла церне ламаці:
— Ох, то не цярнёчак, гэта — мой сыночак.

Дзяўчыніны маці каліну ламаці:
— Гэта не каліна, але мая дзяўчына.

26. Зак. 100

## 290

Малады малойчык, чаго зажурыўся,
Ці валы прысталі, ці з дарожкі збіўся?

Валы не прысталі, [redacted] дарожкі не збіўся —
Умёр ацец-маці, а я не жаніўся.

Знаць, я маладзенькі без долі радзіўся,
Пайду ў чыста поле іскаць сваёй долі.

Не нашоў я долі, нашоў быстру рэчку —
Палезу ўтаплюся, бо долі не маю.

Выйшла дзяўчына з зялёнага луга:
— Не лезь, не тапіся, бо душу загубіш.

Не лезь, не тапіся, бо душу загубіш,
Пойдзем мы вянчацца, калі верна любіш.

Пойдзем мы вянчацца — няма папа дома,
Ці маё няшчасце, ці твая нядоля?

Ішоў казак долам, дзеўка — даліною,
І стаў казак цернам, дзеўка — каліною.

Вышла яго маці цярночак ламаці:
— Гэта не цярночак, гэта мой сыночак.

Вышла яе маці каліну ламаці:
— Гэта не каліна, [redacted] мая дзяўчына.

## 291






— Чаму, дуб, не зялёны, чы туча прыбіла?
Ой, чаго, казак, невясёлы, мо ліхая гадзіна?

Ой, як жа мне, браткі, вясёламу быці,
Ой, любіў я дзяўчонку, а засваталі людзі.

Ой, любіў я дзяўчонку, а засваталі людзі,
Любіў я другую — а засваталі й тую.

Любіў я другую — а засваталі й тую.
Ох, да мне, казачаньку, парачкі не будзе.

Толькі што да пары, што вочачкі кары,
Ой, толькі да любові, а што чорныя бровы.

Чорны бровы маю, й а не ажанюся,
Ой, пайду да рэчачкі, я пайду жа ўтаплюся.

— Не тапіся, казача, бо душу загубіш,
Ой, прызнайся папраўдзе, каго верна любіш.

— Я каго верна люблю, ой, той за плячыма,
Ой, каго ненавіджу, той перад вачыма.

Пайшоў казак ярам, дзеўка даліною,
Зацвіў казак тырнам, а дзеўка каліною.

Дзе ж густы тарночак, ох, і там мой сыночак,
Ох, і дзе густа каліна, там і мая дзяціна.

## 292




— Зеляны дубочак, чаго нахіліўся?
Малады казача, чаго зажурыўся?

Малады казача, чаго зажурыўся,
Ці валы прысталі, ці з дарожкі збіўся?

— Валы не прысталі, з дарожкі не збіўся,
Ацец-мацы памёрлі, я шчэ не жаніўся.

Ацец-мацы памёрлі, [redacted] шчэ не жаніўся,
Я[redacted] пайду я з гора да ў чыстае поле.

Буду я ў тым полі долечку шукаці,
Не знайшоў я долі, пайду я ўтаплюся.

Пайду й утаплюся, бо долі не маю,
Ой, пайшоў тапіцца к зялёнаму гаю.

Ой, пайшоў тапіцца к зялёнаму гаю,
Ой, выходзіць дзеўка з зялёнага гаю.

— Не тапісь, казача, бо душу загубіш,
Ой, пойдзем вянчацца, калі верна любіш.

Ой, пайшлі вянчацца, няма папа дома,
Ці тваё няшчасце, ці мая нядоля?

Казак пайшоў полем, [redacted] дзеўка далінай,
Казак да стаў цернем, а дзеўка калінай.

## 293

♩=55

Ой ты, Ва_ня, Ва_ ня, ты ма_ я ду_ ша,
я з та_ бо_ ю, Ва_ ня, не на_ жы_ла_ ся,
я з та_ бо_ ю, Ва_ ня, не на_ жы_ ла_ ся.

Ой ты, Ваня, Ваня, ты мая душа,
Я з табою, Ваня, не нажылася [1].

Дзесь паехаў мілы на мора гуляць,
А мяне пакінуў у доме гараваць.

Ой, я ў сваёй мамкі ды й даўно была,
Ужо ж тая дарожка дзёрнам зарасла.

Ой, не так жа дзёрнам, як дзярніцаю,
Ён зрабіўся сокалам, я — арліцаю.

А ўзляцеўшы сокалам, я — арліцаю,
Ён зрабіўся месяцам, я — зарніцаю.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## МУЖ СТАУ ЯВАРАМ, ЖОНКА — РЭЧКАЮ

### 294

♩ =106

Ля но_ва_ га, ля но_ ва_ га ка_ ло_дзе_ жа

я ж, ма_ ла_ да, ва_ ду бра_ ла.

Ва_ ду бра_ ла, я ж, ма_ла_ да, ва_ ду бра_ ла,

рас_ кі_ пе_ лась, раз_ га_ рэ_ лась.

Ля новага,
Ля новага калодзежа
Я ж, малада, ваду брала.

Ваду брала,
Я ж, малада, ваду брала,
Раскіпелась, разгарэлась.

Разгарэлась,
Раскіпелась, разгарэлась
Кроў гаручая ува мне.

Ува мне,
Кроў гаручая ува мне,
Што мой міленькі п'яніца.

А ён жа п'е,
А ён жа п'е, ён балюе,
Ён жа дома не начуе.

Ён жа прыдзе,
Ён жа прыдзе із карчомкі
Не садзіцца, не лажыцца.

Не лажыцца,
Не садзіцца, не лажыцца,
Сярод хаты станавіцца.

— Хадзі, мілы,
Хадзі ж, мілы, я разую,
Паясочак распасую.

Распасую,
Паясочак распасую.
— Адступ, жонка нялюбая!

Нялюбая,
Адступ, жонка нялюбая,
А ужо ж ты мне знелюбела.

Знелюбела,
А ўжо ж ты мне знелюбела,
Дзеткі твае апастылелі.

— Бадай, мілы,
Бадай, мілы, не разжыўся,
У чыста поле не заехаў.

Не заехаў,
У чыста поле не заехаў,
Каб конічак гарою стаў.

Гарою стаў,
Каб конічак гарою стаў,
Абротачка ўсё дубочкам.

Усё дубочкам,
Абротачка ўсё дубочкам,
Ты ж, мой міленькі, яварочкам.

Яварочкам,
Ты ж, мой мілы, яварочкам,
Я ж, малада, быстрай рэчкай.

Быстрай рэчкай,
Я ж, малада, быстрай рэчкай,
Дзеткі мае ручайкамі.

Я ж, малада,
Я ж, малада, разліюся,
Пад яворык падкачуся.

Падкачуся,
Пад яворык падкачуся,
Я ж яворыка падмыю.

Падмыю,
Я ж яворыка падмыю,
Карэннейка разарыю.

## СЯСТРА УТАПІЛАСЯ

### 295

Цераз рэчушку, цераз быструю
Там ляжыць, ляжыць бруссе цёсанае.
Ой, туда ішоў брацец з сястрою,
Ох, і брат перайшоў, сястра ўтанула.
[Сястра ўтанула], рэч прамовіла:
— Ты не еш, брацец, рыбы-бялугі,
Рыба-бялуга — да то цела маё.
Не пей, брацец, з мора вады,
А ў моры вада — да то кроў мая.
Ты не еш, брацец, ты маліны,
А маліна — да то губы мае.
Ты не еш, брацец, ты смародзіны,
А смародзіна — да то глазы мае.
Не 'ббівай, брацец, зямчужнай расы,
Зямчужная раса — да то слёзы мае.
Не тапчы, брацец, шалковай травы,
Шалкова трава — то каса мая.

### 296




Цераз рэчачку гібка кладачка,
Ай, лялё [й] рана, гібка кладач[ка].

А тудой ішлі сястра з братачкам,
Ай, лялё й рана, сястра з братачкам.

Братачка ішоў — рэчку перайшоў,
Ай, лялё й рана, рэчку перайшоў.

А сястра ішла да й утонула,
Ай, лялё й рана, да й утонула.

Да й утонула, і прамовіла,
Ай, лялё й рана, і прамовіла:

— Не касі, братка, кала рэк травы,
Ай, лялё й рана, кала рэк травы.

Не бяры, братка, із ракі вады,
Ай, лялё й рана, із ракі вады.

Не лаві, братка, у рацэ рыбы,
Ай, лялё й рана, у рацэ рыбы!

Кала рэк трава — то коскі мае,
Ай, лялё й рана, то коскі мае.

У рацэ вада — то слёзкі мае,
Ай, лялё й рана, то слёзкі мае.

Шчучка-рыбачка — то цeлца маё,
Ай, лялё й рана, то цeлца маё.

**297**



А ў канец сяла быстра рэчка йшла,
Ай, рана, рана, быстра рэчка йшла.

На той рэчанцы гібка кладачка,
Ай, рана, рана, гібка кладачка.

Туды ж ба ішоў брацец з сястрою,
Ай, рана, рана, брацец з сястрою.

Брацец перайшоў, сястра ўтонула,
Ай, рана, рана, сястра ўтонула.

Яна тры словечкі ды прамовіла,
Ай, рана, рана, ды прамовіла.

— Не бяры, брацец, у рацэ ваду,
Ай, рана, рана, у рацэ ваду.

Не касі, брацец, асакі-травы,
Ай, рана, рана, асакі-травы.

Не ламай, брацец, ў лузе каліны,
Ай, рана, рана, ў лузе каліны.

Не сячы, брацец, белай бярозы,
Ай, рана, рана, белай бярозы.

А ў рацэ вада — ўсё сляза мая,
Ай, рана, рана, ўсё сляза мая.

Каля рэк трава — ўсё й каса мая,
Ай, рана, рана, ўсё й каса мая.

Ў лузе каліна — ўсё й краса мая,
Ай, рана, рана, ўсё й краса мая.

Бела бяроза — ўсё й ліцо маё,
Ай, рана, рана, ўсё й ліцо маё.

## 298

— Не сячы, мой татулька,
Пры дарозе бярозы,
Не палі, мой брацейка,
У лужочку травіцы.
Не бяры, мая матулька,
У крыніцы вадзіцы,
Не шчыплі, мая сястрыца,
У садочку цвяточкаў.
Пры дарозе бяроза —
Я сама, маладзенька,
У лужочку травіца —
Мая руса касіца,
У садочку цвяточкі —
Мае ясныя вочкі,
У крыніцы вадзіца —
Мае дробныя слёзкі.

## 299

— Не сячы, мой татухна,
Ля дарожкі бярозкі,
Не касі, мой брацетка,
У лужочку травіцы.
Не бяры, матухна,
У крыніцы вадзіцы,
Не шчыпі, мая сястрыца,
У садочку цвяточкі.
У садочку цвяточкі —
Мае ясныя вочкі,
У лужочку травіца —
Мая руса касіца,
У крыніцы вадзіца —
Мае дробныя слёзкі,
Ля дарожкі бярозка —
Я сама маладзіца.

— Не сячы, мой татухна, пры дарожцы бярозку,
Не касі, мой брацетка, на лужочку травіцу,
Не шчыпай, мая сястрыца, у садочку цвяточкі,
Не бяры, мая матухна, у крыніцы вадзіцы.
Пры дарожцы бярозка — я сама маладзенька,
А ў лужочку травіца — мая руса касіца,
У садочку цвяточкі — мае ясныя вочкі,
У крыніцы вадзіца — мае дробныя слёзкі.

# БРАТ СЯСТРУ ЗАБІЦЬ ХОЧА

## 301

Купала на Івана,
Да шуміць, шуміць на дуброве,
А звініць, звініць на дарозе,
Да брат сястру хоча забіць.
А яна ў яго прасілася:
— Да Іванька, братачка,
Не бі мяне ў суботачку.
Не бі мяне ў суботачку,
Да забі мяне ў нядзелечку.
Абсей мяне васілёчкамі,
Абсадзі мяне стрэлачкамі.
А будуць дзеўкі к цэркаўцы іці,
А будуць яны васілёчкі ірваці.
Да віці вяночкі будуць,
А хлопчыкі атнімаць стрэлачкі будуць,
А мяне, маладзенькую, будуць ўспамінаць,
А цябе, мой брацетка, праклінаць.

## 302

Брат сястру хоча забіці,
Яна ж зачала прасіці:
Купала на Івана! [1]

— Мой братанька, галубочку,
Не забівай мяне ў лясочку.

Забі мяне ў чыстым полі,
А як заб'еш, схавай у доле.

---

[1] Рэфрэн «Купала на Івана!» паўтараецца пасля кожнай страфы.

Абсадзі трыма зеллямі:
Перша зелле — гваздзічкі.

Другое зелле — васількі,
Трэце зелле — стрэлачкі.

Дзяўчаткі йдуць, гваздзічкі рвуць
І мяне ўспамінаюць.

Маладзічкі ідуць, васілёчкі рвуць
І мяне ўспамінаюць.

Хлопчыкі йдуць, стрэлачкі рвуць
І мяне ўспамінаюць.

## 303




А што ж гэта ды за свет настаў,
Купала на Івана! [1]
Да брат сястру да любіць не стаў.
Да любіць не стаў, да страбіць хацеў.
— Не страбі, братка, да ў суботку.
А страбі, братка, й у нядзелечку.
Не хавай, братка, й у даліначцы.
А хавай, братка, пры дарожачцы.
Абсадзі, братка, усю магілачку,
Усю магілачку васілёчкамі.
Будуць дзеўкі ісці, васілёчкі рваць.
Васілёчкі рваць, вяночкі плесці.
Вяночкі плесці, на галоўку класць.

---

[1] Рэфрэн «Купала на Івана!» паўтараецца пасля кожнага радка.

## 304




Купала на Йвана!
Да купаліся да дзве вутачкі,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Пакупаўшыся, яны пасушыліся,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Пасушыўшыся, яны паляцелі,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Да й лятучы, яны гаварылі,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Што братка сястру страціць хоча,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Сястра ў брата прасілася,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
— Не страць, братка, у суботачку,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
У суботачку да жыдоўскі дзень,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
А страць, братка, у нядзелечку,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
У нядзелечку хрысціянскі дзень,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Да схавай, братка, пры дарожцы,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Да абсей, братка, васілёчкамі,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Абсадзі, браток, стрэлачкамі,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Да дзевачкі йдуць, васілёчкі рвуць,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Васілёчкі рвуць, вяночкі ўюць,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Вяночкі ўюць, на галоўкі кладуць,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Хлопчыкі ідуць, стрэлачкі ламаюць,
Купала на Йвана!

Купала на Йвана!
Мяне, маладую, ўспамінаюць,
Купала на Йвана!

27, Зак. 100

На гарэ два дубы
Калыхаліся,
Сястру два браты
Да калышучы ўранілі,
Насмерць сястру забілі.
Да прышоў да яе старшы брат:
— Ці не трэба сястрэ карэння?
— Мне не трэба, братка, карэнне,
Да толькі душы збавенне.
Да сячы, братка, сыры дуб,
Да зрабі мне вечны дом,
Пахавай, братка, у касцёле
Пры левым боцы, пры сцяне,
Пасей, братка, руту-мяту,
Да пасадзь, братка, стрэлкаю.
Да будуць ісці дзевачкі,
Да будуць руту шчыпаць,
Да за хустачку затыкаць,
Мяне, маладую, спамінаць,
Што я была за дзяўчына.
Да будуць ісці малодачкі,
Да будуць мяту шчыпаць,
Да за чэпачкі затыкаць,
Мяне, маладую, спамінаць.
Да будуць ісці малойчыкі,
Да будуць стрэлкі ламаць,
Да будуць за брылёчкі затыкаць,
Мяне, нешчаслівую, спамінаць.

## ЧУЖАЗЕМЧЫК

### 306

У ціхім Дунаі купаліся
Тры малойчыкі.
Два малойчыкі — родны брацеткі,
Родны брацеткі,
Трэці малойчык — чужастарончык,
Чужастарончык.
Першы кажа: «Утопім яго,
Утопім яго».
Ўтары кажа: «Распытаемся,
Распытаемся.
Ці ёсць у яго ацец-матушка,
Ацец-матушка,
Ці ёсць у яго родны брацеткі,
Родны сястрычкі,
Родны сястрычкі, малада жана,
Малада жана,
Малада жана, малы дзетушкі,
Малы дзетушкі».
— Ціхі Дунай — мой ацец родны,
Мой ацец родны.
Сырая зямля — родна матушка,
Родна матушка.
Салавей ў бару — родны брацетка,
Родны брацетка.
Зязюлька ў лясу — сястрыца мая,
Сястрыца мая.
Белая бяроза — то жана мая,
То жана мая.
У яе атростачкі — мае дзетачкі,
Мае дзетачкі.
Яны ўзялі яго, убілі яго,
Убілі яго.
Маладая галава пакацілася,
Пакацілася,
У ціхі Дунай яна звалілася,

Яна зваліласа.
— Ціхі Дунай, родны бацюшка,
Ты абмый мяне,
Сырая зямля, родна матушка,
Ты прыкрый мяне,
Салавей у бару, родны брацетка,
Паспявай па мне,
Зязюлька ў лясу, родна сястрыца,
Пакукуй па мне,
Белая бяроза, жана малада,
Пашумі па мне,
Маладыя атростачкі, мілы дзетушкі,
Памайце па мне.

## 307




Ой, на моры да й на сіненькім,
Ой, люлі, люлі, да й на сіненькім.

Там купаліся да два брацеткі,
Ой, люлі, люлі, да два брацеткі.

Ой, прышоў да іх чужаземнячык,
Ой, люлі, люлі, чужаземнячык.

Вой, адзін кажа — загубіць яго,
Ой, люлі, люлі, загубіць яго.

А другі кажа — папытаемся,
Ой, люлі, люлі, папытаемся.

А ці ёсць у яго айцец, мамачка,
Ой, люлі, люлі, айцец, мамачка.

Айцец, мамачка, сёстры, брацеткі,
Ой, люлі, люлі, сёстры, брацеткі.

Сёстры, брацеткі, ўся радзімачка,
Ой, люлі, люлі, ўся радзімачка.

— У мяне айцец — сіняе мора,
Ой, люлі, люлі, сіняе мора.

У мяне мамка — сырая зямля,
Ой, люлі, люлі, сырая зямля.

У мяне братка — салавеечка,
Ой, люлі, люлі, салавеечка.

У мяне сястрыца — шэра зязюля,
Ой, люлі, люлі, шэра зязюля.

Уся радзімачка — дробны пташачкі,
Ой, люлі, люлі, дробны пташачкі.

Сіняе мора, ускалыхні мяне,
Ой, люлі, люлі, ускалыхні мяне.

Сырая зямля, прыхілі мяне,
Ой, люлі, люлі, прыхілі мяне.

Салавеечка, ты папей па мне,
Ой, люлі, люлі, ты папей па мне.

Шэра зязюля, пакукуй па мне,
Ой, люлі, люлі, пакукуй па мне.

Дробны пташачкі, шчабячыце па мне,
Ой, люлі, люлі, шчабячыце па мне.

А пры крайчыку, пры Дунайчыку
Там два брацеткі а купаліся.
А купаліся, размаўляліся,
А міжы іх чужаземчык быў.
Чужаземчыка загубіць хочуць.
Адзін кажыць — загубіць яго,
А другі кажыць — папытаемся,
Чы ёсць у яго а род-племеня,
А род-племеня, ацец, мамачка,
Ацец, мамачка, брат, і з сястрою,
Брат і з сястрою, жана з дзеткамі.
Ціхі Дунаю — то мой татанька,
Сырая зямля — то мамка мая,
У лузе салавей — то мой брацетка,
У бару зязюлька — то сястра мая,
Бела бярозка — то жана мая,
У бярозкі розгі — то дзеткі мае.
Ціхі Дунаю, умывай мяне,
Сырая зямля, прыкапай мяне.
У лузе салавей, пашчабеч па мне,
У бару зязюля, пакукуй па мне,
Бела бяроза, пашумі па мне,
У бярозкі розгі, паківайцеся.

## 309

Жыла ўдава на Падоле,
Й мела ўдава дзевяць сыноў,
Дзесятую дачку — Насценьку.
Сыны ўзраслі — ў разбой пашлі,
Дачка ўзрасла — замуж пашла.
Жыла гадок, жыла другі,
На трэці захацела ў госці:
— Ну-ка, купча, сабірайся,
Паедзем к цешчы ў госці,
К тваёй цешчы, к маёй мацеры.
Едзем поле і другое —
Абняла нас цёмная ноч.
— Ну ты, купча, дровы рубай,
Купчанок — агонь раскладай!
Стучыць, гручыць па масточку,
Гэта ідуць разбойнікі.
Як прыпалі — купца ўбілі,
Купчонка загубілі.
Усе братцы паўсыпалі,
Меншы брацец не ўсыпаець,
Усё з купчоўнай размаўляець:
— Адкуль, купчоўна, якога роду?
— А я роду небальшога:
Жыла ўдава на Падоле,
Й мела ўдава дзевяць сыноў,
Дзесятую дачку — Насценьку.
Сыны ўзраслі — ў разбой пашлі,
Дачка ўзрасла — замуж пашла.
— Уставайце ж, братцы,
А што ж мы зрабілі!
Свайго швагра да й убілі,
Пляменнічка загубілі!
Пойдзем жа мы ў чыста поле,
Рассыпемся мы каменнейкам:

Пускай людзі сабіраюць,
А ў жаркіх печах распаляюць,
Пускай з нас грахі знімаюць.

## 310




Ў канец сяла,
Ў канец сяла жыла ўдава,
Мела сабе дзевяць сыноў.

Мела сабе,
Мела сабе дзевяць сыноў,
Дзесятую дачку Насту.

Дзесятую,
Дзесятую дачку Насту,
Сыны ўзраслі — ў разбой пашлі.

Сыны ўзраслі,
Сыны ўзраслі — ў разбой пашлі,
Дачка Наста замуж вышла.

Дачка Наста,
Дачка Наста замуж вышла,
За каго ж, за якога?

Ой, за каго,
Ой, за каго, за якога?
За купчыка маладога.

Ой, і ўсе разбоі,
Усе разбоі спаць паляглі,
Адзін разбой не лажыўся.

Адзін разбой,
Адзін разбой не лажыўся,
З купчышкаю разгаварыўся.

З купчышкаю,
З купчышкаю разгаварыўся:
— Купчышачка, адкуль родам?

Купчышачка,
Купчышачка, адкуль родам?
— А я родам з Даўгінава.

А я родам,
А я родам з Даўгінава,
Я дачушка ўдавіная.

— Устаньце, братцы,
Устаньце, братцы, не ляжыце,
Што ж мы волю ўчынілі.

Што ж мы волю,
Што ж мы волю ўчынілі,
Сястру Насту заўдавілі.

## 311






Жыла ўдоўка на [а]дзіноцы,
Жаркае соўненька ўзойдзіць [1].
Было ў яе дзевяць сыноў,
Дзевяць сыноў, дзесята дачка,
Дачушка Настулечка.
Сыны ўзраслі — ў разбой пашлі,
Дачка ўзрасла — замуж пашла,
Жыла гадок, жыла другі,
На трэці гадок заташнілася,
К мамцы ў госці захацелася.
— Ах ты, купчык, ты галубчык,
Паедзем жа к мамцы ў госці.
Ён жа коні запрагаіць,
К мамцы ў госці ад'язджаюць.
Едуць поле і другое,
На трэцяе уз'язджаюць,
Цёмная ночка абнімаіць.
Яны шатры распінаюць,
Яны кастры раскладаюць,
Купчанятка спаць укладаюць.
Стучыць, грычыць дарожанька,
Шуміць, шуміць дубровачка,
Едуць, едуць разбойнічкі.
Яны купца загубілі,
Купчанятка зарэзалі,
А купчавую спаць палажылі.
Восем разбойнікаў спаць уляглося,
А дзевяты не ўсынаець,
У купчыхі распытываіць:

[1] Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— Адкуль, адкуль, купчышачка,
Ці багата атца-маці,
Ці вялікага ты роду?
— Атца-маці небагатага,
Жыла ўдоўка на адзініцы,
Было ў яе дзевяць сыноў,
Дзевяць сыноў, дзесята дачка,
Дачушачка Настусечка.
Сыны ўзраслі — ў разбой пашлі,
Дачка ўзрасла — замуж пашла
За купчыка за галубчыка.
Жыла гадок, жыла другі,
На трэцці гадок заташнелася,
К мамцы ў госці захацелася.
Я купчыка ўгаварыла,
Мы паехалі к сваёй мамачцы.
Едзем поле і другое,
На трэцяе уз'язджаем...
— Устаньце, ўстаньце, мае братцы,
А што жа мы надзелалі,
А мы швагру загубілі,
Племянятку зарэзалі,
Мы сястру асірацілі.

## 312

♩ =80

(і) Жы_ ла ўдоў_ ка на а_ дзі_ но_ цы,
(й) до_ ла_ м (ы), до_ ла_ м (ы), да_ лі_ на!
На дзі_ но_ цы, на ўва_ ло_ цы,
(й) до_ лам, до_ лам, да_ лі_ на!

І жыла ўдоўка на адзіноцы,
Долам, долам, даліна![1]
На адзіноцы, на ўвалоцы.
Было ў яе дзевяць сыноў,
Дзевяць сыноў, дзесята дачушка.
Сыны ўзраслі — ў разбой пайшлі,
Дачка ўзрасла — замуж пайшла
За купчыка, за галубчыка.
Пажыла гадок, пажыла другі,
А на трэці змарнелася,
К мамцы ў госцікі захацелася.
— Запрагай-ка, купчык, коні,
А паедзем к мамцы ў госці.
Купчык коні запрагаіць,
А купчыха ўбіраецца,
Купчанятка прыбіраіць.
Едуць поле і другое,
На трэцяе уз'язджаюць,
Цёмна ночка абнімаіць.
— Будзем, купчык, тут начаваці,
Яркі кастры раскладаці,
Смачну вячэру гатаваці,
Мякку пасцелю засцілаці.
Выйдзі, купчык, на дарожку,
Выйдзі, выйдзі да паслухай
А ці шуміць дубровачка,
А ці стучыць дарожачка.
Шуміць, шуміць дубровачка,
Стучыць-гручыць дарожачка,
Едуць, едуць разбойнікі.
Яны купчыка ўсмерць убілі,
Купчанятка загубілі,
А купчыху спаць палажылі.
А ўсе браты паўсыналі,
Старшы брацец не ўсынаець —
Із купчыхай размаўляець.
А стаў у яе пытаціся,
Адкуль яна, чыйго роду.
Яна стала гаварыці:
— Жыла ўдоўка на адзіноцы,
На адзіноцы, на ўвалоцы.

---

[1] Рэфрэн «Долам, долам, даліна!» паўтараецца пасля кожнага радка.

Было ў яе дзевяць сыноў,
А дзесятая дачушка...
— Стойце, братцы, што мы здзелалі,
Мы ж шваграчку ўсмерць убілі,
Племянятка загубілі,
А сястрыцу спаць палажылі.

## 313

Жыла ўдоўка на Падоле,
Мела яна дзевяць сыноў,
Дзесятую дачушку
Ды звалі Ганусечка.
Дзевяць сыноў не ўслых пайшло,
Узялі кіі — ў разбой пайшлі.
Ганусечку здала замуж
За купчыка-таргоўчыка.
Ён купчуе, ён таргуе,
Нігды дома не начуе.
Напаткала дзевяць братоў,
Узялі купчыка забілі,
Срэбра-золата пабралі,
Пад калодай пахавалі.
Прышлі ў карчомку начаваці.
— Шынкарачка маладая,
Дай нам мёду не мерачы,
Дадзім дзенег не лічачы.
— Не дам мёду не мерачы,
Не вазьму дзенег не лічачы.
Восем братоў спаць паляглo,
А дзевяты ў размове:
— Шынкарачка маладая,
Мусіць, роду вялікага,
Атца-маткі багатага?
— Да я роду вялікага,
Атца-маткі багатага.
Жыла ўдоўка на Падолі,
Мела яна дзевяць сыноў,
А дзесятую дачушачку

Мяне, млоду Ганусечку.
Дзевяць сыноў не ўслых пайшло,
Узялі кіі — ў разбой пайшлі,
Мяне, млоду, аддала замуж
За купчыка-таргоўчыка.
Ён таргуе, ён купчуе,
Нігды дома не начуе.
— Уставайце, восем братоў,
А што мы гэта зрабілі,
Свайго шваграчку забілі,
Сястрыцу ўдоўкай зрабілі,
Срэбра, золата ўсё пабралі,
Пад калодай пахавалі.
А пойдзем мы, адкапаем,
На могілках пахаваем.
— А чорт вас прося, мае братцы,
Каб вы мяне шкадавалі.
Убілі яго — ўбіце мяне,
А без яго жыць не буду.

## 314

Жыла ўдава на Падоле
Ды не мела шчасця, долі.
Адно мела — дзевяць сынкоў,
А дзесятую дачку-швачку.
Сынкі ўзраслі — ў разбой пайшлі,
Дачка-швачка замуж выйшла.
Замуж выйшла за купчыка,
За купчыка-галубчыка.
Купец пайшоў купчаваці,
Купчавая памагаці.
Сталі ў лесе начаваці,
Пад сасною агонь класці.
Прыйшлі к ім разбойнічкі,
Ўзялі купца зарэзалі,
Купчавую звязалі.
Самі спаць паляглі.
Усе яны паўсыналі,

Самы меншы не заснуў,
С купчавою размаўляе:
— Адкуль сама, адкуль родам?
А яна адказвае:
— Я родам з Падолі
Ды не мела шчасця, долі.
Адно мела — дзевяць сынкоў,
А дзесятую дачку-швачку.
Сынкі ўзраслі — ў разбой пайшлі,
Дачка-швачка замуж выйшла.
— Устаньце, браткі, не ўсыпайце,
Свайго швагра пахавайце,
А сястрыцу развяжыце,
Да мамкі завядзіце.

## 315

Была ўдава на Падоллі,
Мела дзевяць сынкоў,
Дзесята дачка Маруся.
Сынкі зраслі — ў разбой пашлі,
А дачку замуж аддалі
За Якубчыка, за злотнічка.
Якубчык ночкі не даспаў,
Цераз бор пераязджаў,
Заступілі яго да разбойнічкі,
Сталі біці, разбіваці.
— Ой, не біце мяне, не разбівайце,
Злота, срэбра адбірайце.
Яны таго не слухалі,
Паразбівалі, срэбра, злота паадбіралі,
Прышлі да карчомкі.
А ў той карчомцы шынкарачка маладая.
— Ой, шынкарачка маладая,
Давай піва не мерачы,
Бяры грошы не лічачы.
Яна таго не слухала,
Узяла піва перамерыла,
Узяла грошы пералічыла.

Усе паўпіваліся, паўсыпаліся,
Самы меншы не ўпіваўся, не ўсыпаўся,
А з шынкарачкаю размаўляў.
— Шынкарачка маладзенька,
Чы роду вялікага,
Атца маткі маентных?
— Ой, вялікага роду,
Атца маткі маентных.
Была ўдава на Падоллі,
Мела дзевяць сынкоў.
Дзесяту дачку Марусю,
Сынкі зраслі — ў разбой пашлі,
А дачку Марусю замуж аддалі,
За Якубчыка, за злотнічка.
Якубчык ночкі не даспаў,
Цераз бор праяязджаў.
— Устаньце, браткі, устаньце родныя,
Пойдзем швагра пахаваем,
Пры дарозе, пры бярозе.
Маруся тое як учула,
У крык, у плач...
— Не плач, сястронка,
Не плач, родная,
Аддамо цябе за лепшага,
[За лепшага], за багатшага.

## 316

Кася Яся выпраўляла,
Яна яго навучала:

— Не едзь, Ясю, цёмным борам,
А едзь, Ясю, роўным полем.

У роўным полі работнічкі,
У цёмным бору разбойнічкі.

Ясь Касенькі не паслухаў,
Сеў на каня ды паехаў.

Не паехаў роўным полем,
Ды паехаў цёмным борам.

Разбойнічкі напаткалі,
Узялі Яся забілі.

Срэбра-злота абабралі,
Да шынкаркі паехалі.

— Шынкарачка маладая,
Дай нам мёду не меручы,

Дамо срэбра не лічучы.
Шынкарачка паслухала,

Дала мёду не меручы,
Далі срэбра не лічучы.

Усе восем паснулі,
А дзевяты спаць не клаўся,

З шынкарачкай размовіўся.
— Шынкарачка маладая,

Ці ты роду вялікага,
Айца й маткі багатага?

— Ох, я роду вялікага,
Айца й маткі багатага.

Было ў мяне дзевяць братоў,
Усе дзевяць у разбой пайшлі.

Мяне, маладую, замуж аддалі
За купчыка багатага.

За купчыка багатага,
За Ясеньку маладога.

— Уставайце, восем братоў,
Нядобра мы зрабілі,

Што сястры мужа забілі.
Не плач, Касенька, не лякайся,

Срэбра, злота павернецца,
Твой Ясенька не вернецца.

## 317

Кася Яся выпраўляла,
Выпраўляла, навучала:
— Не едзь, Ясю, борам-долам —
Долам-борам разбойнічкі,
Ў роўным полі работнічкі.
Ясь Касенькі не паслухаў
І долам-борам паехаў.
І напалі разбойнічкі
Да і Ясеньку забілі,
Злота-срэбра абабралі.
— Шынкарачка маладая,
Дай нам мёду не меручы,
Дамо грошы не лічучы.
Восем братоў упіліся,
Дзевяты не ўпіўся,
Шынкарачкі распытаўся:
— Шынкарачка маладая,
Чы ты роду вялікага,
Маці-айца багатага?
— Маіх братоў усіх дзевяць,
А я сястра дзесятая
Пайшла замуж за край-гору,
За край-гору, за купчыка.
Ён паехаў таргаваць,
Мяне пакінуў шынкаваць.
— Уставайце, брацця мае,
Забірайце рэчы свае.
Ох, што ж мы добрага зрабілі,
Свайго швагра забілі.

Жыла ўдава пасярод сяла,
А зялёны сад вішнёвы! [1]
Было ў яе дзевяць сыноў,
Дзесятая дачка Зоська.
Сыны ўзраслі — ў разбой пашлі,
Дачка ўзрасла — замуж пашла
За купчыка, за галубчыка.
Радзілася ў яе купчанятанька.
Жыла гадок, жыла другі,
На трэці гадок заташнела,
К мацеры ў госці захацела.
— А ты, купчыку, ты, галубчыку,
Запражы ты пару коней,
Паедзем мы к мацеры ў госці.
Едуць поле, едуць другое,
На трэцяе і ўз'язджаюць,
Цёмна ночка абнімаець,
Дробны дожджык папырхаець.
— Ты, купчыку, ты, галубчыку,
А й тута нам ноч начаваці,
Ярка цяпло раскладаці,
Белы шатры распінаці.
Зашумела зялёна дуброва,
Застучэла шырока дарога,
Едуць, едуць разбойнічкі...
Яны купчыка з ружжа забілі,
Купчанятаньку загубілі,
З сабой Зоську спаць палажылі.
Восем братоў спаці лягло,
А ўсе ж яны крэпка ўснулі.
Адзін жа з іх не ўсынаець,
Ён із Зоськай размаўляець:
— Чаго, ўдоўка, сільна плачаш,
Ці ты роду вялікага,
Атца-маці багатага?
— А я роду вялікага,
Атца-маці багатага:
Жыла ўдава пасярод сяла,
Было ў яе дзевяць сыноў,

---

[1] Рэфрэн «А зялёны сад вішнёвы!» паўтараецца пасля кожнага радка.

Дзесятая дачка Зоська.
Сыны ўзраслі — ў разбой пашлі,
А я ўзрасла — замуж пашла...
— Уставайце, мае братцы,
Чым мы богу саграшылі?
Свайго шваграчку забілі,
Пляменнічка загубілі,
Сястру Зоську заўдавілі!
Дадзім сястрэ злота-срэбра,
Няхай ездзіць купчуючы,
Мы паедзем жабруючы.

## 319




Жыла ўдава на Падоллі [1]
Ды не мела шчасця, долі.

Ды не мела шчасця, долі,
Толькі мела дзевяць сынкоў.

Мела сабе дзевяць сынкоў,
А дзесяту — дачку-швачку.

Сынкі раслі — ў разбой пашлі,
Дачка расла — замуж пашла.

Дачка расла — замуж пашла,
Вышла яна за купчыка.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Паехаў купчык купчаваці,
Купчавая — памагаці.

Сталі ў лесе начаваці,
Сталі агенчык раскладаці.

Прышлі жа к ім разбойнічкі,
Узялі купца, зарэзалі.

Купчавую яны звязалі,
На павозачку забралі.

Усе братцы паўсыналі,
Меншы брацік не ўсынае,

З купчавою размаўляе
І пытае гэтак яе:

— Адкуль родам, купчавая?
Адкуль родам, маладая?

— Ой, я роду з Вінагроду,
Жыла ўдава на Падоллі.

Жыла ўдава на Падоллі
Ды не мела шчасця, долі.

Толькі мела дзевяць сынкоў,
А дзесяту — дачку-швачку.

Сынкі раслі — ў разбой пашлі,
Дачка расла — замуж пашла.

— Ўстаньце, браццы, не ўсынайце,
Свайго швагра пахавайце.

Купчавую развяжыце
А да маткі адвядзіце.

## 320

♩=116

Жы_ ла ўда_ ва на Па_ дол_ лі,
да не ме_ ла шча_ сця, до_ лі,
а йна ме_ ла,
йна ме_ ла дзе_ вяць сын_ коў.

## 321

♩=144

Жы_ ла ўда_ ва на пад_ гор'_ і,
(і) жы_ ла _ бы_ ла на пад_ гор' і,
ме_ ла са_ бе дзе_ вяць сын_ коў.

## 322

♩=160

Бы_ ло ў мам_ кі дзе_ вяць сын_ коў,

а дзе_ ся_ та дач_ ка_ швач_ ка.

Сын_кі ўзрас_лі, ў раз_бой пай_ шлі.

## 323

♪=90

Жы_ ла — бы_ла ўдоў_ка (й) да жы_ ла

на Па_дол_ лі, да не ме_ ла та

ўдоў_ ка а ні шча_ сця, ні до_ лі.

Жыла-была ўдоўка й да жыла на Падоллі,
Да не мела та ўдоўка а ні шчасця, ні долі [1].

А не мела та ўдоўка а ні шчасця, ні долі,
Толькі яна мела дзевяць сынаўёў.

Дзевяць сынаўёў — усе ў разбойнічкі пайшлі,
Дзесятую Галю за крамара дала.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Як паехаў крамар да крамай таргаваці,
Як спаймалі яго ды й тыя гайдамакі.

І крамара убілі, і краму парубілі,
Маладую Галю з сабою забралі.

Да й як прывезлі Галю да зялёнага гаю,
Што ўсе гайдамакі усе спаць палягалі.

Адзін гайдамака а не спіць, не драмае,
А не спіць, не драмае, ды ўсё Галю пытае:

— Ой, раскажы, Галя, да й якога ты роду?
— А я роду, роду, я роду ўдавінага.

— А чаму ты, Галя, раней не казала,
Мы б крамара не білі і краму не рубілі.

Крамара не білі б і краму не рубілі,
А маладую Галю да навек нарадзілі.

## 324




Ой, у лузе, ў лузе, ой, ды пры дарозе
Жыла бедна ўдова, ўдова на Падоллі.

Жыла бедна ўдова, ўдова на Падоллі,
Ой, яна не мала ні шчасця, ні долі.

Толькі яна мала дзевяць сыноў ў доме,
Дзесятую дочку, што Галяю звалі.

Ой, сыны ўзраслі — ў гайдамакі пайшлі.
Маладую Галю за крамара аддалі.

Ой, паехаў крамар крамам таргаваці,
Маладая Галя яго праважала.

Яна праважала да зялёнага гаю,
Ой, там сярод гаю ды й заначавалі.

Ой, прыходзяць ды к ім дзевяць гайдамакаў,
Узялі таму крамару галаву адрубілі.

Маладую Галю з сабою забралі,
У чыстаму полі спаці палягалі.

Усе гайдамакі ляглі ды й заснулі,
Адзін гайдамака не спіць, не драмае.

Адзін гайдамака не спіць, не драмае,
У маладое Галі ўсё праўды пытае.

— Раскажы ты, Галя, якога ты роду?
— Ой, я тое ўдовы, што жыве на Падоллі.

Ой, я тое ўдовы, што жыве на Падоллі,
Ой, яна не мала ні шчасця, ні долі.

— Уставайце, братцы, што ж мы нарабілі?
Мы свайму шурыну галаву адрубілі.

Мы свайму шурыну галаву адрубілі,
Сястру сваю Галю ды й асіроцілі.

## 325

Я, малады, зажурыўся,
Я, малады, ажаніўся.
Дай божа вясны даждаць,
Я, малады, разжанюся,
Па беражку пакачуся,
Дунайчыкам абярнуся.
Там удоўка ваду брала,
З Дунайчыкам размаўляла:
— А мой жа ты, Дунай ціхі,
Як было з лукі ў луку ідучы,
Да ніцую лазу гнучы,
Жоўтыя пяскі рыючы,
Бела каменне мыючы?
— Маладая ўдоўка,
Пагадай жа сама па сабе,
Якаво ж была табе
За часты мужы ідучы,
Штонядзелькі шлюб беручы,
За парогам стоючы,
Белыя ручкі ломючы,
Дробныя слёзкі ронючы,
Двое дзетак злучаючы.

## 326

Зажурыла маці сына,
Зажурыла маладога
За коніка варанога,
За няўдалую жаніцьбу.
— Судзі, божа, вясны даждаць,
Я паеду разжанюся,

Дунайчыкам абярнуся.
Маладая удовачка
У Дунаі воду брала,
З Дунайчыкам размаўляла:
— Дунай, Дунай, Дунаёчак,
Ці не цяжанька табе,
Лука ў луку злучаючы,
Белы камень абмываючы,
Жоўты пясок узрываючы?
— Маладая ўдовачка,
Ці не цяжанька табе,
Часта замуж ходзячы,
У тры парогі ступаючы,
Малых дзетак злучаючы?
— Мне, маладзе, адзінакава,
Малым дзеткам — усякава.
Мяне, маладую, на кут вядуць,
А дзетак у запечак садзяць;
Мне, маладзе, мёду-віна,
А дзетачкам вадзічка адна;
Мне, маладзе, пярыначка,
А дзетачкам — атымачка.

## 327

У нядзельку параненьку
Марусенька дары кроіла,
Не трапіла ў палаценца,
Да трапіла сабе ў сэрца.
— Ах, мой татка, ах, мой родненькі,
Не хавай мяне пры магільнічку,
Да схавай мяне пры гасцінчыку,
Ці не будзе мой міленькі ехаць.
Едзе, едзе да й пасвістуе:
— Стойце, братцы, сапыніцеся,
Да што ж гэта за магілачка,
Ці не тут мая Марусечка?
Станьце, сваткі, вы дубочкамі,
А свашачкі — бярозкамі,
А я, молад,— белым камянём.

## БРАТ СВАТАЕЦЦА ДА СЯСТРЫ

### 328

Ой, паехаў Ясенька
На сем лет па Валыні,
На васьмы па Украіне,
Іскаў ён сабе панны,
Як сястра Гануленька.
Як прыехаў дадому,
Вывінуўся на коню.
— Ой, Гануль, Гануленьку,
Засцілай сталы, лавы,
Едзе госць небывалы!
Ой, Гануль, Гануленьку,
Да скажы хлябы пячы,
І скажы піва варыці,
Бо будзем вяселле рабіці.
— Ой, Ясюленьку-браце,
Як свет светам настаў,
То брат сястры не ўзяў,
І ты мяне не возьмеш,
Бо няслава будзе.

. . . . . . .

Дзе яна ўпала,
То там цэрква стала;
Дзе яе ўпалі ногі,
Там паставілі парогі;
Дзе яе ўпала галоўка,
Там алтары паўсталі;
Дзе яе ручкі ўпалі,
Там пратэсы сталі;
Дзе яе вочкі ўпалі,
Там свечкі гарэлі.

Не спеша

Па_ е_ хаў, па_ е_ хаў
Я_ сю_ лень_ ка, па_ све_ це ван_
дру_ ю_ чы, то_ то_ то!

Паехаў, паехаў Ясюленька,
Па свеце вандруючы, то-то-то!

Па свеце, па свеце вандруючы,
Сабе панну шукаючы, то-то-то!

Не знайшоў, не знайшоў сабе панны,
Як сястрычачка Ганна, то-то-то!

— Ганулька, Ганулька сястрычачка,
Засцілай сталы, лавы, то-то-то!

Засцілай, засцілай сталы, лавы,
Будзе госць небывалы, то-то-то!

## 330

Ой, за лесам, лесам, на круглым полі
Пагубляў малойчык вараныя коні.
Да пашоў малойчык вараных коней шукаць,
Не знашоў коні вараненькіх, да [г]арла на дубе.
— Ой, ты, гарле, ты сядзіш высока, ты бачыш далёка,
Ой, чы ты не бачыў маіх коней вараненькіх?
— Ой, не бачыў, не відзеў тваіх коней вараненькіх.
Ой, узяў малойчык ў белыя ручкі стрэльбу,
Узяў стрэльбу да застрэліў гарла на дубе.
Дзе галоўка упала, там цэркаўка стала,
А дзе крыльца ўпалі, там аўтары сталі,
А дзе ножанькі упалі, там свечанькі сталі.

## 331




Паехаў сынку на Русь жаніцца,
Люлі, люлі, на Русь жаніцца.

Забыўся мамцы нізка скланіцца,
Люлі, люлі, нізка скланіцца.

Вярнуўся сынок у паўдарожкі,
Люлі, люлі, у паўдарожкі.

Скланіўся мамцы нізка у ножкі,
Люлі, люлі, нізка у ножкі.

Мамка сынка з дарожкі ждала,
Люлі, люлі, з дарожкі ждала.

Для сына віна гатавала,
Люлі, люлі, гатавала.

А нявестачцы — горкай атруты,
Люлі, люлі, горкай атруты.

Сын віна не піў, пад каня падліў,
Люлі, люлі, пад каня падліў.

Горку атруту напалам дзяліў,
Люлі, люлі, напалам дзяліў.

— Сумела, маці, нас пераняці,
Люлі, люлі, нас пераняці.

Сумей жа, маці, нас пахаваці,
Люлі, люлі, нас пахаваці.

Сынка схавалі пры даліне,
Люлі, люлі, пры даліне.

А нявестачку ў балаціне,
Люлі, люлі, ў балаціне.

Па сынку плачуць мамка й сястрыца,
Люлі, люлі, мамка й сястрыца.

Па нявестачцы — раба зязюля,
Люлі, люлі, раба зязюля.

Па сынку вырас зелен дубочак,
Люлі, люлі, зелен дубочак.

Па нявестачцы — бела бяроза,
Люлі, люлі, бела бяроза.

Раслі-раслі — пахіліліся,
Люлі, люлі, пахіліліся.

Дуб з бярозкай сашчапіліся,
Люлі, люлі, сашчапіліся.

Усе людзі не здзівіліся,
Люлі, люлі, не здзівіліся.

Як на тым свеце палюбіліся,
Люлі, люлі, палюбіліся.

29. Зак. 100

## 332




Ой, паехаў Ясь на Русь жаніцца,
Забыўся маці ён пакланіцца.

Як прыехаў Ясь з Русі з жаною,
Страчае маці з віном зялёным.

А нявестаньцы ў вяночку з руты
Падносіць маці горкай атруты.

Ясь віна не піў, пад каня выліў,
Горкай атруты з жаною выпіў.

Ой, выпіў, выпіў, ды пасланіўся,
Роднай матулі ды пакланіўся:

— Не ўмела, маці, нас мілаваці,
Умей жа, маці, нас пахаваці.

Схавала сына ды пад касцёлам,
А нявестаньку перад касцёлам.

Вырас па сыну явар зялёны,
На нявестаньцы — бела бяроза.

Расла бяроза ды пахілілась,
На зялён явар да пачапілась.

Роднай матулі за жаль то стала,
Узяла сякеру, явар зрубала.

## 333




Паехаў сынку да жаніціся,
Забыў матулі пакланіціся [1].

Матка нявестку не спадабала,
Горкай атрутай пачаставала.

Для свайго сына — кубачак віна,
А для нявесткі — горкай атруты.

Сын віна не піў, пад каня выліў,
Горку атруту з малжонай выпіў.

Памёр сыночак ў нядзелю рана,
А нявестухна — у панядзелак.

Вязлі сыночка трыма канямі,
А нявестухну — на 'дной кабыле.

Схавалі сынку сярод касцёла,
А нявестухну — у бок касцёла.

Вырас на сынку зялёны явар,
А на нявестцы — бела бяроза.

Зялёны явар да й нахіліўся,
З белай бярозай да й сашчапіўся.

Усе з іх людзі дзіваваліся,
Што на тым свеце пакахаліся.

Усе з іх людзі дзівіліся,
Што на тым свеце палюбіліся.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 334




Й паехаў сынку ўсёй жаніціся,
Жэніцца сынок, жэніцца гадок.

На трэцці гадок прыехаў сынок,
Прыехаў сынок із нявехначкай.

Як вышла маці сына вітаці,
Сына вітала віном зеляным,

Сына вітала віном зеляным.
Ой, нявехначку горкай атрутай.

Сын віна не піў, пад каня падліў,
Горку атруту напал выпілі.

— Не ўмела, маці, нас пасылаці,
А сумей, маці, нас пахаваці.

Сына схавала проці цэркаўкі,
А нявехначку ўсё за цэркаўкай.

На сыну вырас зялёны явар,
На нявехначцы — бела бяроза.

Раслі яны, раслі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

Няўжо ж вы, дзеткі, верна любіліся,
Што явар з бярозай сашчапіліся.

## 335

♩=156

Па_ е_ хаў сы_ нок на_с(ы)_вет жа_ ніц_ ца,

за_ быў_ся до_ ма ма_м(ы)_цы скла_ ніц_ ца,

за_ быў_ ся до_ ма ма_м(ы)_цы скла_ ніц_ ца.

Паехаў сынок на свет жаніцца,
Забыўся дома мамцы скланіцца [1].

Жыве ён гадок, жыве ён другі,
На трэці гадок вярнуўся сынок.

Маці нявехны не спадабала,
Сына віном пачаставала.

Сына віном пачаставала,
А нявехначку горкай атрутай.

Сын віна не піў, пад каня выліў,
Горку атруту напалам выпіў.

— Не ўмела, маці, намі пасылаці,
А ўмей жа, маці, нас пахаваці.

А й сыну дзяруць сасновы дошкі,
А нявехначцы горку й асіну.

А й сына вязуць чатырмя коньмі,
А нявехначку — адной кабылай.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Сына хаваюць наўпроць царкоўкі,
Наўпроць царкоўкі, наўпроць ганэчка.

А нявехначку — на той бок цэрквы,
А нявехначку — на той бок цэрквы.

На сыну садзяць зялён дубочак,
А на нявехне — горку й асіну.

А й раслі, раслі, нахіліліся,
Цераз царкоўку сашчапіліся.

З гэтага людзі падзівіліся,
Што на тым свеце спалюбіліся.

Гэтага маці не ўпадабала,
Узяла сякеру ды пазрубала.

Ды пазрубала, ў ламок зламыла,
У ламок зламыла ды запаліла.

Яна сваё сэрца развесяліла,
Яна сваё сэрца развесяліла.

## 336






Зялёная вішня ў садзе расцвітала,
А маці сыночка ў салдаты ўпраўляла [1].

— Служы, мой сыночак, служы, не журыся,
На трэці гадочак дадому вярніся.

Праходзіць гадочак, праходзіць і другі,
На трэці гадочак вярнуўся сыночак.

— Ці рада, мама, мною, ці рада, мама, мною,
Вой, ды ці ты рада маёю жаною?

— Я рада, сын, табою, я рада, сын, табою,
Толькі я не рада тваёю жаною.

Пасадзіла сына на куце ў куточку,
Маладу нявесту — ў парозе з краёчку.

Паставіла сыну салодкага мёду,
Маладой нявестцы — халодную воду.

Усе людзі гуляюць, ўсе людзі смяюцца,
А ў маладой нявестачкі слёзачкі ліюцца.

Яны вышлі ўдваіх ды і парашылі,
Маладую жызню яны загубілі.

Пахавалі сына ў зялёным садочку,
Маладу нявестку — ў балоце з краёчку.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Пасадзілі сыну чырвону каліну,
Маладой нявестцы — сухую яліну.

Зялёна каліна засохла, завяла,
Сухая яліна зялёнаю стала.

## 337




Паехаў сынку аж на Украіну [1],
Туды паехаў не жаніўшыся,
Адтуль прыехаў ажаніўшыся.
Да выйшла маці сына пераймаці,
Сыну наліла чарачку віна,
А нявестачцы — горкай атруты.
Сын віна не піў, на каня выліў,
Горкую атруту папалам выпіў.
— Не ўмела, маці, сына пераймаці,
Умей жа, маці, сына пахаваці.
Па сыну плакалі чатыры сястры,
Па нявестачцы — шэра зязюля.
Пад сынам ішлі чатыры кані,
Пад нявестачкай — бела кабыла.
Сына схавала перад касцёлам,
А нявестачку — аж за касцёлам,
Па сыну садзіла зялёны явар,
Па нявестачцы — белу бярозку.
Раслі яны, раслі, пахінуліся,

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Вяршкі з вяршкамі завінуліся.
Ўсе людзі, глядзя на іх, дзівіліся:
Ці брат з сястрою, ці муж з жаною?
А свякроўка ды не ўлюбіла,
Узяла сякеру ды разрубіла.

## 338

Ай, маці, маці, жані ты сына,
Калі не жэніш — сам ажанюся,
З быстраю рэчкай не размінуся.
Ай, маць таго пабаялася,
Узяла сына да й ажаніла,
А нявестачкі не злюбіла.
Спаткала сына зялёным віном,
А нявестачку — горкай атрутай.
Сын віна не піў, пад каня выліў,
Горку атруту ўполу падзеліў.
А як напіўся із каня зваліўся,
Сваёй матулі да ног скланіўся:
— Умела, маці, нас спатыкаці,
Умей жа, маці, нас пахаваці.
Не хавай нас парознічку,
Хавай нас у вадным местачку,
Ў вадной ямачцы перад цэркаўкай.
Маці таго не паслухала,
Іх парознічку пахавала.
Схавала сына перад цэркаўкай,
А нявестачку — за цэркаўкай.
Вырас на сыну зялён дубочак,
На нявестачцы — бела бяроза.
Ай, раслі, раслі, пахіліліся
Цераз цэркаўку сашчапіліся.
З таго людзі ўсе дзівіліся,
Што на тым свеце палюбіліся.
Ай, таго маці не ўпадабала,
Узяла сякерку да й парубала.
Як парубала — ў ламочак склала,
Усё зложыла — да й падпаліла.

Пашоў дымочак аж на той святок,
З таго людзі ўсё дзівіліся,
Што на тым свеце палюбіліся.
— Цяпер я знаю, што саграшыла,
Што з гэтым светам іх разлучыла.

## 339

Паехаў сынку ажаніціся,
Забыў матулі пакланіціся [1].

Прыехаў сынку ажаніўшыся,
Знайшоў матулю засмуціўшыся.

Маці сынове не спадабала,
Горкай атруты нагатавала.

Роднаму сынку — кубачак віна,
А нявестачцы — горкай атруты.

Сын віна не піў, на каня выліў,
Горку атруту з жоначкай выпіў.

Горка атрута нясмачна была,
Сына і сынову так замарыла.

Памёр сыночак ў нядзелю рана,
Бедна сынова — ў панядзелачак.

Павязлі сынка пару канямі,
Бедну сынову — храмой кабылкай.

Схавалі сынку на цмантажыку,
Бедну сынову — убок жа рынку.

Па родным сынку арганы йграюць,
А па сынове — пташкі спяваюць.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Над родным сынку вырасла бела бяроза,
А над сынове — зялёны явар.

Бела бяроза пахілілася,
За зялёны явар зачапілася.

Маці бярозы не спадабала,
Ўзяла сякеру і нізка зрубала.

### 340

Паехаў сынок аж на Украіну,
Туды паехаў не ажаніўшыся,
Адтуль прыехаў ажаніўшыся.
Ой, вышла маці іх пераймаці,
Сына вітала чырвоным вінoм,
А нявестку белай атрутай.
Сын віна не піў, на каня узліў,
Белую атруту нявестка выпіла.
— Не ўмела, маці, нас пераймаці,
Умей жа, маці, нас пахаваці.
Сына убрала ў тонкую кітайку,
А нявестку ў тоўстую рагожу.
Сына вязла шасьцмі канямі,
А нявестку — сляпой кабылай.
Сына хавала перад касцёлам,
А нявестку — аж за касцёлам.
На сына магіле вырас явар зялёны,
А на нявесткі — белая бярозка.
А раслі, раслі, да й пахінуліся,
Уместа вяршочкі зрасліся.

341




Паехаў Саўка на Русь жаніцца,
Забыўся Саўка матцы кланіцца [1].

А матка сына як выпраўляла,
Зялёна віна нагатавала.

А нявестачку як пераймала,
Горкай атруты нагатавала.

Сын віна не піў, на каня узліў,
Горку атруту напалам выпіў.

А сынку памёр у нядзельку,
А нявестачка — ў панядзелачак.

Сынку надзелі тонку кашулю,
А нявестачцы — зрэбну сарочку.

Сынку зрабілі цясову труну,
А нявестачцы — з дрэва сасонкі.

Сыночка вязлі сямю канямі,
А нявестачку — адной кабылай.

Сыночка вязлі бітым гасцінцам,
А нявестачку — гразкім балотам.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Сынку схавалі перад касцёлам,
А нявестачку — аж за касцёлам.

Па сынку вырас зялёны дубок,
Па нявестачцы — бела бярозка.

Бела бярозка пахілілася,
Аж за дубочак зачапілася.

А ўсе людзі не здзівіліся,
Што на тым свеце злюбаваліся.

## 342

Паехаў сынок да й жаніцца,
А жаніўся сынок, жаніўся гадок.

Жаніўся гадок, жаніўся другі,
На трэці гадок аж едзе сынок.

Аж едзе сынок із нявехначкай,
Да й вышла маці сына вітаці.

Яна сына вітала зялёным віном,
А нявехначку — атрутачкай.

Сын віна не піў, пад каня падліў,
А атрутачку напалам выпіў.

— Не ўмела, маці, нас павітаці,
Дык умей жа, маці, нас пахаваці.

Яна ж сына схавала проці цэркаўкі,
А нявехначку яна й за цэркаўкай.

Да на сыну вырас зялёны явар,
А на нявехначцы — белая бяроза.

Яны ж раслі, раслі, спахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

А ішлі людзі богу маліцца,
Не так богу маліцца, як дзіву дзівіцца.

### 343

Маці сына расціла,
Вырасціўшы — не жаніла.
Паехаў сынку сам жаніцца.
Яго маці ноч не спала —
Горкую атруту гатавала.
Для сына свайго — зеляно віно,
Для нявестачкі — горкую атруту.
Прыехаў сын ажаніўшыся,
А яго маці вышла вітаці:
У правай руцэ — зеляно віно,
У левай руцэ — горкая атрута.
А сын узнаў і віна не піў,
Віна не піў, на каня ўзліў,
А горкую атруту напалам пілі.
— Ой, маці, маці! — не ўмела вітаці —
Умей жа, маці, нас пахаваці.
Мяне пахавай ля царковачкі,
Жану маю — каля боку майго.
А маці яго не паслухала.
Пахавала сына каля царковачкі,
А жану яго — за царкоўкай.
На сыне вырас зялёны явар,

А на нявестцы вырасла бяроза.
Яны раслі, сарасталіся,
Умесца макаўкі звіваліся,
Шырокае лісце ўмесца саліпалася.
Ехалі там князі-баяры,
Яны ехалі, дзіваваліся:
— Ды хто тут схаваны,
Ці брат з сястрой,
Ці муж з жаной?
Калі брат з сястрой —
Па крыві сваёй,
Калі муж з жаной —
Па любві сваёй!
А маці яго дазналася,
Узяла сякеру, пайшла і зрубіла
Зялёны явар — на звонкі гуслі,
Белу бярозу — на жаркі агонь.
— А вось табе, нявестачка,
Карэнне вон.

## 344

Выязджаў сынок ды на войніцу,
Выбіраў сабе палюбоўніцу [1].

— Жыву я гадок — не едзіць сынок,
Жыву я другі — не едзіць любы.

На трэцці гадок — прыехаў сынок,
Прыехаў сынок із сыновачкай.

Як выйшла маці іх пераймаці,
Ды як вынесла ды два кубачкі:

У адным кубачку зялёна віно,
У другім кубачку горка атрута.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Сын віна не піў, пад каня падліў,
А горку атруту напалам распіў.

— Не ўмела, маці, нас пераймаці,
Умей жа, маці, нас пахаваці.

Пахавай жа нас перад цэркаўкай,
Перад цэркаўкай, перад ганачкам.

Перад цэркаўкай, перад ганачкам,
У адну труначку, ў адну ямачку.

А маці таго не злюбіла,
Сына пахавала перад цэркаўкай.

Перад цэркаўкай, перад ганачкам,
А сыновачку — па-за цэркаўкай.

Пасадзіла па сынку зялёны явар,
А па сыновачцы — белу бярозу.

Як раслі яны — пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

Аж з таго людзі падзівіліся,
Што й на тым свеце палюбіліся.

А маці таго не залюбіла,
Узяла сякерай бярозку зрубіла.

345

♩≈110

(й) Па- е- хаў сын- ку (й) ўсё жа- ні- ці- ся,

(й) жэ- ніц- ца сы- нок, жэ-ніц- ца га- док.

Паехаў сынку й ўсё й жаніціся,
Жэніцца сынок, жэніцца гадок.

На трэці гадок прыехаў сынок,
Прыехаў сынок із нявехначкай.

Як вышла маці сына вітаці,
Сына вітала віном зеляным.

Сына вітала віном зеляным,
Ой, нявехначку — горкай атрутай.

Сын віна не піў, пад каня падліў,
Горку атруту напал выпілі.

— Не ўмела, маці, нас пасылаці,
А сумей, маці, нас пахаваці.

Сына схавала проці цэркаўкі,
А нявехначку ўсё за цэркаўкай.

На сыну вырас зялёны явар,
На нявехначцы — бела бяроза.

Раслі яны, раслі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

— Няўжо ж вы, дзеткі, верна любіліся,
Што явар з бярозкай сашчапіліся?

## 346

Ох, маці сына да й парадзіла,
Парадзёмшы, яна да не жаніла.
Як паехаў сын сам жаніціся.
Ох, і год няма, ох, і год няма.
І другей няма, і другей няма,
А на трэці год едзіць сын на двор.
Із нявесткаю, із нявесткаю,

Із нялюбаю, із нялюбаю.
Ох, і сын маці рэчы гаварыў:
— Ты выйдзі, маці, дзяцей вітаці.
Ты выйдзі, маці, дзяцей вітаці,
Ох, ты вынесі да тры кубачкі,
Да тры кубачкі, тры наліўчастых.
У первым кубачку зеляно віно,
У другім кубачку да салодкі мёд,
У трэцім кубачку да й атрутушка.
Ох, і маць сына да й паслухала:
Выхадзіла яна дзяцей вітаці,
Вынасіла яна да тры кубачкі
У первым кубачку — то зеляно віно,
У другом кубачку — то салодкі мёд,
У трэцім кубачку — то атрутушка.
Сыну паднесла зеляна віна,
А сама й выпіла да салодкі мёд,
А нявестушка — да й атрутушкі.
А сын напіўся — з каня зваліўся,
Нявестка піла — за жывот узялась.
Ох, і сын маці рэчы гаварыў:
— Не ўмела, маці, дзяцей вітаці,
Ты ўмей, маці, дзяцей хаваці.
Ты палож, маці, проці цэркаўкі,
Проці цэркаўкі, ў адной грабніцы.
Ты накрый, маці, адной пеляной.
Ох, маць сына не паслухала.
Сына схавала проці цэркаўкі,
Нявестушку — да й за цэркаўкай.
Не была маці дзевяць лет ў цэркві,
На дзесяты год пашла ў цэркаўку.
А яна ішла, ішла, станавілася,
Таму дзівушку дзівавалася:
На сыну расцець зеляной явар,
На нявестушкі — да белая бяроза.
Яны раслі, раслі, сырасталіся,
Чэраз цэркаўку савіваліся.
— Ну, не ёсць я маць, не ёсць родная,
Я ж тая змяя падкалодная:
Палажыла ж бы іх я ў адной грабнічкі,
Накрыла б я адной пеляной,
Закапала б я іх проці цэркаўкі.

## 347

Удава сына нарадзіла,
Люлі, люлі, да й нарадзіла [1],
А нарадзіўшы, у свет пусціла.
Ждала яна гадок, ждала яна другі.
На трэці гадок аж едзе сынок
І вязе сабе палюбоўніцу.
Вязу мамачцы за нявестачку.
Мамка сынка да й пераймала.
Чырвоным віном частавала.
А нявестачцы — горкай атруты.
Ён віно не піў, пад каня выліў.
Горкую атрутачку папалам выпіў.
— Не ўмела нас, маці, як пераймаці.
Хаця умей, маці, нас пахаваці.
Перад цэркаўкай, перад ганачкам.
А таго маці не слухала.
Свайго сына пахавала.
Перад цэркаўкай, перад ганачкам.
А нявестачку — на другі бок.
На другі бок — за цэркаўкай.
На сынку вырас зялёны дубочак.
На нявестачцы — бела бяроза.
Раслі яны спахіліўшыся,
Чэраз цэркаўку сашчапіўшыся.
І усе людзі не здзівіліся.
Што з таго свету спалюбіліся.

## 348




---

[1] Рэфрэн «Люлі, люлі» паўтараецца з другой часткай кожнага радка.




Ой, матка сына ды й нарадзіла,
Ой, нарадзіўшы, да й ахрысціла.

Ой, нарадзіўшы, да й ахрысціла,
Ой, ахрысціўшы, ў людзі пусціла.

Ой, жыве сынок да адзін гадок,
Ой, жыве сынок да другі гадок.

На трэці гадок едзе той сынок,
Ён вязе сабе чужаземачку.

Ён вязе сабе чужаземачку,
Бацьку-мацеры да нявестачку.

Ой, матка сынка да судачыла,
А нявестачку да незлюбіла.

І дала сыну зеляно віно,
А нявестачцы — горку атруту.

Сын віна не піў, пад каня выліў,
Горку атруту напалам выпіў.

Як пілі, пілі, ды схіліліся,
Атцу-мацеры пакланіліся.

— Хоць ты нас, маці, да патруціла,
Такі ж нас матка не разлучыла.

Пахавай, матка, нас у цэркаўцы,
Да й у цэркаўцы, пры алтарыку.

Да й у цэркаўцы, пры алтарыку,
Пры алтарыку ў адну ямачку.

Пахавала сынка да й у цэркаўцы,
А нявестачку — да й пад цэркаўю.

Расце на сынку зялёны явар,
На нявестачцы — бела бяроза.

Явар праз сценачку прабіваецца,
Ой, галлё з галлём усё стыкаецца.

Ой, галлё з галлём усё стыкаецца,
А лісток з лістком усё зліпаецца.

Ой, усе людкі да й здзівіліся,
Што й на тым свеце палюбіліся.

Ой, матка на то ўсё зазлавала,
Зялёны явар ўзяла зрубала.

Зялёны явар ўзяла зрубала,
Яна касцёрчык ды й складала.

Ой, яна, склаўшы, касцёр падпаліла,
А той попелец да й пусціла.

## 349

♩=56

ў су_ бо_ту паз_ нень_ка, ў ня_дзе_лю ра_
нень_ ка ку_ ва_ ла зя_
зю_ ля ў са_ду жа_ лас_ нень_ ка.

Ў суботу пазненька, ў нядзелю раненька
Кувала зязюля ў саду жаласненька [1].

Ой, то не зязюля, то родная маці
Выпраўляла сына, сына ваяваці.

— Ідзі, ідзі, сынку, ідзі, не барыся,
На трэці гадочак дамоў варацiся.

На трэці гадочак дамоў варацiся,
На чужой старонцы, сынку, не жаніся.

Вось прайшоў гадочак, вось праходзіць другі,
На трэці гадочак едзе мой сыночак.

Ой, ці рада, маці, ці рада ты мною,
Ой, ці рада мною, маёю жаною?

Ой, рада я, сынку, рада я табою,
Толькі я не рада тваёю жаною.

Пасадзіла сына ў хаце за сталамі,
Нялюбу нявестку — ў сенях за дзвярамі.

Налівае сыну чырвонага віна,
Нялюбай нявестцы — зялёнае травы.

— Салодкае віно мы пад каня выльем,
Зялёную траву мы папалам вып'ем.

— Ой, вып'ем, мой мілы, мы па палавіне,
Штоб нас пахавалі ў адной магіле.

## 350

Паехаў Ясю ды не жанаты [2],
Адтуль прыехаў ажаніўшыся.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.
[2] Кожны радок паўтараецца два разы.

І стала маці дзяцей вітаці,
Сына вітаець зялёным віном,
А нявестачку горкай атрутай.
Сын віна не піў, на каня ўзліў,
Горку атруту напалам выпіў.
Не знала маці, як дзяцей вітаці,
Умей жа, маці, дзяцей хаваці.
Сына хавала шасьмі канямі,
А нявестачку — сляпой кабылай.
Вязла сына ўсё гарадамі,
А нявестачку ўсё балатамі.
Сыну садзіла зялёны явар,
А нявестачцы белу бярозу.
Ой, раслі, раслі, весяліліся,
Уместа вяршочкі сутуліліся.
Пашла маці явар рубаці —
З таго явара кроў палілася.
Пашла маці бярозку рубаці —
З белай бярозкі — дробныя слёзкі.

## МАЦІ АТРУЧВАЕ СЫНА І НЯВЕСТКУ — II

### 351

Маці сына ажаніла,
Да нявесткі не злюбіла.

А нявестка тое знала,
Раней за свякроў ўстала

І пагнала коні пасвіць,
Тонкі кужаль ўзяла прасці.

Да вывела танюсенька,
Заплакала сільнюсенька.

Пайшоў голас па дуброве,
Зачуў мілы да ў каморы.

— Да хто плача? Ці дзеванька,
Ці дзеванька, ці ўдованька, ці мая міленькая.

Запрагайце пару коней,
Я й паеду да дуброўкі.

Выходзіць міла з дубровы.
— Сядай, міла, на павозку!

Стала міла садзіціся,
Сталі колы ламаціся.

[Сталі колы ламаціся]
Да пастроначкі рваціся.

Едзе мілы з мілаю,
З мілаю дадому.

Яшчэ мілы з мілаю ў дарозе,
А атрутанька на парозе.

Для сыночка мёд, віно,
Для нявесткі атрутанька.

— Пі, міленькі, ты старэйшы!
— Пі, міла, ты ладнейша!

А як разам да зышліся,
Да й абое напіліся.

[Да й абое напіліся],
К сырой зямліцы схіліліся.

Пахавала маці сына
Да ў касцеле пры аўтары,

А нявестку пад касцёлам,
Пад касцёлам на цвінтары.

Пасадзіла на сыночку
Явар зяляненькі,

А нявестцы маладзенькай —
Ліпінушку маладзеньку.

Явар муры прабівае,
Ліпінушку даставае.

Зелле з зеллем стыкавацца,
Лісток з лістком зраставацца.

Да ў нядзелю да раненька
Ідуць людзі да касцёла.

Не так богу маліціся,
З таго дзіва дзівіціся.

Скарай, божа, матку стару —
Атруціла дзяток пару.

## 352

Andante

Бы- ла ма- ці чу- жа- зем- ка,
бяз- бож- ні- ца ба- ба - нем- ка,
бяз- бож- ні- ца ба- ба - нем- ка.

Была маці чужаземка,
Бязбожніца баба-немка,
Бязбожніца баба-немка.

Да ўсю чэлядзь пабудзіла,
А нявесткі не збудзіла,
А нявесткі не збудзіла.

А нявестка недаспала,
Уперад маткі яшчэ ўстала
Да й волікі пагнала.

Пагнала валы пасці,
Узяла белы лён прасці,
Узяла белы лён прасці.

Прадзе яго танюсенька,
Сама плача сільнюсенька,
Сама плача сільнюсенька.

Зачуў мілы у каморы,
Пусціў голас па дуброве,
Пусціў голас па дуброве.

— Ці дзеванька, ці ўдованька,
Ці ты, мая міленькая,
Ці ты, мая міленькая?

— Ні дзеванька, ні ўдованька,
Да то твая міленькая,
Да то твая міленькая.

— Ступай, міла, на калясу,
Паедзем мы з таго лясу,
Паедзем мы з таго лясу.

Пад'ехалі пад дуброву,
Перабег зайчык дарогу,
Перабег зайчык дарогу.

Сталі колы ламаціся,
А пастронкі ўрываціся;
А пастронкі ўрываціся.

Вернемся, міла, ў сваю знаці,
Будземо там паміраці,
Будземо там паміраці.

Пад'ехалі пад святліцу,
Выйшла матка із святліцы
І вынесла дзве шкляніцы.

Дала сыну зялён-віна,
А нявесце — чамярыцы,
А нявесце — чамярыцы.

— Не пі, міла, чамярыцы,
Нап'ямося ўперад віна,
А потым — чамярыцы.

І выпілі зялён-віно,
А потым чамярыцу,
А потым чамярыцу.

Як выпілі чамярыцу,
Скрыліся ў сыру зямліцу,
Скрыліся ў сыру зямліцу.

Матка стала заплакала,
Белы рукі заламала,
Белы рукі заламала:

— Што ж я, бедна, учыніла?
Свае дзеткі патруціла,
Свае дзеткі патруціла.

Пахавала сваго сына
У касцеле пад аўтарам,
А нявестку на цмянтары.

Расце на сыну зялён явар,
На нявестцы — бела ліпка,
На нявестцы — бела ліпка.

Зялён явар сцену прабівае,
Белу ліпку даставае,
Белу ліпку даставае.

Галлё з галлём зрастаецца,
Лісток з лістком зліпаецца,
Лісток з лістком зліпаецца.

Не разлучыла нас на тым свеце,
Не разлучыш нас і на гэтым,
Не разлучыш нас і на гэтым.

## 353

Andante

Ой, ка_ за_ лі лю_ дзі, свя_кроў доб_ ра
бу_ дзе, я_ на ра_ на
ўста_ ла, мя_ не не бу_ дзі_ ла.

Ой, казалі людзі, свякроў добра будзе,
Яна рана ўстала, мяне не будзіла.

Да ўсю сям'ю пабудзіла,
А нявесты не будзіла.
Да нявеста сама ўстала,
Заняла валы ды й пагнала.
А свякроў чамярыцу гатавала,
Ля нявесты — чамярыца,
А ля сына — мёд, вініца.
Узяла з сабою кужаль прасці,
Прадзе, прадзе танюсенька,
Заплакала сільнюсенька.
Зачуў мілы у каморы:
— Чый то голас па дуброве,
Ці салаўя, ці зязюлькі,
Ці то мае да міленькае?
— Не салаўя, не зязюлькі,
Да тож мае міленькае.
Калі сіва зязюлька — ляці да бору,
А калі мілая, то гані дадому.
Закладайце коні вроны,
Я й паеду да мілое.
— Чаго ж, міла, смутна стала,
Так сільненька заплакала?
— Я й плакала, плакаць буду,
Праз матулю жыць не буду.
Матуля ночкі не спала,
Чамярыцу гатавала.
Для нявесты чамярыца,
А для сына мёд-вініца.
Яны ж разам зрадзіліся,
Яны ж разам і зышліся,
Чамярыцы напіліся.
Напіўшыся чамярыцы,
К сырой зямлі схіліліся.
— Ой, што ж я, бедна, зрабіла,
Дзеткі свае патруціла,
Дзе ж я цяпер пахаваю?
— Як умела патруціці,
Так умей жа нас пахаваці.
Сына, сына пад аўтаром,
А нявесту на цвінтары.
— Пасаджу на сыну зялён явар,
На нявесцы белу ліпу.
Явар муры прабівае,

Белу ліпу даставае.
Галлё з галлём чапляецца,
Лісток з лістком зліпаецца.
Ідуць людзі да касцёла,
Ідуць богу маліціся,
Не так богу маліціся,
Як на дзіва дзівіціся.

## 354

Andante

Ма_ ці сы_ на а_ жа_ ні_ ла,
а ня_ вес_ ты не злю_ бі_ ла,
а ня_ вес_ ты не злю_ бі_ ла.

Маці сына ажаніла,
А нявесты не злюбіла [1].

А нявеста сама ўстала,
На пас волікі пагнала.

Стала яна выганяці
Да й пачала плакаці.

Пашоў голас па дуброве,
Пачуў міленькі ў каморы:

— Не плач, міла, пакінь тужыць,
Мы паедзем ўдваіх служыць.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Едзем поле і другое,
Зышло слонка залатое.

Прабег зайчык нам дарожку,
Зламаў конік праву ножку.

Прабег зайчык і другую,
Зламаў конік і левую.

Пад'язджаем пад піўніцу,
Вышла маці із піўніцы.

Нясе мёду дзве шкляніцы,
А трэцюю чамярыцы.

Дае сыну мёду, віна,
А нявестцы — чамярыцы.

— Уперад віно, ўперад віно,
А нарэшце чамярыцу.

Як нап'емся чамярыцы,
То прыляжам да зямліцы.

## 355

Moderato

Ой, з до_ лу жы_ та, з га_ры пша_ ні_ ца,
не ве_ даў мі_ лы, што я п'я_ ні_ ца,
не ве_ даў мі_ лы, што я п'я_ ні_ ца.

Ой, з долу жыта, з гары пшаніца,
Не ведаў мілы, што я п'яніца [1].

Чы жыта жаці, чы паляжаці,
Чы з мілюсенькім ў свет вандраваці?

Свет звандраваўшы, назад вярнуся,
Не ведаў мілы, што я Гануся.

Ой, знаці, знаці, што чужа маці,
Дала Ганульцы хустанькі праці.

Ганулька прала, перамывала,
Чужая матка не спадабала.

Кубак атруты нагатавала,
Кубачак віна для свайго сына,

Кубак атруты для нявестанькі,
[Кубак атруты для нявестанькі].

Я тое віно на коня выльлю,
Я атрутаньку з Гандзею вып'ю.

Не знала маці, як гадаваці,
Пазнай жа, маці, як пахаваці.

Ой, пахавала сына ў касцёле,
А нявестаньку, ах, на цмянтары.

Вырас на сыну зялёны явар,
На нявестаньцы — бела бяроза.

Бела бяроза пахілілася,
На зялён явар павалілася.

Ой, ўсенькі людзі з нас дзівіліся,
Што мы з табою так кахаліся.

Ой, ўсенькі людзі з нас дзівавалі,
Што мы з табою верне кахалі.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 356




Маці сына ажаніла,
А нявесткі не злюбіла.

Выправіла коні пасвіць.
Коні пасе, сільна плача.

Зачуў мілы ў каморы:
— Чый то голас па дуброве?

Ці салаўёў, ці зязюльчын,
Ці то ж мае міленькае?

Кажу коні залажыці,
Па мілую паехаці.

Еду поле і другое,
На трэцяе уз'язджаю.

[На трэцяе уз'язджаю],
Сваю матку сустракаю.

Ідзе матка із піўніцы,
Нясе віна дзве шкляніцы.

Яны ж абоя напіліся,
Да зямліцы скланіліся.

## 357




Ты, бяроза кудравая [1],
Вярхом неба упіраеш.

Неба вярхом упіраеш,
Лісцем зоры прыкрываеш.

Ажаніла маці сына,
Ды нявестку не злюбіла.

Выправіла маці сына
Ды на вайну ваяваці.

А нявестку выправіла
Сівы коні папасаці.

Сівы коні папасаці,
Тонкі кужаль папрадаці.

Яна пасе, папасае,
Тонкі кужаль папрадае.

Там ехала усё панства,
Пытаюцца, ці дзевушка.

Ці дзевушка, ці ўдовачка,
Ці бедная сіротачка?

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Не дзевушка, не ўдовачка,
І не бедна сіротачка.

Сядай, мілы, на паязду,
Паедземо оба разам.

Паехалі пад піўніцу,
Вышла маці з-пад піўніцы.

Вышла маці з-пад піўніцы,
Нясе піва дзве шкляніцы.

Нясе піва дзве шкляніцы,
А трэцяя — чамярыцы.

Як півачка папівалі,
То ўдваём жартавалі.

Як выпілі чамярыцы,
То й галоўкі паспускалі.

Пахавала маці сына
У касцёле пад алтарам.

А нявестку пахавалі
Пад касцёлам на цвінтары.

На сынаві вырас явар,
На нявестцы — бела ліпа.

Явар сцену прабівае,
Да ліпанькі прамаўляе:

— Наша маці чараўніца,
Бо дала нам чамярыцы!

358




Выпраўляла маці сына араці,
А нявестухну — хустанькі праці.

Ой, ды яна прала, перапрадала,
Чужа матуля не спадабала.

Ды чужа матуля не спадабала,
Кубак атруты прыгатавала.

Дзеля свайго сына шкляначку віна,
А для нявесткі — кубак атруты.

Ён тое віно пад каня выліў,
Тую атруту з мілаю выпіў.

Ой, ды яны пілі і напіліся,
Адно на другое пахіліліся.

— Ах, божа мой, божа, што я зрабіла,
Абое дзеткі ды патруціла.

Як ты сумела іх патруціці,
Так і сумей іх пахараніці.

— Палажу я сына ды на алтары,
А нявестухну ды на цвінтары.

Пасаджу на сыну зялёны явар,
А на нявестцы — белу бярозу.

Стаў зялёны явар распушчаціся,
Стала бяроза нахіляціся.

Ды стала бяроза нахіляцісл,
Лісток з лісточкам ізліпацісл.

Ой, чые ж то дзеткі так любіліся,
Што лісток з лістком істуліліся?

## 359

Маці сына ажаніла,
Навестушкі не ўзлюбіла,
Нявестушкі не ўзлюбіла.

Выправіла маці сына
У вялікую дарогу,
У вялікую дарогу.

Маладую нявестухну —
Коні пасвіць у дуброву,
Коні пасвіць у дуброву.

Коні пасе, кужаль прадзе,
Па дуброве голас ідзе,
Па дуброве голас ідзе.

Ехаў мілы із дарогі,
Чуе голас на дуброве,
Чуе голас на дуброве.

— А хто ж там коні пасе,
А хто ж там кужаль прадзе,
Па дуброве голас ідзе?

Ці дзеванька, ці ўдованька,
Ці бедная галованька,
Ці бедная галованька?

— Ні дзеванька, ні ўдованька,
Толькі твая міленькая,
Толькі твая міленькая.

— Каль ты мая міленькая,
Сядай жа ты на каляску,
Паедземо з гэтага ляску.

Выязджаюць із дубровы —
Перабег зайчык дарогу,
Перабег зайчык дарогу.

А божа мой, няшчасціца,
Стала кола ламаціся,
Атосачкі ўрываціся.

Пад'язджаюць пад святліцу,
Вышла маці із піўніцы,
Нясе мёду дзве скляніцы.

У вадной руцэ — мёд-віно,
У другой руцэ — чамярыца,
У другой руцэ — чамярыца.

Для сыночка — мёд-віно,
Для нявесткі — чамярыца,
Для нявесткі — чамярыца.

— Уперад будзеш піці маё,
Потым будзем піці тваё,
Потым будзем піці тваё.

Як мёд-віно выпівалі,
Яны ўдваіх размаўлялі,
Яны ўдваіх размаўлялі.

Чамярыцу выпівалі —
Убок галоўкі пасхілялі,
Убок галоўкі пасхілялі.

— А што жа я нарабіла —
Свае дзеці патруціла,
Свае дзеці патруціла.

Пахавала маці сына
У касцёле на алтары,
У касцёле на алтары.

Маладую нявестухну —
Пад касцёлам на цвінтары,
Пад касцёлам на цвінтары.

На сыночку — зялёны явар,
На нявестцы — бела ліпка,
На нявестцы — бела ліпка.

Явар сценку прабівае,
Да ліпанькі даставае,
Да ліпанькі даставае.

Галлё з галлём стыкаецца,
Лісце з лісцем зліпаецца,
Лісце з лісцем зліпаецца.

## 360

♩=70

А ма_ ці сы_ на спа_ра_ дзі_ ла,
а спа_ра_ дзі ў_шы, (й) уз_рас_ці_ ла.

А маці сына спарадзіла,
А спарадзіўшы, й узрасціла.

А ўзрасціўшы, ў салдаты аддала,
А ўзрасціўшы, ў салдаты аддала.

Як ждаці, ждаці, а ўсё два гады,
А на трэці гадок едзе сынка дамоў.

Едзе сынка дамоў із нявехначкай.
Як вышла ж маці сына вітаці.

Сына вітае зялёным віном,
А нявехначку — белай атраўкай.

Сын віна не піў, на коніка ўзліў,
Белу атраўку напалам выпіў.

— А не ўмела ж, маці, нас павітаці,
Сумей, маці, нас пахаваці.

У адну ямачку, ў адну трунаачку.
Маці сына не паслухала.

Сына схавала пад цэркаўкай,
А нявехну — за цэркаўкай,

Па сыну пасадзіла зялёны явар,
Па нявехначцы — белу бярозу.

Як расці, расці — пахіліліся,
Абапал цэркаўкі абшчапіліся.

Як пойдзе маці да цэркаўкі,
Да цэркаўкі богу маліцца.

Богу моліцца, сільненька плача:
— Мусіць, я богу праграшыла,

Што я сваіх дзетак атруціла,
Атруціла, шчэ й разлучыла.

**361**






Вой, мамка сынка да й парадзіла [1],
Вой, парадзіўшы, у свет пусціла.
Вой, ждала гадок, ой, ждала другі,
На трэці гадок аж едзець сынок.
Аж едзець сынок з нявестачкай,
А ўсё з роўніцай, з палюбоўніцай.
Ой, мамка сынка паджыдаючы,
Зеляно віно наліваючы.
Для свайго сына — зеляно віно,
Для нявестачкі — горкую атруту.
Сын віна не піў, пад каня падліў,
Горкую атруту напалам дзяліў.
А як напіўся, з каня зваліўся,
Роднай матцы ў ножкі пакланіўся:
— Не ўмела нас, родная маці, пераймаці,
Сумей жа, родна маці, пахаваці.
Схавала сынка перад цэрквай.
Парос па сынку зялёны дубочак,
А па нявестцы хоць бярозка.
Вой, раслі, раслі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку спалучыліся.
З таго людзі надзівіліся,
Што з таго свету спалюбіліся.
Вой, сваёй мамцы жалка стала,
Парубаўшы, ў печ паклала,
Вой, гарадь дроўцы ды палахаючы,
Плачыць мамка не сціхаючы.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

362




Ай, маці сына і спарадзіла,
А спарадзіўшы, і спакупала.

Д й спакупаўшы, і спавівала,
А спавіўшы, узгадавала.

Да й спавіваўшы, узгадавала,
Узгадаваўшы, у службу дала.

— Да йдзі, сынок, паслужы гадок,
З естыя тугі паслужы другі.

На трэцці гадок едзе мой сынок,
Едзе мой сынок із нявехнаю.

Да й вышла маці сына вітаці,
Вітае сына зялёным віном.

Вітае сынка зялёным віном,
А нявехначку — белай атрутачкай.

Сын віна не п'е, пад каня ілле,
А з нявехнаю папалам атруту п'е.

— Не ўмела, маці, нас пасылаці,
Дак умей, маці, нас пахаваці.

Накрыла сынка зялёным сукном,
А нявехначку — белым палатном.

Схавала сынка да й пад цэркаўкай,
А нявехначку — да й за цэркаўкай.

Пасадзіла на сыну зялёны явар,
А па нявехначцы — белу бярозу.

Да й раслі, раслі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

Да й вышла маці вадзіцу браці,
Раз зачарпнула, цяжка ўздыхнула:

— Верна, мае дзеці верна любіліся,
Што раслі, раслі, пахіліліся.

Што раслі, раслі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

## 363

♪ =145

Вы_ пра_ві_ла ма_ ці сы_ на ў сал_да_ты,
а ж(ы)_да_ла га_док, а ж(ы)_да_ ла дру_гі.

Выправіла маці сына ў салдаты,
А ждала гадок, а ждала другі.

На трэці гадок едзе мой сынок,
На трэці гадок едзе мой сынок.

Сына сустракала салодкім вінам,
А нявехначку — горкай атрутай.

Сын віна не піў, пад каня выліў,
Горку атруту папалам выпіў.

Сына схавалі возле цэркаўкі,
А й нявехначку — аж за цэркаўкай.

На сыну вырас жа зялёны явар,
На нявехначцы — бела бярозка.

Йны раслі-раслі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

Маці гавора: «Мой жа сыночак,
Мой жа сыночак, мой жа родненькі,

А няўжо ж вы так крэпка любіліся,
Што цераз цэркаўку сашчапіліся?»

## 364




Да й маці сына спарадзіла,
Да й спарадзіўшы, узгадавала.

Да й ўзгадаваўшы, не ажаніла,
Да паехаў сынок сам жаніціся.

Ждала маці год, ждала і другі,
На трэці гадочак прыехаў сыночак.

Прыехаў сыночак і з нявехнаю,
Да й вышла маці дзяцей страчаці.

Сына сустрэла з зялёным віном,
Да й нявехначку — з атрутачкаю.

Сын віна не піў, пад каня выліў,
Да й атрутачку — напалам чарачку.

— Не ўмела, маці, дзяцей пасылаці,
Дык сумей, маці, дзяцей пахаваці.

Сына схавала пад цэркаўкаю,
Да й нявехначку — за цэркаўкаю.

На сыну вырас зялёны явар,
На нявехначцы — белая бяроза.

Да й раслі, раслі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

Там ішлі людзі да й дзівіліся,
Там ішлі людзі да й дзівіліся:

— Недзе гэтыя дзеткі верна любіліся,
Што цераз цэркаўку сашчапіліся.

Да й будуць, маці, людзі сена касіці,
А прыдзеш, маці, дзяцей прасіці.

Да жджы, маці, святога іспаса,
Я к табе не пайду, няма мне часу.

Да й будуць, маці, людзі жыта жаці,
Ты ж прыдзеш, маці, дзяцей пабуджаці.

Да жджы, маці, святой Міколы,
Я к табе не пайду цяпер ніколі.

365

Moderato

Ой, ма_ці сын_ ка то (й) а_ жа_ ні_ ла, то (й) а_ жа_ ні_ ла, а ня_ вес_ тань_ ку то (й) не ўз_лю_ бі_ ла, а ня_ вес_ тань_ ку то (й) не ўз_ лю_ бі_ ла.

Ой, маці сынка то й ажаніла, то й ажаніла,
А нявестаньку то й неўзлюбіла [1].

Паслала сынка поле араці, поле араці,
А нявестаньку — хустанькі праці.

Ой, прала, прала, перабірала, перабірала,
Яе матуля не спадабала.

Ой, прышоў сынок з поля араня, з поля араня,
А нявестанька хустанькі спрала.

Пасадзіла сынка то й за столікам, то й за столікам,
А нявестаньку — то й кала печы.

Дала сынкові мёд-віно піці, мёд-віно піці,
А нявестаньцы — то й чамярыцы.

Ой, пілі, пілі, паўпіваліся,
Адно на другого пасхіляліся.

— Ой, божа, божа, што я зрабіла, што я зрабіла?
Я свае дзеці то й патруціла.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

366




Кудзеля мая, няволя мая,
Я цябе праду й не напрадуся.

Я цябе праду й не напрадуся,
На цябе гляджу, не нагляджуся.

На цябе гляджу, не нагляджуся,
Кіну кудзелю я й на паліцу.

Кіну кудзелю я й на паліцу,
Да сама пайду я на вуліцу.

А на вуліцы скрыпкі да дудкі,
Да там гулялі дзеўкі-галубкі.

Да ў тое ўрэмя маць сына радзіла,
І спарадзіўшы, узгадавала.

І ўзгадаваўшы, у войска паслала.
Жджэ маці гадок, жджэ маці другі.

На трэці гадок едзе мой сынок,
Едзе мой сынок, а з нявехнаю.

Маць сына стракае з зялёным він ом,
Ой, нявехначку — ўсё з атрутачкай.

Сын віна не п'е, пад коніка лье,
Да й атрутачку — папалам чарачку.

— Не ўмела, маці, нас пасылаці,
Да сумей, маці, нас пахаваці.

Сына схавала ўсё й пад цэркаўкай,
А нявехначку — ўсё й за цэркаўкай.

Сына накрыла зялёным сукном,
А нявехначку — белым палатном.

На сыну вырас зялёны явар,
На нявехначцы — бела бяроза.

Раслі, раслі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

Ішла маці богу маліцца,
Богу маліцца, дзіву дзівіцца.

Што на сыну вырас зялёны явар,
А на нявехначцы — бела бяроза.

— Недзе мае дзеткі верна любіліся,
Што цераз цэркаўку сашчапіліся.

## 367

А й сын у маткі тры гады не быў,
На чацвёрты год сын ў госці едзіць.

А й вышла маці сына стрыкаці,
Вынесла яна два кубкі віна.

А ў правай руцэ зеляно віно,
А ў левай руцэ ўпол з атрутаю.

А сыну даець зеляно віно,
А нявестачцы — то й з атрутаю.

Сын віна не п'ець, атруту бярэць,
А й сам напіўся і жане даець.

Скора напіўся, з каня зваліўся,
А жана яго ды з павозачкі.

— А ўмела ж, маці, нас атручаці,
А ўмей жа, маці, нас пахаваці.

А й мяне палож ды й за цэркваю,
А й жану маю процi цэркаўкі.

А й на мне пастаў зеляны явар,
На жане маёй — белу бярозу.

А й раслі, раслі, пахіліліся,
Чэраз цэркаўку сашчапіліся.

Не хадзіла маці сем год у цэркву,
На восьмым гаду пайшла у цэркву.

А ў цэркву йдучы, йна забачыла,
А з цэрквы йдучы, йна заплакала.

— Знаць, вы, дзетачкі, дужа любіліся,
Чэраз цэркаўку сашчапіліся.

## 368




Маці сына парадзіла,
На белы свет да й пусціла.

Маці сына, ой, ждала год,
Ой, ждала год, ой, ждала два.

На трэці гадок едзе сынок,
Вязе сынок сабе жоначку.

Вязе сынок сабе жоначку,
А мамачцы — нявестачку.

Маці сына сустракала,
Зялёна віно налівала.

Нявехначку — труцізною,
Сын віна не піў, пад каня падліў.

Сын віна не піў, пад каня падліў,
А труцізначку напалам выпіў.

— Не ўмела нас, маці, сустракаці,
Умей жа нас, маці, пахаваці.

Пахавай жа нас проці цэркаўкі,
Проці цэркаўкі, проці ганачку.

Проці цэркаўкі, проці ганачку,
Проці ганачку ў адну ямачку.

Маці сына не слухала,
Пахавала сына проці цэркаўкі.

Проці цэркаўкі, проці ганачку,
Нявехначку — за цэркаўкай.

На сыночку вырас зялёны явар,
На нявехначцы — бела бяроза.

Раслі ж, раслі і схіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

Лісток з лістком зляпіліся,
Да з таго людзі да дзівіліся.

Да з таго ж людзі да дзівіліся,
Што на тым свеце палюбіліся.

А мамачцы да жаль стала,
Узяла тапор — пазрубала.

Галлё ў кучкі пасклададала,
Тое ж галлё папрымалася.

Тое ж галлё папрымалася,
Маці з ўсім светам да жагналася.

369




Мамачка сына і спарадзіла,
І спарадзіла, а й узрасціла.

А й узрасціла, на каня ўссадзіла,
На каня ўссадзіла, у свет пусціла.

Жджэ маці гадок, жджэ маці другі,
На трэцці гадок аж едзе сынок.

Едзе сыночак із нявехначкай,
А й вышла маці сына ўстракаці.

Сына сустрэла з зялёным віном,
А й, нявехначку — з горкай атрутай.

Сын віна не піў, пад каня падліў,
Горкую атруту напалам дзяліў.

Абое яны патруціліся.
Мамачка ходзе, ручачкі ломе:

— Божа ж мой, божа, што я зрабіла,
Сама сваіх дзетак ўзяла патруціла.

Сына схавала ўсё й ля цэркаўкі,
А нявехначку, ой, за цэркаўкай.

На сыну вырас зялёны явар,
На нявехначцы — белая бяроза.

Ой, раслі-раслі, пахіліліся,
Пераз цэркаўку сашчапіліся.

Мамачка ходзе, ручачкі ломе,
Мамачка ходзе, ручачкі ломе:

— Божа ж мой, божа, што я зрабіла,
Не ў адным месцы іх палажыла.

## 370




Ой, маці сына і спарадзіла,
І, спарадзіўшы, узгадавала.

А ўзгадавала, каня купіла,
Каня купіла, на каня ўссадзіла.

На каня ўссадзіла, у свет пусціла.
Жджэ маці гадок, жджэ маці другі.

Жджэ маці гадок, жджэ маці другі,
На трэці гадок едзе мой сынок.

Едзе мой сынок із нявехнаю,
Із нявехнаю, із нялюбаю.

Ой, выйшла маці дзяцей стракаці,
Сына сустрэла з зялёным вiном.

Сына сустрэла з зялёным віном,
А нявехначку — з горкай атрутай.

Сын віна не піў, пад каня выліў,
Горкую атрутачку папалам выпіў.

Абое яны патруціліся,
Пад павозачку пакаціліся.

Ай, маці ходзе, ручачкі ломе,
Божа ж, мой божа, што я зрабіла.

Божа ж, мой божа, што я зрабіла,
Сваіх дзетачак да й патруціла.

Сына схавала наўпроць цэркаўкі,
А нявехначку — ўсё й за цэркаўкай.

На сыну вырас зялёны явар,
На нявехначцы — бела бярозка.

Ай, раслі, раслі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

Ой, маці гэта не палюбіла,
Узяла сякеру да й парубіла.

## 371

♪ =164

Ай, ма_ці сы_ на (й) да спа_ра_ дзі_ ла,
да спа_ра_ дзі_ ла, да (й) уз_рас_ ці_ ла.

Ай, маці сына й да спарадзіла,
Да спарадзіла, да й узрасціла.

Ай, узрасціла, ў салдаты [ад]дала.
Жджэ маці гадок, жджэ маці другі.

На трэцці гадок аж едзе сынок,
Аж едзе сынок із нявехнаю.

Ай, вышла маці сына вітаці,
Ай, вышла маці сына вітаці.

Сына вітала з зялёным віном,
А нявехначку — ўсё з атрутачкай.

Сын віна не піў, пад каня выліў,
Ай, атрутачку папалам выпіў.

— Не ўмела, маці, намі пасылаці,
А сумей, маці, нас пахаваці.

Сына схавала напроць цэркаўкі,
А нявехначку — ўсё за цэркаўкай.

На сыну расце зялёны явар,
На нявехначцы — бела ж бяроза.

Вот раслі, раслі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку й ашчапіліся.

Ай, маці ж ходзе, жалка рыдае,
Явар бярозу ж да й абнімае.

**372**




на ко_ ні_ ка ўсса_ дзі_ ла,
на ко_ні_ка ўсса_дзі_ла, на свет пу_сці_ ла.

373


♩=62
Ай, быў у ма_ ці ды а_дзін сы_ нок,
ай, ля_ лё. А і той па_ шоў
на вай_ ну, ай, ля_ лё.

374


♩=80
Быў у ма_ мач_ кі а_ дзін сы_ но_ чак,
і той ма_ ма_ч(м)_кі да (й) не па_ слу_ хаў.

Быў у мамачкі адзін сыночак,
І той мамачкі да й не паслухаў.

Ды той мамачкі да й не паслухаў,
Запрог конікаў, на Русь паехаў.

Запрог конікаў, на Русь паехаў,
Ездзіў ён гадок, ездзіў ён другі.

Ездзіў ён гадок, ездзіў ён другі,
На трэці гадок едзе мой сынок.

На трэці гадок едзе мой сынок,
Едзе мой сынок з чужаземкаю.

Едзе мой сынок з чужаземкаю,
З чужаземкаю, із нявесткаю.

З чужаземкаю, із нявесткаю.
Ой, вышла маці сына стракаці.

Ой, вышла маці сына стракаці,
Сына сустрэла зялёным віном.

Сына сустрэла зялёным віном,
А нявехначку з атруцінаю.

А нявехначку з атруцінаю,
Сын віна не піў, пад каня падліў.

Сын віна не піў, пад каня падліў,
А атравачку папалам выпіў.

А атравачку папалам выпіў.
— Не ўмела, маці, нас пасылаці.

Не ўмела, маці, нас пасылаці,
Дак умей, маці, нас пахаваці.

Дак умей, маці, нас пахаваці,
Каля цэркаўкі, каля ганачку.

Каля цэркаўкі, каля ганачку,
Каля ганачку ў адну ямачку.

Каля ганачку ў адну ямачку,
Ну, маці сына не паслухала.

Ну, маці сына не паслухала,
Сына схавала каля ганачку.

Сына схавала каля ганачку,
А нявехначку за цэркаўкаю.

А нявехначку за цэркаўкаю.
А на сыночку дубок садзіла.

А на сыночку дубок садзіла,
А на нявехне — белу бярозу.

Ой, раслі, раслі, пахіліліся,
Цераз цэркаўку сашчапіліся.

Цераз цэркаўку сашчапіліся,
І з таго людзі не здзівіліся.

## 375

♩ = 62

Ой, там пры да_ ро_ зе

бя_ ро_ за ста_ я_ ла,

а на той бя_ ро_ зе зя_

зю_ ля ку_ ка_ ва_ ла.

Ой, там пры дарозе бяроза стаяла,
А на той бярозе зязюля кукавала.

Яна кукавала, ўсё праўду казала.
Маці свайго сына ў войска выпраўляла:

— Ідзі, мой сыночак, доўга там не баўся,
Цераз гадок-другі дадому вяртайся.

Адзін год праходзіць, другі наступае,
Маці свайго сына із войска чакае.

А ў нядзелю рана соўнейка не ўсходзіць,
Ужо нейкая пара па садочку ходзіць:

— Ой, ці рада, мама, што дамоў вярнуўся,
Ой, ці рада мною і маёй жаною?

— Рада, мой сыночак, што дамоў вярнуўся,
Толькі я не рада, што ў войску жаніўся.

Дала сыну піці, паставіла есці,
А чужой нявестцы — на парогу сесці.

Паставіла сыну і піва, і кавы,
А чужой нявестцы — горкае атравы.

А сын тое піва пад коніка выліў,
Горкую атруту із жонкаю выпіў.

Маці выйшла ў сені, выйшла, падумала:
— Ой, божа ж, мой божа, што я нарабіла.

А божа ж, мой божа, што я нарабіла —
Маладую пару навек разлучыла.

— Не сумела, маці, маладых прыняці,
То сумей жа, маці, маладых хаваці.

Пахавала сына ў вішнёвым садочку,
А чужу нявестку — ў лазовым кусточку.

Пасадзіла сыну белую бярозачку,
А чужой нявестцы — горкую асіначку.

— Белую бярозу буду паліваці,
Горкую ж асіну буду высушаці.

Белая бярозачка стала распускаціся,
Горкая асіначка стала нахіляціся.

Раслі, раслі дзераўцы ды й пахіліліся,
Цераз тую арэшачку ды й сашчапіліся.

Сталі яны разам вяршкамі звівацца,
Сталі яны разам лісткамі зліпацца.

А на тых кусточках гнёзды павіліся,
А у тых жа гнёздах птушкі гняздзіліся.

Ішлі людзі з саду, яны дзівіліся,
Што яны па смерці знову злюбіліся.

— Ой, чые ж то дзеткі гэтак любіліся,
Што лісток з лісточкам моцна стуліліся?

## 376

♩=64

Ой, там пры да- ро- зе
бя- ро- за ста- я- ла,
а на той бя- ро- зе
зя- зюль ку- ка- ва- ла.

Ой, там пры дарозе бяроза стаяла,
А на той бярозе зязюль кукавала.

Зязюля кукавала, ўсю праўду казала,
Маці свайго сына ў войска выпраўляла.

— Ідзі, мой сыночак, толькі не пазніся,
На трэці гадочак дамоў варацїся.

Адзін гадок мінуў, трэці наступае,
Маці свайго сына з войска ажыдае.

— Ці рада ты, маці, ці рада ты мною,
Ці рада ты мною, маёю жаною?

— Рада я, сыночак, рада я табою,
Толькі я не рада тваёю жаною.

Я сваймy сыночку дам піці і есці,
А чужой нявестцы — на парозе сесці.

Я сваймy сыночку — мёду паўшкляніцы,
А чужой нявестцы — горкай чамярыцы.

А сын за нявестку, селі абняліся,
Горкай чамярыцы разам напіліся.

Схараню сыночка ў вішнёвым садочку,
А чужу нявестку — пад сухім кусточкам.

На сына магіле пасаджу каліну,
А чужой нявестцы — горкую асіну.

Не ламайце, людзі, горкую асіну,
А ламайце, людзі, чырвону каліну.

## 377

Andantino

Ой, там при да- ро- зе
бя- ро- за ста- я- ла,
а на той бя- ро- зе зя-
зю- ля ку- ка- ва- ла.

Ой, там пры дарозе бяроза стаяла,
А на той бярозе зязюля кукавала.

Яна кукавала, ўсю праўду казала,
Маці свайго сына ў войска выпраўляла:

— Ідзі, сын, у войска, толькі не жаніся,
Цераз годзік, другі дамоў варацiся!

Вот прайшоў і годзік, другі наступае,
Маці свайго сына з войска пераймае:

— Ой, здраствуй, матуля, ці рада ты мною,
Ці рада ты мною, маёю жаною?

Ой, рада, сыночак, рада я табою,
Толькі я не рада тваёю жаною!

Пасадзіла сына ды падала віна,
А чужой нявестцы атруты наліла.

Сын віна не выпіў, на коніка выліў,
А горку атруту папалам падзяліў.

Выйшла маці ў сені, моцна затужыла:
— Ой, божа ж мой, божа, што я нарабіла!

Ой, божа ж мой, божа, што я нарабіла,
Усю сваю сямейку навек загубіла!

Пахавалі сына ў вішнёвым садочку,
А чужу нявестку — ў лазовым кусточку.

Пасадзілі сыну чырвону каліну,
А чужой нявестцы — горкую асіну.

## 378

♩=65

Пры кру_ той да_ ро_ зе

бя_ ро_ за ста_ я_ ла,

а на той бя_ ро_ зе

зя_ зюль ку_ ка_ ва_ ла,

а на той бя_ ро_ зе

зя_ зюль ку_ ка_ ва_ ла.

Пры крутой дарозе бяроза стаяла,
А на той бярозе зязюль кукавала [1].

Зязюль кукавала, ўсю праўду казала,
Маці свайго сына ў войска выпраўляла.

— Ой, ідзі, сыночак, толькі не жаніся,
За рочак, за другі назад павярніся.

Рочак і праходзіць, другі наступае,
Маці свайго сына з войска ажыдае.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Ой, вярнуўся сынок да й ажаніўшыся,
Ён знайшоў матулю загнявіўшыся.

— Ой, здраствуй, маці, ой, ці рада мною,
Ой, ці рада мною, маёю жаною?

— Ой, рада — не рада, гаварыці буду,
Захадзіце ў хату, частаваці буду.

Сыночку сказала за столічак лезці,
А беднай сынове — на парозе сесці.

Сыну налівала салодкага віна,
А беднай сынове — кубачак атруты.

Сын сваё віно на коніка выліў,
Горкую труцізну папалове выпіў.

— Не сумела, маці, ты нас параймаці,
То сумей жа ж, маці, ты нас пахаваці.

На сына ложа шаўкову кашульку,
На бедну сынову — белу бярозаньку.

Па сыну плача родная матуля,
Па беднай сыновай кукуе зязюля.

Сына ж хавала то каля касцёла,
А бедну сынову — ў цёмненькім куточку.

На сына ставе зялёны явар,
На бедну сынову — белую бярозу.

Белая бяроза да й пахілілася,
За зялёны явар зачапілася.

З іх усе людзі падзівіліся,
Што на белым свеце палюбіліся.

## 379

♩ =50

Пры кру_той да_ро_ зе бя_роз_ка ста_я_ ла,

ма_ці свай_го сы_ на ў вой_ска вы_ праў_ля_ ла,

ма_ці свай_го сы_ на ў вой_ска вы_праў_ля_ ла.

Пры крутой дарозе бярозка стаяла,
Маці свайго сына ў войска выпраўляла [1].

— Ідзі, сын, у войска, толькі не жаніся,
За рочак, за другі дамоў варація.

Мінуў рочак стары, новы наступае,
Маці свайго сына з войска ажыдае.

— Здраствуй, здраствуй, мама, ой, чы рада мною,
Чы рада ты мною, маёю жаною?

— Рада, сын, ой, рада, рада я табою,
Рада я табою, не тваёю жаною.

Маці свайму сыну дала піці-есці,
А беднай сынове — на парозе сесці.

Маці свайму сыну дала кубак віна,
А беднай сынове — горкую атруту.

Ён гэтае віна пад коніка выліў,
Горкую атруту сам з жоначкай выпіў.

— Не умела, маці, дзяцей пераймаці,
А умей жа, маці, дзяцей пахаваці.

Пахавала сына ў вішнёвым садочку,
А бедну сынову — у цёмным куточку.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

33. Зак. 100

Маці па сыну явар пасадзіла,
Па беднай сынове — белую бярозу.

Расла бярозка да й пахілілася,
За зялёны явар зачапілася.

Усе людзі дзіваваліся,
Што й і на тым свеце шлюбаваліся.

## 380

♩=44

А (й) у по_ лі, ў по_ лі

бя_ ро_ за ста_ я_ ла,

вой, на той бя_ ро_ зе

зя_ зю_ ля (й) ку_ ва_ ла,

вой, на той бя_ ро_ зе

зя_ зю_ ля (й) ку_ ва_ ла.

А й у полі, ў полі бяроза стаяла,
Вой, на той бярозе зязюля й кувала [1].

Гэта не зязюля, а родная й маці,
Выпраўляла маці сына й у салдаты.

— Ідзі, мой сыночак, доўга не барыся,
На трэці гадочак назад вараціся.

Служыў ён гадочак, служыў ён і другі,
На трэці гадочак едзе мой сыночак.

Вой, ці рада, маці, ой, ці рада мною,
Вой, ці рада мною, маёю жаною.

— Вой, рада, сыночак, рада я табою,
Толькі я не рада тваёю жаною.

Сына пасадзіла ў хаце за сталамі,
А чужу нявехну — ў сенях за дзвярамі.

Сыну наварыла салодкага мёду,
А сваёй нявехне — зялёнага яду.

А сын мёд не выпіў, да пад стол жа выліў,
А зялёну атраву напалам падзяліў.

А божа мой, божа, што я нарабіла,
Маладую й пару са свету згубіла!

## 381




[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.




А ў полі бяроза, [redacted] ў полі кудрава,
Маці свайго сына ў войска выпраўляла [1].

— Ідзі, мой сыночак, ідзі, не бауляйся,
Чэраз год, чэраз два дадому вяртайся.

Вось праходзіць гадок, вось праходзіць другі,
На трэці гадочак едзе мой сыночак.

— Ой, ці рада, маці, ці рада ты мною,
Ой, ці рада мною, маёю жаною?

— Ой, я рада, сынок, рада я табою,
Толькі [redacted] не рада тваёю жаною.

Пасадзілі сына ў хаце за сталамі,
А чужу нявестку — ў сенях за дзвярамі.

Сыну налівалі салодкага мёду,
А чужой нявестцы — зялёнага хмелю.

Яны таго хмелю напал падзялілі,
І друг на дружочка галоўкі скланілі.

Сына пахавалі ў лузе пры каліне,
А чужу нявестку— ў лузе пры даліне.

Пасадзілі сыну чырвону каліну,
А чужой нявестцы — калючу шыпшыну.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з дадаткам «Эх!».

## 382




А ў полі бяроза кудрава стаяла,
Маці свайго сына ў армію ’дпраўляла.

— Ідзі, мой сыночак, ідзі адслужыся,
Толькі, мой сыночак, дамоў вараціся.

Служыць ён гадочак, служыць ён другі,
На трэці гадочак едзіць мой сыночак.

— Ці рада ты, маці, ці рада ты мною,
Ці рада ты, маці, маёю жаною?

— Рада я сыночак, рада я табою,
Не рада, сыночак, тваёю жаною.

А стала маці гасцей частаваці,
Салодкага чаю стала наліваці.

Налівала йна сыну салодкага чаю,
Нялюбай нявестцы — зялёнага яду.

— Давай, міла, вып’ем хоць напалавіну,
Тады разам ляжам у адну магілу.

Маладую пару разам харанілі,
Палажылі разам у адну магілу.

## 383




А там ў лузе бяроза стаяла,
Маці свайго сына ў войска выпраўляла.

— Ідзі, ідзі сынку, доўга не важдайся,
А за два гадочкі дамоў варачайся.

А ўжо год праходзіць, другі наступае,
Маці свайго сына з войска дажыдае.

— Здраствуй, здраствуй, маці, ці рада ты мною,
Ці рада ты мною, маёю жаною?

— Ой, рада я, сынку, што паварацiўся,
Толькі я не рада, што ў войску жаніўся.

Дам я свайму сынку, дам я піці, есці,
А чужой нявесце — на парозе сесці.

Дам я свайму сынку да шкляначку віна,
А чужой нявесце — шкляначку атруты.

— А я тое віно на коніка выльлю,
А тую атруту напалову вып'ю.

Пахаваю сына ў вішнёвым садочку,
Маладу нявесту — ў альховым лясочку.

Пасаджу я сыну чырвону каліну,
А маладой нявесце — калючу шыпшыну.

Чырвона каліна штодня усыхала,
Калюча шыпшына штодня расцвітала.

## 384




Гэй, там пры дарозе каліна стаяла,
А на той каліне зязюля кукавала.

Яна кукавала, ўсю праўду казала —
Маці свайго сына ў войска выпраўляла:

— Ідзі, мой сыночак, доўга не бадзяйся,
Цераз два гадочкі дамоў варачайся.

Вось праходзе годзік, другі наступае,
Маці свайго сына з войска дажыдае.

А на трэці годзік прышоў ён дадому,
Прышоў ён дадому з сваёю жаною.

Пасадзіла сына, дала піці, есці,
Нялюбай нявестцы — на парозе сесці.

Дала маці сыну чырвонага віна,
А чужой нявестцы — горкую атруту.

Сын віна не выпіў, пад столічак выліў,
Горкую атруту напалам ён выпіў.

— Вось, не ўмела ж, маці, ты нас сустракаці,
Дык сумей жа, маці, ты нас пахаваці.

Пахавала сына ў вішнёвым садочку,
А чужу нявестку — ў лазовым кусточку.

Пасадзіла сыну чырвону каліну,
А чужой нявестцы — горкую асіну.

Чырвону каліну слязьмі палівала,
Чужую нявестку штодзень праклінала.

## 385

Moderato

Ой, у лу_ зе, лу_ зе чыр_во_ на ка_
лі_ на рас_ ла,
а на той ка_
лі_ не шэ_ ра_я зя_ зю_ ля ку_ ла.

## 386

♩ = 94

Да(й)у лу_ зе, ў лу_зе ка_лі_на ста_
я_ ла, а на той ка_ лі_ не, эй,
зя_зю_ ля (й) ку_ ка_ ва_ ла, а на той ка_
лі_ не, эй, зя_зю_ ля (й) ку_ ка_ ва_ ла (эй).

Да й у лузе, ў лузе каліна стаяла,
А на той каліне, эй, зязюля й кукавала [1].

А то не зязюля, мая родна маці.
Яна й выпраўляла, эй, сына у салдаты.

— Едзь, едзь, сынку, едзь жа адслужыся,
Цераз два гадочкі, эй, дадому вярніся.

Едзе сын дадому, едзе да й пытае:
— Эй, ці вы рады, ці вы рады мною?

— Рады, рады, сынку, рады мы табою,
Эй, толькі мы не рады, эй, тваёю жаною.

Пасадзіла маці сына за цясова застолле,
А чужу нявестку, эй, у сенях у каморы.

Налівае сыну два стаканы мёду,
А чужой нявестцы, эй, два стаканы яду.

Два стаканы мёду пад столік вылілі,
Два стаканы яду, эй, напалам выпілі.

Вышла маці ў сені, ручкамі спляснула:
— Ой, божа ж мой, божа, што я нарабіла.

Ой, божа ж мой, божа, што нарабіла,
За чужую нявестку, эй, сына атравіла.

Пахаваю сына у зялёным садочку,
А чужу нявестку, эй, у лесе пад кусточкам.

На сына магіле пасаджу каліну,
А на чужой нявестцы, эй, калючу шыпшыну.

Зялёну каліну паліваці буду,
А калючу шыпшыну, эй, усушаці буду.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 387

♩=72

У ня_ дзель_ ку ра_ на

зя_ зюль ку_ ка_ ва_ ла,

вы_ праў_ ля_ ла ма_ ці

сы_ ноч_ ка ў сал_ да_ ты,

вы_ праў_ ля_ ла ма_ ці

сы_ ноч_ ка ў сал_ да_ ты.

У нядзельку рана зязюль кукавала,
Выпраўляла маці сыночка ў салдаты [1].

— Ідзі, мой сыночак, ідзі адслужыся,
На трэці гадочак дамоў варацiся.

Вот і год праходзіць і другі прыходзіць,
На трэці гадочак едзе мой сыночак.

Едзе ён дадому не адзін, з жаною.
— Ой, ці рада, маці, ой, ці рада мною?

— Ой, рада, сыночак, рада я табою,
Толькі я не рада тваёю жаною.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Сваяго сыночка пасадзіла есці,
Чужому дзіцяці не сказала сесці.

Сваяму сыночку налеяла мёду,
Чужому дзіцяці — зялёнага ёду.

Яны мёд із ёдам ўместа пазлівалі,
Уместа пазлівалі да й павыпівалі.

Як павыпівалі, да й пауміралі.
Схараніла мацi сваяго сыночка.

Сваяго сыночка — ў зялёным садочку,
А чужога дзіцяці — на жоўтым пясочку.

На сваім сыночку пасадзіла розу,
На чужым дзіцяці — белую бярозу.

Роза із бярозай ўместа пазрасталісь,
Верна мае дзеткі ўмесце жыць асталісь.

## 388




Ў зялёным садочку зязюля кукавала,
Маці свайго сына у войска выпраўляла.

— Ідзі, сын, у войска, толькі не бадзяйся,
Цераз годзік, другі дадому вяртайся.

Ужо год праходзіць, другі наступае,
Маці свайго сына з войска пераймае.

— Добры дзень, матуля, ці рада ты мною,
Ці рада ты мною, маёю жаною?

— Рада, сынку, рада, мая ты дзяцінка,
Нашто мне нявестка, чужая сірацінка.

Сына пасадзіла, дала піці, есці,
А нявесце сказала на парозе сесці.

— Не ўмела, маці, ты нас пераймаці,
Так сумей жа, маці, нас пахаваці.

Сына пахавала ў зялёным садочку,
Чужую нявестку — ў саду ў вугалочку.

Сыну пасадзіла чырвону каліну,
А чужой нявесце — горкую асіну.

Чырвона каліна на бок пахілілась,
Горкая асіна за яе ўчапілась.

## 389




Ой, у полі, ў полі стаяла тапоня,
А на той тапалі зязюля кукуе.

Гэта не зязюля, а родная маці
Выпраўляе сына, сына у салдаты.

— Ідзі, мой сыночак, ідзі адслужыся,
Цераз год, цераз два ты дамоў вярніся.

Вот прайшоў ужо год, і другі праходзіць,
На трэці гадочак ідзе мой сыночак.

— Ці рада ты, мама, ці рада ты мною,
Ці рада ты мною, маёю жаною?

— Табою я рада: ты мая дзяціна,
Жаною не рада: чужа чужаніна.

Сына пасадзіла за сталом на розе,
Маладу нявестку — у сенях на парозе.

Сыну наліла да пчалінага мёду,
Маладой нявестцы — змяінага яду.

Сын віна не выпіў, узяў пад стол выліў,
А змяіны яд жа папалам ён выпіў.

— Вой, не ўмела, маці, ты дзяцей прыняці,
Так сумей жа, маці, умесце пахаваці.

На сыну пасадзіла чырвону каліну,
На маладой нявесце — калючу шыпшыну.

Чырвона каліна навек пазавяла,
Калюча шыпшына цветам расцвітала.

## 390

Цераз рэчаньку, цераз быструю
Падай, дзяўчына, ручку белую [1].

Ручку падаўшы, назад вярнуся,
Да шлюбу стаўшы, дось нажывуся.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

А маці сына ажаніла,
А нявестачкі не палюбіла.

Сына спаткала з чырвоным вінам,
А нявестачку — з горкай атрутай.

Сын віна чырвона пад каня выліў,
Горку атруту напалам выпіў.

Да знала ж, маці, із чым спаткаці,
Да не знала маці, як пахаваці.

Сына убрала у злота, срэбра,
А нявестачку — у проста зрэб'е.

Сына палажыла на белым ложку,
А нявестачку — на чорнай лаве.

Сына праводзяць белай дарогай,
А нявестачку — усё ж па полі.

Сына праводзіць шасцёрмя коні,
А нявестачку — сляпой кабылай.

Па сыну спявалі да й усе людзі,
А па нявестачцы — дробныя пташкі.

Сына пахавалі перад касцёлам,
А нявестачку — аж за касцёлам.

Па сыну вырас зялёны явар,
А па нявестцы — бела бяроза.

Раслі яны, раслі, перахіліліcь,
Цераз касцёлак да зачапіліcь.

Усе людзі дзіваваліся,
Што на тым свеце любаваліся.

Зялёны явар пацерабілі,
Белу бярозу упол зрубілі.

## 391




Паляцеў голуб у поле жывіцца,
Паехаў Ясю млады жаніцца [1].

Прыляцеў голуб нажывіўшыся,
Прыехаў Ясю ажаніўшыся.

Матка нявесты не ўпадабала,
Кубак атруты прыгатавала.

Кубак атруты прыгатавала,
А для сыночка шклянэчка віна.

Ясь тое віно пад каня выліў,
Кубак атруты напалам выпіў.

— Сумела, маці, нас разлучыці,
Сумей жа, маці, нас пахаваці.

Сына пахавала пад цэрквачкай,
А нявестаньку — за цэрквачкай.

На сыну вырас зялёны дубок,
На нявестаньцы — бела бяроза.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Раслі расліны да й пахіліліся,
Да й над царквачкай злучыліся.

Старыя людзі дзіваваліся,
Што на тым свеце пакахаліся.

## 392



[І] Вой матка з сынком пасварылася,
Пасварыўшыся, ўпроч выправіла.

— Ой, ідзі, сынок, ад мяне ўпроч,
Ой, ідзі, сынок, хаця на гадок.

Няма сынка год, няма сынка два,
На трэцці гадок аж едзе сынок.

Да й стрэла сынка віном зеляном,
А нявехначку — атрутачкаю.

Сын віна не п'е, пад каня ліе,
А атрутачку — па палавінцы.

А атрутачку — па палавінцы:
— Каб мы памёрлі ў вадной гадзінцы.

Каб мы памёрлі ў вадной гадзінцы,
Хавай нас, матка, ў вадной магілцы.

Пакрый мяне, матка, белым палатном,
Мілаю маю — чырвоным сукном.

Пахавай мяне пад званіцаю,
Мілаю маю — пад царкоўкаю.

Пасадзі на мне белу бярозу,
На мілай маёй — чырвону розу.

Ой, матка й сынка не паслухала,
Пакрыла й сынка чырвоным сукном.

Пакрыла сынка чырвоным сукном,
А нявехначку й белым палатном.

Пахавала й сынка пад цэркаўкаю,
А нявехначку й пад званіцаю.

Пасадзіла на сынку чырвону розу,
На нявехначцы — белу бярозу.

Ой, раслі, раслі, пахіліліся,
Да іх вяршочкі сашчапіліся.

Да іх вяршочкі сашчапіліся,
— Знаць, мае й дзеткі так любіліся.

## 395

♩=75

У ня_ дзе_ лю ра_ на (й) зя_
зю_ля ку_ ка_ ва_ ла, а ма_ ці сы_
ноч_ ка ў сал_да_ты упраў_ ля_ ла,
а ма_ ці сы_ ноч_ ка
ў сал_ да_ ты ўпраў_ ля_ ла

## 394

♩=88

А у по- лі бя- ро- за,

а у по- лі куд- ра- ва,

а на той бя- ро- зе

зя- зю- ля ку- ка- ва- ла.

А у полі бяроза, а у полі кудрава,
А на той бярозе зязюля кукавала [1].

А й то не зязюля, а то родна маці,
Яна выпраўляла ды сынка ў салдаты.

— Ідзі, ідзі, сынку, ідзі ды не баўся,
На трэцім гадочку ты дадому вяртайся.

Праходзіць гадочак, праходзіць і другі,
На трэці гадочак прыходзіць сыночак.

— Добры вечар, маці, ці ты рада мною,
Ці ты рада мною, ці маёй жаною?

— Ой, рада, сыночак, ой, рада табою,
Толькі я не рада тваёю жаною.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Ой, садзіць сыночка за белы сталочак,
Жану маладую — у самы куточак.

Паставіла сынку чарачку гарэлкі,
Маладой жа жонцы — чарачку з атрутай.

Сталі яны есці, сталі выпіваці
Да тую гарэлку умесці зліваці.

А назаўтра рана мерцвякі ў хаце
За рукі пабраліся, як верна кахаліся.

## 395

♩=80

Ой, у лу_ зе, ў лу_ зе

бя_ ро_ за ста_ я_ ла,

а на той бя_ ро_ зе

зя_ зюль ку_ ка_ ва_ ла.

Ой, у лузе, ў лузе бяроза стаяла,
А на той бярозе зязюль кукавала.

Зязюль кукавала, ўсю праўду казала,
Маці свайго сына ў войска выпраўляла.

— Ідзі, сынку, ідзі, доўга не бадзяйся,
За гадок, за другі дамоў варачайся.

Прабыў год і другі, трэці наступае,
Маці свайго сына з войска дажыдае.

А ў нядзелю рана, як слонейка ўсходзе,
Малады малойчык па падвор'ю ходзе.

Па падвор'ю ходзе, ў матулі пытае:
— Ой, маці, ты, маці, ці рада ты мною?

Ой, маці, ты, маці, ці рада ты мною,
Ці рада ты мною, маёю жаною?

— Ой, рада я, рада, рада я табою,
Толькі я не рада тваёю жаною.

А я сваўму сынку дам піці і есці,
А чужой нявестцы — на парозе сесці.

Дам я сваўму сынку а шкляначку віна,
А чужой нявестцы — шкляначку атрутачкі.

— А я тое віно пад конікі вылью,
А гэту атруту напалову вып'ю.

— Пахаваю сынка ў вішнёвым садочку,
А чужую нявестку — ў цёмненькім лясочку.

Пасаджу па сынку чырвону каліну,
А па чужой нявестцы — горкую асіну.

Не ламайце, людзі, чырвонай каліны,
А ламайце, людзі, горкую асіну.

Не ламалі людзі горкае асіны,
А ламалі людзі чырвону каліну.

## 396

♩ =. 85

Ў зя_лё_ным га_ ёч_ ку бя_ро_за ста_
я_ ла, а на той бя_ ро_ зе зя_
зю_ ля ку_ ка_ ва_ ла, а на той бя_
ро_ зе зя_ зю_ ля ку_ ка_ ва_ ла.

Ў зялёным гаёчку бяроза стаяла,
А на той бярозе зязюля кукавала [1].

Гэта не зязюля, а родная маці,
Упраўляла сына, сына у салдаты.

— Ідзі, мой сыночак, ідзі адслужыся,
Чэраз тры гадочкі назад вараціся.

Чэраз тры гадочкі едзе сын дадому,
Едзе сын дадому з маладой жаною.

— Ой, ці рада, маці, ды ці рада мною,
Ой, ці рада, маці, ты маёй жаною?

— Ой, рада я, сынку, рада я табою,
Толькі я не рада тваёю жаною.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Пасадзіла маці сына за сталочкам,
А нялюбу нявестку у парозе стоя.

Налівае сыну заморскага рому,
А нялюбай нявестцы — атручанага яду.

— Давай, мілка, вып'ем, вып'ем па палавіне,
Няхай нас хаваюць у адной магіле.

Пахавалі сына ў зялёным садочку,
А нялюбу нявестку — на крутым беражочку.

Пасадзілі сыну зялёну бярозу,
А нялюбай нявестцы — калючу сушыну.

Зялёна бяроза расце, засыхае,
Калюча сушына расце, расцвітае.

— Ой, божа мой, божа, што я нарабіла,
Маладую пару навек загубіла.

## 397

♩=70

Ой, у по- лі, ў по- лі
бя- ро- за ста- я- ла,
а на той бя- ро- зе
зя- зю- ля ку- ка- ва- ла.

Ой, у полі, ў полі бяроза стаяла,
А на той бярозе зязюля кукавала.

Ой, маці сына ў войска выпраўляла.
Ну, ідзі, сыночак, толькі не баўляйся.

Ну, ідзі, сыночак, толькі не баўляйся,
Цераз годзік-другі дамоў варачайся.

— Ой, рада ты, маці, ці рада ты мною,
Ці рада ты мною, маёю жаною?

Ой, я рада, рада, што з войска вярнуўся,
Толькі я не рада, што молад жаніўся.

Я свайму сыночку — будзе піць і есці,
А чужой нявестцы — на парозе сесці.

Сын не піў, не еў жа, яшчэ зажурыўся,
Горкаю атравай напалам дзяліўся.

Пахаваю сына ў вішнёвым садочку,
А ліху нявестку — ў цёмненькім лясочку.

Па свайму сыночку пасаджу каліну,
Па чужой нявестцы — горкую асіну.

Чырвону каліну буду паліваці,
Горкую асіну буду усушаці.

398



бя_ ро_ за ста_ я_ ла,

а на той бя_ ро_ зе зя_

зю_ ля ку_ ка_ ва_ ла, зя_

зю_ ля ку_ ка_ ва_ ла.

## 399

♩=69

Ой, у лу_зе, ў лу_ зе ка_ лі_ на ста_

я_ ла, (й) а на той ка_

лі_ не зя_ зю_ ля (й) ка_ ва_ ла,

Ой, у лузе, ў лузе каліна стаяла,
А на той каліне зязюля й кавала.

Гэта не зязюля, а родная маці,
Катора ўпраўляла сына у салдаты.

— Ой, ідзі, сыночак, ды не забавіся,
Цераз два гадочкі дамоў варацізя.

От праходзіць годзік, от праходзіць другі,
На трэці гадочак едзе мой сыночак.

— Ой, мамінька мая, ці рада ты мною,
Ці рада ты мною, маёю жаною?

— Табе, сынку, рада, бо мая дзяціна,
Нявехне не рада — няверна дружына.

Пасаджу я сынка за сталом ў куточку,
Маладу нявехну — ў качэргах куточку.

Наліваю сынку салодкага піва,
Маладой нявехне — зялёнага яду.

Гэтая нявехна сынанька любіла,
Узяла таго яду папалам раздзяліла.

Ой, божа ж мой, божа, што я нарабіла,
Было двое дзетак, а я й патруціла.

Закапаю сынка да й пад цэркаўкаю,
Маладу нявехну — ды й пад званіцаю.

Пасаджу я сынку чырвону калінку,
Маладой нявехне — сухую ліпінку.

Гэтая калінка ўзяла ды й завяла,
Сухая ж ліпінка ўзяла ж расцвітала.

**400**






Кукуе зязюля у зялёным садзе,
Выпраўляла маці сына й у салдаты [1].

— Вот ідзі, сыночак, да ідзі служыці,
На трэці гадочак дамоў ты вярніся.

Вот і год праходзіць, і другі находзіць,
На трэці гадочак едзе мой сыночак.

— Вой, ці рада, маці, вой, ці рада мною,
А ці рада, маці, маёю жаною?

— Рада я, сыночак, рада я табою,
Толькі я не рада тваёю жаною.

Я свайго сыночка пасадзіла есці,
А чужой дзяціне не сказала й сесці.

Я свайму сыночку налеяла мёду,
А чужой дзяціне — ўсё горкага ёду.

Яны мёд із ёдам уместа пазлівалі,
Уместа пазлівалі, абое паўпівалі.

Уместа пазлівалі, абое паўпівалі,
На трэці дзянёчак разам паўміралі.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

На свайго сыночка пасадзіла розу,
На чужу дзяціну — белую бярозу.

Роза із бярозай ўместа ізрасліся,
Нейдзе мае дзеткі па судзьбе сышліся.

## 401

♪=152

Быў у ма_ ту_ лі а_ дзін сы_ но_ чак,
ад_ да_ ла ма_ ці на ’дзін га_ до_ чак,
ад_ да_ ла ма_ ці на ’дзін га_ до_ чак.

## 402

♩=48

У по_ лі, ў по_ лі
бя_ ро_ за ста_ я_ ла,
што ж (м) на той бя_ ро_ зе зя_
зю_ ля ку_ ка_ ва_ ла.

У полі, ў полі бяроза стаяла,
Што ж на той бярозе зязюля кукавала.

А гэта не зязюлька, гэта родная ж маці
Выпраўляла сынка, сына ў салдаты.

— Едзь жа, едзь жа, сынку, да й не забавіся,
На трэці гадочак дамой варацїся.

На трэці гадочак едзе мой сыночак.
— Ой, ці рада, мамка, ой, ці рада мною.

Ой, ці рада, мамка, ой, ці рада мною,
Ой, ці рада мною, маёю жаною?

Маладога сынка на покуце саджу,
Маладу нявехну саджу на парозе.

Маладому сынку — салодкага мёду,
Маладой нявехне — зялёнага ёду.

Малада нявехна ў адно месца зліла,
Маладога сынка навек атруціла.

Харанїла сынка ў вішнёвым садочку,
Маладу нявехну — ў зялёным цярночку.

Ой, божа ж мой, божа, што ж я нарабіла,
Што я свае дзеткі навекі згубіла.

## 403




А там пры дарозе бяроза стаяла,
Матка свайго сынка ў войска выпраўляла.

Яна выпраўляла, усю праўду казала:
— Служы, сынок, гадок, служы, не бадзяйся.

Служы, сынок, гадок, служы, не бадзяйся,
А на другі гадок дамоў варачайся.

Служыў сынок гадок, на другі вярнуўся.
— А здраствуй, мамаша, ці рада ты мною.

Ці рада ты мною, маёю жаною,
Ці рада маёю жаной маладою?

— Рада, рада, сынку, ты мая дзяціна,
А толькі не рада нявесткай, чужынай.

Пасадзіла матка сына піці-есці,
А чужу нявестку на парозе сесці.

Матка свайму сыну віна налівала,
А чужой нявестцы труту гатавала й.

— Не пі, міла, віна поўнага стакана,
А вып'ем мы, міла, да па палавіне й.

А вып'ем мы, міла, да па палавіне,
Памром, памром, міла, у вадну гадзіну.

Вышла матка ў сені, вышла, затужыла,
— А божа мой, божа, а што ж я зрабіла.

А божа мой, божа, а што ж я зрабіла,
Усю сваю сямейку навек загубіла й.

Пахавала матка сына пры краёчку,
А чужу нявестку — у самым равочку.

Пасадзіла матка па сыну каліну,
Па чужой нявестцы — горкую асіну.

— А расці, каліна, тонкая, высока,
А горкая асіна карэннем глыбока й.

Высоку каліну усе ламаць будуць,
Горкую асіну на 'гні паліць будуць.

## 404

Паехаў Ясенька на вайну,
Пакінуў Касеньку адну.
Заехаў Ясенька к цесці начаваць,
Стала цесця пасцель белу слаць.
Устаў Ясенька раненька,
Умыўся бяленька.
— Што я табе, цесця, за дзіва скажу:
Прад маймі варотамі яблына цвіла,
[Яблына цвіла] і цвет атрусіла.
— Я табе, зяцю, адгану:
Твая Касенька сына павіла,
[К] беламу свету сама памярла.
— Служкі мае вярненькія,
Закладайце коні вараненькія,
Паедзем да свайго двара,
Нашай Касі на свеце няма.
Пад'язджаю пад гай — гай не шуміць,
Пад'язджаю пад сад — сад не зялён,
Пад'язджаю пад двор — двор не вясёл.
Скочыў Ясенька да пякарні:
У пякарні мамкі да нянькі,
Да ўжо майго сыночка няньчаць і калышуць.
Скочыў Ясенька да святліцы:
У святліцы панны у чэрні,
Мая Касенька ляжыць у белі.
— Служкі мае вярненькія,
Закладайце коні вараненькія,
Паедзем да Гайбова
А купім тры кітайкі:
Адна кітайка — чырвоная,
А другая — зялёная,
А трэцяя — чорная.
Чырвона кітайка — то жана мая,
Зялёна — паходы яе,

А чорна — жалоба мая.
Цяжка каменю па вадзе плысці,
Так майму сыночку без маці расці.

## 405

Andante

Сы_ нок Ва_ сі_ лёк ў са_доч_ку за_ снуў,
ў са_доч_ку за_ снуў, дзі ў_ны сон са_ сніў.

Сынок Васілёк ў садочку заснуў,
Ў садочку заснуў, дзіўны сон сасніў.

Ў садочку заснуў, дзіўны сон сасніў.
— Адгадай, мамка, які сон я сніў?

З правага боку рэчка працякла,
З левага боку сокал вылецеў.

— Сынок Васілёк, сядай на каня,
Сядай на каня, бягай да жаны.

Сядай на каня, бягай да жаны,
Бягай да жаны, да дзетак малых.

Прыехаў я ў сад — сад мой не шуміць,
Уз'ехаў ■ на двор — двор мой не вясёл.

Вайшоў я ў сені — ложа заслана,
Вайшоў я ў хату — жонка прыбрана.

Ў яе ў галавах свечачкі гарадь,
Ў яе ў ножачках дзетачкі плачуць.

— Ціха, дзетачкі вы маленькія,
Збудую хатку вам навенькую,

Збудую хатку вам навенькую,
Прывязу мамку маладзенькую.

— Згінь ты, татачка, з тою хаткаю,
Прападзі, родненькі, з тою маткаю.

Вось табе жонка у зялёным вянку —
Наша мамачка у жоўтым пяску.

Вось табе жонка, як макавы цвет,
Нашай мамачкі ўжо на свеце нет.

## 406

Паехаў Ясенька на Русь на вайну,
Пакінуў Касеньку ўдому адну.
Варочаўся Ясенька з Русі з вайны,
Заехаў у госці да цешчы сваёй.
Пашоў жа Ясенька да каморы спаць,
Забыўся цешчы «дабранач» аддаць.
Назаўтра раненька-паранюсенька
Уходзіць да цешчы паціхусенька:
— Мая ж цешча, што я за сон сніў,
Што з правай ручанькі пташак вылецеў.
Як вылецеў, так і паляцеў,
[Так і паляцеў], аж пад небам сеў.
— Ой, зяцю-зяцю, я твой сон адгадаю:
Учора з вячора мела Кася сына,
А сягодня зранку сама памярла.
Выскачыў Янка да на ганачак
Гукнуў да на служанькі:
— Служанькі мае найвярнейшы,
Закладайце конікі, што найлепшы,
А паедзем мы да майго двара,
Кажуць людзі, што Кася памярла.
Ой, прыехаў Ясенька да Касі на двор,

35. Зак. 100

Не вышла Кася — Касіна сястра.
Уходзіць Ясенька да каморы,
А ў каморы мамкі да нянькі дзіця калышуць.
— Люлі-палюлі, малы селязён,
Учора з вячора быў ты параджон,
А сягодня зранку ўжо асерачоны.
Уходзіць Ясенька да святліцы,
А ў святліцы усе ў чарніцы,
Адным адна Касенька ў белі ляжыць.
Паехаў Ясенька да мястэчка,
Купіў жа Ясенька тры кітаечкі:
Адна кітайка зелянюсенька,
Другая кітайка чырванюсенька.
Зялёна кітайка — то хада яе,
Чырвона кітайка — то краса яе,
Чорная кітайка — жалоба мне.

## 407

Con moto

Па_ е_ хаў жа (й) ка_ за_ чэнь_ ка
на па_ ля_ ван_ ні _ ца,
па_ е_ хаў жа (й) ма_ ла_ дзень_кі
на па_ ля_ ван_ ні _ ца.

Паехаў жа й казачэнька на паляванніца,
Паехаў жа й маладзенькі на паляванніца.

Пакінуў жа й Марусеньку на гараваніца,
Пакінуў жа й маладзенькую на гараваніца.

Пусціў сваго добра каня ў зялёныя луга,
А сам лёг спаць, казачэнька, пад зялёным шатром.

Завідзеўся казачэньку нявідзімы сон:
З-пад правай, з-пад ручэнькі саколік вылятаў.

З-пад правай, з-пад ручанькі саколік вылятаў,
З-пад левай, з-пад белай ручанькі — серая вуціца.

Не можаць ён, казачэнька, свой сон разабраць,
Не можаць ён, казачэнька, свой сон рассудзіць.

Паехаў ён, казачэнька, к старой бабусенькі:
— Бабусенька старусенька, мой сон разбяры!

— А ўжо твая Марусенька сына радзіла,
Сына радзіла, сама памяола.

Усе паны генералове у чорным стаяць,
Адна твая Марусенька у чырвоным ляжыць.

## 408

Ой, паехаў Ясю на Русь на вайну
Да пакінуў Гануленьку ўдома адну.
Да паехаў Ясю к цёшчы начаваці,
Да забыўся Ясю «добры вечар» даці.
Да пашоў жа Ясю ў бела ложа спаці,
Да сасніўся ж Ясю сон міласенькі.
Устаў жа ж Ясю да й раней за ўсіх,
Да й умыўся Ясю да й бялей за ўсіх,
Увацёрся Ясю да сушэй за ўсіх.
— Цешча, мая мамачка, што я за сон сніў,
Што ў маіх вароцечках яблынька цвіла,
І к беламу свету цвету нету.

— Ой ты, зяцю, чужы, да не мой,
Ужо ж твае Ганулечкі жывое няма.
Учора з вячора сына радзіла,
А к беламу свету асіраціла.
Як кінуўся Ясю да да служачак:
— Ой, служкі ж, да служкі мне вярнейшыя,
Запрагайце конічкаў, што й найлепшыя.
Да мы ж будзем ехаць і ўдзень і ўначы,
Ці не застанем Ганульенькі-душы.
Ой, прыехаў Ясю пад вароцейка,
Ажно ж яго вароцейкі пазакрываны,
Залатымі замочкамі пазамыканы.
Як выняў жа Ясю меч гаструсенькі,
Да пачаў жа Ясю па замочку секці.
Ой, не вышла Гануленька, вышла яго свесь.
— Ой, ты ж Ясю, Ясю, чужы, да не наш.
Кінуўся Ясю, ой, да каморы,
Ажно ж у яго каморы пілы пілуюць,
Ганулечцы маладой труну гатуюць.
Прышоў жа Ясю у хатачку:
У яго хаце мамкі да нянькі
Калышуць малое дзіця.
Учора з вячора яна радзіла,
А к беламу свету і асіраціла.

## 409






Як паехаў казачэнька ў Польшчу на вайну,
Ён аставіў Марусеньку нездаровую[1].

Лёг ён спаці на караваці — сніцца яму сон,
Што з правага рукаванька вылятаў сакол.

То не сокал, то не ясны — няпраўда твая,
Твая жонка Марусенька сына радзіла.

— Ой, цыганка маладая, адгадай мне сон,
Што з правага рукаванька вылятаў сакол.

Ой, палкоўнік, родны браце, адпусці дамоў,
Што я магу расказаці жане маладой.

— Не пушчу цябе, казача, дамоў аднаго,
Табе раю я, казача, коніка твайго.

Пад'язджаю блізка к дому, аж агні гарацъ,
У маёй жонкі Марусенькі глазкі не глядзяць.

## 410




[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Паехаў Яська вайну ваяваць,
Пакінуў жану дома й гараваць.

Пакінуў жану дома гараваць,
Заехаў Яська к цешчы начаваць.

Заехаў Яська к цешчы начаваць,
Сасніў жа Яська найвярнейшы сон.

З-пад правай рукі сакол вылецеў,
Вот з-пад левае — сакалянятка.

— Устань жа, цешча, мой сон разгадай,
Цешча й устала, сон разгадала.

— Твая мілая сына радзіла,
Сына радзіла, сама памёрла.

— Слугі ж вы мае найвярнейшыя,
Запрагайце коні, што быстрэйшыя.

Сяду паеду — мой конь не бяжыць,
Пад'ехаў пад гай, і гай не шуміць.

Уз'ехаў на двор, і двор не мяцён,
І конік заржаў, сакол засвістаў:

— Было, Яська, скарэй паспяшаць,
Застаў бы жану дома жывую.

Увайшоў Яська у першы пакой —
Мамкі і нянькі дзіця калышуць:

— Люлі-палюлі, млады младзенец,
Учора з вячора на свет нараджон.

Учора з вячора на свет нараджон,
Сягоння вутрам асірачон.

Прышоў Яська у другі пакой —
Яго мілая у белі ляжыць.

Увайшоў Ясенька у трэці пакой —
Сталяры-муляры труну мулююць.

— Сталярочкі мае, мулюйце труну шыроку,
Лягу у мілай і сам пры боку.

## 411

Moderato

О, па_ е_ хаў Я_ сень_ ка
на Русь на вай_ ну, о, па_ кі_ нуў
Я_ сень_ка Ка_ сень_ ку ад_ ну.

О, паехаў Ясенька на Русь на вайну,
О, пакінуў Ясенька Касеньку адну.

О, едзе Ясенька з Русі із вайны,
О, заехаў у госцікі да цешчы свае.

О, пашоў жа Ясенька ў бела ложа спаці,
Пазабыла цешча «дабранац» аддаці.

Ох, назаўтра рана, ўсё ранюсенька
Ходзіць жа Ясенька ўсё смутнюсенькі:

— Цесцюхна, матухна, што за сон засніў,
Што з правае ручанькі пташку выпусціў?

— Ясенька-зяцюхна, я сон адгану:
Учора звячора жана сына мела.

[Учора звячора жана сына мела],
А сягодня зрана сама памёрла.

Скочыў Ясенька ўсё да стаенкі,
Клікнуў Ясенька ўсё на служанькі:

— Служкі мае найвярнейшыя,
Запрагайце коні, што найлепшыя.

О, паеду я да свайго двара,
Гаворыць мне цешча, жана памярла!

Пад'язджае Ясенька ўсё пад ганачак,
Стаіць усё сястрыца і заплакала:

— Ясенька, швагру, ты ўжо не мой,
Бо мае сястрыцы ўжо даўно няма!

О, прыходзіць Ясенька, да ўсё ў хатаньку,
Аж там стаяць мамачкі да нянечкі.

[Аж там стаяць мамачкі да нянечкі]:
— Люлі ж да люлі, малы й селязён.

Учора звячора быў ты параджон,
А сягодня зраненька і асірачон.

## 412

Паехаў Ясь на Рось на вайну,
Пакінуў Касю ўдому адну.

Першую ночку ў вайне начаваў,
Другую ночку ў цешчы начаваў.

У цешчы начаваў, цудны сон сасніў,
Цешчанька ўстала, сон разгадала:

— Твая мілая сына радзіла,
Сына радзіла, сама не жыва.

— Служкі вы мае найвярнейшыя,
Запрагайце коні найпрандзейшыя.

Ехаў лясамі — лясы не шумяць,
Ехаў мастамі — масты не грымяць.

Уехаў ён у двор і сакол не васол,
Сакол не васол, чую габлююць,

Маёй міленькай дамок будуюць.
Уходзіць у хатку — свечачкі гараць.

Свечачкі гараць прыпылаючы,
Дзетачкі плачуць прымаўляючы .

— Ціха вы, дзеткі, збудуем хатку,
Збудуем хатку, прывядзём матку.

— Згары ты, татка, з новенькай хаткай,
Прападзі, татка, з маладой маткай.

## 413

Ой, паехаў Васілька на ваяванне,
А пакінуў Марыльку-жану на палагаванне.
Судзілася Васільку у маці начаваці,
І сніўся Васільку сон дзіўнюсенькі:
Што сярод двара яблынь зацвіла,
А зацвіўшы, сама завяла.
— Ой, маці, мая маці, сніўся мне сон,
Сніўся мне сон дзіўнюсенькі,
Што сярод двара яблынь зацвіла,
А зацвіўшы, сама завяла.
— Ой, сыну, мой сыну, што наймілейшы,
Выбірай конікі, што найсільнейшы!
Ды бяжы, Васілька, і ўдзень і ўночы,
Сваёй Марыльцы закрыці вочы.
Ой, прыехаў Васілька перад вароце:
— Выйдзі, выйдзі, Марылька, у шчырым злоце!
Ой, не выйшла Марылька, выйшла старша свесць
Ды сказала Васільку нялюбую весць:
— Любіў, любіў, Васілька, ды ўжо і няма!

Ой, учора са вячора сына прывяла,
А цяпер параненьку сама памярла.
Ой, прыехаў Васілька перад акенца:
— Выйдзі, выйдзі, Марылька, як яснае сонца!
Ой, не выйшла Марылька, выйшла серадольша свесць
Ды сказала Васільку нялюбую весць:
— Любіў, любіў, Васілька, ды ўжо і няма!
Ой, учора са вячора сына прывяла,
А цяпер параненьку сама памярла!
Ой, выехаў Васілька перад парога:
— Выйдзі, выйдзі, Марылька, як ясная зора!
Ой, не выйшла Марылька, выйшла менша свесць
Ды сказала Васільку нялюбую весць:
— Любіў, любіў, Васілька, ды ўжо і няма!
Ой, учора са вячора сына прывяла,
А цяпер параненьку сама памярла!
Ой, прыехаў Васілька да новага двору,
А ў новым двары нянькі і мамкі,
Нянькі і мамкі калышуць малое:
— Ой, люлі, люлі, малое дзіця,
Учора з вячора маці прывяла,
А сягоння параненьку сама памярла.

## 414




Да паехаў Ясенька на Русь на вайну,
Да пакінуў Гануленьку бярэменную.

Да заехаў Ясенька к цешчы начаваць,
Да забыўся Ясенька «добры вечар» даць.

Да забыўся Ясенька «добры вечар» даць,
Да й пайшоў жа Ясенька у камору спаць.

Да й начуе ночаньку, начуе другу,
А на трэцю ночаньку сасніў сон дзіўны.

Здэцца ў маіх вароцейках яблынка цвіла,
Ой, цвіла, цвіла, пахілілася.

Ой, цвіла, цвіла, пахілілася,
Віннае яблычка адкацілася.

Як устала цешчанька, разгадала сон:
— Да ўжо твае Гануленькі жывое няма.

Да ўжо твая Гануленька сына радзіла,
Парадзіўшы сына, сама памёрла.

Да як скочыў пане Ясю да новых варот,
Да й усе вароцечкі пазачыняты.

Да й усе вароцечкі пазачыняты,
Жалезнымі замочкамі пазамыканы.

— Выйдзі, выйдзі, Гануленька, адчыні вароты.
Да не вышла Гануленька, вышла менша свесь.

Да не вышла Гануленька, вышла менша свесь,
Да вынесла Ясеньку невясёлу звесь.

— Чалом, чалом, Ясенька, чужы да й не наш,
Да ўжо твае Гануленькі на свеце нямаш.

Да ўжо твая Гануленька сына радзіла,
Парадзіўшы сына, і сама памярла.

Да як скочыў пане Ясю да й да кухенькі,
Да ў той жа кухеньцы мамкі да нянькі.

Мамкі да нянькі дзіця калышуць:
— Ой, люлі, люлі, малы селязён.

Ой, люлі, люлі, малы селязён,
Да учора вечарам на свет нараджон.

Да учора вечарам на свет нараджон,
Й а сягоння раненька да й асірачон.

Да й як скочыў пане Ясю да й да пакояў,
Да й у тых пакоях паны, паненкі.

Да ўсе паны, паненачкі ў чарненькім стаяць,
Да на сваіх галовачках вянкоў не дзяржаць.

Адна мая Гануленька ў беленькім ляжыць
Да на сваёй галовачцы вяночак дзяржыць.

Да як скочыў пане Ясю да да павеці,
Да ў той жа павеці мужы мужуюць.

Да ў той жа павеці мужы мужуюць,
Мужы мужуюць, труну гатуюць.

— Змулюйце ёй трунаачку із аконачкам,
Каб к ёй салавейка і часта прылятаў, і яе пабуджаў.

— Каб табе, Ясенька, гэтак панаваць,
Як мне з таго свету цяжка уставаць.

## 415

Сынку Васільку ў гаі начаваў,
Ў гаі начаваў, чудны сон бачыў.
Прышоў да маці сон разгадаці.
— Маці, маці, пара ўставаці,
Пара ўставаці, сон разабраці.
Маці ўстала, сон разабрала,
Сон разабрала, сыну сказала:
— Сынку Васільку, твой сон нядобры,
Жонка малада сына радзіла,
[Сына радзіла] і сама няжыва.
Запрагай коні ўсе найлепшыя,
Выпраўляй слугі найвярнейшыя.
Сынку Васільку конікі запрог,

[Konikі запрог], сеў сам і паехаў.
Ехаў борам — бор мой не шуміць,
Прыехаў у сад — сад мой не цвіціць,
Прыехаў на двор — двор мой не мяцён,
Глянуў у сад — салавей не вясёл.
Прышоў у сені — майстры майструюць,
Майстры майструюць, труны гатуюць.
Прышоў у хату — лаўка заслана,
Лаўка заслана, жана прыбрана.
Лаўка заслана бялюсенька,
Жонка прыбрана мілюсенька.
У яе галовах свечкі гараць,
У яе нагах дзеткі плачуць.
Свечкі гараць, пажыгаюць,
Дзеткі плачуць, прылягаюць.
— Плачце, дзеткі, плачце мілыя,
Мне жонка другая будзе,
А вам маткі другой не будзе.
Мне жонка у вяночку,
Ваша мамка ў пясочку.

## 416

Да паехаў Васіленька да на круту гару,
Да й пакінуў сваю мілку на горку бяду.

— Гаруй, міла, гаруй, міла, гаруй, дарага.
Я за рочак, за другенькі вярнуся назад.

Да й лёг жа Васіленька сабе спачываць,
Да й прысніўся Васіленьку да й шчыранькі сон,

Што з-пад ручкі, з-пад правае вылецеў сакол,
А з-пад ручкі, з-пад левае — серая птаха.

Ох, паеду я да ўгадначкі, што б ўгадала сон.
— Бабунечка, мая мілая, адгадай мне сон.

Бабунечка, мая мілая, адгадай мне сон,
Што з-пад ручкі, з-пад правае вылецеў сакол.

А з-пад ручкі, з-пад левае — серая птаха.
— Ой, Васіленька, мой сынонька, ідзі ж ты дадому.

Бо ужо ж твая жона міла сына ўрадзіла,
Паназвала мамкі, нянькі, сама памярла.

Да й увайшоў Васіленька ў нову святліцу —
Ляжыць яго міленька на усю скам'іцу.

Вочкі мае відушчыя, чаму не відзіце?
Ручкі мае рабляшчыя, чаго не робіце?

Ручкі мае рабляшчыя, чаго не робіце?
Ножкі мае хадзяшчыя, чаму не ходзіце?

— Люлі, люлі, мой сыночак, бадай ты не ўстаў,
Што ты маю міленькую на той свет аддаў.

## 417

Як паехаў каралевіч на прагулянне,
Ён пакінуў Марусеньку на гараванне.
Нямножачка ён праехаў, астанавіўся.
Ён пусціў жа свайго ворана ў зялёны луг,
Ён пусціў жа свайго ворана ў зялёны луг,
Сам жа лёг каралевіч у бел шацёр.
Сколька ўрэмя ні васнуў ён, ва сне павідаў:
З-пад правай жа, з-пад ручанькі сакол вылятаў,
З-пад левай жа, з-пад белай жа — сера зязюля.
Прашнаецца й каралевіч, прызадумаўся.
Ён бярэць жа свайго коніка за шаўковую вузду,
Ён бярэць жа свайго ворана за шаўковую вузду,
Ён паехаў, каралевіч, к і свайму двару.
На вустрэчу каралевічу стара бабушка.
— Ты, бабушка, старушачка, разгадай мне сон!
— А я ж то вам, каралевіч, славесна раскажу:
А едзь-паедзь, каралевіч, да дому свайго,
У вашым доме, каралевіч, няшчасціка ёсць —
Ваша жана, каралевіч, сына радзіла,

Сына яна нарадзіла, сама памярла.
Прыязджаець каралевіч к і свайму двару,
А ўжо ж яго вароцікі растваронья,
І красныя вакошачкі ўсе паўтвораны,
А усе ж мае лакеюшкі а ў чорным стаяць,
Адна ж мая Марусенька ў чырвоным ляжыць.
Як ударыўся каралевіч аб цясовы стол:
— Што ж ты, мая Марусенька, не ўстрачаеш мяне,
За белу й за шыюшку не хватаеш мяне,
А сладкімі ж да устамі не цалуеш мяне?

## 418




Як паехаў каралевіч на паляванне,
Пакінуў ён Марусеньку на гараванне.

Распёр шацёр свой беленькі, сам лёг аддыхаць.
Як прысніўся каралевічу дзіковінны сон.

З-пад правае яго ручанькі вылецеў сакол,
З-пад левае яго белае — сера вуціца.

Пад'язджаець каралевіч ка свайму двару —
Вароцікі цясовыя распёрты стаяць.

— А ўжо ж твая Марусенька сына радзіла,
Спарадзіўшы дзіцятыньку, сама памёрла.

Жана яго Марусенька ва гробе ляжыць.
Як ударыўся каралевіч аб цясовы стол.

## 419

Як паехаў крулюсь ды на паляванне,
І пакінуў жонку да й на гараванне.

Сасніў крулюсь сон, сон драмлюсенькі,
Сон драмлюсенькі, справядлюсенькі.

— Мамачка мая, разгадай мой сон!
— А сыночак мой, разгадаю сон.

У тваім доме тры бяды стала.
Першая бяда — сынок радзіўся.

Другая бяда — жонка памярла
І трэцяя бяда — конік упаў.

І паехаў крулюсь ды й дадоменьку,
І паехаў крулюсь ды й дадоменьку.

Пад'язджае к садам — сады не цвітуць,
Пад'язджае к стайні — конікі не ржуць.

Уваходзіць у хату — жоначка ляжыць,
Жоначка ляжыць, дзетачкі сядзяць.

Дзетачкі сядзяць, свечачкі гараць,
Свечачкі гараць, зажыгаюцца.

Дзетачкі плачуць, заліваюцца,
Уваходзіць у пакой — там мамкі-нянькі.

Там мамкі-нянькі дзіця калышуць:
— Люлі-люлі, каток, ты Ванюша-сынок.

Учора з вячора радзіўся,
А сягоння рана сіратой астаўся.

### 420

Як паехаў каролічак на паляванне,
Ды пакінуў сваю мілу на бедаванне.

Як прысніўся каролічку дзіўнюсенькі сон:
Шчо з-пад ручкі, шчо з-пад правай вылятаў сакол.

Шчо з-пад ручкі, шчо з-пад правай вылятаў сакол,
А з-пад левай, а з-пад левай — бела вуціца.

— Ой ты, бабулька старэнька, адгадай мне сон:
Шчо з-пад ручкі, шчо з-пад правай вылятаў сакол.

Шчо з-пад ручкі, шчо з-пад правай вылятаў сакол,
А з-пад левай, а з-пад левай — бела вуціца.

— Каролічку, каролічку, адгадаю сон:
Твая міла маладая сына радзіла.

Твая міла маладая сына радзіла,
Нянькі, мамкі панаймала, сама памярла.

Як паехаў каролічак у той новый двор,
Заржаў, заржаў пад каролічкам той буланы конь.

Як уходзіў каролічак у тую святліцу,
Ляжыць міла маладая на ўсю скам'іцу.

У галоўках, у галоўках свечачкі гараць,
А у ножках, а у ножках дзетанькі стаяць.

Ручкі мае рабочыя, чом не робіце?
Ножкі мае хадзючыя, чом не ходзіце?

Ножкі мае хадзючыя, чом не ходзіце?
Глазкі мае чарнесенькі, чом не смотрыце?

Глазкі мае чарнесенькі, чом не смотрыце?
Губкі мае розавенькі, чом не гаворыце?

Губкі мае розавенькі, чом не гаворыце?
Дзеткі мае малесенькі, чом не плачыце?

Плакалі, татанька, і дзень, і ноч,
Мы свае маманькі не забудзем павек.

## 421

А сын у маткі ночку начаваў,
Ночку начаваў, дзіўны сон ўвідзеў.
— Ай, маці, маці, пара ўстаці,
Пара ўстаці, сон разгадаці.
Маці ўстала — сон разгадала:
— Ой, сынку, сынку, скажу навінку,
У цябе дома адна навіна,
Што твая жана сына радзіла,
Сына радзіла, сама не жыла.
— Служкі ж мае найвярнейшыя,
Сядлайце каня найскарэйшага,
Найскарэйшага, найшыбчэйшага.
Ай, еду, еду — мой конь не бяжыць,
Прыехаў к гаю — мой гай не шуміць,
Прыехаў к саду — мой сад не зялён,
Прыехаў на двор — мой двор не вясёл.
Прыехаў я ў стайню — конічак заржаў,
Конічак заржаў, ўсю праўду сказаў.
Прыйшоў ў пякарню — служкі у чэрні,
Прыйшоў ў пакоі — і яны ў белі,
Прыйшоў ў святліцу — ложа заслана,
А на той ложы міла прыбрана.
У галовачках свечачкі гараць,
А ў ножачках дзетачкі стаяць.
Ходзе-паходзе, к мілай загавора:

— Чаго вочачкі зачыніліся,
Чаго ручачкі сашчапіліся?
Чужыя дзеткі кветкі збіраюць,
А мае дзеткі маткі шукаюць.
Чужыя дзеткі вяночкі уюць,
Мае дзеткі з магілкі едуць.

## 422

Сын у матанькі ночку начаваў,
Ночку начаваў, дзіўны сон відаў.

Матанька ўстала, той сон разгадала:
— Няшчасце, сынку, нядоля твая.

Твая мілая сына радзіла,
Радзіўшы сына, ляжыць няжыва.

— Мае служанькі наймілейшыя,
Сядлайце каня, што найлепшага.

Пад'ехаў пад гай — гай не шуміць,
Гай не шуміць, конік не бяжыць.

Пад'ехаў пад сад — сады не цвітуць,
Сады не цвітуць, птушкі не пяюць.

Уехаў у двор — сталяры ходзяць,
Сталяры ходзяць, святліцу робяць.

Увайшоў да сяней — служанькі стаяць,
Служанькі стаяць ўсе ў жалобаньках.

Увайшоў у святліцу — ложа заслана,
Ложа заслана, міла прыбрана.

Ложа заслана ды бялюсенька,
Міла прыбрана прыгажусенька.

У канцы галоўкі свечачкі гарацъ,
У канцы ножанькаў дзетанькі стаяцъ.

Свечачкі гарацъ ды й пажагуюцъ,
Дзетачкі плачуцъ ды й прыплакуюцъ:

— Табе, ойчаньку, сем жанок будзе,
А нам, сіроткам, маткі не будзе.

Табе, ойчаньку, міла ў вяночку,
А нам, сіроткам, мацi ў пясочку.

Табе, ойчаньку, міла ў стужачках,
А нам, сіроткам, ў дробных слёзачках.

## 423




Ай, сын у маткі ночку начаваў [1],
Ай, сын у маткі страшны сон відаў.
Прачнуўшыся, сын матцы расказаў:
— Ай, відзеў, маці, напраўдзіўны сон,
— З-пад правай рукі сакол вылецеў,
З-пад левае — сакаліначка.
— Я ж табе, сынку, сон разгадаю:
Твая жана сына радзіла,
Радзёмшы сына, сама няжыва.
— Не магу, маці, свету даждаці,
Паеду, маці, скрозь ноч удвору.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Прыехаў к гаю — гай мой не шуміць,
Прыехаў к саду — сад мой не зялён,
Прыехаў к двару — двор мой не вясёл,
Прыехаў к стайні — конікі ірзуць,
Увайшоў у хартоўню — хорцікі віхляць,
Увайшоў у кухню — служухны смутны,
Увайшоў у святліцу — мілая ляжыць.
Як стаў маладзец думаць і гадаць,
А як малайцу плакаці пачаць.
Рукі мае, рукі белыя,
Чаго рана сашчапіліся?
Вочы мае, вочы ясныя,
Чаго рана закрыліся?
Ногі мае, ногі быстрыя,
Чаго рана падламіліся?
Пайшоў у спальню — люлечка вісіць,
Нянечка сядзіць за люлечкаю:
— Люлі-люлі, дзіця малое!
Гэтаму пану панечка будзець,
Гэтаму сыну маткі не будзець.

## 424

Сыночак ў матулі ночку начаваў,
Эй, ночку начаваў, страшны сон відаў.

Матуля ўстала, сон той разгадала:
— Эй, сыночак ты мой, нядоля твая.

Сыночак ты мой, нядоля твая,
Эй, жонка сына радзіла, сама памярла́.

— Дайце мне каня, што найшыбшага,
Эй, што найшыбшага, што найлепшага.

Еду я праз лес, а лес не шуміць,
Эй, лес не шуміць, конь не бяжыць.

Еду праз сады, сады не цвітуць,
Эй, сады не цвітуць, пташкі не пяюць.

А ў тым садочку сталяры ходзяць,
Эй, сталяры ходзяць, камору робяць.

А ў той каморы ложа заслана,
Эй, ложа заслана так бялюсенька.

Ложа заслана так бялюсенька,
Эй, ляжыць мілая, прыбрана харашусенька.

Ў канцы галоўкі свечачкі гарацЬ,
Эй, свечачкі гараць ды й пажыгаюць.

У канцы ножак дзетачкі сядзяць,
Эй, дзеткі сядзяць ды й прыплакаюць:

— Табе, татулю, жонка ў вяночку,
Эй, наша матуля ў жоўтым пясочку.

Табе, татуля, сем жонак будзе,
Эй, а нам, сіроткам, маткі не будзе.

Табе, татуля, жонка ўсё адна,
Эй, а нам, сіроткам, матка не радна.

## 425

♪=144

Сы_ нок у ма_ м(ы)_кі ноч_ ку на_ ча_ ваў,

сы_ нок у мам_ кі ноч_ку на_ча_ ваў.

Сынок у мамкі ночку начаваў [1],
Ночку начаваў, сон дзіўны відаў.

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

— Ай, мамка, мамка, разгадай мой сон:
З правай ручанькі сакол вылятаў,
З левай ручанькі — шэра зязюля.
— А сынка, сынка, магу разгадаць.
Паедзь дамоўкі жоначку хаваць.
Я й лесам еду —мой лес не шуміць,
Я й лугам еду — мой конь не бяжыць,
Уз'ехаў на двор — мой конік заржаў.
Левай ручанькай хатку адчыняю,
Правай ручанькай слёзкі ўціраю.
У хатку ўвайшоў — жоначка ляжыць,
Ў галоўцы яе свечачка гарыць,
Паабапал яе дробны дзетачкі.
— Ах, ножкі мае, вы быстрынькія,
Чаго так рана прытаміліся?
Ручачкі мае бяленькія,
Чаго так рана сашчапіліся?
Дзетачкі мае дробненькія,
Чаго так рана засмуціліся?

## 426




У матулі сын ночку начаваў,
Ночку начаваў, дзіўны сон відаў.

Назаўтра устаў, матулі сказаў.
Матуля ўстала, сон разгадала.

Матуля ўстала, сон разгадала,
Свайму дзіцятку праўданьку сказала.

— У тваім дварэ бедухна стала,
Твая жоначка сына радзіла.

Твая жоначка сына радзіла,
Сына радзіла, сама няжыва.

— Служанькі мае найвярнейшыя,
Запражыце конікі, што найлепшыя.

Што найлепшыя, найпрандзэйшыя,
Каб я мог ехаць у свой жа дварэц.

Уехаў я ў двор — мой двор не дваром,
Мой двор не дваром, служкі не служаць.

Вайшоў я ў сені — цяслі цяслююць,
Для маёй жаны труну гатуюць.

Вайшоў ў святліцу — жана прыбрана,
Жана прыбрана, ложа заслана.

У галованьцы свечанькі стаяць,
У канцы ножанькаў дзетанькі плачуць.

Свечанькі гараць патухаючы,
Дзетачкі плачуць усхліпаючы.

— Не плачце, дзеткі, не плачце, мае.
Прывязу я вам маладу матку.

Прывязу я вам маладу матку,
Збудую я вам новую хатку.

— Мілейшая нам родная матка,
Добрая была старая хатка.

## 427




А сын у маткі ночку начаваў [1],
Ночку начаваў, страшны сон сасніў.
Сам не разгадаў, матулі сказаў,
Матуля ўстала, сон разгадала:
— У тваім дамочку бедачка стала:
Да твая жана сына радзіла,
Сына радзіла, сама няжыва.
— Вы слугі мае найвярнейшыя,
Заложце каня найскарэйшага,
Сяду паеду хоць сярод ночы,
Ці не застану жаны жывучы.
Еду я борам — мой бор не шуміць,
Еду я дваром — мой двор не звініць.
Ухаджу ў падвор'е — цяслы цяслуюць,
А маёй жане труну гатуюць.
Ухаджу я ў сені — усе слугі ў чэрні,
Ухаджу ў святліцу — ложа заслана.
Ложа заслана, жана прыбрана.
На яе галоўкі свечачкі гараць,
А кругом яе дзетачкі служаць.
Свечачкі гараць патухаючы,
Дзетачкі плачуць прымаўляючы:
— Не плачце, дзеткі, не плачце мае,
Пастрою я вам новую хатку,
Прывяду я вам другую матку.
— Не хочам, татка, новенькай хаткі,
Не хочам, татка, мы другой маткі.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

428

Moderato

Сын у ма_ ту_ лі ноч_ку на_ ча_ ваў,

ноч_ку на_ ча_ ваў, дзі ў_ны сон пры_сніў.

Сын у матулі ночку начаваў,
Ночку начаваў, дзіўны сон прысніў [1].

— Матуля, ўставай, сон мой разгадай.
Матуля ўстала, сон разгадала:

— А мой ты сынок, велька навіна,
Велька навіна, да ўсё не міла.

Жоначка твая сына радзіла,
Сына радзіла, сама няжыва.

Ехаў я праз лес — лес мой не зялён,
Лес мой не зялён, конь мой не вясёл.

Ехаў я праз бор — бор мой не шуміць,
Бор мой не шуміць, конь мой не ляціць.

Уехаў я ў двор — яслі цяслююць,
Там маёй жонцы хатку будуюць.

Заехаў я ў дом — ложа услана,
Там мая жонка ляжыць убрана.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

У галаваньцы свечкі гараць,
А ў ножаньках дзеткі плачуць.

Свечанькі гараць паджыгаючы,
Дзетанькі плачуць прымаўляючы:

— Табе, татуля, добра будзе жыці,
А мы, сіроткі, пойдзем служыці.

Табе, татуля, жонка ў вяночку,
А наша мама ляжыць у пясочку.

## 429




Ой, сын у маткі ночку начаваў [1],
Сыночак матцы сон свой расказаў.
— Бачыў я, мамка, дзіўнюсенькі сон:
З-пад правай рукі вылятаў сакол,
А з-пад левае — сакаляняткі.
— Я ж табе, сынку, сон разгадаю:
Ужо твая жана сына радзіла,

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Сына радзіла й сама няжыва.
Як скочыў сынку ў нову стаеньку,
Як узяў сынку каньца-варанца,
Паехаў сынку да свайго дварца.
Паехаў к саду — сад мой не цвіціць,
Прыехаў к гаю — гай мой не шуміць,
Прыехаў к двору — двор мой не вясёл,
Прыехаў к стайні — конічак заржаў.
Я ў сені ўвайшоў — служачкі смутны,
У хатачку ўвайшоў — мілая ляжыць.
З правага боку — сынок-сакалок,
У галовачках свечы пылаюць,
А у ножачках дзетачкі плачуць.
— Мілая мая мілюсенькая,
Вусценькі твае запыліліся,
Вочачкі твае зажмурыліся
І ручачкі твае сашчапіліся.

## 430




А сын у мамкі ночку начаваў [1],
Ночку начаваў, пад акошкам спаў,
— Ой, сынку, сынок, начуй другую.
— Ой, мамка, мамка, паеду дамоў.
Сасніўся мне сон, сон дзіўнюсенькі,
Жана малада сына радзіла,

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Сына радзіла, сама чуць жыва.
Сядлаю каня — мой конь не стаіць,
Еду я борам — мой бор не шуміць,
Еду я садам — мой сад не квеціць.
На двор уз'ехаў — мой двор не мяцён,
У сені ўхаджу — цялятка ляжыць,
А ў хату ўхаджу — калыска вісіць,
За калыскаю жонка ляжыць.
— Галоўка мая буйнюсенькая,
Чаго раненька склапацілася?
Ручкі мае бялюсенькія,
Чаму раненька сашчапіліся?
Ножкі мае драбнюсенькі,
Чаго раненька падламіліся?
Дзеткі мае драбнюсенькі,
Чаму раненька засіраціліся?
Астаўся я й сам удаўцом.

## 431

Сынку у мамкі ночку начаваў,
Ночку начаваў, дзіўны сон відаў.
— Устань, мамачка, мой сон разгадай.
Мамка ўстала, сон разгадала,
— Ой, сынку, сынку ў тваім дамочку,
Ў тваім дамочку велька бяда ест.
Жана малога сына радзіла,
Сына радзіла, сама няжыва.
Служачкі мае найвярнейшыя,
Запрагайце коні, што найлепшыя.
Еду я полем — поле не дрыжыць,
Поле не дрыжыць, мой конь не бяжыць.
Мой конь не бяжыць, праўды не кажыць.
Уехаў у двор — мой конік зарзаў,
Мой конік зарзаў, ўжо праўду сказаў.
Уходжу я ў сені — труну гатуюць,
Уходжу я ў хату — калыска вісіць,

А ў той калысцы дзіцятка ляжыць.
Жана маладая памёршы ляжыць,
Свечачкі гарацъ, патухаючы,
Дзетачкі плачуць, прымаўляючы.
Свечачкі гараць, улыбаюцца,
Дзетачкі плачуць, захліпаюцца.
— Мілая мая, ці жаніцца мне?
— Жаніся, міленькі, лепей табе.
Ты будзеш на куце сядзець,
А мае дзеткі на цябе глядзець.
Ты будзеш, мілы, віно, мядок піць,
А мае дзеткі дробны слёзкі ліць.
Ты будзеш, мілы, ў пярыне ляжаць,
А мае дзеткі на палку бразджаць.

## 432

А сын у мамкі ночку начаваў,
А сын у мамкі ночку начаваў.

Ночку начаваў, дзіўны сон відаў,
Ночку начаваў, дзіўны сон відаў.

— Устань, матуля, сон мой разгадай,
Устань, матуля, сон мой разгадай.

Матуля ўстала, сон мой разгадала,
Матуля ўстала, сон мой разгадала:

— А ў тваім доме бяда случылась,
А ў тваім доме бяда случылась.

Жана няжыва — сына радзіла,
Жана няжыва — сына радзіла.

Еду я, еду — конь мой не бяжыць,
Конь мой не бяжыць, зямля не дрыжыць.

Уехаў я ў лес — лес мой не шуміць,
Уехаў я ў сад — сад мой не цвіцець.

Уехаў я ў двор — цяслы цяслуюць,
Цяслы цяслуюць, труну гатуюць.

Уходжу ў хату — свечачкі гарацць,
Свечачкі гарацць прыхліпаючы.

Свечачкі гарацць прыхліпаючы,
Дзетачкі плачуць прымаўляючы.

— Жана ж мая, жана, ці жаніцца мне?
— Жаніся сабе, будзеш жонку мець.

[Жаніся сабе, будзеш жонку мець],
А ў маіх дзетак мамкі не будзіць.

Ты будзеш з жаной гарэлачку піць,
А мае дзеткі горкі слёзкі ліць.

Ты будзеш з жаной на пярыне спаць,
А мае дзеткі на палу бразджаць.

## 433



## 434

♩ = 112

Сын у ма_ ту_ лі ноч_ку на_ ча_ваў,

сын у ма_ ту_ лі ноч_ ку на_ ча_ваў.

## 435

♩ = 60

Эх, зна_ці, зна_ ці, шчэ хто, гэй, ба_га_ ты,

эх, ліч_ ка ж (ы) бе_ ла (й) бро_вы чар_нень_кі

Эх, знаці, знаці шчэ хто, гэй, багаты,
Эх, лічка ж бела й бровы чарненькі.

Эх, сынок у мамкі ноч да начаваў,
Ох, сынка ў мамкі ноч начаваў жа.

Эх, сынок мамцы сон свой расказаў:
— Ой, маці, маці, што й за сон бачыў.

З-пад правай рукі сакол вылятаў,
Ой, з-пад левае — сакаляняты.

— Ой, сынку, сынку, міленькі жа ты,
Я твой жа сон жа да разгадаю.

Я твой жа сон жа да разгадаю,
Як у кніжачцы, ўсё расчытаю.

Жана й малада сына, ой, радзіла,
Сына, ой, радзіла, сама й няжыва.

— Паеду й, маці, скрозь ноч дамоўкі.
Еду ж ля гаю — гай мой не шуміць.

Еду ж ля саду — сад мой не цвіціць,
На двор уз'ехаў — конічак заржаў.

У хату ўходжу — дзетачкі плачуць,
Жана маладая на лаве ляжыць.

## 436

♩=108

Не Ду- най шу- міць, не вал- на га- ва- рыць, не Ду- най шу- міць, не вал- на га- ва- рыць.

Не Дунай шуміць, не вална гаварыць [1],
Гаворыць, гаворыць сын з маткаю:
— А й відзіў, маці, напраўдзіўны сон,
Полы разгарнулісь, жамчуг абляцеў,
Сталяныя стрэлкі рассыпаліся,
Звалілася шляпа са буйнай галавы.
— А я табе, сынку, сон разгадаю:
Полы разгарнулісь, жамчуг абляцеў —
Гэта табе, сынку, убітаму быць,
Сталяныя стрэлкі рассыпаліся —
Гэта тваім дзеткам сіроткамі быць,
Звалілася шляпа са буйнай галавы —
Гэта тваёй жонцы ўдоўкаю быць.

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

## МАЧАХА І ГАНУСЯ

### 437

Была ў Ганусі мачаха ліхая,
Пасылала Ганусю скрозь ноч па ваду:
— Ідзі, Гануся, ты не аглядуйся,
Аглянешся — улякнешся.
Аглянулась — улякнулась.
Ганусі здаецца, што лясы шумяць,
Ажно за Ганусяй ваўкі бягуць.
Пачалі Ганусю яны рваць,
Каму ручка, каму ножка,
А старому ваўку ўся галовачка.
Панёс воўк галовачку
На таткаву дамовачку.
Татка коніка сядлае, ручкі ламае.
Сястра вышывае і прычытывае,
Мачаха кросны тчэ — усміхаецца.

### 438







Была ў Ганнешы ліха мачыха [1],
Пасылаець Ганнешу і туды і сюды,

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Скрозь ноч па ваду іці.
— Ідзі, Ганнеша, не ўлякаючысь і не ўглядаючысь.
Ідзець Ганнеша не ўлякаючысь і не ўглядаючысь,
Як бягуць, бягуць, а там жа ваўкі
А й бягуць, бягуць, разгавараваюць:
— Будзем гаварыць, як Ганну дзяліць,
Каму ручачку, каму ножачку,
Стараму воўку ўсю Ганнешачку.
Як у полі-полі а сыр дуб стаіць,
А на тым дубу сыз арол сядзіць.
— А й ляці, арол, з дуба на зямлю,
А й напіся, 'рол, ты мае крыві,
А й ляці, арол, ў маю сторану,
Раскажы, арол, майму татухну,
А што Ганнеша з свету збавілась,
А што Ганнеша пераставілась.
Браты сіты шыюць уздрыгаючысь,
Сёстры платкі мыюць заліваючысь,
Мачыха кросны тчэць — наругаіцца:
— Хвала табе, божа, што Ганнешы няма,
Хвала табе, божа, што Ганнеша з свету збавілась,
Хвала табе, божа, што Ганнеша з свету пераставілась.

## ВАУКІ-НЯНЬКІ

### 439

Стрыкліва крапівіца балотная [1],
Журліва свякровушка няродная.
Як журыць нявестку як дзень, так ноч:
— Ідзі, нявестка, ў чыстае поле,
У чыстае поле ярава жыта жаць.
Пасылаець мяне не абедаўшы.
Я жала, жала дзень да вечара,
Дзень да вечара я не абедаўшы.
Снапочак нажну, каласочак сатру,
Я тым каласочкам паабедаю.
А паабедаўшы, снапы знасіла,
Снапы знасёмшы, ў копанькі склала,
У копанькі склала, дзораньку пашла,
Прашомшы двору, пад кароў пашла.
Я дзевяць кароў падаіла,
Пад дзесятую падступіла,
На дзіцятачку ну я ўздумала,
На маленькага ну я ўздумала.
Удару даёнку аб сыру мацъ-зямлю,
Пабягу я за дзіцятачкай за маленькай.
Над дзіцятачкай чатыры нянечкі,
Чатыры нянечкі, шэрыя ваўкі.
Радзілі раду, раду добрую,
Адзін гаворыць: дайце-ка, братцы,
Давайце-ка, братцы, я пакалышу,
Баюся я, братцы, нябы ўраню.
Другі гаворыць: дайце братцы,
Дайце-ка, братцы, я пакублю.
Баюсь я, братцы, нябы злізаці.
Трэці гаворыць: дайце-ка, братцы,
Дайце-ка, братцы, я пацалую,
Баюсь я, братцы, нябы саўсім з'ем.
Чацвёрты гаворыць: дайце-ка, братцы,

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

Дайце-ка, братцы, ну я падзялю:
Каму ручачку, каму ножачку,
Роднай матушцы — хоць галовеньку.
Роднай матушцы на ўздыханейка,
Лютай свекрыві на папіканне.
— Ах вы, нянечкі, шэрыя ваўкі,
Ідзіце-ка вы у зялёны луг,
Там майго свёкаркі шасцёрка коней,
Выберыце-ка палаўчэйшага,
Вы не дзяліце, вы саўсім з'есця.

## 440

Як было ў свёкара да й тры нявесткі.
Як пашлі ж яны ды й у поле жаці.
Ой, люлі-люлі, ды й у поле жаці.
Ой, жалі, жалі, пасварыліся,
На дзіцятачка пазабыліся.
Як прышлі к яму чатыры ваўкі.
Ой, люлі-люлі, чатыры ваўкі.
Ой, адзін кажыць:
— Я б яго калыхаў,
Ды й баюся, каб не выкінуць,
Каб не выкінуць — лапы доўгія.
А другі кажыць:
— Я б яго забаўляў,
Ды й баюся я, каб не спужаці,
Ой, люлі-люлі, каб не спужаці,
Каб не спужаці — вочы яркія.
А трэці кажыць:
— Я б яго цалаваў,
Ды баюся я, каб не ўкусіці,
Каб не ўкусіці — зубы доўгія.
А чацвёрты кажыць:
— А нуце, братцы, будзем дзяліці,
Каму ручанька, каму ножанька,
А мне, воўчышчу, усё тулаўца.

## 441

Была ў нявехны ліхая свякроў,
Ліхая свякроў ды й ліхі свёкар.
Пашла нявехна ў поле жыта жаць.
Ой, жала, жала, снапы знасіла,
Снапы знасіла, дзіця забыла.
Прышло к дзіцяці чатыры ваўкі.
Адзін воўк кажыць: я б пакалыхаў,
Я б пакалыхаў, дак я баюся,
Дак я баюся, каб не выкінуць.
Другі воўк кажыць: я б пазабаўляў,
Я б пазабаўляў, дак я баюся,
Дак я баюся, каб не укусіць.
Трэці воўк кажыць: я б падзяржаў,
Я б падзяржаў, дак я баюся,
Дак я баюся, каб не ураніць.
Чацвёрты воўк кажыць: будзем дзяліці,
Будзем дзяліці гэтае дзіцяці:
Каму ручачка, каму ножачка,
А мне, воўчышчу, ўсяго дзіцяці.
Прышоў к дзіцяці сам гасподзь бог.
— Ідзіце, ваўчышчы, у чыстае поле,
А ў чыстым полі свёкравы коні,
Вазьміце каня найгладзейшага,
Няхай свёкарка каня шукаець,
Каня шукаець, дзіця гукаець,
А свякроўка ночку не бушуець,
Ночку не бушуець, дзіця гадуець.

## 442

Ты крапівіца мая,
Да й жыгусценькая [1],

Ты свякрушачка мая,
Наравісценькая.

---

[1] Кожная страфа паўтараецца два разы.

Як паслала маладу
Ў поле жыта жаць адну.

Яна жала, молада,
Дзень да вечара адна.

Снапы знашывала,
Дзіця бросіла.

А знасіўшы снапы,
Шчэ й дадомачку пайшла.

Як сустрэла молада
Да трох серанькіх ваўкоў.

— Вы ваўкі мае, ваўкі,
Ваўкі серанькія,

Ці не бачылі, ваўкі,
Вы дзіцяці маяго?

Адзін воўк сказаў:
— Я дзіцяцю пакарміў.

Другі воўк сказаў:
— Я дзіцяцю калыхаў.

Трэці воўк сказаў:
— Я дзіцяцю разарваў.

443

Ты крапівіца мая, ты жыгучая была.
Ты свякрухна мая, ты — пралютая змяя.
Пасылала маладу у поле жыта жаць адну.
Ой, я жала, малада, дзень да вечара адна.
Позна вечарам снапы зносіла,
Снапы зносіла, дзіця бросіла.
Як пайшла я, малада, па дарожачцы адна.

І сустрэла, молада, трох ваўкоў яна.
— Эх вы, ваўкі мае, ваўкі серыя,
Ці не бачылі вы дзяціны малы?
Адзін воўк сказаў: я дзяціну відаў.
Другі воўк сказаў: я дзяціну калыхаў.
А трэці воўк сказаў: я дзяціну разарваў.
— Ты калысачка мая, ты разобраная,
Эх, дзяціна ты мая, ты разорваная.
Ты крапівіца мая, ты жыгучая была,
Эх, свякрухна мая, ты — пралютая змяя.

## 444

♩=76

Па_ сы_ ла_ ла мя_ не маць ў по_ ле
жы_ та жаць ад_ ну, ой, лю_ лі, па_
лю_ лі, ў по_ ле жы_ та жаць ад_ ну.

Пасылала мяне маць
У поле жыта жаць адну,

Ой, люлі, палюлі,
У поле жыта жаць адну [1].

А я жала, малада,
Дзень да вечара адна.

Снапы ў копы зносіла,
Дзіця адно бросіла.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца з рэфрэнам «Ой, люлі, палюлі».

— Ой ты, дзе ж, маё дзіця,
Дзіця маленькае.

Як я пайду я, малада,
Ды па сцежцы ў цёмны лес.

Як сустрэла я, малада,
Ды трох шэранькіх ваўкоў.

— Вы ваўкі мае, ваўкі,
Ваўкі шэранькія.

Ці не бачылі, ваўкі,
Дзіця маленькае.

Адзін воўк ёй сказаў:
— Я дзіця не відаў.

Другі воўк ёй сказаў;
— Я дзіця калыхаў.

Трэці воўк ёй сказаў:
— Я дзіця разарваў.

## 445



Ой ты, Галю, Галю, Галю маладая,
Да й была у Галі свякроўка ліхая.

Ды паслала Галю у бор жыта жаці.
— Ужні, Галя, жыта ды й не разгінайся.

Ужні, Галя, жыта ды й не разгінайся,
На яснае сонца ды й не прыглядайся.

Разагнулась Галя, ах, ужо не рана,
Ды й пабегла Галя бежачкам дадому.

Ды пабегла Галя бежачкам дадому,
Падаіла Галя чатыры каровы.

А пад пяту Галя стала прысядаці,
А от тож ідзе жа, йдзе Галіна маці.

Ой ты, Галю, Галю, Галя маладая,
— Ой, дзе ж твая, Галя, дзяціна малая?

Ды пабегла Галя бежачкам дарожкай,
Сустрачае Галя сівага ж[ы] воўца.

Сівага ж воўца, краснага малойца.
— Ой ты, сівы воўча, ты красны малойча.

Ой ты, сівы воўча, ты красны малойча,
Ой, ці не відаў ты малое дзяціны?

— Ой, тваю дзяціну тры нянькі калышуць:
Што першая нянька — зялёны дубочак.

Што першая нянька — зялёны дубочак,
А другая нянька — сівы галубочак.

А другая нянька — сівы галубочак,
А трэцяя нянька — святая нядзелька.

Зялёны дубочак моцненька віхае,
Сівы галубочак вочачкі убірае.

Сівы галубочак вочачкі ўбірае,
Святая нядзелька костачкі ўрывае.

Была ў Гэлькі свякруха ліхая
Ды выправіла ў нядзельку жаці.

Ты крапіва мая,
Ты пякучая сама,
Ты свякруха мая,
Разазлюшчая змяя [1].

Жыта жала малада
Ды да вечара адна,
А ўвечары снапы зносіла.
Снапы зносіла, дзіця бросіла.
Пашла молада ды па нівачцы адна,
Па нівачцы адна дзіцяці шукаці,
Ды падышла молада да дзіцяткі адна.
Ля дзіцяткі майго два воўкі сядзяць,
Два воўкі сядзяць, дзіцятка ядзяць.
Прышла Гэлька з поля дадому,
Стала рэзаць палаценца.
Стала рэзаць палаценца
Ды ўсадзіла ножык у сэрца.
Да па Гэльцы плачуць браты да й сястрыцы,
Па свякрусе выюць ваўкі і ваўчыцы.
Ды ўжо Гэльку ў дол апускаюць,
А свякруху сабакі цягаюць.

---

[1] Магчыма, што адзначанае чатырохрадкоўе выконвае ролю прыпева пасля кожнай страфы.

## ВОУК ПЕРАМАГАЕ У ШЛЮБНЫМ СПАБОРНІЦТВЕ

### 447

У караля сярод двара
Стаіць явар зеляненькі,
Пад тым яварам Дунай ціхі.
Хто зялён явар пераскочыць,
Хто Дунай пераплывець —
Возьмець дачку каралёву.
Абабраўся паніч малады Тадорка.
— Да зялён явар пераскочу,
Ціхі Дунай пераплыву.
Як скочыў — пераскочыў,
Як плыў — не пераплыў,
Не ўзяў дачку каралеўначку.
Абабраўся шэры ваўчок,
Як скочыў — пераскочыў,
Да як паплыў — пераплыў,
Узяў дачку каралеўначку.
— Да як я была у караля,
Тагды ела з сырам масла,
А як я за ваўчком — сырое мяса,
Як я была у караля,
Спала пад пярынкай,
А як я за ваўчком —
Тагды пад ламочкам.

### 448

Да у караля пасярод двара
Божа наш! [1]
Стаіць мора шырокае,

---

[1] Купальскі рэфрэн «Божа наш!» паўтараецца пасля кожнага радка.

Шырокае, глыбокае,
На тым моры зялёны явар.
Загадаў кароль загадачку:
— Хто гэта мора пераплыве,
Зялёны явар перарубае,
За таго аддам сваю дачку,
Сваю дачку-каралеўначку.
Да ababpaўся шэры ваўчышча,
Шэры ваўчышча, белы хвасцішча.
— Я гэта мора пераплыву,
Зялёны явар перарубаю —
Каралеўначку за сябе вазьму.
Каралеўначка плача — ісці не хоча,
А ваўчышча рагоча — узяць хоча.
— Учора спала у пярыне,
А сягоння рана — ў імшарыне.
Учора сядзела за цясовым сталом,
А сягоння рана — за лазовым кустом.
Учора сядзела з панятамі,
А сягоння рана — з ваўчанятамі.
Учора ела сыр з маслам,
А сягоння рана — сырое мяса.

## ЗЯЗЮЛЯ — ВЯСТУНКА СМЕРЦІ

### 449




Як я молада была [1],
Дык я рана ўставала.

Дык я рана ўставала,
Я [кашулю] вышывала.

Я [кашулю] вышывала.
Свайму большаму брату,

Па дарогах хадзіці,
Гасудару служыці.

Ў каўнярочку вышыла
А й я жаркае сонца.

Ў рукавочку вышыла
А й я ясён месячык.

Ў падалочку вышыла
А й я дробныя звёзды.

---

[1] Першы радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Ад сонейка, брацец,
Табе цёпленька будзець,

Ад месячка, брацец,
Табе відненька будзець.

Ад звёздачак, брацец,
Табе весела будзець

Па дарогах хадзіці,
Гасудару служыці.

Заблудзіў бел-малойчык
А ў цёмненькім лесе.

Прыблудзіўся малойчык
А к зялёнаму дубу.

А на дубе зязюля,
А яна кукавала.

— Ты зязюлька-сястрыца,
Ты вякуеш-кукуеш,

Паверх лесу лятаеш,
Ўсе дарожачкі знаеш,

Ўсе дарожкі-пуці,
Куды молайцу прайсці.

— Я вякую-кукую,
Паверх лесу лятаю.

Паверх лесу лятаю
І дарожак не знаю.

Толькі знаю 'дну сцежку,
К сцюдзёнаму калодзежу.

Малайцамі абрублен,
Галавамі надмошчан.

Калі ты туды пойдзеш,
І табою надрубаюць.

І табою надрубаюць,
Галавою падмосцяць.

## 450

Як была я сем год удавою,
Я не чула ножак пад сабою.
А як стала мужыкова жонка,
А як стала мужыкоў хлеб есці —
Не ўздолею на лавачку сесці.
А й буду ж я ды бога прасіці,
Как умёрла мужыкова матка,
Асталася б я сама гаспадыняй.
Упрасіла ж я госпада бога,
Да умёрла мужыкова маці.
Як ушыблі ж худыя гадочкі,
Пусціліся ды дробныя дзеткі.
Ды пайду ж я, малада, на магільнік,
Буду прасіці мужыкову матку:
— Устань, устань, мужыкова маці,
Пасабі ж мне дзетак гадаваці.
— Не, лепей мне ў пясочку ляжаці,
Чым жа тваіх дзетак гадаваці.

## 451

Я думала, што соўнычко зходзіць,
Ліха доля пад акенкам ходзіць,
Ліха доля шл...й валачыцца.
Я думала, што кароўка рычыць —
Ліха доля пад акенкам крычыць.
Пойдзем долю на торг прадаваці,
Знаюць людзі — не йдуць купаваці.
Пойдзем з доляй а з торгу дадому,
Цяпер долю хоць з мосту да ў воду.
— Умры, умры, мужыкова маці,

То я буду гаспадыня ў хаце.
Я думала, што мілы й не чуе,
Ажно мілы й нагайку гатуе.
Я думала нагайка з паперу,
А нагайка з сырога раменю.
Ой, як стала кала плеч лятаці,
Стала міла жалосна плакаці:
— Устань, устань, мужыкова маці,
Памажы мне гора гараваці.
— Ой, волейсе ў зямліцы ляжаці,
Ніж з табою гора гараваці.

## СМЕРЦЬ — ПАМОЧНІЦА МУЖА

### 452

Салавей, салавей,
Развясёлая пташачка,

Не шчабячы — скора дзень.
Шчабячы пры зарэ —

Не задавай жалю мне,
Бо я ў чужой старане.

Мяне бацька прынудзіў,
Маладога ажаніў.

Мяне маці прызвала,
Каб нам паранька была.

Я не буду з жонкай жыць,
Буду смерці ёй прасіць.

— Смерць мая дарага,
Не мінай майго двара.

Ох, вазьмі маю жану,
Не па сэрцу маяму.

А я дарам не хачу,
Срэбрам-злотам заплачу.

— Вазьму, каго захачу,
На кладбішча занясу.

Да удару ў адзін звон,
Адаб'ю зямлі паклон.

— Смерць мая дарага,
Не мінай майго двара.

Ой, вазьмі маю жану,
Не па сэрцу маяму.

## 453




Ой, выйду я на гару [1],
Пагляджу на рэчку.

Ой, на быстрай на рэчцы
Нова лодачка стаіць.

Ой, у той жа лодачцы
Страшна смертухна сядзіць.

— Ой ты, смерць, ты мая смерць,
Прыплыві к майму дому.

Прыплыві к майму дому,
Замары маю жану.

Я ж так дарам не хачу,
Срэбрам-златам заплачу.

Не паспела яна ўмерці,
Палатном вочы накрыў.

Палатном вочы накрыў,
Сам да дзевушак пашоў.

Усе дзеўкі харашы,
Адна дзеўка лучша ўсех.

Што зачэсана каса,
Што заплаканы глаза —
То маёй жаны сястра.

---

[1] Першы радок кожнай страфы, акрамя апошняй, паўтараецца два разы.

## 454

Чаго ты, Ванюшка, журыўся,
Ці ты не па волі жаніўся?
Ўзяў сабе нялюбую жану,
А сам пашоў богу маліцца.
— А божа мой, а міленькі,
Замары маю нялюбую жану,
Я сабе палучша вазьму.
Не ўспеў Ванька слова сказаці,
Стала яго жонушка канаці,
Захацела яму ручку даці.
А Ванюша ручанькі не даў,
Узяў платком сабе вочы завязаў,
Сам на завароцячкі пашоў.
Аж там ідзець дзевак карагод,
Яны ўсе, красны, пяюць,
Толькі адна дзеўка а не пяець,
Яна ўсё на Ваньку глядзіць.
— Ай ты, Ваня, Ваня, швагра мой,
Ой, будзець-будзець дрэнна з табой.
Замарыў ты нялюбую жану,
А сам казаў, палучшую вазьму,
А сам ты палучшай не возьмеш,
Сам ты за сабаку прападзеш.

## 455

Andante

Ой, ду- ма ж ма- я, ду- ма,
ой, ду- ма ж ма- я, ду- ма,
звя- ла ма- лай- ца з у- ма.

Ой, дума ж мая, дума,
Ой, дума ж мая, дума,
Звяла малайца з ума.

Не парою жаніўся,
Не парою жаніўся,
Не пад мыслі жонку ўзяў.

— Ох, я з ёю жыць не стаў,
Ох, пайду я на гару,
На высокую, круту.

Ох, на гарэ — рэчанька,
На рэчаньцы — кладанька,
На кладаньцы — смерць мая.

— Ох, смертухна-матухна,
Прыхадзі к майму даму,
Замары маю жану!

Табе дарам не схачу,
Табе дарам не схачу,
Срэбрам, злотам заплачу.

Сам на вячорачкі пайду,
Сам на вячорачкі пайду,
Сабе дзевачак найду.

І ўсе дзеўкі харашы,
І ўсе дзеўкі харашы,
Адна лепша над усе.

Распляцёная каса,
Распляцёная каса,
Зачэсаны валаса.

Заплаканыя вочы,
Заплаканыя вочы —
То ж мае жаны сястра!

456

Тануць, тануць мае ножкі
Па беламу снегу,
Ные, ные маё сэрца,
Заўнывае мой жывот.
Не па волюшкі маладзец жаніўся,
Ён не ў абычай жану ўзяў.
Не ў абычай, не пад мыслі.
Ён не хоча з ёю жыць.
Распраклятае любіць —
Буду луч да дзевушак хадзіць,
На жану смерці прасіць.
— Вох ты, смерць мая страшная,
Во да й не бяры мяне, малайца, з сабою,
Луч вазьмі ты маю жану —
Слабані маю галаву.
Не ўваспела жана ўмерці,
Ён палажыў яе пад вакном.
Палажыўшы яе пад вакенцам,
Накрыў белым палатном.
Во да накрыўшы белым палаценцам,
Сам на вуліцу пайшоў,
Карагод дзевак найшоў.
Не даходзячы карагод
Усім дзевачкам расказаў:
— Ох вы, дзевачкі, мае галубкі,
Во да памерла ж то мая жана,
Слабодна ж цяпер мая галава!
Усе дзевушкі ўсміхнуліс̀ь,
Толькі адна нічаго.
З карагоду вон пашла,
Падляцом яго назвала,
— Ты гуляй, шэльма-гуляка,
Нагуляешся ўдаўцом —
К чаму ты прыдзеш дамоў?

**457**










Ванька ў горы радзіўся, эй,
Ванька ў горы радзіўся,
А ў няшчасці жаніўся.

Узяў жану няўдалу, эй,
Узяў жану няўдалу,
Журыць маю галаву.

Пайду матцы гаварыць, эй,
Пайду матцы гаварыць,
Што не буду з жаной жыць.

Не ўспеў Ванюшка сказаць, эй,
Не ўспеў Ванюшка сказаць,
Стала жонка паміраць.

Стала Ваньку ўцеха браць, эй,
Стала Ваньку ўцеха браць.
А дзе ж яе пахаваць?

Пахаваю пад акном, эй,
Пахаваю пад акном,
Дай накрыю палатном.

Яшчэ й зверху кулаком, эй,
Яшчэ й зверху кулаком.
Сам на вулачку пайшоў,

Сам на вулачку пайшоў, эй,
Сам на вулачку пайшоў,
Карагод дзевак знайшоў.

Усе дзеўкі весялы, эй,
Усе дзеўкі весялы,
Адна дзевушка смутна.

Адна дзевушка смутна, эй,
Адна дзевушка смутна,
Знаць, жаны маей сястра.

## ВЯТРЫ — ПАМОЧНІКІ ЖОНКІ

### 458

Жана мужа неўзлюбіла
Буйных вятроў папрасіла:

— Вятры мае вы буйныя,
Да павейце су гор дужа.

Да павейце су гор дужа,
Пагубіце майго мужа.

Ветры тое паслухалі,
Павеялі су гор дужа.

Павеялі су гор дужа
І ўбілі майго мужа.

А завезлі у гаёчак,
Закапалі у пясочак.

Жыву гадок, жыву другі,
А на трэці гадочак

Усе людзі лугі косяць,
А на маім коні ходзяць.

Як пайду я ў гаёчак
А прылягу к зямлі сырой:

— Зямелька сырэнькая,
Аддай майго міленькага.

Зямля тое адвячае:
— Адступ, шэльма, нялюбая.

А ты ж яго не любіла,
Буйных вятроў папрасіла.

## ТРУНА ПРАМАЎЛЯЕ

### 459




Каб я тое знала, што замужам гора,
Сядзела б, гуляла б ў свае маткі ўдома.
На падвор з'язджае, труною вітае,
Труна малявана — жонка маладая.
Стаіць тая труна дванцаць чтыры рокі,
На пяты ступае, труна гаварыла.
— Альбо цела дайце, альбо парубайце.
Узяла б я свёкра — свёкар не ўмірае,
Узяла б я свякроў — свякроў маладая,
Улажыла б брата — пуста будзе хата,
Улажыла б сястронку — не будзе гасціны,
Улажыла б матку — не будзе парадку,
Улажыла б ойца — самі слёзкі льюцца,
Улажыла б дзеці — сама з жалю згіну,
Улажыла б мужа — па ём велька туга.
Легла б я ўжо сама — дзетанькі малыя,
Гаспадарка згіне, дзетанькі малыя,
Пусці мяне, труна, хоць ты на два рокі,
Хоць ты на два рокі дзяцей гадаваці.

460

Хадзіла Улляна,
Ой, божа мой! [1]
На ярмарку п'яна,
Людзей нанімала,
Труну будавала.
Збудавала труну
На чатыры бокі,
Да стаяла труна
Дваццаць чатыры рокі.
Да і стоячы і загаварыла:
— Ці мяне сячыце,
Ці мяне рубайце,
Ці мне, труне,
Грэшна цела дайце.
— Ой, аддала б свёкра —
Свёкар не ўмірае,
Аддала б свякроў —
Зямля не прымае.
Аддала б атца —
То не будзе слаўца,
Аддала б матку —
Не будзе парадку.
Ой, аддала б брата —
У брата нова хата.
Аддала б сястру —
Сястра маладая,
Дзяціна малая.
Ох, аддала б мужа —
Сама нядужа.
Ой, ніц не падзею,
Няхай у нядзелю,
Ніц не параджу,
Хіба сама лягу.

---

[1] Рэфрэн «Ой, божа мой!» паўтараецца пасля кожнага радка.

Ой, коню мой, коню, коню жаўтагрывы,
Ой, сыну мой, сыну, сыну урадлівы!
Ой, божа мой, божа, што я нарабіла,
Ой, каб я нагнала гарэланькі, піва,
Каб я ажаніла удалага сына.
Ой, адно стала піва варыці,
Ой, прышлі сыночка пад розгамі біці.
Вялі яго местам, вялі вуліцаю,
Завязалі ручкі назад сырыцаю.
Вецер павявае, сырыца ўсыхае,
Маёму сынові ручанькі сцягае.
Ой, божа мой, божа, нежывы я буду,
З вялікага жалю паміраці буду.
Каб жа я знала, калі уміраці,
Наняла б сталяроў явара рубаці,
Явара рубаці, труну будаваці.
Збудавалі труну на ўсе штыры бокі,
Каб стаяла труна дваццаць штыры рокі.
Пяты наступае, труна прамаўляе:
— Дакуль жа я буду парожна стаяці?
Ой, божа мой, божа, што буду рабіці,
Збудавалі труну — нет каго ўлажыці.
Улажыла б бацьку — за бацьку грэх будзе,
Улажыла б матку — не будзе парадку.
Улажыла б брата — ў брата нова хата,
Улажыла б сястрыньку — ў сястры дзяцей многа,
Улажыла б мілага — трудна жыць без ёга.
Лягла б я самая — дзяціна малая.
— Міла маладая, лягай ты самая,
Лягай ты самая, хоч ты маладая.
Хоч ты маладая, дзяціна малая:
Малую дзяціну выгадуюць людзі,
А мне, маладому, друга міла будзе.

## 462

А я ў горы не радзілася,
Само гора прыкацілася [1].

Пайду з гора ў чыста поле,
Гора за мной катком коціць.

А я з гора ў сінё мора,
Гора за мной селязнём плывець.

А я з гора ў цёмны лясы,
Гора за мной салавейкам.

А я ад гора ты ў пасцелю,
Гора маё ды ў нагах стаіць.

А я ад гора паміраю,
Гора маё ў галавах сядзіць.

А я з гора ў магілачку,
Гора за мной з лапатачкай.

А я ад гора закапалася,
Тады гора адчуралася.

Пашло гора па беламу,
Па беламу ды ўсё па свету,

Па тых бедных удовачках,
Па тых дробных сіротачках.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

## 463




Удаўся, ўрадзіўся добры моладзец.
Краша за яго на свеце няма,
Краша за яго да й на беленькім.

Краша за яго на свеце няма,—
Як на молайцу шапка з саломы,
Як на молайцу світка дзірава.

Не з-пад каменя, не з-пад белага
Узялося гора ды за молайца,
Узялося гора ды за ўдалага.

З гора ён бяжыць у чыста поле,—
Бяда і гора на сівым кані,
Бяда і гора ды на сівенькім.

Моладзец з гора ды у цёмны лес,—
А бяда з горам ды сівым воўкам,
А бяда з горам ды сівусенькім.

Табе, моладцу, ды не убяжаць,
Ой, а мне, гору, цябе не кідаць,
Ой, а мне, гору, цябе праваджаць.

Моладзец з гора ў воду уцякаў,—
А бяда з горам ды з невадочкам,
А бяда з горам ды з шаўковенькім.

Моладзец з гора у баярскі двор,
А бяда з горам там са скрыпкамі,
А бяда з горам там із дудкамі.

Моладзец з гора у пасцелю лёг,
А бяда з горам ды у ножаньках,
А бяда з горам ды у беленькіх.

Ужо моладзец пераставіўся,
Бяда і гора — у галованьках,
Бяда і гора — у разумненькіх.

А ўжо моладца хараніць вязуць,
Бяда і гора із лапатаю,
Бяда і гора із жалезнаю.

А ўжо моладца і пахавалі,
Бяда і гора расскакаліся,
Бяда і гора расплясаліся.

Харош быў, прыгож добры моладзец:
Ён голы хадзіў — не саромеўся,
Ён галодзен быў — а ўсё весел быў.

## 464




Эй, да шчэ ж была ў жываце, ў жываце,
Гора маё ўперадзе, ўперадзе.

Эй, дзе ж ад гора мне падзецiся,
Дзе ж ад гора схаранiцiся.

Эй, ды шчэ ж бо я не радзілася
Ка мне гора прычапілася.

Эй, стала ж я каля лаўкі хадзіць,
Гора мяне ды падпахі вадзіць.

Эй, да стала ж я да на печ лазіць,
Гора ж мяне да падсаджаваці.

Эй, пайду з гора да ў чыста поле,
За мной гора ўздагон бяжыць.

Эй, пайду з гора да Дунай-ракі,
За мной гора із чаўном, із вяслом.

Эй, красна дзеўка здагадалася,
У сыру зямлю захавалася.

## 465

♩=85

–Здэц–ца, ў го–ры не ра–дзі– ла–ся,
ад–куль го–ра пры–ка– ці– ла– ся?

— Здэцца ў горы не радзілася,
Адкуль гора прыкацілася?

Пайду з гора я й у чыста поле,
Пайду з гора я у чыста поле.

У чыстым полі захаваюся,
У чыстым полі захаваюся.

За мной гора із сярпочкам бяжыць,
За мной гора із сярпочкам бяжыць.

— Пастой, малодка, не схаваешся,
Пастой, малодка, не схаваешся.

Поле сажну я цябе й знайду,
Поле сажну я цябе й знайду.

— Пайду з гора я і ў шчыры бары,
Пайду з гора я і ў шчыры бары.

У шчыры бары захаваюся,
У шчыры бары захаваюся.

За мной гора з тапарочкам бяжыць.
За мной гора з тапарочкам бяжыць.

— Пастой, малодка, не схаваешся,
Пастой, малодка, не схаваешся.

Бары зрубаю, [redacted] й цябе знайду,
Бары зрубаю, я й цябе знайду.

— Пайду з гора я і ў сіне мора,
Пайду з гора я і ў сіне мора.

У сінім моры захаваюся,
У сінім моры захаваюся.

За мной гора із чарпачочкам бяжыць,
За мной гора із чарпачочкам бяжыць.

— Пастой, малодка, не схаваешся,
Пастой, малодка, не схаваешся.

Мора салью я й цябе знайду,
Мора салью, я й цябе знайду.

— Пайду з гора [redacted] і ў жоўты пясок,
Пайду з гора я і ў жоўты пясок.

У жоўтым пяску захаваюся,
У жоўтым пяску захаваюся.

За мной гора із лапаткай бяжыць,
За мной гора із лапаткай бяжыць.

— Пастой, малодка, здагадалася,
У жоўтым пяску захавалася.

## 466

У суботу рана муж жану набіў,
У нядзельку рана да двара схадзіў.

А з двара ідзе, пахваляецца:
— То ж добра біці чужое дзіця.

Чужое дзіця не спрачаецца,
Толькі слёзкамі абліваецца.

— Ой, баліць, баліць ўсё й галовачка,
Вой, шуміць, шуміць ўсё й дубровачка.

Ніхто ж мяне да й не жалуе,
Толькі жалуе родна матуля.

Павяла ж мяне у каморачку
Да звязала мне ўсё й галовачку.

— Ідзі, дзіцятка, не аглядайся,
Пра сваё горачка ўсё й забывайся.

Ішла ж, ішла, аглянулася,
К ёй горачка прыгарнулася.

А я ад гора яшчэ далей,
Да мне горачка яшчэ бліжэй.

А я ад гора уцякаючы,
Мяне горачка даганяючы.

А я ад гора — за сінь мора,
Мяне горачка і там знайшло.

А я ад гора прыхаваюся,
Жоўценькім пясочкам прыкапаюся.

Мяне гора нашукаецца,
Жоўтага пясочка накапаецца.

## 467

Аддаў мяне татка за п'янічаньку,
Аддаў мяне родны за горкую.

А п'янічанька за сталом сядзіць,
Перад ім стаіць а тры кубачкі.

Перад ім стаіць а тры кубачкі,
Перад ім стаіць а тры розненькі.

У першым кубку — зеляно віно,
У другім кубку — горка гарэлка.

У другім кубку — горка гарэлка,
У трэцім кубку — бела бяроза.

Не частуець міл мяне зеляным віном,
А частуець мяне а белай бярозай.

А частуець мяне а белай бярозай,
А белай бярозай і п'яны, і цвярозы.

Як пайду ж я, молада, а й у нову клець,
Як вазьму я, молада, тры вузельчыкі.

Як вазьму я, молада, тры вузельчыкі,
Тры вузельчыкі а ўсе розныя.

У первым вузле — рыжа золата,
У другім вузле — чыста серабра.

У другім вузле — чыста серабра,
А ў трэцім вузле — горкая доля.

Як пайду я, молада, у зялёны сад,
Пасаджу я рыжа золата я й пад яблыняй.

А чыста серабра я й пад вішняю,
А горкую долю я й пад калінаю.

Не пайду ж я, молада, тры гадочкі ў сад,
На чацвёртым гаду пайду, млода, па саду.

Рыжа золата сонца выпекла.
Чыста серабра вада вымыла.

Горкая доля пад калінаю,
Пад калінаю зацвітаць будзець.

Пад калінаю зацвітаць будзець,
Мае старасці дажыдаць будзець.

## 468

♩=74

Як на свет я на- ра- дзі- ла- ся,

го- ра ка мне пры- ю- ці- ла- ся.

Як на свет я нарадзілася,
Гора ка мне прыюцілася.

Як спала я й у пялёначках,
Гора ў мяне й у галовачках.

Як стала я каля лаўкі хадзіць,
Гора мяне да пад ручкі вадзіць.

Я ад гора да й у чыста[е] поле,
Гора за мной да з сярпочкам бяжыць:

— Поле сажну й цябе, дзеўка, знайду.
Я ад гора да й у цёмны лес.

Гора за мной з тапарочкам бяжыць:
— Лес зрублю і цябе, дзеўка, знайду.

Я ад гора да й у сырую зямлю.
Гора за мной да з мяшочкам бяжыць:

— Добра, дзеўка, здагадалася,
У сырую зямлю захавалася.

## 469

Спарадзіла ж мяне маці
Ў святую нядзелю [1],
Да й даў жа мне гасподзь долю,—
Дзе ж я яе дзену?

Да прынясу ж я горкую долю
К месту прадаваці,
Ды людзі знаюць маю долю,
Не йдуць купаваці.

Ой, купляйце, людзі, долю,
Ды мая доля добра,
Як нап'ецца — з людзьмі б'ецца,
Не начуе дома.

Панясу я сваю долю
У рэчку ўтапіці.
Ліха доля тое знала,
Стала гаварыці.

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

— Хоць топіш ты, не топіш ты,
А я не ўтаплюся,
Прыйдзе дзеўка ж ваду браці,
То й я учаплюся.

Прыйшла дзеўка ваду браці
З новымі вядрамі,
Абчапілась горка доля
Аберуч рукамі.

### 470

Парадзіла мяне маці
Ў ліхую гадзіну,
І дала мне ліху долю,—
Дзе ж яе падзену?

Панясу я ліху долю
На базар прадаваці,
Людзі знаюць ліху долю —
Не схочуць купляці.

Панясу я ліху долю
Да рэчанькі тапіці.
Ліха доля здагадалась,
Стала гаварыці.

— Ой, хоць тапі, хоць не тапі,
Я ж не утаплюся,
Як ты прыдзеш ваду браці,
За вядзёрка ўчаплюся.

Замахну я ведзярэчкам,
Аж вада калышэцца,
А за ёю ліха доля
Аж услед валачэцца.

— Ой, хадзем жа, ліха доля,
Ой, хадзем жа дадому,

Не завязвай, ліха доля,
Больш свету нікому.

Ці не жаль жа, мая мамка,
Што высока стану?
Завядзі і утапі мяне,
Я плакаці не стану.

Ці не жаль жа, мая мамка,
Што высокага росту?
Завядзі і утапі мяне
З высокага мосту.

Ці ты мяне, мая мамка,
У вярвіцы купала,
Купаючы, умываючы
Ліху долю давала.

## 471




Жыў сабе Адам, жыла і Ева [1],
А й мелі сына — сына Аўдашку.
Скора Ўдашка рос, прыгожа прыбіраўся,
Пайшоў Аўдашка на прагулянне,
Зайшоў Аўдашка к сіняму мору.
З сіняга мора ўзялося гора:
Яно й голае, яно й босае,
Яно лычачкам падпяразана,

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

А мачулачкай засцягнута.
Нейдзе Аўдашку з гора дзецiся,
Нейдзе беднаму схаранiцiся.
З гора Аўдашка ў пастухi пашоў,
З гора беднeнькi ў пастухi пашоў.
Гора горкае ўслед за iм iдзець,
Ўслед за iм iдзець i торбу нясець,
I торбу нясець, пугу валачэць.
З гора Аўдашка пайшоў дровы сеч,
Гора горкае ўслед за iм iдзець,
Ўслед за iм iдзець i тапор нясець,
I тапор нясець, пiлу валачэць.
З гора Аўдашка — ён сена касiць,
Гора горкае ўслед за iм iдзець,
Ўслед за iм iдзець i касу нясець,
I касу нясець, граблi валачэць.
З гора Аўдашка на папы пашоў,
З гора беднeнькi на папы пашоў —
Гора горкае ўслед за iм iдзець,
Ўслед за iм iдзець i кнiгу нясець,
I кнiгу нясець, кадзiла валачэць.
З гора Аўдашка у пасцелю лёг,
З гора беднeнькi у пасцелю лёг.
Гора горкае у нагах стаiць,
У нагах стаiць, у вочы глядзiць.
А ўжу Аўдашка з свету збавiўся,
З свету збавiўся, пераставiўся,
Гора горкае i прыкапыiць,
I прыкапыiць, i прыказыiць.

## ЮР'Я І ЦМОК

### 472




Даўно, даўно тое было —
Кругом зямлі мора лягло.

А ў моры тым жыў люты цмок,
Штодня збіраў з людзей аброк.

Давалі цмоку ды аброку —
На кожны двор па чалавеку.

Аддалі ўжо з кожнага двара,
Прыйшла пара і на цара.

— Цару, цару, прыбірайся,
Ці сам ідзі, ці жонку шлі!

Жану сваю пашкадаваў,
Дачку-красу к мору паслаў.

Сіне мора хвалюецца,
Цароўнай цмок любуецца.

З сіня мора выплывае,
З пашчы агонь выкідае.

Цароўначка спужалася,
За бел камень схавалася.

Аж скуль ўзяўся ды тут Юр'я,
Пагнаў ў мора свайго каня,

Прабіў цмока злотым кап'ём,
Рассек цмока вострым мячом.

Па цароўне цар слёзы лье,
А Юр'я ў двор дачку вязе.

Перад Юр'ем укленчыў цар,
Пытаецца, што даці ў дар.

— Не трэба мне тваіх дароў.
З сваёй дачкой бывай здароў!

## 473

Было сяло невясяло!
Жылі людзі там старынныя,
То сяло было над возерам.
А з возера на продзіў дзіва —
Змей прастрашны выхадзіў з вады,
Хватаў дзяцей і бальшых людзей.
Падвадзілі яму чаргою
І прасілі бога плачучы,
Што б ізбавіў іх ад гэтага
Страшнага змея праклятага.
Да панскай сям'і чарга прышла:
Трэба было самому іці
Ці сваю панью-жану вясці.
— Ах, да ёсць у мяне дачачка,
Яна ў мяне адзіночачка.
Знаць, яе аддаць нам, бедную.
Плачыць уся дворня княжая.
На гэту пячаль вялікую
Прыязджаець госць малодзенькі,
Незнакомы і няведамы.
Гэты госць сказаў паненачцы:
— Скідай, панна, свае сукні ўсе,

А па беленькай кашулечцы
Падперажы пояс кованы.
Панна к мору прыбліжаецца,
А у змея з роту полымя,
А із вачэй іскры сыплюцца,
Із ушэй яго дым сопаець.
Панначка тагды злякаўшыся,
Пала на каленкі, бедная!
Да пачула дзіўны голас к ей:
— Адвяжы ты пояс кованы
І абвяжы змея поясам;
Вядзі змея за двор на поле,
А людзі там змея гэтага
Заб'юць коллямі жалезнымі,
А труп яго на кастры спаляць.
Гэта так усё і здзелалась.
На гэту радасць вялікую
Не з'явіўся госць няведамы.

## 474




Як жылі-былі людзі няверныя,
Толькі верылі ліхому цмоку.

І давалі яму штодзень аброку,
Штодзень аброку па чалавеку.

Прышла чарга да самога цара:
Ці сам ідзі, ці жонку шлі.

Як сам пайду — войска згіне,
Жонку пашлю — не з кім жыць будзе.

Была ў цара адна дачка,
Адна дачка, ядыначка.

— Скідай, дачка, чорнае плацце,
Надзявай, дачка, белае плацце.

Ідзі, дачка, к сіняму мору,
К сіняму мору, к ліхому цмоку.

Панна к мору падступае,
З мора цмок выплывае.

Панна цмока злякнулася,
Да злякнулася, ваздыхнула.

Адкуль узяўся Юр'я-Юрай,
Юр'я-Юрай, з вострым кап'ём.

— Бяры, панна, цмока за рогі
І вядзі яго па ўсяму свету.

Што б людзі гэта ведалі
І у цмока не верылі.

## 475



Да была зямля нехрышчоная,
Да былі людзі да няверныя.

Да былі людзі да няверныя,
Толькі веравалі лютаму цмоку.

Давалі цмоку штодзень аброку,
Штодзень аброку па чалавеку.

Да прышла радва да самога цара.
— Ой ты, цар, ты, цар, ці ты сам ідзі,

Ці ты сам ідзі, ці жану вядзі,
Ці жану вядзі, ці цурку аддай.

Самому ісці — царом не быці,
Жану вясці — не с кім будзе жыці.

Цурку аддаць — некім пасылаць.
І цар цурку выпраўляе.

Жалобным сукном вулку сцеле,
Срэбрам-золатам высцілае.

Цурка ішла, Юр'я маліла,
Юр'я маліла, яго прасіла.

Юрый кажа: я й баюся,
Ад лютага цмока не 'дбаранюся.

— Не бойся, Юрый, я да помачы,
Ды бяры, Юрый, сівога каня.

Ды едзь, Юрый, на крутую гару,
Ды забі, Юрый, лютага цмока.

Юрый едзе па пагор'ю,
А цмок бяжыць па падоллю.

У яго з вачэй агонь гарыць,
У яго з вушэй дым клубам бяжыць,

У яго з наздрэй усё полымя.
Ударыў конь капытом, а Юрый кап'ём.

Забілі цмока пад крутой гарой,
Нясіце цмока к чорту ў балота.

## 476




А здаўна людзі былі няверныя [1],
Толькі верылі паганаму смоку.
Давалі смоку штодзень аброку,
Штодзень аброку па чалавеку.
Як прышла чарга да самога цара,
Хоць сам цар ідзі, хоць царэўну шлі.
А й сам не йдзець і царэўны не шлець,
Высылае цар пракрасную панну.
— І ідзі-ка, панна, к сіняму мору,
А бяры-ка, панна, шаўковыя шнуры
І цапляй-ка смока за крутыя рагі.
А й панна к мору прыхаджае,
А паганы смок з мора выплывае.
А ў яго з роту палам'я шыбае,
А ў яго з наздзёр іскры сыплюць,
А ў яго з вушэй дымы валюць.
Панна смока праважае,
А царэўна на двор выбягае.
Хто ж гэту панну ад смерці адратаваў?
Да аб'явіўся Юры-Ягорый

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

На буланым кані з залатым кап'ём.
— Я яе ад смерці адратаваў.
— Хто гэту панну ад смерці адратаваў,
Адпішу яму палавіну царства і гасударства.
— Не трэба мне ваша палавіна царства і гасударства,
А пастаўце мне каменную царкву,
Адмалюйце мяне і каня майго.
А будзе ка мне мір прыступаці,
У ручкі, у ножкі цалаваці.

## 477




А былі ж людзі да няверныя,
А паверылі пагану цмоку.

Ой, таму цмоку на дзень па чалавеку,
А ў пятніцу рана яму двух мала.

Прышла радавая да самаго цара,
А ў таго ж цара ні чалядачкі.

Ні чалядачкі, ні дзіцятачкі,
Толькі ў таго цара прамудра царэўна.

Прамудра царэўна, адзявайся,
Надзявай шаты, шаты дарагія.

Надзявай шаты, шаты дарагія,
Абувай боты да ўсё залатыя.

Да ідзі ў поле пад сіне мора,
А сіняе мора скалыхнулася.

А сіняе мора скалыхнулася,
Прамудра царэўна ўлякнулася.

Выплываець з мора паганы цмок,
У яго з роту агонь валіць.

А ў яго з вушэй дымы ідуць,
А ў яго з вачэй іскры сыплюць.

— Пастой, пагадзі, паганы цмок,
Пастой, пагадзі, паганы цмок.

Як зачуў госпад да усю праўду.
— А святы Юрый, адзявайся.

Надзявай шаты, шаты дарагія,
Надзявай шаты, шаты дарагія.

Надзявай боты да ўсё залатыя
Да ідзі ў стайню, выбірай каня.

Выбірай каня найсівейшага,
Найсівейшага, найсільнейшага.

Да едзь у поле пад сіне мора
Прамудру царэўну да й бараніць.

— Ой, госпадзі ж божа, сам я баюся,
Ад паганага цмока не [а]дбаранюся.

— А святы Юрай, чаго баяцца?
Сячы канём, канём перадом.

Сячы канём, канём перадом,
Канём перадом, войстрым кап'ём.

Закідай ланцуг, ланцуг на рогі,
Ой, вядзі цмока па ўсяму свету.

**478**




Жылі людзі няверныя,
А верылі да таму цмоку.

А верылі да таму цмоку,
Што есь на дзень па асміне [а]броку.

Па асміне аброку, па чалавеку,
Прышла радоўка к самому цару.

Прышла радоўка к самому цару:
Абы сам ідзі, абы жонку шлі.

Я й сам не пайду, жаны не пушчу,
А ■ вышлю слічну панну.

Слічну панну, дачку сваю.
Надзявай, доча, смяротна плацце.

Надзявай, доча, смяротна плацце,
Ідзі к цмоку на сняданне.

Ідзі, доча, чытаючы,
Чытаючы, спяваючы.

Чытаючы, спяваючы,
А ўсё Юр'я памінаючы.

Зірнула доня ў ціха мора,
Ажно плывець цмок з-за мора.

У яго з наздзёр полымя сапець,
У яго з вушэй дымы стаўпом.

Як стаяла — крыжам пала,
На тым месцы царква стала.

## 479

♪ = 156

Ой, жы- лі - бы- лі ня-вер-ны- я лю- дзі,
толь- кі ве- ры-лі лі-хо- му цмо- ку.

## 480

♪ = 164

Жы- лі - бы- лі ня-вер-ны-я лю-дзі,
шта ве- ры-лі лю-та- му цмо- ку.

Жылі-былі няверныя людзі,
Што верылі лютаму цмоку.

Толькі верылі нягоднаму цмоку,
Што ў дзень жа еў па чалавеку.

Па чалавеку, па асміне [а]броку.
А прышла радоў[ка] да цара-караля:

Абы сам ідзі, абы жонку шлі.
Я й сам не пайду, жонку не пашлю.

Ёсць у мяне дачка-панна,
Будзе цмоку на сняданне.

Ўбірайся, панна, ў смяротна плацце,
Ўбірайся, панна, ў смяротна плацце.

Слічная панна умываецца,
Ў смяротна плацце надзяваецца.

Ідзе на гару, к сіняму мору,
Панна к мору падходзіла.

Яна плача сільнюсенька,
Уздыхае смутнюсенька.

А саслаў гаспод Юрая з неба,
А саслаў гаспод Юрая з неба.

— А сядлай, Юрай, буланога каня,
А язджай, Юрай, на крутую гару.

На круту гару, к сіняму мору,
А забі, Юрай, нягоднага цмока.

## 481



А дзе ж тыя ды няверніччкі,
А й дзе ж тыя ды няверніччкі.

А давалі аброк паганаму цмоку,
А давалі аброк паганаму цмоку.

А што ў бога дзень па чалавечку,
А што ў бога час па дзяціначчы.

А прышла чарада да самога караля,
А прышла чарада да самога караля.

— А кароль мой, а ці сам ідзі,
А ці сам ідзі, ці дачушку шлі.

— Вазьмі, Ганускa, вялікую ксёнжку,
Вазьмі, дачушка, вялікую ксёнжку.

А сядзь, Ганускa, ты на камушку,
А сядзь, дачушка, ты на камушку.

А й плывець, плывець паганы цмок,
А й плывець, плывець паганы цмок.

А й з яго ляпы агонь шыбаець,
А з яго наздзёр іскры сыплюцца.

А з яго вушэй дым трубой ідзець,
А з яго вушэй дым трубой ідзець.

А і тут, тут, тут Гануську схапіць,
А і тут, тут, тут Гануську з'есці.

А конь з капытом, а Юр'я з каплом,
А конь з капытом, а Юр'я з каплом.

Абаранілі гэту Гануську,
Абаранілі каралёву дачушку.

— Адчапі, Ганусьа, ад каня вожкі,
Адчапі, Ганусьа, ад каня вожкі.

А бяры цмока за крутыя рожкі,
А бяры цмока за крутыя рожкі.

Павядзём яго ў тое сяло,
Павядзём яго ў тое сяло.

У тое сяло, дзе няверніčкі,
Й а ў тое сяло, дзе няверніčкі.

А тыя людзі папужаліся,
А тыя людзі папужаліся.

Па цёмных куточках пахаваліся,
Па цёмных куточках пахаваліся.

— А стойце, людзі, не пужайцеся,
Па цёмных куточках не хавайцеся.

Паганага цмока наглядайцеся,
Паганага цмока наглядайцеся.

## ДАРОТА (ВАРВАРА)

### 482

А Дарота, Дарота
Крашшы перла і злота.
Як забачыў кроль-цыган,
Дак Дароту спадабаў.
— А Дарота, Дарота,
Да маіх воч надобна.
— А што мовіш, кроль-цыган?
Луччы буду свет сваціць,
Чымся з табою маю жыць!
— А Дарота, Дарота,
Трэба табе даць кары.
Вялю дробна шкла набіць
І Дароту босу вадзіць!
Там ручаём кроў цякла —
Пякней стала, як была!
— Ай, Дарота, Дарота,
Не памогуць твае чары,
Трэба табе даць кары.
Вялю кацёл завесіць
І алею налеіць,
На жаркім агні паліць
І Дароту усадзіць.
Як Дарота ступіла,
Пякней стала, як была!
— Ай, Дарота, Дарота,
Не памогуць твае чары,
Трэба табе даць кары.
Вялю ў турму ўсадзіць
І на сем год пасадзіць,
Не даць Дароці ні есь, ні піць.
Сам на войну паеду,
І на сем год паеду,
І на восьмы прыеду!
— А служэнты, служэнты,
Адчыніце вароты,

Паглядзіце Дароты,
А ці жыва Дарота?
— А што мовіш, кроль-цыган?
Хоць не ела, не піла,
Пякней стала як была!
— А служэнты, служэнты,
Няверна вы служылі:
Чым Дароту жывілі?
— А што маеш, кроль-цыган?
Не мы яе жывілі...

## 483

♩=69

Як у- ста- ла Вар- ва- ра
а ра- на, ра- на, як у- ста- ла
Вар- ва- ра а ра- на, ра- на.

## ДЗЕЎКА І ШАТАН

### 484

А ў нядзелю, нядзелю
Пайшлі дзеўкі па зелле.

Разасталі злота, медзь,
[Сталі сабе вянкі віць].

Аж прыходзіць да іх пан,
З роду, з пекла сам шатан.

— Як сабе маце, паннaчкі,
Траіх дзяток матачкі?

— Найяснейшы прынцыпале,
З роду, з пекла шатане!

— Па чом, дзеўкі, пазналі,
Жэ мяне так назвалі?

— Па коніках вараных,
Па сядэлках смаляных.

Узялі панну з-за двару,
Паняслі да бару.

Прынаслі пад пекла,
Пасадзілі на крэсла.

Пад ёю смалу тапілі,
На яе смала капала.

На яе смала капала,
Яна глосна плакала.

Сядзіць панна, здалека
Абачыла чалавека.

— Ідзі, чловек, дадому,
Не кажы ніц нікому.

Ні ойцу, ні мацеры,
Няхай гаворацъ пацеры.

Няхай убогім ўжо не даюць,
Бо мяне стуль не вымуць.

Бо я ў пекле застаюся,
Нігды не вызвалюся.

485

Allegretto

А ў ня- дзе- лю на ран- ку
пай- шла пан- на да са- ду, о- го,
о- го- го, пай- шла пан- на да са- ду.

## 486

Пры ў дарозе,
Пры ў дарозе дзяўчыніца
Лянок брала, лянок брала,

К сырой зямлі,
К сырой зямлі прыпадала,
Прыпадала, прыпадала.

— Маць сырая,
Маць сырая ты зямелька,
Ты зямелька, ты зямелька.

Узяла бацьку,
Узяла бацьку, ўзяла й матку,
Вазьмі й мяне, маладую.

Вазьмі й мяне,
Вазьмі й мяне, маладую,
Як ігрушу зеляную.

Як ігрушу,
Як ігрушу зеляную,
Як яблыню салодкую.

Пры ў дарозе,
Пры ў дарозе дзяўчыніца
Пасецъ коні, пасецъ коні.

Пасецъ коні,
Пасецъ коні, йна заснула,
Йна заснула, йна заснула.

Прачнулася,
Прачнулася — коні нету,
Коні нету, коні нету.

Пашла дзеўка,
Пашла дзеўка ў лес па дарожцы,
Ў лес па шырокай, ў лес па шырокай.

Насустрэчу,
Насустрэчу тры двараніны,
Тры маладыя, тры маладыя.

Загадалі,
Загадалі тры загадкі,
І чатыры загадкі, чатыры загадкі.

— Адгадаеш,
Адгадаеш — вазьмём замуж,
Вазьмём замуж, вазьмём замуж.

Не адгадаеш,
Не адгадаеш — галаву знімем,
Галаву знімем, галаву знімем.

А што ж гэта,
А што ж гэта без повада йдзець,
Без повада йдзець, без повада йдзець?

А што ж гэта,
А што ж гэта без кораня расцець,
Без кораня расцець, без кораня расцець?

А што ж гэта,
А што ж гэта без пол гарыць,
Без пол гарыць, без пол гарыць?

А што ж гэта,
А што ж гэта без голаса выць,
Без голаса выць, без голаса выць?

— Без повада йдзець,
Без повада йдзець быстрая рэчка,
Быстрая рэчка, быстрая рэчка.

Без кораня расцець,
Без кораня расцець бялой камень,
Бялой камень, бялой камень.

Без пол гарыць,
Без пол гарыць ясная зорка,
Ясная зорка, ясная зорка.

Без голаса выць,
Без голаса выць конь вароны,
Конь вароны, конь вароны.

— Адгадала,
Адгадала, красная дзеўка,
Адгадала, адгадала!

Тваё коні,
Тваё коні на сінём моры,
На сінём моры, на сінём моры.

Ядуць траву,
Ядуць траву шаўковую,
Шаўковую, шаўковую.

А п'юць ваду,
А п'юць ваду маравую,
Маравую, маравую.

## 487

♩=92

Ой ты, Га_ лю, ды ма_ я
Га_ лю, што ж(ы) я та_ бе
ска_ за_ ці ма_ ю.

41. Зак. 100

— Ой ты, Галю, ды мая Галю,
Што ж я табе сказаці маю.

Што ж я табе сказаці маю,
Сем загадак загадаю.

Адгадаеш — маёй будзеш,
Не адгадаеш — чужой будзеш.

Ой, што расце без кораня,
А што ўецца круг дзерава?

Што пячэ без жарыны,
Што жыве без дружыны?

Ой, што грае, голас мае,
Ой, што плача — слёз не мае?

— Камень расце без кораня,
Хмель уецца круг дзерава.

Сонца й пячэ без жарыны,
А казача жыве без дружыны.

Скрыпка грае — голас мае,
Салавей плача — слёз не мае.

## 488

♪=85

І_ шоў ка_ зак да_ ро_ га_ ю,
су_стрэў дзеў_ку, звац Га_ ля_ ю,
су_ стрэў дзеў_ку, звац Га_ ля_ ю.

Ішоў казак дарогаю,
Сустрэў дзеўку, зваць Галяю[1].

— Ой ты, дзеўка, мая Галю,
Штось я табе сказаць маю.

Штось я табе сказаць маю,
Сем загадак загадаю.

Адгадаеш — мая будзеш,
Не 'дгадаеш — чужой будзеш.

Ой, што расце без карэння,
Ой, што цвіце без насення?

— Ой, што гарыць без полам'я,
Ой, што бяжыць без повада?

Ой, што ўецца кругом дрэўца,
Ой, што сушыць каля сэрца?

Ой, што грае — голас мае?
— Казак дурань, што пытае.

Камень расце без карэння,
Доля цвіце без насення.

Сонца гарыць без полам'я,
Вада бяжыць без повада.

Хмель уецца кругом дрэўца,
Любоў сушыць каля сэрца.

Скрыпка грае — голас мае,
Дзеўка Галя адгадае.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

489

А на віры, на вірочку
Там дзевачка бель бяліла,
Бель бяліла, злоты сыгнэт ураніла.
А тут ішлі да тры рыбаловы,
А яна ж іх да прасілася:
— А мілыя ж мае да тры рыбаловы,
А закіньце ж вы шаўковыя сеці,
А улавіце ж вы залаты сыгнэт!
Я ж вам буду да знадобненька:
Аднаму буду да суседачка,
Другому буду да нявехначка,
Трэцяму буду да міла жана.
Да суседа агню пайду,
А свякратку разуваць буду,
А міламу ложка слаць буду,
Ложка слаць із ім спаць.
— Мілая ж ты наша паненачка!
Загадаем табе сем загадак,
Калі адгадаеш — наша будзеш,
А не адгадаеш — айцова будзеш.
А што расцець без кораня,
А што бяжыць без повада,
А што чорна не чэрнючы,
А што сіва не сіўлючы,
А што міла не гадуючы?
— Што бы я была за дзіця ў бацькі,
Я гэтых загадак не адгадала!
Камень расцець без кораня,
А зара гарыць без полымя,
А вада бяжыць без повада,
А чоран воран не чэрнючы,
А сіва зязюлька да не сіўлючы,
А жана мілая не гадуючы.

## 490




Край даліны шырокае, гэй, лолам [1].
Край даліны шырокае,
Край даліны глыбокае.
Тудыма ішла красна панна
З медзянымі ведзяркамі,
З залатымі асілкамі,
А за ёю бел малойчык.
— Зажджы, зажджы, красна панна;
Дай мне вады напіціся,
Напіціся і ўмыціся.
Я загану сем загадак,
Як адганеш — мая будзеш,
Не адганеш — дурна будзеш:
Што то сіня не сінячы,
Што то чорна не чэрнячы,
Што то бела не белячы,
Што то раба не рабячы,
Што то расце без кораня,
Што то плача без голасу,
Што то бяжыць без рук, без ног?
— Што б я была за дзяўчына,
Каб загадак не зганула,
Табе сваіх не сказала.
Сіне мора не сінячы,
Чорны воран не чэрнячы,
Белы лебедзь не белячы,
Дзяцел рабы не рабячы,
Камень расце без кораня,
Скрыпка плача без голасу,
Вада бяжыць без рук, без ног.

[1] Рэфрэн «гэй, лолам» спяваецца ў канцы кожнага радка.

## 491




За клеткаю, за новаю,
Сад зялёны, вішнёвы [1].
Ляжаць брусы цясовыя,
Па тых брусах сняжок выпаў,
Сняжок выпаў, слядок паклаў.
А хто ж там ішоў?
Красная паненка,
А за ёю красны панічок.
— Пастой, пастой, красная паненка,
Загадаю пяць загадак.
Адгадаеш — мая будзеш,
А не адгадаеш — слугой будзеш.
А што ляціць без повада?
А што гарыць без полымя?
А што расцець без кораня?
А што чорна не чэрнячы?
А што бела не белячы?
— Вада ляціць без повада,
Зара гарыць без полымя,
Камень расцець без кораня,
Лебедзь белы не белячы,
Воран чорны не чэрнячы.

## 492

Ды й тамака на даліне
Пасу коні вараныя.

[1] Рафрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Ай, пасучы, пагубіла,
Шукаючы, заблудзіла.

Прыблудзіла к сіняму мору,
К сіняму мору, ды й к возеру.

— Вы малайцы-рыбалоўцы,
Не відзелі коні мае?

Коні мае вараныя,
Годы мае маладыя.

— Хоць відзелі, не відзелі,
Хоць чулі, не чулі.

Загаднулі сем загадак:
— Ды што расце без кораня,

Ды што гарыць без полымя,
Ды што бяжыць без повада,

Ды хто чорны не чарнёны,
Ды хто рабы не рабёны,

Ды хто сівы не сызоны,
Ды хто белы не бялёны?

— Камень расце без кораня,
Зара гарыць без полымя.

Воран чоран не чарнёны,
Коршун рабы не рабёны.

Сізы голуб не сызоны,
Лебедзь белы не бялёны.

## 493




Да пасвіла Кася коні,
Да пасучы, пагубіла.

[Да пасучы, пагубіла],
Шукаючы, заблудзіла.

Як беж, так беж дарогаю,
Як беж, так беж шырокаю.

Сустрачае казак дзеўку,
Казак дзеўку сямілетку.

Да загануў сем загадак.
Як адганеш — мая будзеш,

[А] не адганеш — дурна[я] будзеш.
Да што свеціць па ўсём свету?

Да што паліць — агню нету?
Да што цвіце — цвету нету?

Да што плыве без разгону?
Да што ідзе без размовы?

Да што расце без кораня?
Да што ўеццa круг дзерава?

Да што грае, голас мае?
— Сонца свеціць па ўсём свету.

Маланка паліць — агню нету,
Трава цвіцець — цвету нету.

Вада плывець без разгону,
Рыба ідзець без размовы.

Камень расцець без кораня,
Хмель ўеццa круг дзерава.

Скрыпка грае, голас мае —
Казак дурань, што пытае!

## АДГАДАЕШ — СКАЖАМ, ДЗЕ КОНІ

494




Пасціла дзеўка ды табун коней,
Ды зялёны явар, кудравы! [1]
Сама задрамала, коней пацярала.
Як пайшла ж яна лужком-беражком,
Лужком-беражком, каля рэчачкі,
Сустрэла яна трох малайцоў.
— Ах вы, хлопцы, белыя малойцы,
Ці не бачылі маіх коней?
— Хоць бачылі, мы табе не скажам,
Загадаем табе ды сем загадак.
Калі адгадаеш, мы табе скажам,
Мы табе скажам, дзе твае коні.
А што бяжыць без повада?
А што гарыць без полымя?
А што расце без кораня?
А што ляціць панікаючы?
А што бяжыць паглядаючы?
А што чорна ды не чэрнючы?
А што бела не белена?
— Пчала ляціць панікаючы.
А звер бяжыць паглядаючы,
Вада бяжыць без повада,
Зара гарыць без полымя,

[1] Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Камень расце без кораня,
Чоран воран ды не чэрнючы,
Белая бяроза ды не белючы.
— Цяпер мы скажам, дзе твае коні.
А твае коні ў чыстым полі.
А п'юць ваду сцюдзёную,
Ядуць траву шаўковую,
Залатымі путамі папутаны.

## 495




Пасціла дзеўка стада коні,
Жаркае сонца й усходзіць![1]
Папасціўшы, крэпка ўснула,
Крэпка ўснула, коні не пачула,
Ачнулася — коні нету.
Стала дзеўка думаць-гадаць,
Куды ісці коні шукаць.
Пашла б лесам, дык баюся,
Пашла б лугам — намачуся.
Пашла дзеўка дарогаю,
Дарогаю шырокаю,
Сустракаець трох казачэнькаў.
— А вы, казачэнькі, а вы, маладзенькі,
Ці не відзелі стада коні?
Адзін кажыць: я й не відзеў,
Другі кажыць: я й не бачыў,

[1] Рэфрэн «Жаркае сонца й усходзіць!» паўтараецца пасля кожнага радка.

Трэці кажыць: я й сам там быў,
Я й сам там быў, коні відзеў.
Загадаем дзеўцы дзевяць загадак,
Калі адгадаеш, дзе коні скажам.
А што ж бяжыць без повада?
А што расцець без кораня?
А што гарыць без полымя?
А што расцець вышы лесу?
А што цвіцець — ніхто не відзіць?
А хто плачыць без голаса?
А хто ж белы ды не белючы?
А хто чорны ды не чэрнючы?
А хто рабы ды не раблючы?
— Багдай жа я ды не бацькава,
Ды не бацькава, ды не матчына,
Каб я гэта не адгадала.
Вада бяжыць без повада,
Камень расцець ды без кораня,
Сажа гарыць без полымя,
А хмель расцець вышы лесу,
Папараць цвіцець — ніхто не відзіць,
Конік плачыць без голасу,
Лебедзь белы не белючы,
Воран чорны ды не чэрнючы,
Дзяцел рабы ды не раблючы.
— Твае коні ў чыстым полі,
Ядуць траву пшанічную,
А п'юць ваду крынічную,
Ядуць траву яравую,
А п'юць ваду сцюдзёную.

## 496

Ў чыстым полі на даліне
Пасла коні вараныя,
І пасучы, пагубіла,
Шукаючы, заблудзіла.
Прыблудзіла к сіню мору,
К сіню мору і к азёру.

— Рыбалоўцы, вы малойцы,
Ці не відзелі вы коней?
— Хоць відзелі, хоць не відзелі,
Табе мы не скажам,
Загадаем сем загадкаў.
Калі адгадаеш сем загадкаў,
Тады табе скажам.
— Рыбалоўцы, вы малойцы,
Адгадаю сем загадкаў.
— А хто гарыць без полымя?
І хто ляціць без поваду?
А хто белы не бялёны?
А хто чорны не чарнёны?
А хто рабы не пісоны?
А хто расце без кораня?
— Зара гарыць без полымя,
Вада ляціць без поваду,
Лебедзь белы не бялёны,
Воран чорны не чарнёны,
Дзяцел рабы не пісоны,
Камень расцець без кораня.
— Дзяўчышына маладая!
Сонца ясна, ты яснее!
У чыстым полі на даліне
Ходзяць коні вараныя,
Ядуць траву шалковую,
П'юць вадзічку мядовую.

**497**

А ў полі, полі да на верасе,
Ой, там дзеўка да каня пасець.
Шыла шубку, вышывала,
Вышывала, задрамала,
Табун коні пацярала.
Пашла яна ўсё дарогаю,
Усё дарогаю, усё шырокаю.
А ўстрэціла трох казачэнькаў.
— А вы, казачэнькі, а вы, маладзенькі,

А ці бачылі вы табун коні?
Вы табун коні, табун вараныя,
Табун вараныя, цуглі залатыя.
Адзін кажыць ёй: не бачыў,
Другі кажыць ёй: не відзеў,
А трэці кажыць ёй: я й сам там быў,
Я й сам там быў й на іх ездзіў.
Загадаю, дзеўка, сем загадак,
Калі адгадаеш — коні найдзеш.
А што ляжыць — не павернецца,
А што бяжыць без повада,
А што плачыць без голаса,
А што расцець без кораня,
А што гарыць без полымя,
А што чорна ды не чэрнючы,
А што бела ды не белючы?
— Камень ляжыць — не павернецца,
Вада бяжыць без повада,
Конік плачыць без голаса,
Сажа расцець без кораня,
Зара гарыць без полымя,
Чорны воран не чэрнючы,
Бела лебедзь ды не белючы.
— Ах ты, дзеўка разумнае маткі,
А твае коні за гарою ходзяць,
А ядуць траву ўсё муражную,
А п'юць ваду крынічную.

## 498



А што ў лесе ды на верасе,
Ой, зялёны явар кудравы [1].
Пасвіла дзеўка тры стады коней.
Пасучы каней, яна й заснула.
Праснулась дзеўка — аж коней няма.
Пайшла дзеўка лужком-беражком,
Стрэла дзеўка трох рыбалоўцаў.
Стала яна ў іх пытаці,
Ці не бачылі тры стады коней?
Адзін кажа: я не бачыў,
Другі кажа: я не відзеў,
Трэці кажа: я й сам там быў.
Загадаю, дзеўка, шэсць загадачак,
Тады табе скажу, дзе твае коні.
А што расце без кораня,
А што бяжыць без повада,
А што бела да не белена,
А што чорна да не чэрнена?
— Камень расце без кораня,
Вада бяжыць без повада,
Белы лебедзь не белены,
А чорны воран не чэрнены.
— Цяпер скажу, дзе твае коні.
Твае коні ў чыстым полі
Ядуць траву медунічную,
А п'юць ваду крынічную.

## 499

Пасвіла дзеўка табун коней,
Пасвіла, пасвіла, ды й заснула.
Праснулася дзеўка — усё коней нету,
Усё коней нету, усё вараненькіх.
Села дзеўка думаць-гадаць,
Кудыісці коней іскаць.
Балатамі пайсці — утануць,
Лясамі пайсці — мядзведзь заб'ець.
Пашла дзеўка ўсё дуброваю,

---

[1] Рэфрэн «Ой, зялёны явар кудравы» паўтараецца пасля кожнага радка.

Усё дуброваю, ўсё зялёнаю,
Усё дарогаю, ўсё шырокаю.
Сустракаець трох малайцоў,
Трох малайцоў — валачобнікаў.
— Валачобнікі, людзі добрыя,
А ці чулі вы, ці відзелі
Маіх каней вараненькіх?
— Загадаем дзеўцы чатыры загадкі,
Калі адгадаеш — скажам і пакажам:
А хто чоран ды не чэрнены,
А хто белы ды не белены,
А што бяжыць без повада,
А хто іржэць без голасу,
А што расцець без кораня?
— Воран чоран ды не чэрнены,
Лебедзь белы ды не белены,
Вада бяжыць ды без повада,
Конік іржэць без голасу,
Камень расцець без кораня.
— Бадай, дзеўка, бадай, красна,
Адгадала ўсе нашы загадкі.
Мы ж табе скажам і пакажам:
Твае коні на дуброве
Ядуць траву шалковую,
П'юць ваду ключавую,
Залатымі путамі папутаны,
Залатымі нуздэчкамі пазанузданы.

## АДГАДАЕШ — ПЕРСЦЕНЬ АТРЫМАЕШ

### 500




Ой, на азярыне ды на сіненькай,
Вясна красна на ўвесь свет!
На кладачцы ды на гібенькай.
Зялён явар, зялёны![1]
Там дзяўчына бель бяліла.
Бель бяліла, ручкі мыла.
Ручкі мыла, персцень ураніла.
Дзе бралася шчука-рыба.
З хваль нырнула, персцень праглынула.
А к той азярыне ды на лугавіне.
Ішло-брыло тры малойчыкі.
Тры малойчыкі-рыбалоўчыкі.
Йшлі на нерат, неслі невад.
— Ой, мілыя мае тры малойчыкі.
Тры малойчыкі-рыбалоўчыкі.
Вы закіньце ў тоню невад.
Вы злавіце шчуку-рыбачку.
Адбярыце залаты персцень.
Я ж вам буду ў вялікай адгодзе:
Аднаму буду суседкаю,
Другому буду швагеркаю.
Трэцяму, згадаем, сама маладая.
Я да суседа агню пайду.

---

[1] Рэфрэны «Вясна красна на ўвесь свет!» і «Зялён явар, зялёны!» паўтараюцца па чарзе праз адзін радок.

Я да швагра ў госці пайду.
А з каханым век жыць буду.
— Дзяўчыначка-журавіначка.
Загадаем табе сем загадак.
Адгадаеш — персцень атрымаеш.
Не адгадаеш — нас не дачакаеш.
А што шэпча без говара?
А што бяжыць без повада?
А што расце без кораня?
А што чорна не чэрнячы?
А што бела не белячы?
А што стогне без немачы?
А што ўецца паверх дрэва?
— Вецер шэпча без говара,
Вада бяжыць без повада,
Камень расце без кораня,
Снягі белы не белячы,
Воран чорны не чэрнячы,
Свіння стогне без немачы,
Хмель віецца паверх дрэва.

## 501

Па вуліцы па шырокай,
Па травушцы па зялёнай

Зазвінела калясачка.
Хто у той калясцы паязджаець?

Паязджаець пан Уладзісь.
А за ім у пагоню красна дзеванька:

— А стой, пагадзі, пан Уладзісь!
Загадаю табе сем загадак,

Ізволь іх адгадаці і адказаці:
Што бяжыць без повада,

А што расцець без кораня,
А што цвіцець без сіняга цвету,

А што саладзей за сахару,
А што плачыць без голасу,

А што чарно не чарнёна,
А што ж бела не бялёна?

— Ох, каб я не ацецкі сын, не мацерын,
Гэтай загадкі не адгадаць, не адказаць!

Вада бяжыць без повада,
Камень расцець без кораня,

Папарадь цвіцець без сіняга цвету,
Сон саладзей ды за сахару,

А конь плачыць ды без голасу,
Чоран воран не чарнёны,
Белы лебедзь ды не бялёны.

## 502

А у садзе, садзе стаіць вішанька,
Зялёны сад вішнёвы![1]
Пад тэй вішанькай млада Аўгінка
Вішанькі шчыпець, у кішэнькі сыпець.
А прышлі ж к ёй ды два малойцы,
Загадалі ей сем загадак.
— Млада Аўгінка, ці адгадаеш,
Ці адгадаеш гэты загадкі?
А і што гарыць ды без полымя,
А што ж расцець ды без кораня,
А што ж бяжыць ды без повада,
А што ж плачыць ды без голаса,
А што ж чорна не чэрненае,
А што ж бела не беленае,
А хто ж жасцей ды за заенькі,
А хто ж мілей атца, мацеры,
А што саладзей ды за сахару?

---

[1] Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— А багдай жа я не ацецка доч,
Не ацецка доч, не мацерына,
Каб не адгадала гэтых загадак!
А гарыць зара ды без полымя,
А бяжыць вада ды без повада,
А расцець камень а без кораня,
А іржэць конік а без голасу,
А чоран воран ды не чарнёны,
А лебедзь белы, а не бялёны,
Жасцей соўнейка ды за заенькі,
Мілей вочанькі айца, мацеры,
А смашнее сон ды за сахару.

# БАЛАДЫ ГУЛЬНЁВА-КАРАГОДНАГА СКЛАДУ

## МАЛОДКА І ЯЕ РАДНЯ

### 503

Хадзіла малада па полі,
Выносіла дзіця ў прыполе,
Падхадзіла малада малодка
К бацечку свайму пад аконка.
— Парай, татуля, гдзе мне падзецца
З маленькім дзіцяцем?
— Сама ўтапіся, дзіця ўплаў пусці.

Хадзіла малада па полі,
Насіла дзіця ў прыполе,
Падхадзіла малада малодка
К матачцы сваёй пад аконка.
— Парай, матуля, парай, родная,
Гдзе ж мне да й падзецца?
— Сама ўтапіся, дзіця ўплаў пусці.

Ой, хадзіла малада па полі,
Насіла дзіця ў прыполе,
Падхадзіла малада малодка
К братачку свайму пад аконка.
— Парай мне, брацетку,
Гдзе ж мне да й падзецца
З маленькім дзіцяцем?
— Ой, так, сястрыца,— сама ўтапіся,
Дзіця ўплаў пусці.

Хадзіла малада па полі,
Насіла дзіця ў прыполе,
Падхадзіла малада малодка
К сястрыцы сваёй пад аконка.
— Парай, сястрыца, гдзе мне падзецца
З маленькім дзіцяцем?
— Ой, так, сястрыца,— сама ўтапіся,
Дзіця ўплаў пусці.

Ой, хадзіла малада малодка
Да па чыстаму полю,
Ой, насіла, насіла
Дзіця ў прыполе.
Падхадзіла малада малодка,
К міламу пад аконка.
— Парай, парай, мой міленькі,
Гдзе мне да й падзецца
З маленькім дзіцяцем?
— А от так, міленька,
Сама пад пярынку,
А дзіця ў калыску.

## 504

Плыла ўдоўка ракою,
За ёю дзіця шчукою.
Прыплыла к кладачцы,
Ды не к кладачцы,
А к роднай мамачцы.
— Ты парай, парай, мамачка,
Што мне, моладзі, рабіці
Ды з малюсенькім дзіцяткам?
— Дзіцятка у вір пусці,
Сама, маладзенька, ўплаў плыві.

Плыла ўдоўка ракою,
За ёю дзіця шчукою.
Ды прыплыла [illegible] беражку,
Ды не к беражку,
А к роднаму татачку.
— Парай, парай, татачка,
Што мне, маладой, рабіці
Ды з малюсенькім дзіцяткам?
— Дзіцятка ў вір пусці,
Сама, маладзенька, ўплаў плыві.

Плыла ўдоўка ракою,
За ёю дзіця шчукою.
Ды прыплыла к кусточку,

Ды не к кусточку,
А к міламу дружочку.
— Парай, парай, міленькі,
Што мне, маладзі, рабіць
Ды з малюсенькім дзіцяткам?
— Вазьмі дзіцятка,
Ідзі ў сваю хатку,
У сваю хатачку,
К роднаму татачку.

505

Маладая малодачка з Вільна ішла,
А за ёю Юр'я ваюе,
А за ёю турак палюе.
Да й падбегла, падцякла
Пад свёкравы вароты.
— А назві ж ты мяне ойчанькам,
Назві ж ты мяне родненькім,
То я Юр'я запыню,
Да цябе, маладую, ў клецъ пушчу.

Маладая малодачка з Вільна ішла,
Да за ёю Юр'я ваюе,
Да за ёю турак палюе.
Да падбегла, падцякла
Пад свякроўчыны вароты.
— Назаві ж ты мяне маткаю,
Назаві ж ты мяне роднаю!
— Да лепей жа ж я ў роць пацяку,
Да цябе маткаю не назву.

Маладая малодачка з Вільна ішла,
Да за ёю Юр'я ваюе,
Да за ёю турак палюе.
Да падбегла пад дзевера варотка.
— Дзевяратка, адчыні варотка!
— Назві ж ты мяне брацейкам,
Назві ж ты мяне родненькім,

Да я то Юр'я запыню,
Да цябе, маладую, ў клець пушчу.
— Да лепей жа ж я ў роць пацяку,
Да цябе брацейкам не назву.

Маладая малодачка з Вільна ішла,
Да за ёю Юр'я ваюе,
Да за ёю турак палюе.
Да падбегла, падцякла
Пад залвічыны варота.
— Да я Юр'я зваюю,
Да я турка спалюю,
Назві ж ты мяне сястрою,
Назві ж ты мяне радною.
— Волей я ў роць пацяку,
А цябе сястрою не назву.

Маладая малодачка з Вільна ішла,
Да за ёю Юр'я ваюе,
Да за ёю турак палюе.
Да падбегла, падцякла
Пад мілага варота.
— Назві ж ты мяне душачкам,
Назві ж ты мяне міленькім,
Да я цябе, маладую, ў клець пушчу,
Да Юр'я з туркам зваюю.
— Лепей жа ж я цябе назву душачкам,
Лепей жа ж назву міленькім,
Толькі мяне ў клець пусці
Да жонкаю назаві.

## 506

Ды хадзіла ўдава малада
Ды па чыстаму полю [1].

Ды насіла ўдава малада
Малога дзіцяцю.

---

[1] Другі радок кожнай страфы паўтараецца два разы.

Ды пытала ўдава малада
Ды ў няроднага таткі:

— Парай, парай мне, татулька,
Дзе дзіця падзеці?

— Кідай дзіця ў Дунай,
Сама ўтапіся.

Ды хадзіла ўдава малада
Ды па чыстаму полю.

Ды насіла ўдава малада
Малога дзіцяцю.

Ды пытала ўдава малада
Ды ў роднага таткі:

— Парай, парай мне, татулька,
Дзе дзіця падзеці?

— Кладзі дзіця ў калубель,
А сама ў белу ложу.

## УДАВА РАТУЕЦЦА АД ТАТАРАЎ

### 507

Лугам, лугам лабада,
Тудой ішла удава,
А за ёю татарын-баярын,
Хоча яе секці-рубаць.
— Стой, татарын, не сячы,
Алі ты, баярын, не рубай:
Ёсць у мяне радзімы мой бацюшка,
Той мяне ці не выкупя.
Я к бацюшку пад вакошка,
Мне бацюшка ні славечка.
Ў тую пору ліхая гадзіна,
Калі мяне мамка радзіла!

Лугам, лугам лабада,
Тудой ішла удава,
А за ёю татарын-баярын,
Хоча яе секці-рубаць.
— Стой, татарын, не сячы,
Алі ты, баярын, не рубай:
Ёсць у мяне радзімая матушка,
Тая мяне ці не выкупя.
Я к матушцы пад вакошка,
Мне матушка ні славечка.
Ў тую пору ліхая гадзіна,
Калі мяне мамка радзіла!

Лугам, лугам лабада,
Тудой ішла удава,
А за ёю татарын-баярын,
Хоча яе секці-рубаць.
— Стой, татарын, не сячы,
Алі ты, баярын, не рубай:
Ёсць у мяне родны брацец,
Той мяне ці не выкупя.
Я к братцу пад вакошка,

Мне брацец ні славечка.
Ў тую пору ліхая гадзіна,
Калі мяне мамка радзіла!

Лугам, лугам лабада,
Тудой ішла удава,
А за ёю татарын-баярын,
Хоча яе секці-рубаць.
— Стой, татарын, не сячы,
Алі ты, баярын, не рубай:
Ёсць у мяне радзімая сястрыца,
Тая мяне ці не выкупя.
Я к сястрыцы пад вакошка,
Мне сястрыца ні славечка.
Ў тую пору ліхая гадзіна,
Калі мяне мамка радзіла!

Лугам, лугам лабада,
Тудой ішла удава,
А за ёю татарын-баярын,
Хоча яе секці-рубаць.
— Стой, татарын, не сячы,
Алі ты, баярын, не рубай:
Ёсць у мяне радзімы мой міленькі,
Той мяне ці не выкупя.
Я к міламу пад вакошка,
Мне міленькі тры славечка.
Ў тую пору добрая гадзіна,
Калі мяне мамка радзіла!

508

Што на полі лебяда,
Туды ішла удава,
А за ёю татары,
А за ёю ліхія,
Хочуць ўдаву загубіць,
Пры ў дарозе палажыць.
— Вы, татары мае,

Не губіце мяне!
Ёсць у мяне бацюшка,
Пры ў дарожанькі жывёць,
Ці не выкупіць мяне,
Ці не выручыць мяне.
Ох, я к бацюшку на двор,
Бацька кажыць: не мой род!
— А худая гадзіна,
Адракаецца радзіна!

Што на полі лебяда,
Туды ішла удава,
А за ёю татары,
А за ёю ліхія,
Хочуць ўдаву загубіць,
Пры ў дарозе палажыць.
— Вы, татары мае,
Не губіце мяне!
Ёсць у мяне матушка,
Пры ў дарожанькі жывёць,
Ці не выкупіць мяне,
Ці не выручыць мяне.
Ах, я к матушцы на двор,
Матка кажыць: не мой род!
— А худая гадзіна,
Адракаецца радзіна!

Што на полі лебяда,
Туды ішла удава,
А за ёю татары,
А за ёю ліхія,
Хочуць ўдаву загубіць,
Пры ў дарозе палажыць.
— Вы, татары мае,
Не губіце мяне!
Ёсць у мяне мілы друг,
Пры ў дарожанькі жывёць,
Ці не выкупіць мяне,
Ці не выручыць мяне.
Ах, я к міламу на двор,
Мілы кажыць: вот мой род!
— А харошая гадзіна,
Прызнаецца радзіна!

509

Расла ў полі лебяда,
Туды йшла і ўдава,
А за ёю татары,
А за ёю ліхія,
Хочуць ўдаву загубіць,
Пры дарозе палажыць.
— Не губіце, татары,
Не губіце, ліхія,
А ёсць у мяне бацюшка,
Пры дарожаньцы жывець,
А ён мяне выкупіць.
Удоўка к бацьку на двор,
Бацька кажыць: не мой род.
— А худая гадзіна,
Адракаецца радзіна!

Расла ў полі лебяда,
Туды йшла і ўдава,
А за ёю татары,
А за ёю ліхія,
Хочуць ўдаву загубіць,
Пры дарозе палажыць.
— Не губіце, татары,
Не губіце, ліхія,
А ёсць у мяне мамачка,
Пры дарожаньцы жывець,
А яна мяне выкупіць.
Удоўка к матцы на двор,
Матка кажыць: не мой род.
— А худая гадзіна,
Адракаецца радзіна!

Расла ў полі лебяда,
Туды йшла і ўдава,
А за ёю татары,
А за ёю ліхія,
Хочуць ўдаву загубіць,
Пры дарозе палажыць.
— Не губіце, татары,
Не губіце, ліхія,
А ёсць у мяне братачка,
Пры дарожаньцы жывець,

А ён мяне выкупіць.
Удоўка к братку на двор,
Братка кажыць: не мой род.
— А худая гадзіна,
Адракаецца радзіна!

Расла ў полі лебяда,
Туды йшла і ўдава,
А за ёю татары,
А за ёю ліхія,
Хочуць ўдаву загубіць,
Пры дарозе палажыць.
— Не губіце, татары,
Не губіце, ліхія,
А ёсць у мяне міленькі,
Пры дарожаньцы жывець,
А ён мяне выкупіць,
А ён мяне не аткрыіць.
Ўдоўка к міламу на двор,
Мілы й кажыць: вот мой род.
— Вот харошая гадзіна,
Што прыйскалася радзіна!

## ВЫКУП З НЯВОЛІ

### 510

Як на моры, на падолі
Дзеўка з туркам ў карты грала,
Да матулі ліст пісала:
— Ах ты, мая матуленька,
Выкуп мяне з няволюшкі,
З цяжоленькай работушкі!
Матка турку — сталён горад,
Турак горад не прымаець,
Дзеўку з замка не пускаець.

Як на моры, на падолі
Дзеўка з туркам ў карты грала,
Да татулі ліст пісала:
— Ах ты, мой татуленька,
Выкуп мяне з няволюшкі,
З цяжоленькай работушкі!
Бацька турку — варана каня,
Турак каня не прымаець,
Дзеўку з замка не пускаець.

Як на моры на падолі
Дзеўка з туркам ў карты грала,
Да мілага ліст пісала:
— Ах ты, мой міленькі,
Выкуп мяне з няволюшкі,
З цяжоленькай работушкі!
Мілы турку — золат персцень,
Турак персцень прымаець,
Дзеўку з замка выпускаець.

43. Зак. 100

511

Ой, на моры, на Дунаі
Панна з туркам ў карты грае,
Да бацюхны лісты піша:
— Мой бацюхна, мой родненькі,
Выкуп мяне з няволенькі,
Да з цяжкое работанькі!
Бацька дае, не жалуе
Трыццаць валоў і чатыры.
На тое турак не паглянўў,
Слугам ключоў не выдае,
Панну з няволі не выпушчае.

Ой, на моры, на Дунаі
Панна з туркам ў карты грае,
Да мацюхны лісты піша:
— Мая мацюхна родненька,
Выкуп мяне із няволі,
Да з цяжкое работанькі!
Матка дае, не жалуе
Трыццаць кароў і чатыры.
На тое турак не паглянўў,
Слугам ключоў не выдае,
Панну з няволі не выпушчае.

Ой, на моры, на Дунаі
Панна з туркам ў карты грае,
Да браціка лісты піша:
— Мой браценьку, мой родненькі,
Выкуп мяне з няволенькі,
Да з цяжкое работанькі!
Братка дае, не жалуе
Трыццаць коні і чатыры.
На тое турак не паглянўў,
Слугам ключоў не выдае,
Панну з няволі не пушчае.

Ой, на моры, на Дунаі
Панна з туркам ў карты грае,
Да сёстранькі лісты піша:
— Мая сёстранька, мая родненька,
Выкуп мяне з няволенькі,

Да з цяжкое работанькі!
Сястра дае, не жалуе
Трыццаць авец і чатыры.
На тое турак не паглянўў,
Слугам ключы не выдае,
Панну з няволі не пушчае.

Ой, на моры, на Дунаі
Панна з туркам ў карты грае,
Да мілага лісты піша:
— Ох, мой мілы, мой міленькі,
Выкуп мяне з няволенькі,
Да з цяжкое работанькі!
Мілы дае, не жалуе
Трыццаць шабель і чатыры.
На тое турак паглянўў,
Слугам ключы павыдавӑў —
Панну з няволі выпушчае.

### 512

За рэкамі, за водамі
Дзеўка з туркам ў карты грала,
Да татачкі лісты слала.
— Ой, мой татка, ой, мойродны,
Выкуп мяне з няволенькі,
З чужое старонанькі.
Ой, шле бацька дваццаць валоў,
Дваццаць валоў і чатыры.
Туркі таго не прымаюць,
Дзеўкі з няволі не пускаюць.

За рэкамі, за водамі
Дзеўка з туркам ў карты грала,
Да мамачкі лісты слала.
— Мая мамка, мая родна,
Выкуп мяне з няволенькі,
З чужое старонанькі.
Ой, шле маці дваццаць кароў,
Дваццаць кароў і чатыры.

Туркі таго не прымаюць,
Дзеўкі з няволі не пускаюць.

За рэкамі, за водамі
Дзеўка з туркам ў карты грала,
Да сястрыцы лісты слала.
— Ой, сястрыца мая родна,
Выкуп мяне з няволенькі,
З чужое старонанькі.
Ой, шле сястра дваццаць авец,
Дваццаць авец і чатыры.
Туркі таго не прымаюць,
Дзеўкі з няволі не пускаюць.

За рэкамі, за водамі
Дзеўка з туркам ў карты грала,
Да брацейка лісты слала.
— Ой, мой братка, ой, мой родны,
Выкуп мяне з няволенькі,
З чужое старонанькі.
Ой, шле братка дваццаць каней,
Дваццаць каней і чатыры.
Туркі таго не прымаюць.
Дзеўкі з няволі не пускаюць.

За рэкамі, за водамі
Дзеўка з туркам ў карты грала,
Да мілага лісты слала.
Ох ты, мілы, надмілейшы,
Выкуп мяне з няволенькі,
З чужое старонанькі.
Ой, шле мілы дваццаць рублёў.
Дваццаць рублёў і чатыры.
Туркі тое прымаюць
Дзеўку з няволі выпускаюць.

### 513

А ў лесе, ў лесе да на верасе
Там хадзіла стада коней.
Між тых коней вараны конік,

Ніхто таго каня не спаймае,
Не спаймае, ані асядлае.
Абазваўся слічны паніч,
Слічны паніч, малады Андрэйка.
Ён таго каня і спаймае,
Асядлаўшы, да і паедзе,
Ён паехаў з гары пад гару,
Напроціў турка ваяваўся.
А вывеў турак варанога каня:
Ён таго каня а ні агляннуўся,
А ні агляннуўся і вачэй не падойме.
— Не хачу з туркам гадзіціся,
А хачу з туркам ваявацціся.
А вынес турак паўмісы злота:
Ён на тое злота а ні ўзгляне,
А ні ўзгляне і вачэй не падойме.
— Не хачу з туркам пагадзіціся,
А хачу з туркам ваявацціся.
А вывеў турак слічную панну,
Ён на тую панну, як сакол, глядзіць,
Як сакол глядзіць і за ручку дзяржыць.
— Не хачу з туркам ваявацціся,
А хачу з туркам пагадзіціся.

## ДЗЯЎЧЫНА ТОНЕ НА МОРЫ

### 514

Ўздрыгнула мора, ўзрыгнула,
Там наша дачушка ўтанула.
А ішоў беражком татанька,
А ішоў беражком татанька.
— Падай ручку, дачушка,
Падай ручку, дачушка.
— Не падам ручкі табе, татанька,
Не падам ручкі табе, татанька.

Ўздрыгнула мора, ўздрыгнула,
Там наша дачушка ўтанула.
А ішла беражком маманька,
А ішла беражком маманька.
— Падай ручку мне, дачушка,
Падай ручку мне, дачушка.
— Не падам ручку табе, маманька,
Не падам ручку табе, маманька.

Ўздрыгнула мора, ўздрыгнула,
Там наша дачушка ўтанула.
А ішоў беражком Мікола,
А ішоў беражком Мікола.
— Падай мне ручку, Ганначка,
Падай, Ганначка, ручку мне.
— На табе, Міколка, хоць і дзве,
На табе, Міколка, хоць і дзве.

Ўздрыгнула мора, ўздрыгнула,
Там наша Ганначка ўтанула.

### 515

Зыбнула мора, зыбнула [1],
Там Рыпіна ўтанула,

---

[1] Кожны радок паўтараецца два разы.

На бераг ручку паклала.
Шоў па берагу бацюшка.
— Падай, Рыпіна, ручкі мне.
— Не падам, бацюшка, ручкі вам.
Пусць я у моры утону,
Не дастанусь я нікому:
Ні татарыну ліхому,
Ай, ні бацюшку радному.

Зыбнула мора, зыбнула,
Тама Рыпіна ўтанула.
На бераг ручку паклала.
Шла па берагу мамачка.
— Падай, Рыпіна, ручку мне.
— Не падам, мамачка, ручкі вам,
Пусць я у моры ўтону,
Не дастанусь я нікому:
Ні татарыну ліхому,
І ні матушцы роднай.

Зыбнула мора, зыбнула,
Там наша Рыпіна ўтанула,
На бераг ручку паклала.
Шоў па беражку Архіпка.
— Падай, Рыпіна, ручкі мне.
— На табе, Архіпка, абея,
Пусць я у моры не ўтону
Не дастанусь я нікому,
А дастанусь я Архіпку.

### 516

Зыбнула мора, зыбнула,
Дзевачка ў моры танула.
Тудою йшла матачка.
— Падай, дзіцятка, ручку мне.
— Не падам, мамачка, не падам,
Няхай я ў моры утону,
Няхай не буду нікому.

Зыбнула мора, зыбнула,
Дзевачка ў моры танула.
Тудой ішоў татачка.
— Падай, дзіцятка, ручку мне.
— Не падам, татачка, не падам,
Няхай я ў моры утону,
Няхай не буду нікому.

Зыбнула мора, зыбнула,
Дзевачка ў моры танула.
Тудою ішоў брацетка.
— Падай, сястрыца, ручку мне.
— Не падам, брацетка, не падам,
Няхай я ў моры утону,
Няхай не буду нікому.

Зыбнула мора, зыбнула,
Дзевачка ў моры танула.
Тудою ішла сястрыца.
— Падай, сястрыца, ручку мне.
— Не падам, сястрыца, не падам,
Няхай я ў моры утону,
Няхай не буду нікому.

Зыбнула мора, зыбнула,
Дзевачка ў моры танула.
Тудою ішоў Ванечка.
— Да падай, дзевачка, ручку мне.
— Ды падам, Ванечка, ды падам,
Няхай у моры не ўтану,
Няхай буду аднаму.

## 517



Зыбнула кладка, зыбнула,
Дзевачка ў моры ўтанула,

Дзевачка ў моры ўтанула,
Прышла мамачка да яе.

Прышла мамачка да яе:
— Падай, дзіцятка, ручку мне.

— Не падам ручкі, не падам,
Лепей у моры утону.

Лепей у моры утону,
Няхай не буду нікому.

Няхай не буду нікому,
Толькі Дунаю ціхому.

Прышоў малойчык да яе:
— Падай, дзевачка, ручку мне.

— Ой, падам ручку я й табе,
Лепей у моры не ўтону.

Лепей у моры не ўтону,
Лепей жа буду аднаму.

Няхай жа буду аднаму,
А не Дунаю ціхому.

518



## ЛАСТАЎКА НА МОРЫ

### 519

Да ў нядзельку ранёнька на зары
Шчабятала ластаўка на моры,
На беленькім камушку седзючы
Да й на беражочак гледзючы.
— Ой, татулька, татулька, для бога,
Знімі мяне з камушка бялога.
У татулькі жаласці нямнога —
Не зняў мяне з камушка з бялога.

Да ў нядзельку ранёнька на зары
Шчабятала ластаўка на моры,
На беленькім камушку седзючы
Да й на беражочак гледзючы.
— Ой, матулька, матулька, для бога,
Знімі мяне з камушка бялога.
У матулькі жаласці нямнога —
Не зняла мяне з камушка з бялога.

Да ў нядзельку ранёнька на зары
Шчабятала ластаўка на моры,
На беленькім камушку седзючы
Да й на беражочак гледзючы.
— Ой, брацетка, брацетка, для бога,
Знімі мяне з камушка з бялога.
У брацеткі жаласці нямнога —
Не зняў мяне з камушка з бялога.

Да ў нядзельку ранёнька на зары
Шчабятала ластаўка на моры,
На беленькім камушку седзючы
Да й на беражочак гледзючы.
— Ой, сястрыца, сястрыца, для бога,
Знімі мяне з камушка з бялога.
У сястрыцы жаласці нямнога —
Не зняла мяне з камушка з бялога.

Да ў нядзельку раненька на зары
Шчабятала ластаўка на моры,
На беленькім камушку седзючы
Да й на беражочак гледзючы.
— Ой, міленькі, міленькі, для бога,
Знімі мяне з камушка з бялога.
У мілога жаласці ёсць многа —
І зняў мяне з камушка з бялога.

## 520

У нядзелю раненька з-пад зары
Шчабятала ластаўка на моры.

На беленькім камені седзячы,
На крутыя беражкі гледзячы.

На крутыя беражкі гледзячы,
Увідзела матулю ідучы.

— Сюды, сюды, матуля, для бога,
Ссадзі мяне з каменя з бялога.

А ў матулі жаласці нямнога,
Не ссадзіла з каменя бялога.

Увідзела мілога ідучы.
— Сюды, сюды, міленькі, для бога,

Сюды, сюды, міленькі, для бога,
Ссадзі мяне з каменя бялога.

А ў мілага жаласці досць многа,
І ссадзіў ён з каменя бялога.

521






## ПАНЕНКА ЗГУБІЛА ПЯРСЦЕНАК

### 522




Ой, на мору, мору да й сінюсенькім,
А віно ж, віно зеляно! [1]
На Дунаю на быструсенькім
Маладая паненка, маладая Марылька
На Дунаю хусты мыла,
Злоты пярсцёнак з ручанькі ураніла,
Шчука-рыба яго ухапіла,
Ухапіла ды й паплыла.

— А мой ойчанько, а мой родненькі,
Паедзь, зышчы залаты персцень.
А ойчанькаў конік з стайні не выступіць,
З стайні не выступіць, на ножкі не ступіць,
Ні на белы крамень, ні на жоўты пясок.

— А мой брацейко, а мой брацейко,
Паедзь, зышчы залаты персцень.
А брацейкаў конік з стайні не выступіць,
З стайні не выступіць, на ножкі не ступіць,
Ні на белы крамень, ні на жоўты пясок.

---

[1] Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

— А мой жа ж ты да мілюсенькі,
Паедзь, зышчы залаты персцень.
А мілага конік з стайні выступіў,
З стайні выступіў і на ножкі ступіў,
І на белы крамень, і на жоўты пясок.
А мой міленькі на коніка сеўшы,
На коніка сеўшы і скрыпаньку ўзяўшы,
Зыскаў персцень, рыбу расплатаўшы.

## 523

Да на моры, да на сіненькім,
Да віно ж наша зеляно![1]
Да на каменнейку, да на беленькім.
Там паненка бель бяліла.
Бель бяліла, персня забыла.
Персня забыла, ойца прасіла:
— Да паедзь-паездзь, мой ты ойчанька,
Да на край зямлі, на сінё мора,
Прывязі ты мой залаты пярсцень.
Айцец едзе, персня не вязе,
Персня не вязе, праўды не кажа.

Папрасіла сваёй матачкі:
— Да паедзь-паедзь, родна матачка,
Да на край зямлі, на сінё мора,
Прывязі ты мой залаты пярсцень.
Матка едзе, персня не вязе,
Персня не вязе, праўды не кажа.

Папрасіла свайго брацейку:
— Да паедзь-паедзь, мой ты брацейка,
Да на край зямлі, на сінё мора,
Прывязі ты мой залаты пярсцень.
Брацейка едзе, персня не вязе,
Персня не вязе, праўды не кажа.

Папрасіла сястры родныя:
— Да паедзь-паедзь, сястра родная,
Да на край зямлі, на сінё мора,
Прывязі ты мой залаты пярсцень.

---

[1] Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

Сястра едзе, персня не вязе,
Персня не вязе, праўды не кажа.

Тут прасіла яна свайго мілага:
— Ты паедзь, паедзь, мой ты міленькі.
Да на край зямлі, на сінё мора,
Прывязі ты мой залаты персцень.
Міленькі едзе, персцень вязе,
Персцень вязе, праўду кажа.

## МУЖЫК ЖОНКУ Б'Е, КАТУЕ

### 524

А й у Слуцку на рыначку
Мужык жонку б'е,
Ніхто ж яе, маладое,
Да не пашкадуе.
Свёкарка падступае,
Нагаечку падкідае:
— Ой, бі, сынку, бі,
Вуму-разуму вучы!

А й у Слуцку на рыначку
Мужык жонку б'е,
Ніхто ж яе, маладое,
Да не пашкадуе.
Свякроўка падступае,
Нагаечку падкідае:
— Ой, бі, сынку, бі,
Вуму-разуму вучы!

А й у Слуцку на рыначку
Мужык жонку б'е,
Ніхто ж яе, маладое,
Не пашкадуе.
Дзевярка падступае,
Нагаечку падкідае:
— Ой, бі, братко, бі,
Вуму-разуму вучы!

А й у Слуцку на рыначку
Мужык жонку б'е,
Ніхто ж яе, маладое,
Не пашкадуе.
Залувіца падступае,
Нагаечку адбірае:
— Не бі, братко, не бі,

Вуму-разуму не вучы:
Прыдзецца і мне
Быць на чужой старане.

## 525

Мужык жонку б'ець, катуець,
Ніхто ж яе не ратуець.
— Свякроўка-мамухна,
Паратуй мяне, маладую!
Свякровачка прыбягаець,
Нагаечку падымаець:
— Бі, сынку, бі, бі, прывучай,
На свой абычай пераварачай.
Мужык жонку б'ець, катуець,
Ніхто ж яе не ратуець.
— Свёкарка-татухна,
Паратуй мяне, маладую!
А свёкарка прыбягаець,
Нагаечку падымаець:
— Бі, сынку, бі, бі, прывучай,
На свой абычай пераварачай.
Мужык жонку б'ець, катуець,
Ніхто ж яе не ратуець.
— Дзеверка-брахнейка,
Паратуй мяне, маладую!
Дзеверачка прыбягаець,
Нагаечку падымаець:
— Бі, братку, бі, бі, прывучай,
На свой абычай пераварачай.
Мужык жонку б'ець, катуець,
Ніхто ж яе не ратуець.
— Залоўка-сястрыца,
Паратуй мяне, маладую!
Заловачка прыбягаець,
Нагаечку аднімаець.
— Ох-хо-хо, гора мне,
На чужой старане
Будзець гэта і мне,
Ох-хо-хо, гора мне,
На чужой старане
Будзець гэта і мне.

44. Зак. 100

## 526

Я й на сені іду, я й на новыя, на цясовыя,
Ох, і я ляле, на цясовыя [1].
Штось пад сенямі людзі гаворацъ, выгаварываюць,
Ох, і брат брата да каня просіць.
— За каня, братка, я ні словечка, ні паўсловечка.

Я й на сенечкі іду, я й на новыя, на цясовыя,
Ох, і брат брата сядла просіць.
— За сядло, братка, я ні словечка, ні паўсловечка.

Я й на сені іду, я й на новыя, на цясовыя,
Ох, і брат у брата хамута просіць.
— За хамут, братка, я ні словечка, ні паўсловечка.

Я й на сені іду, я й на новыя, на цясовыя,
Ох, і брат у брата павозачкі просіць.
— За павозачку, брат, я ні словечка, ні паўсловечка.

Я й на сені іду, я й на новыя, на цясовыя,
Ох, і брат у брата жаны просіць.
— За жану, брат, галаву зрублю.

---

[1] Рэфрэн паўтараецца пасля кожнага радка.

## 527

Заржаў, заржаў сівы конік на дварэ,
Расплакаўся бел малойчык на вайне.
— Ах вы, братцы, вы таварышы мае,
Накажыце майму бацьку пра мяне.
Няхай бацька хоць коніка прадае,
Няхай едзе сына з войска выкупляць.
— Я не буду сівых коней прадаваць,
Не паеду сына з войска выкупляць.

— Ах вы, братцы, вы таварышы мае,
Накажыце маёй матцы пра мяне.
Няхай матка хоць кароўкі прадае,
Няхай едзе сына з войска выкупляць.
— Я не буду і каровак прадаваць,
Не паеду сына з войска выкупляць.

— Ох вы, братцы, вы таварышы мае,
Накажыце майму брату пра мяне.
Няхай жа ён хоць валікі прадае,
Няхай едзе брата з войска выкупляць.
— Ой, не буду я й валікаў прадаваць,
Не паеду брата з войска выкупляць.

— Ох вы, братцы, вы таварышы мае,
Накажыце маёй жонцы пра мяне.
Няхай жонка хоць трубачкі прадае,
Няхай едзе мужа з войска выкупляць.
Жонка кажа: хоць я буду трубачкі прадаваць,
Да паеду мужа з войска выкупляць.

Свят вечар, свят!
Ой, засвішча да зайграе салавей
Да ў зялезнай клетцы седзючы.
— Ой вы, братцы, вы таварышы мае,
Чы не пойдзеце вы ў маю сторану?
Вы знясіце майму бацюшку паклон,
Няхай ён усю худобу прадае,
Мяне, маладога, з няволі дастае.
— Ой, няхай жа ўся худобанька пры мне,
Ой, няхай мой сын у турме прападзе.

Ой, засвішча да зайграе салавей,
Да ў зялезнай клетцы седзючы.
— Ой вы, братцы, вы таварышы мае,
Чы не пойдзеце вы ў маю старану?
Вы знясіце маей матульцы паклон,
Няхай яна ўсю худобу прадае,
Мяне, маладога, з няволі дастае.
— Ой, няхай жа ўся худобанька пры мне,
Ой, няхай мой сын у турме прападзе.

Ой, засвішча да зайграе салавей
Да ў зялезнай клетцы седзючы.
— Ой вы, братцы, вы таварышы мае,
Чы не пойдзіце вы у маю старану?
Вы знясіце маей жонушцы паклон,
Няхай яна ўсё худобу прадае,
Мяне, маладога, із няволі дастае.
Жана ж мая верненькая ўсю худобу прадала,
Мяне маладога із няволі дастала,
Свят вечар, свят!

## 529

І лі ж, шынкарачка, лі, павер на мяне.
Ёсць у мяне родны айцец, ой, выкупіць мяне.

Лі, шынкарачка, лі, павер на мяне.
Ёсць у мяне родна матка, ой, выкупіць мяне.

